


# ПОЛЫМЯ

*ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ*
*І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС*

**4** (1014)

***КРАСАКАВІК***

**Выдаецца**
**са снежня 1922 года**



**РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА**
**«ВЫДАВЕЦКІ ДОМ «ЗВЯЗДА»**

**Мінск 2014**

*ЗМЕСТ*





ЗАСНАВАЛЬНІКІ — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»



Мікола МАЛЯЎКА

# «НАМОЛЬВАЮ ДУМКІ І СЛОВЫ...»

## ЗЯМЛЯ

Сілы свае
Трацячы
Спакваля,
Кружыцца ў космасе
Наша Зямля,
Абцяжараная вякамі.
Кружыцца —
З усімі мацерыкамі:
З акіянамі і жывымі вулканамі,
З гарадамі і вёскамі,
З храмамі Боскімі,
З пушчамі і пустынямі,
З рэкамі сінімі,
З нівамі, збожжам закалыханымі,
З шахтамі і будаўнічымі кранамі.
З грому раскатамі,
З войнаў цунамі,
З марамі светлымі і кашмарнымі снамі,
З абеліскамі і магіламі брацкімі,

---

*__Маляўка Мікалай Аляксандравіч__ нарадзіўся 13 снежня 1941 года ў вёсцы Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці. Пасля заканчэння дзесяцігодкі працаваў у Карэліі лесарубам. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1965). Настаўнічаў у вясковых школах. Працаваў на рэспубліканскім радыё і тэлебачанні, у часопісе «Вясёлка».*

*Піша для дарослых і дзяцей. Аўтар паэтычных зборнікаў «Едуць маразы» (1966), «Лотаць» (1973), «Эстакада» (1982), «Аднавякоўцы» (1988), «Зімні дождж» (1991), «Ручнічок на крыжы» (1995), «Покуць» (2001), «Сядзіба, або Хата з матчынай душою» (2002), «Старая зямля» (2005), «Ой, бярозы ды сосны...» (2006), «Дзічка ў полі» (2007), «Крыштальная галінка снегападу» (2011) і інш.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова (1992), прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі (1997), спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у намінацыі «Мастацкая літаратура» (2002).*

З атамнымі станцыямі
І дзіцячымі цацкамі
Кружыцца ў космасе
Наша Зямля,
Веру ў людзей
Трацячы
Спакваля.

Божа,
Абразум і ўмацуй
Нас, малю:
Утрымаць у палёце Зямлю,
Абцяжараную вякамі, —
Чалавецтва ўсяго
Рукамі.

## НАСТРОЙ ДУШУ НА ЦІШЫНЮ

Каля начлежнага агню
Настрой душу —
На цішыню.

І загучыць,
І заварожыць зноў
Мелодыя,
Забытая даўно.
Адкрыеш ты,
Нібыта ўпершыню,
Жыццё сваё
Ва ўсіх яго
Праявах, —
І выйдуць з цемры
На святло агню
Адсутныя —
У вобразах яскравых.
І слоў не трэба —
Ясна ўсё
Без слоў:
У варажбе мелодыі —
Любоў…

Настрой душу
На цішыню —
Каля начлежнага агню.

## БАЛАДА ПРА СВЯТЛО

З выбухам снарадаў,
З рокатам матораў
Ліха набліжалася здаля.
Ад людскога смутку,
Ад людскога гора
Пацямнелі неба і зямля.

Перамога прабівалася ўсё бліжай
Праз агонь кінжальны,
Кроў і дым, —
Асвяціла сцягам,
Асвяціла крыжам
Неба наша і зямлю пад ім.

Свет нібы ўваскрэс пасля,
Парою весняй,
Свет вярнуўся на кругі свая:
Ад салютаў зыркіх,
Ад святочных песень
Пасвятлелі неба і зямля.

## ПРА ВЕЧНАСЦЬ ДБАЙ

Меней хат жывых у родным краі,
Болей пліт магільных і крыжоў.
Як жывём? Пра што духоўна дбаем?
З чым ён, новы дзень, да нас прыйшоў?

Крыжавалі свет маланкі-znічкі,
Біў пярун без стомы, зноў і зноў,
Быццам хтосьці ў небе навальнічным
Раскалыхваў разам сто званоў.

А сягоння за начным парогам
Зелянее ўсё, цвіце вакол,
Белакрылы птах, пасланы Богам,
Кружыць над зямлёю, як анёл.

Можа, так, кантрастна, чалавеку
Падаецца знак:
Пра вечнасць дбай!
Свет грымотна-цёмны — гэта пекла,
Свет блакітна-ціхі — гэта рай.

Новы дзень — у дымцы таямнічай.
Верай выпрабоўваючы нас,
Звон царкоўны памаліцца кліча
І ў спакойны, і ў трывожны час.

## ПАМІЖ УЧАРАШНІМ І ЗАЎТРАШНІМ ДНЁМ

Дажджом наталяе смагу,
Апальвае ў сцюжу
Марозным агнём
Прамежак жыццёвага шляху —
Паміж учарашнім
І заўтрашнім днём.

Не вечнае ў нас падарожжа,
Не ўсе мы трывалыя,
Як дубы,
І шлях абарвацца можа
На стыку прамежкаў
У момант любы.

Намольваю думкі і словы,
У Бога прашу,
Каб і новы мой дзень,
Сыходзячы ў цень вечаровы,
Нашчадкам пакінуў
Світальны прамень.

## БАЛАДА ПРА ПЕСНЮ

Не думаў паэт пра магілу,
Ад раны слабеў, а рука
Выводзіла словы праз сілу,
Туліла радок да радка:

*«Бярыце ў рукі зброю,*
*Гартуйце ў бітвах гнеў,*
*Каб ворагі спакою*
*Не ведалі і ў сне.*
*Агнём і куляй каты*
*Скарыць нас не змаглі.*
*Знішчайце іх, праклятых,*
*У небе, на зямлі!*
*Жыццё падлічыць страты*
*Пад знакам перамог,*
*І вернуцца дахаты*

*Усе, хто выжыць змог.*
*Паплач па сыне мама,*
*Пагладзь рукой партрэт,*
*Як быццам я таксама*
*Вярнуўся ў родны свет…»*

Загінуў паэт у блакадзе,
А песня ўзляцела, як птах,
У партызанскай брыгадзе
Раўнялася песня на сцяг.

## ЗАБРАНЫЯ ВАЙНОЙ

Пакуль вайна
Не апаліла блізка,
Была і ў іх яшчэ
Часовая прапіска.

Забраныя вайной
Ад родных хат,
Ад навальніц і сонца,
У памяці зямной
Жывуць яны,
Радзімы абаронцы.

Зайдзі ў музей,
Пастой ля абеліска, —
У іх на гэтым свеце
Вечная прапіска.

## СВЯТА

Спявае весела і танчыць,
У круг свой запрашае свята.
Адна дзяўчынка толькі плача —
Згубіўся недзе ў парку тата.

Дзяўчынку суцяшаюць словам
І забаўляюць яркай цацкай,
Дзяўчынку кухар у пілотцы
Частуе кашаю салдацкай.

Яшчэ не высахлі слязінкі,
А тварык мілы — весялее,
Бо да яе, малой дзяўчынкі,
Сышлася як не ўся алея.

Вярнуўся бацька аднаногі
Адтуль нібы*, з другога мая,*
І тут, на свяце Перамогі,
Дачушку моцна абдымае.

## ЯБЛЫЧНЫ СПАС

***Прытча***

Дзяцей сабраў, гаротнікаў нябёс,
І цешыў яблыкамі Бог на Спаса,
У райскім садзе — яблыкаў з запасам.
Паспачуваў, засмучаны да слёз,
І ўсё ж адно дзіцятка Бог абнёс:
Ягоны бацька на зямлі *да часу*
Налівам белым ласаваўся часта —
Не думаў, што і ў мёртвых ёсць свой лёс.

Гучаць яны як казка, прытчы з неба,
Але і ў іх падказку верыць трэба.
Мы тулім малітоўнік да грудзей,
А тайны вечнасці спазнаць не можам —
І крыўдзім душы дарагіх людзей,
Якія там ужо, у Царстве Божым.

## АДСЮЛЬ
## У СВЕТ ЧУЖЫ АДЗІН ПАЙШОЎ

Адсюль у свет чужы адзін пайшоў,
І закружыла клопатаў стыхія.
Стаўбчане, наднямонцы дарагія,
Да вас я прыязджаю як дамоў,
Шукаю неруш запаветных слоў.
Не вянуць тут без сіл у дні сухія
Майго натхнення ветразі тугія,
Вы — Богам дараваная любоў.

Сюды вяртаюся з любой арбіты,
Пакрыўджаны, няўдачамі падбіты.
Трываю на бальнічным ложку боль
Ці не даюць заснуць тугі прылівы —
Жывое слова *Стоўбцы*, як пароль,
Мне адчыняе дзверы ў свет шчаслівы.

## МУЖЧЫНЫ

Зязюлю не прасілі кукаваць —
Лічыць гады і пуцявіны,

А перад тым, як легчы векаваць,
Прыбралі могілкі мужчыны.

Падгрэблі лісце, высеклі кусты,
Спусцілі сухастой на дровы,
Каб ім святлей было на свеце тым
І каб не мерзлі жонкі-ўдовы.

Аберaглі ў крутых падзей віры
Свае жыццёвыя вышыні —
І спяць спакойна, як гаспадары,
Што мудра шлях свой завяршылі.

## УДАВА

Выветрыўся родны пах
З палатняных мужавых кашуляў.
Спіць даўно ён на кладах,
А ўспаміны з часам — не заснулі.

На хаду трывожаць днём,
Будзяць апаўночы нечакана.
Так, бывае, як агнём
Апякае і зажыўшы рана.

За вясёлым прымаком
Ад сямейных клопатаў панікла:
Той віно смактаў цішком,
Не слабак, хадзіў улегцы звыкла.

А сышоў з вачэй прымак —
На жыццё не наракала дужа,
Быццам, саграшыўшы так,
Зноў яна вярнулася да мужа.

Дома, у сваім кутку,
Не адна начуе, як зязюля:
Спіць, падклаўшы пад шчаку,
Не руку, а мужаву кашулю.

## ПРАЛЯТАЮЦЬ ІМГНЕННІ

Праляцелі імгненні вясны,
Ад цяпла і святла залатыя.
Паўтараюцца быццам яны,
Але гэта імгненні —
Не тыя.

За вясёлкавым летам услед
Не адна, а ў суладдзі з табою
Упрыгожвае восень
І свет,
І жыццё —
Павуцінак журбою.

Праляцяць і імгненні зімы,
Непаўторныя і дарагія.
І сустрэнемся з продкамі мы,
А вясну прывітаюць —
Другія.

## ДУДАЧКА

Ах, дудачка з крушыны —
Музычны галасок:
І звонкі спеў птушыны,
І ціхі ручаёк.

Ад нараджэння мае
І тонкі слых, і зрок —
І *сэрцайкам* спявае
Яна, чуваць здалёк.

Мелодыю люляе,
Закручвае ў вірок,
Здаецца, прамаўляе:
«Цячэ вада ў ярок…»

Ах, дудачка з крушыны!
І тэнар, і басок —
Адтуль, з вякоў былінных,
Музычны галасок.

## ТЫ ПРЫГОЖАЯ…

***Веры***

Ты прыгожая раніцай
Пры пліце, за сталом —
І прысмакамі радуеш,
І душэўным цяплом.

Ты прыгожая днём
У вятроўцы паношанай —

Каля студні з вядром,
У гародчыку з кошыкам.

Ты прыгожая вечарам,
Запаволіўшы рух, —
Перад кожнай сустрэчаю
Нашых сэрцаў і рук.

* * *

А што там,
За нябыту мяжой?
Не падказвае свет безгалосы.
Толькі так, чалавечай душой,
Паяднаны зямля і нябёсы.

Не бязгрэшныя мы, і нясмела,
У малітвах, гартуецца дух,
Каб парваць, пакідаючы цела,
Прыцяжэння зямнога ланцуг.

Мы па-рознаму век пражылі,
Ды зблiжае галоўнае ў лёсах:
Нараджаемся тут, на зямлі,
Завяршаем свой шлях —
На нябёсах.



Мікалай ЧАРГІНЕЦ

# АПЕРАЦЫЯ «КРОЎ»*

*Раман*

## Раздзел 50

Днём у апартаменты, дзе размясцілася Ганна Фішар, з'явіўся Мойрын. Праўда, папярэдне ён пастукаў у дзверы пакоя і, пачуўшы адказ, увайшоў. Ён быў у параднай форме, з новенькімі пагонамі падпалкоўніка. Зрабіўшы лёгкі паклон, прамовіў:

— Фрау Ганна, я прыйшоў з тым, каб паведаміць вам дзве навіны.

— Ну, першую навіну я ўжо бачу, — кіўнула на пагоны Ганна, — віншую, пан падпалкоўнік.

— Дзякуй вам, фрау Ганна. Для мяне вы добрая фея.

— Ну што вы, Вільгельм. Я адчую сябе феяй, калі ўбачу вас генералам.

Мойрын ледзь не страціў мову. Дзіва што, гэта магутная жанчына робіць такія далёка ідучыя прагнозы. Няўжо і насамрэч спраўдзіцца яго блакітная мара і ён стане генералам?! Ён так задумаўся, што зусім забыўся пра другую навіну. Пра яе нагадала фрау Фішар:

— Вільгельм, але вы ж казалі пра дзве навіны. Ці мне здалося?

— Так, так, выбачайце. — Мойрын раптам панізіў голас. — Я атрымаў загад — на працягу тыдня закрыць гэты цэнтр і разам з персаналам выбыць у горад Рыгу.

— А што з дзецьмі?

— Гэта ж не нашы дзеці...

— Прынамсі, не мае таксама...

— Прабачце, я меў на ўвазе, што гэтыя дзеці не маюць ніякіх адносін да немцаў.

— Я разумею. Што будзеце рабіць з імі?

— Яны — дзеці нашых ворагаў і падлягаюць поўнаму і бязлітаснаму знішчэнню. Кіруючыся загадам рэйхсфюрара СС і начальніка паліцыі Гімлера, генеральны камісар обергрупенфюрар СС фон Готберг запэўніў мяне, што наш пераезд у Рыгу будзе ажыццёўлены ў камфортных умовах. Мяне, праўда, турбуе, а як жа вы, фрау Ганна.

— Пра мяне не турбуйцеся, падпалкоўнік. У мяне ўсё ідзе па плане. Мне спатрэбіцца двое сутак, каб усё давесці да ладу і падрыхтаваць да вывазу найболей каштоўныя рэчы і прадметы. У Берліне вырашылі, што гэта лепшы варыянт. Я хачу вас, пан падпалкоўнік, папрасіць на дзве ночы выдзеліць мне трох-чатырох найбольш адказных афіцэраў.

* Заканчэнне. Пачатак у № 1—3, 2014 г.

— А ці нямала?

— Вы ведаеце, я вырашыла сцены не пераносіць у карэтны двор, — пажартавала фраў Ганна і ўжо сур’ёзна сказала, — менавіта туды прыйдзе транспарт, каб забраць усё, што мне трэба, але пра гэта вам паведамяць з Рыгі. Усё лепш рабіць ноччу, дзеці тым часам спяць, і мы скарыстаем калідоры дзіцячага корпуса. Пагадзіцеся, няма сэнсу распаўсюджваць інфармацыю, я маю на ўвазе тое, што жыхары вёскі не павінны ведаць ні пра загад Гімлера, ні пра мае дзеянні.

— Няма праблем, я выдзелю чацвярых самых адказных афіцэраў. — Мойрын яшчэ цішэй паведаміў. — Яны выконваюць сакрэтную місію па ліквідацыі нашага «тавара».

— Якога тавара?

— Мы так завём кантынгент ці донарскі прадукт.

— А калі вы маеце намер пачаць ліквідацыю?

— Донараў? Заўтра да вечара прыбяром першую партыю. Штук саракпяцьдзясят. Дашлюць дзве спецмашыны. У кожную змяшчаецца не меней як дваццаць чалавек.

— Я думаю, Вільгельм, мы зможам у Рызе працаваць у добрым кантакце, пра свой лёс не турбуйцеся, ён будзе даволі бясхмарным і прадказальным.

— Я буду рады выканаць любы ваш загад.

— Я ў гэтым упэўнена, Вільгельм, — шматзначна прамовіла Ганна Фішар і ўдакладніла: — Я думаю, за мной прыйдзе транспарт раней, чым за вамі. Загадайце маім памочнікам з’явіцца да мяне для інструктажу ў шаснаццаць нуль-нуль. Я буду іх чакаць у люстраной зале. І яшчэ, пан падпалкоўнік, мне даручана перадаць вам, што Рыга не лічыць магчымым эвакуацыю Вайтовіча ў Мінск ці Рыгу і Берлін, ён не патрэбен Германіі. Натуральна, ён не павінен застацца ўбаку і стаць крыніцай сакрэтнай інфармацыі.

— Я зразумеў. Гэты жулік і прайдзісвет быў патрэбен мне толькі пры наяўнасці спецкантыгента, немцаў ён не абслугоўваў. А што з літоўскімі і латышскімі паліцэйскімі?

— Сёння я адпраўлю латышоў у Мінск, літоўскі ўзвод — да канца тыдня. Гэта добра. Паліцаі гэтага ўзвода ахоўваюць карэтны двор. Я хацела б адабраць з іх найболей надзейных. Я ўжо іх вывучыла.

— Я загадаю камандзіру ўзвода выдзеліць у нарад тых паліцэйскіх, якіх вы пажадаеце.

— Дзякуй вам, пан Мойрын. Вы сапраўдны афіцэр, годны быць прыкладам не толькі афіцэрам, але і некаторым генералам. — Ганна працягнула падпалкоўніку руку, паказваючы, што гутарка скончана. Мойрын, паціснуўшы даме руку, узяў пад казырок і выйшаў.

Ганна Фішар паклікала дзяўчыну-служанку і загадала запрасіць Вольгу Іосіфаўну. Яны сустрэліся праз дзесяць хвілін. Ганна Мікалаеўна падрабязна праінструктавала яе, што яна павінна перадаць дзеду Панасу. Пасля гэтага Ганна накіравалася ў спальню, дзе ў старадаўнім сейфе захоўвалася невялікая кампактная рацыя. Зачыніўшы дзверы на ключ, уключыла перадатчык і перадала некалькі слоў: «Буду апоўначы».

Сеўшы на ложак, задумалася: «Ну вось, нарэшце пачнём». Пра небяспеку, якая пагражае ёй самой, Вользе Іосіфаўне, дзеду Панасу і дзяўчынцы Ніне, старалася не думаць. Ганна маліла Бога аб адным: «Выратаваць дзяцей!» Яна паглядзела на гадзіннік. Да сустрэчы з афіцэрамі заставалася каля гадзіны. Адкінуўшыся на падушкі, паспрабавала ўявіць, што цяпер адбываецца ў брыгадзе «Штурмавая»…

Група спецназа прыбыла з невялікім спазненнем на партызанскі аэрадром. Усе хлопцы адзін у адзін. Рост — сто восемдзесят, дужыя, апранутыя ў плямістую, пад колер лесу і снегу, уніформу, на нагах — футравыя кароткія ўнты-боты. Узброены ўкарочанымі аўтаматамі, на рамянях — падсумкі з запаснымі абоймамі, гранатамі, кінжаламі, неабходнымі медпрэпаратамі і бінтамі. Іх было дванаццаць чалавек.

Старэйшы зайшоў у штабную зямлянку і прадставіўся камбрыгу:

— Таварыш палкоўнік, група спецназа прыбыла ў ваша распараджэнне для выканання спецзадання. Камандзір групы капітан Пракаповіч Андрэй Эдуардавіч.

— Як уладкаваліся, таварыш капітан?

— Нам выдзелілі дзве цалкам добраўпарадкаваныя зямлянкі. Я загадаў байцам адпачываць, бо камісар брыгады сказаў нам, што спатрэбімся пазней.

— Правільна, вы таксама можаце адпачываць. Цяпер мы займаемся вылучэннем нашых сіл на зыходныя пазіцыі. Раніцай паснедайце і прыходзьце ў штаб. Мы ўвядзём вас у курс справы, а пазней разам з палкоўнікам ГРУ Сігаевым Міхаілам Міхайлавічам правядзём падрабязны інструктаж усёй групы.

Капітан выцягнуўся:

— Ёсць. Гатовыя да выканання.

У штабе былі ўстаноўлены чатыры рацыі. З далёкага кута радыст перадаў праз аднаго з афіцэраў лісткі з прынятай інфармацыяй.

Пазнякоў прачытаў і абвясціў:

— Усе чатырнаццаць абозаў на маршы. Як і было загадана, з наступленнем світанку замаскіруюцца ў лесе і будуць чакаць далейшых указанняў. — Пазнякоў працягнуў радыёграму намесніку: — Андрэй Іванавіч, адзнач месцы знаходжання абозаў.

— Колькі саней? — пацікавіўся Сігаеў.

— Як і было загадана, семдзесят тры. Акрамя гэтых задзейнічаны яшчэ дваццаць з парай коней у запрэжцы. Яны спатрэбяцца для вывазу цяжкіх прадметаў і палонных.

— Яны што, таксама цяжкія? — пажартаваў Сігаеў.

— Прынамсі, яны — каштоўны груз.

Яшчэ адзін радыст прыняў шыфроўку.

Пазнякоў паведаміў:

— Роты камбата Яшына прыкрылі маршрут адыходу абозаў.

Прайшло яшчэ паўгадзіны, і першы радыст працягнуў начштабу наступную радыёграму. Пазнякоў зачытаў:

— Камбат Шпакаў дакладвае, што да раніцы замаскіруецца ў лесе ў двух кіламетрах ад Сёмкава. З наступленнем вечара гатовы завяршыць акружэнне інтэрната.

Наступіла раніца. Камісар брыгады Сенгін шукаў месцы, дзе можна даць прытулак дзецям, палкоўнік Сігаеў займаўся падрыхтоўкай дзвюх зямлянак, прызначаных для палонных. Але асноўная ўвага была ўдзелена баявым падраздзяленням. Яны рухаліся па лесе, строга захоўваючы маскіроўку, усе населеныя пункты абыходзілі бокам.

Пасля азнаямлення камандзіра групы спецназа капітана Пракаповіча з сітуацыяй камбрыг Грынёў разам з палкоўнікам Сігаевым і начальнікам разведкі брыгады Марозам правялі старанны інструктаж аб'яднанай групы спецназа і разведчыкаў брыгады. Іх налічвалася трыццаць чалавек. Старэйшым быў прызначаны Мароз.

Сігаеў, стоячы ля карты раёна, дзе было размешчана Сёмкава, і вялікай схемы палацавага ансамбля, нягучна і не спяшаючыся інструктаваў групу:

— На вас ускладаецца найболей, я б сказаў, тонкая, нават ювелірная задача. Вы павінны праз падземны тунэль, які пачынаецца ў карэтным двары,— палкоўнік самаробнай указкай паказаў гэта месца,— прабрацца ў правае крыло палаца. У гэтым крыле размешчаны дзіцячы корпус. Там вас сустрэнуць нашы людзі. Капітан Іванова задзейнічана ў нямецкую часць, якая займаецца гвалтоўным адборам крыві ў дзетак ва ўзросце ад шасці да дванаццаці гадоў. Прычым робіцца гэта да поўнага знясілення і смерці дзяцей. Само ж нямецкае падраздзяленне і нададзены яму ўзвод літоўскай паліцыі ахоўваюць аб'ект.

Пасля таго, як вы прабярэцеся ў палац, да вас далучыцца яшчэ адно падраздзяленне партызан, камандзір якога будзе чакаць падыходу вашай групы да аб'екта. Месца сустрэчы таварыш Мароз ведае. Ваша задача авалодаць без шуму палацам, схапіць афіцэраў і ўрачоў, абавязкова завалодаць усёй дакументацыяй, якая ёсць у камандзіра, падпалкоўніка СС Мойрына, а таксама аказаць дапамогу ў арганізацыі эвакуацыі дзяцей праз падземны тунэль у карэтны двор, дзе іх забяруць спецыяльныя абозы, якія ахоўваюцца.

Для палонных падрыхтаваны асобныя ездавыя сані. Акрамя гэтага вам неабходна знішчыць фашыстаў і іх паліцэйскіх памагатых і, у выпадку агнявога супраціўлення абароны інтэрната, знутры аказаць дапамогу партызанскім атрадам, якія пачнуць напад на аб'ект адразу ж пасля таго, калі дзеці будуць эвакуіраваны.

Аперацыя павінна быць скончана да дзвюх гадзін ночы. Гэта неабходна для таго, каб транспарт з дзецьмі паспеў адысці максімальна глыбей у лес і без страт адвесці ўсе падраздзяленні ад Сёмкава. З наступленнем світання, каб не даць праціўніку выкарыстоўваць значныя сілы, якія размешчаны ў радыусе трыццаці—пяцідзесяці кіламетраў ад Сёмкава, наша авіяцыя нанясе па месцах іх дыслакацыі авіяўдары. Папярэджваю: не павінна загінуць ніводнае дзіця. Паклапаціцеся і пра захаванне дакументацыі і палонных. Яны вельмі патрэбныя ў Маскве. — Палкоўнік звярнуўся да Пракаповіча: — Ваша група, таварыш капітан, будзе суправаджаць палонных і захопленую дакументацыю ў Маскву. Зыходзячы з колькасці палонных, Масква можа самалётамі перакінуць дадатковыя сілы для перавозкі фашысцкіх забойцаў, якія будуць аддадзены суду.

Адказаўшы на ўдакладняючыя пытанні прысутных, Грынёў і Сігаеў аддалі загад выступаць. Па глухіх, засыпаных снегам лясных дарогах група спецпрызначэння на санях з коньмі адправілася на заданне.

Вечарэла. Ганна Фішар загадала чацвярым афіцэрам, якіх даў у яе распараджэнне камендант, чакаць каманды ў адным з кабінетаў левага крыла.

У лютым яшчэ рана цямнее. Роўна ў шэсць вечара да карэтнага двара пад'ехаў на санках дзед Панас. У санках сядзеў і мясцовы селянін, які працаваў у карэтным двары конюхам.

Яны абышлі памяшканні, дзе размяшчаліся дваццаць два кані. Дзе трэба, дадалі корму, налілі ў спецыяльныя жолабы вады і, як часта здаралася, выцягнулі з саней вялікую бутлю самагонкі і трохі закускі. Двум паліцэйскім з літоўскага батальёна толькі гэта і трэба было. П'янка з надзейнымі людзьмі — дзедам Панасам і яго напарнікам — прыхарошвала нуднае сядзенне ў карэтным двары. Змена павінна прыбыць толькі ў сем раніцы. А каму хочацца ўсю ноч мерзнуць? Шклянка-другая моцнай самагонкі расслаблялі, здавалася, што і раніца хутчэй наступіць. Не прайшло і гадзіны, як паліцаі, пакідаўшы побач вінтоўкі, заваліліся «на гадзінку» адпачыць.

У гэты момант і з'явіліся Мароз і капітан Пракаповіч са сваімі людзьмі.

Дзед Панас, гледзячы на спецназаўцаў, іх незвычайнае абмундзіраванне, ад радасці ледзь не закрычаў:

— Нашы? Савецкія?! Госпадзі, няўжо прыйшлі свае, родныя?!

— Добра, дзед, — па-свойску спыніў дзеда Мароз, — потым панаглядаеш за хлопцамі. Расказвай, дзе ахова карэтнага двара.

— Там, дзе і трэба. Самагонку, што вы перадалі, лічы, удвух яны і выжлукцілі, а цяпер адпачываюць на сене.

— Зброя пры іх?

— Не, я схаваў у стойла Машцы.

— Хто гэта Машка?

— Як хто? Кабыла. Яна трываць не можа чужых. Калі б паліцаі вырашылі пашукаць свае стрэльбы, то да Машкі ў стойла зайсці не змаглі б.

— Вось дадумаўся, дзед, — засмяяўся Мароз і паклікаў чацвярых сваіх хлопцаў: — Звяжыце паліцаяў, у раты — кляпы, размясціце дзе-небудзь у зацішным месцы. Потым паглядзім, што з імі рабіць.

Мароз звярнуўся да дзеда:

— А дзе ключ ад дзвярэй тунэля?

— А вось ён. — Дзед дастаў з кішэні паўкажушка вялікі старадаўні ключ. — Толькі што прыйшла Вольга, яна і правядзе вас у палац.

Пракаповіч хацеў спытаць, хто такая Вольга, але не паспеў. Да іх падышла апранутая ў ватоўку жанчына, прывіталася і ўважліва пагледзела на спецназаўцаў. Нават у цемры яна паспела разгледзець людзей у незнаёмай адзежы. Ледзь чутна сказала:

— Няўжо нашы?! Родненькія.

І раптам заплакала.

Мароз не даў ёй расслабляцца:

— Потым, Вольга Іосіфаўна, потым. Вунь у санках ваш муж сядзіць, за вамі назірае. Уводзьце нас у курс справы.

— Добра, добра, я ж так узрадавалася, калі вас убачыла... Значыць, так, Ганна загадала, каб чалавек дваццаць цяпер пайшлі са мной. Яна падрыхтавала два пакоі, дзе яны ненадоўга ўладкуюцца. Затым Ганна пашле па тунэлі чацвярых нямецкіх афіцэраў, яны будуць несці сякія-такія рэчы. Суправаджаць іх буду я. Афіцэраў, сказала Ганна, трэба ўзяць жывымі. Яны з самых крывавых. Сярод іх урач-крывасмок. Пасля таго, як вы схопіце афіцэраў, змясціце іх туды, дзе дзед Панас ім падрыхтаваў месца. Іншую частку вашых людзей можна накіраваць у двор, за выключэннем некалькіх чалавек, якія будуць чакаць абозы, яны ўжо на падыходзе. Ганна ведае, што рабіць, але ў першую чаргу трэба будзе без шуму вывесці сюды дзяцей. На другім ярусе вялікае памяшканне, там і пабудуць дзеці, пакуль іх парассаджваюць па санях і вывезуць адгэтуль.

Штаб брыгады. Палкоўнікі Грынёў і Сігаеў амаль адначасова прыселі на табурэткі каля стала, бо больш за суткі былі на нагах. Пазнякоў з некалькімі аркушамі паперы ў руцэ ўжо каторы раз падышоў да карты, зрабіў некалькі пазнак і наблізіўся да схемы тэрыторыі палаца.

— Усе на месцах, — далажыў ён. Памаўчаўшы трохі, прадоўжыў: — Гарнізоны праціўніка ў Заслаўі, Красным, Лагойску, Астрашыцкім Гарадку блакіраваны. На дарогах з Мінска ўстаноўлены тры заслоны. Дарога ў накірунку Сёмкава замініравана і прыкрыта сіламі батальёна Шпакава.

— Як у Сёмкаве?

— Спецназ і наша група пачалі дзейнічаць. Вось-вось паступіць інфармацыя пра першыя вынікі.

— Сувязь у парадку? — спытаў Сігаеў.

— Дзякуючы новым апаратам сувязь устойлівая. Іванова практычна ўвесь час на сувязі. Праўда, калі наша перадавая група пачне дзейнічаць усярэдзіне палаца, яна на сувязі будзе перыядычна.

— У карэтным двары ўсё гатова? — спытаў Грынёў.

— Так. Нашы трымаюць становішча пад кантролем. Я загадаў Кірылаву падмацаваць нашых у карэтным двары. Ён накіраваў узвод, каб забяспечыць ахову палонных, а таксама дапамагчы размясціць дзяцей у санях.

— Мы дамаўляліся як след замаскіраваць абозы. Камандзіры не забыліся? — пацікавіўся Сігаеў.

— Не, не забыліся. У нас аказалася дастаткова парашутнага шоўку, усе коні і сані накрыты.

— Каб іх чорт узяў! Лепш самому цяпер быць у палацы, чым мэнчыцца ў чаканні, — раздражнёна сказаў Грынёў.

Ён устаў, падышоў да карты, некаторы час узіраўся ў яе і адышоў толькі тады, калі адзін з радыстаў пачаў запісваць чарговае паведамленне.

— Ад Івановай? — спытаў яго кіраўнік групы радыстаў.

Паглядзеўшы праз плячо радыста, Грынёў удакладніў:

— Не. Гэта камандзіры пачалі дакладваць пра становішча. — Зірнуў на гадзіннік. — Цяпер час выхаду на сувязь камандзіраў.

— Як там у Івановай? — у роздуме прагаварыў Сігаеў.

Ганна Фішар уручыла чацвярым афіцэрам загорнутыя ў белую матэрыю карціны і загадала:

— Аднясіце ўсё гэта ў карэтны двор і вяртайцеся. Служанка правядзе вас, панове. Па-мойму, вас чакае сёння бяссонная ноч.

Вядома, афіцэры нават не меркавалі, што азначае для іх апошняя фраза фраў Ганны, яны моўчкі рушылі за Вольгай Сялькевіч.

Калі яны апынуліся на ніжнім ярусе карэтнага двара, Вольга Іосіфаўна адчыніла дзверы ў адно з памяшканняў і жэстам запрасіла паноў афіцэраў, дадаўшы:

— Праходзьце, вас чакаюць.

Афіцэры ўвайшлі ў напаўцёмнае памяшканне, дзверы за імі зачыніліся. Перад імі, як цені, з'явіліся аўтаматчыкі ў незнаёмай уніформе. Адзін з іх гучна і грозна крыкнуў:

— Хальт! Хендэ хох!

Да немцаў тут жа падскочылі спецназаўцы і скруцілі іх. Мароз пакінуў дзясятак чалавек у карэтным двары, а сам з астатнімі кінуўся да тунэля. Хутка пераадолеўшы яго, яны апынуліся ў склепе палаца. Там чакала Ганна, у куце пад аховай двух спецназаўцаў ляжалі звязаныя двое немцаў, якія ахоўвалі дзіцячы спальны корпус.

Ганна Мікалаеўна звярнулася да партызан, якія ахоўвалі палонных:

— Таварышы, дастаўце гэтыя лялькі ў карэтны двор і адразу ж вяртайцеся.

Яна запрасіла Мароза і астатніх прыбыўшых за сабой. Яны падняліся па вінтавой, выкладзенай чырвонай цэглай, лесвіцы і апынуліся ў спальным корпусе. Усе сабраліся ў даволі вялікім пакоі. На стале ляжала падрабязная схема палаца.

Ганна Мікалаеўна адразу ж пачала інструктаж. У першую чаргу яна звярнулася да Сялькевіч і трох захутаных у хусткі жанчын:

— Дарагія мае, вы зараз жа пачняце паднімаць, апранаць дзяцей і праз тунэль накіроўвайце іх у карэтны двор. — Яна паглядзела на начальніка разведкі: — Таварыш Мароз, вылучце дзесяць чалавек ім у дапамогу. Не трэба паднімаць усіх дзяцей адначасова, каб не пачаліся паніка і шум. Разбіцеся на дзве групы і паднімайце адначасова дзяцей не больш як у дзвюх палатах. Калі пачнецца стральба, эвакуацыю не перарываць. Працаваць трэба хутка, але без нервовай спешкі. Дзеці ведаюць нашых работніц і, я ўпэўнена, павераць ім. Не дапускайце, каб дзеці крычалі. Усё павінна быць максімальна спакойна і праходзіць ціха. Ясна? Тады прыступайце.

Мароз хутка загадаў камандзіру аддзялення:

— Чабатароў, ваша аддзяленне працуе з жанчынамі. Выконвайце.

Пачакаўшы, пакуль гэта група выйдзе, Ганна Мікалаеўна звярнулася да Пракаповіча і Мароза:

— Цяпер вы, два вашых чалавекі ў цывільным ідзяце браць самага галоўнага — камендатна падпалкоўніка Мойрына. Яго звязаць, кляп — у рот, завалодаць ключамі ад сейфа і рабочага стала. Забраць усё, што там знаходзіцца. Не трэба сартаваць, не губляйце часу на азнаямленне. — Ганна дастала з паліцы мяшок. Працягнула яго Пракаповічу.— Вы старэйшы групы захопу, таварыш капітан. Мойрына і дакументы адразу ж — у карэтны двор. Звярніце ўвагу на схему. Вось пакой, дзе мы знаходзімся. Па калідоры пройдзеце да гэтых дзвярэй, ключ тырчыць з нашага боку, затым налева па прыступках на другі паверх. Першыя ж дзверы — спальня Мойрына. Дзверы ён замыкае. Таму я пайду з вамі і папрашу яго адкрыць. Не думаю, што ён не пагодзіцца. Для яго я штосьці магутнае. Ваша задача — не даць яму апамятацца. Ясна?

Пракаповіч, уважліва разглядаючы схему, адказаў:

— Так точна!

— Добра. Вы, таварыш Мароз, бярыце з сабой дзесяць чалавек, сярод іх павінны быць і байцы спецназа. Іх форма акажа вялікае псіхалагічнае ўздзеянне на ворага. Ваша задача — захапіць нямецкі медперсанал. Гэта звяры ў чалавечым абліччы. Акрамя гэтай дрэні трэба ўзяць усю дакументацыю, часопісы, запіскі, узоры прылад, лекаў, жгутоў і гэтак далей. Берагчы гэту набрыдзь як зрэнку вока. Даставіць іх у карэтны двор. Вазьміце мяшок для дакументацыі і прэпаратаў.

У гэты момант у памяшканне адзін за адным увайшлі двое байцоў, якіх пакінулі ў карэтным двары. Старэйшы далажыў:

— Падмацаванне прыбыло. Нам загадалі прыбыць да вас.

— Правільна,— адказала Ганна Мікалаеўна.— Што за падмацаванне?

— Узмоцнены ўзвод. Усе ўнізе, у склепе.

— Добра, хай чакаюць, я хутка спушчуся для інструктажу. Вам трэба захапіць, прычым без шуму, казармы з немцамі і казармы з паліцаямі. Акрамя гэтага, таварыш Пракаповіч, неабходна размясціць у праёмах дзвярэй і вокнаў невялікую групу, якая змагла б спыніць праціўніка, калі ён паспрабуе пракрасціся з двара ў будынак. Кожная група трымае са мной сувязь па партатыўных радыёстанцыях. Як толькі хтосьці выконвае сваю задачу, дакладвае і атрымлівае новае заданне. Прашу мець на ўвазе, што тэрыторыя палаца акружана нашымі атрадамі, якія пачнуць дзейнічаць пры ўмове, калі пачнецца стральба ўсярэдзіне будынка, ці ж па маім загадзе. Нам вельмі важна, каб рэжым маўчання доўжыўся як мага даўжэй. Гэта неабходна для вывазу дзяцей і палонных. Парадак знішчэння салдат і паліцаяў у казармах: першымі страляюць тыя, у каго зброя з глушыцелямі. Астатнія выкарыстоўваюць халодную зброю і толькі, у крайнім выпадку, агнястрэльную.

У пакой увайшла Сялькевіч, яе суправаджаў муж. Ганна Мікалаеўна ўсміхнулася Антону Васільевічу:

— Прыбылі ў тэрмін, малайцы. Колькі вашых людзей?

— Сорак пяць.

— Добра. Вылучце па пятнаццаць чалавек групам, якія будуць атакаваць казармы з салдатамі і паліцаямі. Астатнія — у рэзерве. Хай знаходзяцца ў склепе. У выпадку неабходнасці дапамагаюць праводзіць дзяцей па тунэлі.

Ганна Мікалаеўна спытала ў Вольгі Іосіфаўны:

— Як ідзе эвакуацыя дзяцей?

— Звычайна. Ужо чатыры палаты вольныя.

— Гэта колькі дзетак?

— Семдзесят шэсць.

— Не забыліся, каб бралі з сабой коўдры?

— Не, вядома. Дарэчы, дзеці паводзяць сябе спакойна. Некаторыя просяць хлеба.

— Вось гэтага мы не прадугледзелі, — засмуцілася Ганна Мікалаеўна. — Добра, хай трошкі патрываюць, у кладоўках фрыцаў і паліцаяў знойдзецца правіянт. Усё, таварышы, па месцах і — наперад!

Калі Ганна Мікалаеўна і група капітана Пракаповіча наблізіліся да пакоя Мойрына, яны замерлі ля дзвярэй. Цішыня і ў калідоры, і за дзвярамі.

— Ну што, гатовыя? — паўшэптам спытала Ганна Мікалаеўна. І, не чакаючы адказу, пастукала ў дзверы: — пан Мойрын! Вільгельм! Гэта — фрау Ганна.

Яна пастукала яшчэ мацней, гэтым разам за дзвярамі пачуліся крокі.

— Хто? — пачуўся голас.

— Гэта я, фрау Ганна!

Шчоўкнуў замок, дзверы адчыніліся і паказаўся Мойрын:

— О, фрау Ганна! Я ўсцешаны. Уваходзьце, калі ласка!

Раптам ён убачыў незнаёмцаў. Як ваенны чалавек ён, вядома ж, адразу звярнуў увагу на форму:

— Хто вы? Што адбываецца, фрау Ганна?

— Вы арыштаваны, Мойрын! — прамовіла яна, а Пракопавіч і адзін з партызан, заламаўшы рукі, пацягнулі падпалкоўніка ў спальню.

Адзін са спецназаўцаў узяў партупею з пісталетам, а Ганна загадала:

— Хвіліну на апрананне. Калі хочаш жыць, хутка выконвай загад!

Нічога не разумеючы, Мойрын нацягваў на сябе адзежу, а двое з групы абшуквалі пакоі. Знайшлі два пісталеты, нейкія дакументы.

Капітан Пракаповіч у кішэні штаноў знайшоў звязак з трох ключоў:

— Гэта ад кабінета і сейфа?

Ачмурэлы Мойрын кіўнуў галавой і паглядзеў на фрау:

— Што адбываецца, фрау Фішар? Хто мяне арыштоўвае?

— Усё па парадку, Мойрын. Цяпер рабіце ўсё, што вам загадаюць.

Пракаповіч і яшчэ адзін спецназавец звязалі рукі падпалкоўніку і прыгатавалі кляп, але Ганна Мікалаеўна спыніла Пракаповіча:

— Адну хвілінку. Вільгельм, як вы паступілі з Вайтовічам?

— Як вы і загадалі, расстраляў.

— Колькі чалавек ахоўвае тэрыторыю?

Мойрын, напэўна, хацеў ухіліцца ад адказу, але, убачыўшы ствалы пісталетаў і аўтаматаў, накіраваных на яго, здаецца, пачаў разумець, што адбываецца, і машынальна адказаў:

— Дваццаць чатыры, з іх тры кулямётчыкі на вышках.

— Колькі чалавек у казармах? — па-руску спытаў Пракаповіч, Ганна Мікалаеўна тут жа пераклала.

— Дваццаць адзін мой салдат і дванаццаць салдат літоўскага батальёна. Іх было больш, але я ўчора адправіў дваццаць шэсць з іх у Мінск.

— Пайшлі ў кабінет, і не тузайся, а то цюкну! — грозна загадаў Пракаповіч, з задавальненнем усоўваючы кляп у рот немцу.

Праз дзве хвіліны яны былі ўжо ў кабінеце, хутка закрылі шчыльныя фіранкі і ўключылі святло. Адзін партызан узяў у капітана звязку ключоў, падышоў да сейфа, па-гаспадарску агледзеў яго, пераканаўшыся, што правадоў сігналізацыі няма, хутка перабраў ключы і сунуў адзін з іх у замочную адтуліну. Дзверцы адкрыліся. Да партызана далучыўся спецназавец, удвух дасталі змесціва сейфа, дзе сярод дакументаў знаходзіўся яшчэ адзін пісталет — парабелум.

Капітан Пракаповіч, адшморгнуўшы шторку на сцяне, зняў карту і схему палаца і тэрыторыі вакол яго, якія віселі там. Паказаў пальцам на значок у выглядзе літары «О» з палачкай і спытаў у немца:

— Бронетранспарцёр?

Ганна Мікалаеўна пераклала.

— Я, я, — хутка адказаў Мойрын.

Капітан ткнуў пальцам у кропкі на схеме:

— Другі і трэці бронетранспарцёры? Зенітнае прыстасаванне?

— Я, я, — пацвердзіў немец. Рукі ў яго дрыжалі.

— Прамая сувязь з аховай ёсць?

— Не, толькі з дзяжурным пакоем.

— Хто там?

— Афіцэр і два салдаты.

Пракаповіч звярнуўся да Ганны Мікалаеўны:

— Пакажыце на схеме, дзе дзяжурка.

Яна ткнула пальцам у цэнтральную частку палаца:

— Вось тут. Адгэтуль ёсць праход.

— Добра. — Капітан ізноў засунуў у рот фашысту кляп і загадаў аднаму з падначаленых: — Лебедзеў, хутчэй да нашых. Хай выдзеляць снайпераў і прыкрыюць подступы да бронетранспарцёраў і зеніткі. Разлікаў там няма, і ніхто з немцаў не павінен да іх падысці. Дашліце сюды радыстаў і пяць байцоў.

— Нашых?

— Нашы тут усе, акрамя гэтага, — кіўнуў галавой у бок Мойрына капітан.

Прайшло яшчэ не больш як дзесяць мінут, і трое фрыцаў, якія знаходзіліся ў дзяжурным пакоі, былі абяззброены. Ім сунулі кляпы, звязалі і пад канвоем адправілі на «зборны пункт» — у карэтны двор.

Калі вярталіся ў дзіцячы корпус, насустрач ім ішоў Мароз. Ён хутка сказаў:

— У нас усё ў норме, медыкі-педыкі ў карэтным двары.

— Як ідзе эвакуацыя дзяцей?

— Сто шэсцьдзясят ужо адпраўлены абозам пад аховай. Цяпер адправім другую партыю.

Ганна Мікалаеўна, узяўшы ў рукі радыёстанцыю, звязалася са штабам брыгады. Там спыталі, калі пачнецца напад на казармы і ахову на вуліцы.

— Як толькі павязём дзяцей, адразу ж пачнём. У нас усё гатова.

Яна звярнулася да Пракаповіча і Мароза:

— Таварышы, уношу прапанову: вы, таварыш капітан, разам са сваімі людзьмі і ўзводам партызан, які сканцэнтраваны ў склепе, па сігнале атакуе-

це казармы. Імкніцеся менш рабіць шуму. Вы, таварыш маёр, — звярнулася яна да Мароза, — арганізуйце дастаўку палонных у карэтны двор, адтуль пад узмоцненай аховай, якая павінна быць на пастаяннай сувязі са штабам і намі, адпраўце ў брыгаду. Затым падрыхтуйце сваіх людзей для нападу на абарону праціўніка з тылу, гэта значыць, з боку палаца. Трымайце сувязь з атрадамі, якія будуць атакаваць у лоб. Будзьце асцярожныя, не перастраляйце адзін аднаго. Няма пярэчанняў?

Абодва кіўнулі.

— Добра, а зараз уся ўвага эвакуацыі.

У гэты момант да Мароза падышоў адзін з байцоў і штосьці ціха яму сказаў.

Мароз адразу паведаміў:

— Другі і трэці абозы накіраваліся па маршруце. Паехалі трыста дзесяць дзяцей...

— Давайце, давайце, браткі. Пайду падганю нашых жанчын.

Сама тым часам падумала: «Як там, у штабе? Ці кантралююць мініраванне абозаў, у тым ліку з афіцэрамі, бо Мойрын здольны на ўсё!»

Калі яна спусцілася на першы паверх, то яе ўразіла, як арганізавана паводзілі сябе дзеці. Кожны трымаў у руках коўдру і ўважліва ўслухоўваўся ў словы жанчын. Дзеці адразу ж зразумелі: ад таго, як яны будуць сябе паводзіць, залежыць вельмі многае. Яны хутка спускаліся па вінтавой лесвіцы ўніз, у склеп. Там іх строілі ў шарэнгі і ў суправаджэнні байцоў вялі па тунэлі.

Ганна Мікалаеўна хацела прайсці ў карэтны двор, але не рашылася. Ёй трэба знаходзіцца ў палацы, становішча можа змяніцца ў любы момант. Пакуль усё ішло як па масле. Але адзін крык, адзін стрэл можа рэзка змяніць сітуацыю.

«Як там, у брыгадзе? — ізноў падумалася ёй. — Праз паўтары-дзве гадзіны прыбудуць першыя абозы. Трэба ж у лесе неяк сляды коней і саней замаскіраваць».

У штабе камісар брыгады, ізноў наведаўшы месцы размяшчэння дзяцей, інфармаваў пра становішча спраў:

— У Шпакава ўсё гатова да прыёму дзяцей. Я загадаў праз гадзіну пачаць падрыхтоўку гарачай ежы. Медыкі, якія прыбылі з Масквы, і нашы ўжо ў брыгадзе, знаёмяцца з умовамі, у якіх будуць знаходзіцца дзеці, клапоцяцца, чым карміць згаладалых і фізічна знясіленых дзяцей. Запасу цёплых рэчаў хопіць на пяцьсот пяцьдзясят дзяцей.

У гэты момант адзін з радыстаў працягнуў камбрыгу чарговую радыёграму.

Грынёў з палёгкай сказаў:

— Апошні абоз з дзецьмі адпраўлены. Усяго пяцьсот дзевятнаццаць чалавек. Сяргей Антонавіч, — звярнуўся ён да камісара, — паведамі ў гаспадарку Шпакава пра колькасць дзяцей. Яшчэ раз нагадай, што з наступленнем раніцы — поўная маскіроўка, ніякіх агнёў, дыму. Хай падумаюць як замаскіраваць сляды ад абозаў, па якіх можна выявіць месцазнаходжанне батальёна. І яшчэ, — Грынёў паглядзеў на начштаба, — Павел Міхайлавіч, загадай Кірылаву з наступленнем світання ўзмацніць разведку на прылеглай тэрыторыі. Павялічыць колькасць засад. Пра любое перасоўванне праціўніка дакладваць неадкладна. — Грынёў паглядзеў на Сігаева і ўсміхнуўся. — Мы, Міхаіл Міхайлавіч, падрыхтавалі немцам маленькі падарунак. Раніцай у шасці глухіх лясных раёнах будуць запалены вогнішчы, на палянах, якія бачныя з паветра,

там будуць добра відаць санкавыя і конскія сляды. Калі праціўнік прыменіць самалёты, то мы такім чынам дапаможам ім знайсці цэль. — Грынёў ізноў звярнуўся да Пазнякова: — Павел Міхайлавіч, папярэдзь яшчэ раз Разіна, што пасля таго, як вогнішчамі і дымамі будуць пазначаны лжывыя цэлі, трэба будзе неадкладна вывесці адтуль людзей.

Пазнякоў хутка падрыхтаваў распараджэнні і загадаў аднаму з радыстаў перадаць іх Шпакаву і Разіну.

У гэты момант з падраздзяленняў, якія акружылі тэрыторыю праціўніка, перадалі, што назіраюць пускі іх ракет. Адначасова паступіла радыёграма ад Мароза. У ёй было адно толькі слова — «Пачалі».

Грынёў зірнуў на гадзіннік:

— Две дваццаць. Павел Міхайлавіч, дзе апошні абоз з дзецьмі?

— У сямі кіламетрах ад Сёмкава. Усе абозы рухаюцца максімальна хутка.

Радыст працягнуў Пазнякову яшчэ адну радыёграму. Пазнякоў, прачытаўшы яе, сказаў:

— Ад Ганны Мікалаеўны: «Пачалі нападзенне на пазіцыі праціўніка. У агульнай спальні афіцэраў аказалася радыёстанцыя. Яны паспелі паведаміць у Мінск пра напад. Прашу прыняць неабходныя меры. Адзін з палонных афіцэраў сказаў, што дапамога павінна прыйсці з Мінска і Заслаўя.

Грынёў і Сігаеў падышлі да карты.

— Думаю, што дапамога выйдзе не раней чым праз гадзіну. Дарогі з Мінска і Заслаўя намі перакрыты. — Палкоўнік загадаў начштаба: — Загадай прыступіць да мініравання дарог з Мінска і Заслаўя.

Сігаеў хацеў штосьці спытаць, але адзін з радыстаў перадаў Пазнякову яшчэ адну радыёграму. Пазнякоў прачытаў услых:

«Казармы немцаў ліквідаваны, знішчаны тры бронетранспарцёры і два кулямёты на вышках. Падраздзяленні, атакаваныя з тылу, — ужо на тэрыторыі комплексу. Захапілі зенітку».

Толькі Пазнякоў скончыў чытаць, як паступіла наступная інфармацыя:

«Здраднікі-паліцаі ўжо не існуюць. У палон не бралі, з нашага боку ёсць страты: трое забіта і чацвёра паранена. Прыняты меры па іх эвакуацыі, у дапамозе не маем патрэбы».

— Як абозы? — спытаў Грынёў у начштаба.

— Першы і другі абозы прыбылі да месца прызначэння. Ідзе рассяленне дзяцей, да гэтай работы прыцягнуты жанчыны-партызанкі.

— А апошні абоз?

— На маршы. Пакуль праблем няма.

Грынёў, зірнуўшы на гадзіннік, сказаў:

— Тры гадзіны дзесяць мінут, хутка павінны скончыць.

Радыст, які сядзеў са сваёй рацыяй у далёкім куце, ажывіўся і ўзяўся за аловак. Праз хвіліну ён працягнуў Пазнякову радыёграму.

Пазнякоў агучыў:

«У вёсцы Дзяніскі падняты па трывозе батальён, які часова знаходзіцца там па дарозе на фронт. У распараджэнні батальёна шэсць бронетранспарцёраў, артылерыйска-мінамётная батарэя, аўтатранспарт. Галава калоны накіравана ў бок Барысава».

Слухаючы Пазнякова, Грынёў уважліва глядзеў на карту. Праз дзесяць секунд сказаў:

— Уздоўж дарогі — суцэльны лес. Сама дарога не расчышчана. Бронетранспарцёры пройдуць, а вось з аўтатранспартам у іх, напэўна, будзе праблема. — Ён ткнуў пальцам у кропку на карце: — Вось тут — скрыжаванне

дзвюх лясных дарог. Адгэтуль да Сёмкава роўна пяць кіламетраў. Адна засада — недалёка ад Дзянісак, другая застава — на скрыжаванні. Павел Міхайлавіч, загадай Шпакаву накіраваць адну роту на прыкрыццё гэтага накірунку. Заставу трэба ўзмацніць процітанкавымі ружжамі. Загадайце заставе замініраваць у дзвюх-трох месцах дарогу і, не ўступаючы ў агнявы кантакт, адысці ў глыб лесу. Атакаваць калону трэба пасля падрыву тэхнікі. Заставе разам з ротай, накіраванай на ўзмацненне, заняць пазіцыі ўздоўж дарогі, якую замініраваць не толькі процітанкавымі, але і проціпяхотнымі мінамі. Задача: не дапусціць прасоўвання калоны да скрыжавання. Трэба падрыхтаваць выдзяленне яшчэ адной роты для падтрымкі.

Ізноў паступіла радыёграма.

Ганна Мікалаеўна і па сваёй сувязі капітан Пракаповіч паведамілі, што праціўнік разгромлены, палац падчас бою загарэўся. Усе падраздзяленні пачалі адыход з месца баявых дзеянняў. Страты: сямёра забітых, адзінаццаць параненых. Усе эвакуіраваны.

Не прайшло і пяці мінут, як разведчыкі, якія вялі назіранне за Заслаўем, паведамілі, што рота немцаў на пяці грузавіках накіроўваецца па лясной дарозе да Сёмкава.

— Ну, гэтых нашы спыняць, — спакойна прамовіў Грынёў. — Павел Міхайлавіч, паведамі нашым заставам — у бой уступаць у лесе. Думаю, што першы ж падрыў аўтамашыны хутчэй за ўсё іх спыніць. Цікава, як там, у Мінску?

Пазнякоў трымаў у руках чарговую радыёграму.

— А вось і адказ на ваша пытанне, Сяргей Іосіфавіч.

«У накірунку лагойскай шашы і Сляпянкі высоўваюцца дзве калоны. У лагойскім накірунку да дзесяці грузавікоў з салдатамі. У накірунку Сляпянкі чатыры танкі, адна танкетка, шэсць грузавікоў з салдатамі і адзін грузавік з чатырма-пяццю мінамётамі».

— Сляпянка? — задуменна прагаварыў Грынёў і паглядзеў на Сігаева. — Гэты найбліжэйшы шлях да Сёмкава.

— Як думаеш, чаму яны накіроўваюць калону на Лагойск? — пацікавіўся Сігаеў.

— У гэтым напрамку знаходзіцца якраз на паўдарогі да Лагойска Астрашыцкі Гарадок, дзе размясціліся падраздзяленні танкавага палка, які накіроўваецца на фронт. Ад Астрашыцкага Гарадка ідзе дарога на Радашковічы—Маладзечна. Разлік фрыцаў, па-мойму, ясны: узмацніць сухапутныя падраздзяленні танкамі і ахапіць раён Сёмкава з усходу і паўночнага ўсходу. Упэўнены, што праціўнік паспрабуе перакрыць і паўднёвы накірунак.

— А як нашы падраздзяленні, група спецназа, паспеюць сысці?

— Думаю, што так. Яны не абцяжараны абозамі і пойдуць галоўным чынам лесам.

— Як глядзіш, Сяргей Іосіфавіч, калі я дам авіяцыі дадатковыя цэлі, у выглядзе калон праціўніка?

— Было б нядрэнна, якраз, калі наступіць світанак, калоны праціўніка будуць на маршы. Толькі трэба папярэдзіць авіяцыю, не бамбіць лясныя масівы, каб, крый божа, па нашых не ўдарылі.

Грынёў звярнуўся да Пазнякова:

— Павел Міхайлавіч, трэба загадаць нашым — супраць танкаў весці дзеянні на адкрытай прасторы не трэба. Ставіць міны, асабліва з боку Мінска і Астрашыцкага Гарадка, і дзейнічаць засаднымі метадамі ў лесе. Нам не ўпершыню так атакаваць, упэўнены, з такімі сіламі немцы захлынуцца.

Увайшоў дзяжурны афіцэр і далажыў:

— Таварыш палкоўнік! Дастаўлены палонныя.

— Мароз прыбыў?

— На падыходзе. У бліжэйшыя паўгадзіны будзе тут.

Грынёў звярнуўся да Сігаева:

— Ну што, Міхаіл Міхайлавіч, выклікайце паветраны транспарт і для гэтай набрыдзі. Думаю, што, пасля ўдакладнення цэляў авіяцыі і выкліку транспартных самалётаў для палонных, вы маглі б заняцца допытамі палонных і вывучэннем захопленых дакументаў. — Сігаеў выйшаў з зямлянкі. Грынёў звярнуўся да Пазнякова: — Гатоўнасць аэрадрома для прыёму самалётаў — гадзіна. Абазначэнне вогнішчамі — па камандзе.

Не прайшло і паўгадзіны, як Сігаеў вярнуўся ў штабную зямлянку і, адклікаўшы ўбок камбрыга, нягучна сказаў:

— Сяргей Іосіфавіч, у Мойрына забралі каштоўны прадмет — залатую вазу, упрыгожаную каштоўнымі камянямі — і некалькі драбнейшых прадметаў. Ты не пярэчыш, калі мы тэрмінова яе перадамо Цвяткову? Гэта рэч сыграе вялікую ролю ў выкананні хлопцам нашага задання.

— Вось гад гэты Мойрын, адшукаў дзесьці ў схованках палаца сёе-тое. Пытання няма, Міхаіл Міхайлавіч, забірай.

Неўзабаве ў штабной зямлянцы з’явіліся Ганна Мікалаеўна, Мароз і камандзір групы спецназа капітан Пракаповіч. Пасля абдымкаў, усхваляваных вітанняў і віншаванняў Ганна Мікалаеўна паклала на стол стос папер:

— Вось спіс дзяцей. Усяго пяцьсот дзевятнаццаць чалавек. Сярод іх дзевяноста восем — яўрэі.

## Раздзел 51

Цвяткоў пакутліва думаў, як яму вырашыць праблему ліквідацыі палкоўніка Грубэ. Сумніцельным быў варыянт — прынесці да яго ў кабінет міну. З Ліпковічам было прасцей, а з Грубэ ўсё выглядала інакш.

«А што, калі Грубэ пасля таго, як я падкладу яму міну і выйду з кабінета, паследуе майму прыкладу і таксама выйдзе адразу за мной? Тады разбураецца ўвесь план маіх далейшых дзеянняў. Мяне па загадзе Грубэ проста схопяць і павесяць».

Час падціскаў. Вось-вось Левер прапануе яму з’язджаць. А Леаніду так хацелася выкарыстоўваць міны з розумам і карысцю!

У гэты дзень Леанід разам з напарнікам дзяжурыў на Камароўскім рынку. Ён уважліва ўзіраўся ў твары сялян, ці не мільгане сярод іх знаёмы. Ён спецыяльна часта спыняўся, азіраўся, але нікога не было.

«Дзіўна, — падумалася яму, — Жэня ведае, дзе я, абяцала сустрэцца. Праўда, яна ж абмовілася — толькі ў крайнім выпадку». Леанід злавіў сябе на думцы: яму вельмі хочацца, каб Жэнька прыйшла. Ён нават сабе баяўся прызнацца, што дзяўчына вельмі падабаецца яму, здаецца, праходзяць дзіцячая прыхільнасць, бестурботнасць у іх адносінах. З’явілася штосьці новае. Нават пра сустрэчу з ёй ён думаў, хвалюючыся.

І раптам ён яе ўбачыў. Жэня стаяла каля вялікіх саней, з якіх барадаты мужык прадаваў некалькі дзясяткаў яек і парэзанае на кавалкі сала. У руках ён трымаў ручны бязмен, выкарыстоўваў яго як рэкламу. Жэня глядзела на Леаніда і неяк па-асабліваму ўсміхалася.

Леанід быў старшым у нарадзе, таму загадаў напарніку:

— Прайдзіся да гаспадарчай крамы, там павінны сёння соль і запалкі выкінуць. Паглядзі ўважліва, каб кішэннікі-шчыпачы не распеؚразаліся.

— А ты куды?

— «Куды, куды»! На кудыкіну гару. Прайдуся па конных радах і вярнуся.

Напарнік, паправіўшы рэмень вінтоўкі, накіраваўся ў процілеглы бок рынку.

Леанід абышоў пару саней, якія аддзялялі яго ад Жэні, і наблізіўся да дзяўчыны.

Яна, не вітаючыся, спытала:

— Ты не змерз, Лёня?

Ад гэтага пытання Леаніда імгненна кінула ў жар, чырвань заліла ягоны твар. Ніколі так далікатна і клапатліва Жэня з ім яшчэ не размаўляла. Агледзеўшыся паспешна, прамовіла:

— Пасля дзяжурства прыходзь у дом, дзе жылі нашы суседзі Рабіновічы і Левіны.

— Дык ён жа забіты дошкамі.

— Ужо не. Можаш прыходзіць смела, праўда, пажадана, каб знаёмыя не бачылі. Прыехалі вельмі важныя госці. — Жэня, раптам дакрануўшыся да яго рукі, сказала: — Змерз ты, Лёнечка.

Яна хутка пакінула яго. Лёнька ачмурэла глядзеў ёй услед: «Што гэта з ёй? Незвычайная яна сёння, далікатная».

Частка дзяжурства, што засталася, прайшла як цэлы дзень. Калі прыбыла змена, Цвяткоў адпусціў напарніка, а сам прахаднымі дварамі, самым кароткім шляхам, кінуўся на Старажоўскую. Наблізіўшыся да дома, запаволіў крок. Агледзеўся, на вуліцы — нікога. Не спяшаючыся падышоў да брамкі, азірнуўся і нырнуў у двор. Падняўся па прыступках на ганак. Пацягнуў на сябе дзверы — не замкнёна. У гэты момант адкрыліся другія дзверы і ў праёме з’явілася Жэня.

— Праходзь, праходзь, госцем будзеш! — гучна сказала яна і збочыла, прапускаючы Леаніда ўнутр.

Тое, што ён убачыў, уразіла яго. Пяцёра мужчын расстаўлялі мэблю, праціраючы яе анучамі, чысцілі ў серванце шкло. Увогуле, наводзілі парадак. Адзін з мужчын ступіў насустрач Цвяткову:

— Ну, дабрыдзень, таварыш паліцай!

— Міхаіл Міхайлавіч?! А я не пазнаў вас.

— А мяне таксама не хочаш пазнаваць?

Да Леаніда ступіў, працягваючы руку, другі мужчына. Леанід ізноў здзіўлена ўсклікнуў:

— Сцяпан Пятровіч? Гэта вы?!

— Я, я, Леанід. Ну што, здымай сваю паліцэйскую шкуру. Цяпер будзем чаем цябе адпойваць. Жэня сказала, што ты ў лядзяшператварыўся. Як бы сэрца не захварэла, — з ледзь прыкрытай іроніяй прамовіў Сцяпан Пятровіч.

Не прайшло і пяці мінут, як хлопец сядзеў за сталом. Разам з ім уладкаваліся Міхаіл Міхайлавіч, Сцяпан Пятровіч і Жэня. На стале — нарэзанае сала, чорны сялянскі хлеб і сапраўдны чай з галетамі.

Астатнія трое засталіся ў другім пакоі. Праўда, праз хвіліну адзін з іх, нацягваючы на хаду ватоўку, накіраваўся да выйсця:

— Я ў двары свежым паветрам падыхаю.

— Значыць, так, хлопцы, — сказаў Міхаіл Міхайлавіч, — перш чым пачаць гутарку пра мэту нашага прыезду, я хачу вас праінфармаваць пра вынi-

кі нашай аперацыі па вызваленні дзяцей з фашысцкага донарскага лагера смерці.

Міхаіл Міхайлавіч даволі падрабязна расказаў, як праходзіла аперацыя, пры гэтым з гумарам апісаў, як чатырнаццаць немцаў, у тым ліку два афіцэры, трапілі ў расстаўленыя ў снезе пасткі.

Жэня і Лёня ад душы смяяліся, слухаючы, як акупанты пазнаёміліся з новай сакрэтнай партызанскай «звышзброяй» — пасткамі на буйнага звера.

— Няцяжка здагадацца, як нашы Кукрыніксы размалююць, як фашысты траплялі з-за капканаў у палон. Ну, гэта я расказаў вам, каб трошкі павесяліць. А зараз пра галоўныя вынікі аперацыі: мы з вамі выратавалі ад немінучай смерці пяцьсот дзевятнаццаць дзяцей, з іх трыста адна дзяўчынка і дзвесце васямнаццаць хлопчыкаў.

— А яўрэі з гета там ёсць? — спытаў Леанід.

— Дзевяноста восем дзяцей — яўрэі.

— А што з фашыстамі-катамі?

— Узялі ў палон усіх афіцэраў, так званых урачоў, якія адбіралі ў дзяцей кроў, пакуль яны не паміралі.

Сярод паліцаяў з Літвы быў знішчаны маёр Імпявічус. Гэта той, які са сваімі галаварэзамі толькі ў Магілёве забіў дзве тысячы дзвесце чалавек, а ў Слоніме і Слуцку — больш як пяць тысяч яўрэяў, там удзельнічалі і ўкраінскія, і мясцовыя паліцаі.

— А чаму гэтага Імпявічуса ў палон не ўзялі? — спытала Жэня.

— Ён прыбыў напярэдадні, каб заўтра прыняць удзел у забойстве дзяцей, і знаходзіўся ў адной казарме са сваімі бандытамі. Ну а мы не паспелі даведацца пра гэта. Сабаку — сабачая смерць! У сейфе падпалкоўніка Мойрына выявілі вялікую колькасць дакументаў, сакрэтных загадаў і нават копію дакладной у Берлін пра вынікі знішчэння яўрэяў, цыган і вялікай колькасці мясцовага насельніцтва.

У медыкаў мы выявілі дакументы, медыцынскія дакументы, якіх цалкам хапае, каб міжнародны трыбунал, а ён абавязкова адбудзецца, адразу ж пасля перамогі адправіў іх на шыбеніцу.

— Хутчэй бы! — летуценна прамовіла Жэня.

— Чырвоная Армія дае акупантам і ў хвост і ў грыву. Мы ўпэўнены, што наша Беларусь і іншыя рэспублікі СССР будуць вызвалены ўлетку. А мы з вамі, хлопцы, павінны, вядома ж, дапамагаць набліжэнню перамогі.

— Што трэба рабіць? — спытала Жэня.

— Давайце і пагаворым пра гэта. — Міхаіл Міхайлавіч кіўнуў Марозу. Той, падышоўшы да шырокай лавы, якая стаяла каля сцяны, дастаў з рэчмяшка некалькі загорнутых у кавалкі парашутнага шоўку прадметаў, разгарнуў іх і паставіў на стол.

— Ух ты,— не стрымалася Жэня, — гэта што, золата?

— Так, і гэта ваза, і гэтыя кубкі з чысцейшага золата, а ўпрыгожванні на іх — каштоўныя камяні. Цяпер мы з вамі і падышлі да задачы, якую ўсе разам павінны вырашыць заўтра. Слухайце ўважліва.

Яны доўга гаварылі ў гэты вечар. Часам спрачаліся, удакладнялі, змянялі варыянты. Як бы там ні было, да наступлення ночы план быў гатовы.

На ноч усе засталіся ў доме. Леанід і Жэня размясціліся ў далёкім пакоі, дзе стаялі два металічныя ложкі. Дом ахінуўся ў сон, толькі Леанід ніяк не мог заснуць. Прычынай бяссоння была Жэня. Здавалася, варта працягнуць адно аднаму рукі, і ўсё было б па-іншаму. Лёнька ляжаў з адкрытымі вачамі, успамінаючы іх сяброўскія адносіны.

І вось, здаецца, гэта школьнае, дзіцячае сяброўства перарасло ў нешта большае. Што гэта, каханне?

Лёня нават сам сабе не мог прамовіць слова «каханне».

Раптам ён пачуў яе голас:

— Што, не спіцца?

— Ага, а табе?

Жэня маўчала. І раптам нейкая невядомая сіла, здавалася, насуперак жаданню, прымусіла яго ўстаць і, зрабіўшы ўсяго некалькі крокаў, наблізіцца да ложка Жэні. Ён намацаў яе твар, далікатна правёў пальцамі, а затым нахіліўся і пацалаваў. Жэня не адхінулася ад Леаніда, а, наадварот, абхапіла рукамі яго галаву, і іх вусны зліліся ў першым у іх жыцці пацалунку...

Раніцай Леанід адчуў сябе іншым чалавекам. Яму ўсё здавалася цудоўным: і першы дзень вясны, і неба, і нават марозная смуга…

Дзіва што! Ён зразумеў, што закахаўся. І ў каго? Жэньку, якую, як вучыліся ў школе, амаль не звяртаў увагі на яе, як на дзяўчыну, у якую можна закахацца. Заўважыў яе, калі пачалася вайна. Ён успомніў, як яны сустрэліся, калі адважная Жэнька выратавала дзяўчынку-яўрэйку. Чым часцей яны сустракаліся, тым больш яна здзіўляла яго сваёй адчайнай адвагай, рашучасцю і пастаянным імкненнем дапамагчы людзям. Гэта павага, пачуццё локця прывялі да зусім нечаканага. Ён закахаўся. Цяпер, крочачы па заснежаных вуліцах горада, Леаніду хацелася смяяцца, танчыць і крычаць: я кахаю Жэнечку, Яўгенію! Я кахаю!!! Усё, што было мінулай ноччу, — назаўжды ў яго сэрцы, яго душы. Ісці было няблізка, і Леанід паступова пераключыўся на аперацыю, што мелася адбыцца. Усё, што ён вырашыў зрабіць, на першы погляд здавалася авантурай. А калі атрымаецца? Страта палкоўніка гестапа, дасведчанага ва ўсім, для немцаў будзе сапраўдным ударам. Чым бліжэй Леанід падыходзіў да будынка гестапа, тым часцей думаў пра тое, што неўзабаве адбудзецца.

Ля ўвахода — два аўтаматчыкі. Глянуўшы на спецпропуск яны, як заўсёды, шчоўкнулі абцасамі і, гледзячы перад сабой, як быццам сказалі: «Праходзьце!»

Грубэ сядзеў за сталом старадаўняй работы, у вялікім, таксама рарытэтным, крэсле і піў каву. Перад ім ляжаў невялікі стос папер. Ён па чарзе браў ліст і чытаў. Цвяткоў пастукаўся і адразу ж пачуў адказ па-нямецку. Леанід успрыняў гэта як дазвол увайсці. Адчыніў дзверы, у кабінеце, выцягнуўшыся, падняўшы руку, гыркнуў:

— Хайль Гітлер!

— А, Цвяткоў! Заходзь, заходзь. Бачу, не з пустымі рукамі.

— Так, сапраўды, пан палкоўнік. Таму і вырашыў патурбаваць вас, параіцца. Сёння з раніцы мы прыбылі па адным з адрасоў, паказаных у спісе. Дзверы зачынены, але не толькі на замак, а прымацаваны цвікамі. Я зразумеў, што жыхары, напэўна, змыліся. Мяне насцярожыла і тое, што гэта ўжо трэці адрас, па якім мы нікога не заставалі. Дзверы былі на замку. Мы, вядома, узламалі дзверы, зрабіліператрус, але нічога не знаходзілі. Я думаю, што п’яны Ліпковіч камусьці з ворагаў расказаў пра спіс. Я вырашыў, што ў нас ізноў пракол, выйшаў за вароты і раптам бачу — па вуліцы знаёмая дзяўчына ідзе. Мы з ёй вучыліся ў адной школе. Дык вось яна расказала, што ў гэтым доме жыла змешаная сям’я, муж — яўрэй, жонка — беларуска. Муж працаваў у гістарычным музеі, а перад вайной — у дзяржбанку. Яны былі вельмі багатымі. Дзяўчына бывала ў іх дачкі і бачыла, што ў іх дома як у антыкварнай краме ці музеі. Вельмі шмат розных вялікіх прадметаў. Яна бачыла, як гэта сям’я, а іх трое, заўчора выйшла з хаты. Дзверы замкнулі на ключ ды яшчэ і цвікамі прыбілі.

Яе здзівіла, што ў руках яны неслі невялікія сумкі і чамадан. Дзяўчына кемная і ведае, што я служу ў паліцыі, да таго ж яна лаяльна ставіцца да германскіх улад і хоча паехаць у Германію вучыцца. Пачала вывучаць нямецкую мову. Яна мне і падказала, што ў доме павінна быць схованка, куды яны і схавалі найболей каштоўныя рэчы. Я веру гэтай дзяўчыне, яна — сумленны чалавек. Адправіў сваіх людзей, машыну адпусціў, а сам з дапамогай сякеры і ломіка, якія прынесла дзяўчына, выламаў дзверы.

Мы ўвайшлі і пачалі аглядаць дом. Я ўжо думаў, што нічога не знойдзем, а мая знаёмая раптам звярнула ўвагу на велізарны каваны куфар, якому гадоў дзвесце. У ім быў стары посуд, патэльні, каструлі, міскі і таму падобнае. А Жэня, так клічуць дзяўчыну, і кажа мне: «Лёня, гэты ж куфар стаяў у куце, а не на гэтым месцы». Разумніца яна. З дапамогай ломіка мы ўдваіх з велізарнай цяжкасцю ссунулі яго, а пад ім — люк. Адкрылі яго, а там амаль метровая глыбіня і метры паўтары ў шырыню мяшкі, скрынкі і проста так, навалам, ляжаць вось гэтыя цацкі.— Леанід палез у невялікі брызентавы мяшок і па чарзе, не спяшаючыся, дастаў адну за адной такія штучкі, што ў палкоўніка вочы літаральна палезлі на лоб. Ён хапаў дрыготкімі рукамі па чарзе кожную, вохкаў і штосьці па-нямецку галасіў. Ён зрабіў неасцярожны рух, і кубак з кавай зваліўся на падлогу. Кубак — дашчэнту, а Грубэ і ўвагі не звярнуў. Нарэшце ён супакоіўся і спытаў:

— Хто ў доме застаўся?

— Жэня. Я толькі ёй давяраю. Яна нават ніткі чужой не возьме. Я падумаў, калі выклікаць сваіх, няма гарантыі, што не раскрадуць. Вырашыў вам далажыць, раптам вы захочаце самі ўсё агледзець і, што спадабаецца, забраць, а астатняе можна і канфіскаваць.

— Малайчына ты, Леанід! Правільна зрабіў, давай паедзем туды. — Палкоўнік, ускочыўшы, нагой адшпурнуў аскепкі. Праўда, паспеў заўважыць: — Як у вас, рускіх, кажуць, што посуд б’ецца на шчасце.

— Дык я ўжо адчуваю сябе шчаслівым. Надакучыла падпарадкоўвацца кожнаму п’яніцы.

— Правільна. Загадзя віншую з павышэннем.

Грубэ хутка нацягнуў на сябе форму, дастаў з сейфа парабелум, сунуў яго ў кабуру на рэмені:

— Не будзем губляць часу. Паехалі, лішнія людзі нам не патрэбны.

— Вы не забыліся пасведчанне? Мы ж едзем адны, паставыя могуць спытаць?

— О, гэта, Леанід, у мяне заўсёды з сабой. Дарэчы, там знойдзецца тара?

— А што гэта?

— Ну, пустыя скрынкі, мяшкі.

— А, зразумеў. Вядома, хапае.

Яны выйшлі з будынка. Вадзіцель, які знаходзіўся ў невялікай прыбудове, выскачыў і бягом кінуўся да шыкоўнага лімузіна. Ён завёў матор, пачакаў з паўхвіліны, пакуль ён разагрэецца, пад’ехаў да палкоўніка. Ззаду да машыны адразу ж прыстроіўся цяжкі матацыкл. Акрамя вадзіцеля ў калясцы сядзеў за кулямётам яшчэ адзін немец.

«Значыць, іх чацвёра, — падумаў Леанід. — Амаль як і меркаваў Міхаіл Міхайлавіч».

Ехаць трэба было мінут дваццаць, не ўсе вуліцы былі як след пачышчаны.

Грубэ, які сядзеў з Леанідам на заднім сядзенні, заклапочана спытаў:

— Ты ўпэўнены, што гэта дзяўчына нічога не кране?

— Што вы, рыхтуйцеся, яна, убачыўшы, што вы задаволены, пачне клянчыць, каб вы дапамаглі ёй у Германію з'ехаць.

— Гэта не праблема.

Калі машына пад'ехала да дома і спынілася насупраць масіўных высокіх варот, Грубэ і Цвяткоў выйшлі. Палкоўнік задаволена заўважыў, што вуліца пустая, а затым, загадаўшы вадзіцелю заставацца ў машыне, хутка накіраваўся да брамкі ў варотах, Леанід — за ім.

На ганку з'явілася сімпатычная дзяўчына, яна, усміхаючыся, сказала:

— Гутэн таг. Бітэ! — І, саступаючы дарогу, прапусціла палкоўніка і Леаніда паперадзе сябе.

Як толькі Грубэ ўвайшоў у кухню, якая адначасова была і пярэднім пакоем, дзе панаваў прыцемак, ён нечакана атрымаў моцны ўдар у сківіцу. Яму не далі паваліцца, падхапілі, зацягнулі ў другі пакой, дзе ўсунулі ў рот кляп, сцягнулі з яго шынель з рамянём і астатнюю адзежу, а затым абвязалі вяроўкамі.

Міхаіл Міхайлавіч на чыстай нямецкай мове сказаў Грубэ, які ўжо прыйшоў у сябе:

— Палкоўнік, адзін піск ці шум з твайго боку, і ты нябожчык! Зразумеў?

Грубэ, ашалела гледзячы на незнаёмцаў, у знак згоды кіўнуў. Міхаіл Міхайлавіч звярнуўся да Жэні і Леаніда:

— Ну што, дзеці, давайце дзейнічайце, — і нечакана ўсміхнуўся дзяўчыне, — у цябе ёсць добрая магчымасць праявіць сваё выдатнае веданне нямецкай мовы.

Жэня нават рукамі замахала:

— Што вы, Міхаіл Міхайлавіч! Якое там веданне?!

— Жартую, жартую, але вадзіцеля з машынай у двор завабце.

Леанід і Жэня выйшлі ў двор. Леанід хутка падышоў да варот, адсунуў вялікую завалу і па чарзе адкрыў абедзве паловы.

Жэня падышла да машыны і ўсміхнулася шафёру:

— Бітэ! — Ад хвалявання яна забылася астатнія, падрыхтаваныя пры дапамозе Міхаіла Міхайлавіча, словы. Яна адной рукой паказала на руль, другой — на двор і прамовіла: — Грубэ...

Шафёр сцісла сказаў «гуд», завёў машыну, праехаў метраў пяць, а потым упэўнена загнаў аўтамабіль у двор. Ён выйшаў з машыны і ў суправаджэнні Жэні ўвайшоў у дом. Леанід жа вярнуўся да варот, выйшаў на вуліцу і знакамі прапанаваў ахоўнікам, якія сядзелі на матацыкле, праехаць да варот і спыніцца. Калі матацыклісты выканалі яго патрабаванне, Лёня прамовіў панямецку:

— Айн момент, — паказаўшы рукамі, што давядзецца цягнуць скрыні, паспяшаўся ў дом. Там яго сустрэў Міхаіл Міхайлавіч.

— Давай, Лёня, запускай іх, а ты, Жэня, ідзі адкрывай заднія дзверцы машыны, хай думаюць, што трэба груз цягаць.

Выйшлі разам. Жэня адкрыла левую, а Леанід — правую — заднія дзверцы, Леанід махнуў матацыклістам: заязджайце, маўляў, у двор. Заракатаў матор, матацыкл праехаў некалькі метраў наперад і заехаў у двор. Жэня жэстамі запрасіла іх у дом, паказваючы рукамі, што трэба дапамагчы штосьці несці. Абодва рушылі следам унутр, дзе праз імгненне пачуліся грукат і крык аднаго з матацыклістаў.

У сенцах з'явіўся Міхаіл Міхайлавіч:

— Дзеці, замкніце вароты і брамку на завалы! Жэня, ты павартуй у двары, назірай за вуліцай, а ты, Леанід, заходзь.

Калі Лёня ўвайшоў, то адразу зразумеў, што з ворагаў жывым застаўся адзін палкоўнік. Ён сядзеў амаль голы, на яго двое партызан напіналі порткі, старыя валёнкі, швэдар і стары кажух. Міхаіл Міхайлавіч надзеў на сябе форму палкоўніка, а трое партызан, у тым ліку і Мароз, нацягнулі на сябе формы матацыклістаў і вадзіцеляў.

Міхаіл Міхайлавіч адразу ж пачаў інструктаж:

— Палкоўніка — у багажнік. Яго ногі не толькі лепей звязаць, але і прывязаць да чаго-небудзь, каб не тузаўся падчас праезду праз КПП і не стаў імі рабіць шум. За руль машыны садзіся ты, Ваня. На КПП размаўляць буду я.

Затым ён звярнуўся да Мароза:

— Ты — за руль матацыкла, а ў каляску ты, Антон. Размаўляеш па-іхняму добра, калі палезуць з пытаннямі, спасылайся на мяне, палкоўніка гестапа Грубэ.

Дзеці, звяртаюся да вас. Лёня, сёння Таня з сям’ёй перабраліся ўжо з твайго дома. На ўсякі выпадак пераначуйце на явачнай кватэры па вуліцы Камароўскай і заўтра з раніцы, Леанід — да Левера. Жэня, табе давядзецца падстрахаваць Леаніда. Дакументы ў цябе ў парадку. Дамоўцеся, як будзеце ўзаемадзейнічаць. Калі ўздумаеш выпраўляць Леаніда, дык толькі візуальна. Ну а затым можаш на Камароўскім рынку прыстроіцца да нашых і вяртацца ў брыгаду. Дом замкніце, але цвікі не забівайце. Не трэба лішняга шуму.

Пакуль выносілі Грубэ, укладвалі ў багажнік і размяшчаліся самі ў машыне, Леанід і Жэня зачынілі дзверы і адчынілі браму. Спачатку выехаў матацыкл, грозна паблісківаючы кулямётам у пярэдняй частцы каляскі, а затым легкавушка.

Зачыніўшы вароты, Леанід і Жэня пакрочылі па пакрытым снегам дашчатым тратуары. Калі дарожка трохі пашырэла, яны пайшлі побач. Жэня нясмела ўзяла Леаніда пад руку.

На явачнай кватэры іх сустрэла гаспадыня — пажылая стомленая жанчына. Яна ведала Жэню і, па тым, што яна дастала з печы чыгунок з бульбай, чакала іх. Гаспадыня паказала на рукамыйнік на сцяне ў кухні, недалёка ад рускай печкі:

— Мыйце рукі і садзіцеся за стол. Прагаладаліся нябось?

Гэта быў не абед, а баляванне. Гаспадыня паклала на гарачую бульбу смажанае сала, якое ажно сквірчэла, толькі што знятае з патэльні. Паклала на стол дзве цыбуліны, паставіла сальніцу, міску з квашанай капустай, сказала:

— Ешце, дзеткі. Жэнечка, я буду ў суседзяў, дык ты памый посуд. У дальнім пакоі я паслала табе, а вам, малады чалавек, у зале. Там шырокая канапа.

Неўзабаве Леанід і Жэня засталіся адны і з апетытам уплялі ежу. Праўда, ні ён ні яна да цыбулі так і не дакрануліся.

Клаліся спаць кожны ў сваю пасцель, але раніцай канапа, прыгатаваная для Леаніда, была пустой... На наступны дзень, калі развіднела, прыйшла гаспадыня. Яны разам паснедалі.

Гаспадыня паведаміла добрую навіну:

— Прасілі перадаць вам, што ўсе ўжо дома.

У Леаніда і Жэні яшчэ больш узняўся настрой.

Леанід накіраваўся да Генрыха Левера. Ён бачыў, што немцы чымсьці ўстрывожаны. Фашысты шнырылі па вуліцах, абшуквалі машыны, вазы, сані. Але Левер сустрэў Леаніда з усмешкай, пасадзіў у легкавушку і адвёз да таварнай станцыі, дзе знаходзіўся рэчавы склад. Леанід выйшаў з яго, апрануты як з іголкі. Левер паведаміў:

— Твае новыя дакументы ў мяне. Пакуль карыстайся аўсвайсам, з ім ніхто цябе не можа затрымліваць і дапытваць. Добра, што ў мінулы раз мы цябе сфатаграфавалі. Так што гэта не проста звычайны пропуск, а дакумент, прытым на іншае прозвішча, эксклюзіўны. Сёння ў сем вечара сустракаемся на чыгуначным вакзале. Калі напаткаеш каго-небудзь са знаёмых, ты для іх па-ранейшаму Цвяткоў.

Левер працягнуў спісаны лісток:

— Вось табе твой берлінскі адрас, на які твая мама можа пісаць. Гэта на ўсякі выпадак. Ты сам зможаш перадаць сваім пісьмо і нават пасылку па нашай сувязі, пошце.

— Мне што-небудзь са сваіх рэчаў, дакументаў браць?

— У цябе ў Германіі будзе новае жыццё, таму нічога не спатрэбіцца, нават фатаграфіі.

— Вось іх у мяне і няма.

— І не шкадуй. — Левер паглядзеў на гадзіннік. — Такім чынам, у цябе роўна сем з паловай гадзін. Выкарыстоўвай іх з карысцю для сябе. Да сустрэчы.

Першай, пра каго падумаў Леанід, калі апынуўся на вуліцы, — гэта Жэня. Яму стала па-сапраўднаму страшна ад усведамлення таго, што прыйдзецца з ёй расстацца, са сваім першым каханнем. Леанід паспяшаўся да дзяўчыны. Ён падрабязна расказаў ёй пра сустрэчу з Леверам, паказаў свой новы аўсвайс.

Жэня на імгненне выйшла ў суседні пакой і вярнулася з фотаапаратам, спытаўшы:

— Ты хоць памятаеш, Міхаіл Міхайлавіч сказаў табе, што ад мяне ты не павінен нічога ўтойваць. — Яна гарэзліва ўсміхнулася. — Так што, дарагі, зараз я буду ведаць не толькі твае сардэчныя таямніцы. — Яна стала сур’ёзнай і з непадробным сумам зазначыла: — Аднаго я толькі не разумею — а раптам я страчу цябе назаўжды. Нават Міхаіл Міхайлавіч мне нічога не сказаў.

— Пры апошняй сустрэчы Міхаіл Міхайлавіч мне паведаміў, што цяпер прапрацоўваецца пытанне і наконт цябе.

— Як наконт мяне?

— Каб мы былі разам. Адкрыю табе, дарагая, несардэчную таямніцу. Як я зразумеў, цябе будуць вучыць.

— Чаму?

— Па-мойму, усяму. У тым ліку нямецкай і іншым мовам. Але гэта наперадзе. Як толькі вернешся ў брыгаду, цябе Міхаіл Міхайлавіч адправіць у Маскву.

Ён абняў дзяўчыну. Яна таксама моцна абвіла яго шыю рукамі:

— Я не ўяўляю, як буду без цябе... Я ўвесь час буду думаць, перажываць.

Лёня, абхапіўшы яе за стан, нечакана ўзяў на рукі і панёс у пакой, дзе яны знаходзіліся ўначы…

Да ад’езду заставалася чатыры з паловай гадзіны. Жэня ўсё-такі пераканала Леаніда, што будзе яго праводзіць, але толькі непрыкметна для староннiх. Амаль да самага вакзала ішлі разам і толькі ля Заходняга моста спыніліся.

Жэня раптам спытала:

— А ты памятаеш...

Леанід не даў ёй дагаварыць, ён прыкрыў рукой яе рот.

— Не трэба. Я гэта месца запомню на ўсё жыццё. Менавіта на гэтым месцы пачалося маё сапраўднае жыццё. І падарыла мне яго ты, мая будучая жонка!

Яны моўчкі глядзелі на Маскоўскую вуліцу, што ішла на захад, на мост з узмоцненай аховай. Яны ўспомнілі дзяўчынку Элу, якая іх і звяла.

Далей Леанід пайшоў адзін. Калі ён падышоў да Левера, які прагульваўся па пероне, той зірнуў на гадзіннік:

— Добра, ты — дакладны. Запомні, дакладнасць — адна з асаблівасцей характару немцаў. Ну што, пайшлі ў вагон. — І ён першым накіраваўся да складу.

Яны ехалі амаль адны ў купэйным вагоне. І гэта ў той час, калі і таварныя, і пасажырскія вагоны, а пасажыры галоўным чынам былі немцы, браліся ледзь не штурмам.

У Левера і Леаніда былі асобныя купэ. Левер адразу зняў паліто і разам з капелюшом павесіў на кручкі.

Леанід не стрымаўся і спытаў:

— А можна, я пастаю ў тамбуры, развітаюся з Мінскам?

Немец усміхнуўся:

— Можаш, але запомні, пазней ад гэтага ў цябе яшчэ мацнейшая будзе настальгія.

Цягнік ужо кранаўся, і хлопец паспяшаўся ў тамбур, дзе праваднік зачыняў дзверы.

Леанід, гледзячы на будынкі, якія мільгалі за прыадчыненымі дзвярамі, звярнуўся да правадніка:

— Адну хвілінку, мне трэба пастаяць ля адкрытых дзвярэй.

Праваднік, вядома ж, разумеючы, што з такім камфортам у гэтым вагоне едуць важныя персоны, не спрачаўся, зрабіў крок убок. Леанід як быццам развітваўся з усім, што бачыў. Вось пад коламі звонка пралязгалі пралёты Заходняга моста, і хлопец ледзь не ўскрыкнуў: непадалёк на невялікім пагорку стаяла Жэня. Яна, вядома ж, адразу ўбачыла яго, развітальна памахала рукой. Праўда, выконваючы канспірацыю, рабіла выгляд, што махае камусьці ў пярэдніх вагонах.

Ён сам прычыніў дзверы і павярнуўся да правадніка, каб падзякаваць яму. Але спыніўся, здзіўлены. Перад ім, апрануты ў форму чыгуначніка са спецыяльным нямецкім знакам, стаяў… Сцяпан Пятровіч. Той імгненна прыціснуў палец да вуснаў і кіўнуў галавой у бок вагона: праходзь, маўляў.

Леанід прайшоўся па вагоне, дзверы купэ Левера былі аддчынены. Той сядзеў на мяккай лаўцы і чытаў газету.

— Я павінен ужо класціся спаць? — спытаў Леанід.

— Праз пятнаццаць хвілін прынясуць вячэру. Да раніцы мы прыбудзем у Брэст, там перасадка.

Хлопец прайшоў у сваё купэ, зняў паліто, капялюш і, па прыкладзе Левера, усеўся на пасцель ля маленькага століка, усталяванага ля акна.

Неўзабаве прыйшоў праваднік:

— Добры вечар. Я прынёс вам вячэру. Пасля вячэры што вам падаць: чай ці каву?

— Лепш чай, — буркнуў Леанід, а сам як зачараваны глядзеў на Сцяпана Пятровіча.

Той моўчкі паклаў перад Леанідам нейкую цыдулку. Хлопец узяў яе ў рукі і прачытаў: «Пароль: «Вы ведаеце французскую мову?» Чалавеку, які прамовіць гэтыя словы, давярай. Ён — свой. Ты павінен адказаць: «Не, я ведаю толькі сваю родную мову». Пасля Брэста цябе будзе суправаджаць іншы праваднік. Гэты пароль табе будзе патрэбен пры сустрэчы з ім і далей, дзе б ты ні быў. Поспеху!»

Леанід уважліва прачытаў, а Сцяпан Пятровіч, узяўшы цыдулку і кінуўшы яе ў кубак з чаем, гучна прамовіў:

— Чай ужо астыў. Я прынясу яго да канца вячэры. Не пярэчыце?

— Добра, — адказаў Леанід.

Сцяпан Пятровіч выйшаў і прычыніў за сабой дзверы. Леанід не вельмі хацеў есці, не было апетыту, але ён перасіліў сябе і паеў. Ізноў з'явіўся «праваднік». Паставіўшы перад хлопцам чай, панёс на падносе скарыстаны посуд.

Леанід, гледзячы з акна, думаў: «Ці ўбачу я зноў Жэню, маму, сясцёр? Можа, і тата застанецца жывым? Ці прыеду калі-небудзь у Мінск? Не, гэта абавязкова спраўдзіцца. Пасля перамогі!»

Ён быў недалёкі ад праўды. Але Леанід Цвяткоў не мог сабе нават уявіць, што праз дзесяцігоддзі ён са сваёй сям'ёй — жонкай Жэняй і трыма дзецьмі — будзе жыць у Мінску, хадзіць па яго цудоўных вуліцах...

## Раздзел 52

Першыя вясновыя дні 1944 года адразу ж заявілі пра свае правы. Вуліцы горада і палі за яго межамі пачалі хутка вызваляцца ад снегу. Вясновыя раўчукі не цурчэлі, а бурлілі, сцякаючы ў нізіны, рэкі, канавы. Прырода ажывала.

Сонца стаяла яшчэ даволі высока, калі Абрам Рабіновіч наблізіўся да ўзлеску амаль ля самага горада. Калі ён ішоў з дома, дзе пасялілася Алена Пятроўна Статкевіч з дзецьмі, узяў толькі два акрайцы хлеба і кавалак парашутнага шоўку.

Прайшло амаль двое сутак з таго моманту, як Абрам, глытаючы слёзы, напісаў ліст Алене Пятроўне, якую ён у душы зваў мамай, сышоў, каб помсціць тым, хто забіў яго бацькоў, сясцёр Ларысу і Соню. Ён гарэў адным жаданнем — адпомсціць катам, прычым не толькі за сваіх родных, але і за сваіх суседзяў — Левіных, за ўсіх яўрэяў, забітых фашыстамі ў гета, за ўсіх людзей, незалежна ад таго, якой яны нацыянальнасці. Яго не пакідала пачуццё віны перад дзецьмі, якія сталі яму роднымі, і Аленай Пятроўнай. Абрам, калі зразумеў, што не можа жыць, не адпомсціўшы катам, думаў сысці з хаты неўзаметку, але не стрымаўся і напісаў запіску. Ён баяўся яшчэ, што Алена Пятроўна і дзеці падумаюць пра яго дрэнна, як пра баязліўца ці нават горш. Таму ён сумленна растлумачыў у запісцы прычыну ўцёкаў.

Ён ішоў у Мінск, ноч перабыў у нейкай спаленай вёсцы, у адзіным ацалелым хляве, дзе захавалася трохі сена. І вось ён амаль на ўскраіне Мінска, у Сляпянцы. Застаўся апошні рывок. Каб яго зрабіць, пятнаццацігадовы хлопец, лежачы ў снезе, атуліўшыся кавалкам белага парашута, выглядваў, як яму знайсці праход у сістэме аховы горада.

Абрам выдатна разумеў, калі ён трапіць у рукі фашыстаў, то канец адзін — смерць, таму прымушаў сябе не спяшацца, а добра прадумваць кожны свой крок.

Праўда, яго мучыў голад. Хлеб ён з'еў яшчэ днём, а пераадольваючы лясныя гурбы, ды і ісці ён імкнуўся як мага хутчэй, ізноў захацеў есці. Дзіўна, ён асцерагаўся ворагаў, але ў той жа час баяўся, што свае арганізуюць пагоню, каб вярнуць яго назад.

«Як жа прайсці?» — ужо каторы раз задаваў сабе пытанне Абрам. Зрэдку ў горад і ў зваротным кірунку праязджалі машыны, часам сані з коньмі, на якіх ехалі сяляне. Абрам быў упэўнены: калі ён папросіць у каго з сялян, каб правезлі яго ў сваіх санях, ніхто яго не возьме. Наўрад ці знойдзецца такі

вясковец, які будзе рызыкаваць дзеля незнаёмага чалавека. І ён працягваў назіраць за мясцовасцю, шукаць варыянт, як трапіць у горад. Нягледзячы на ўжо яркае сонца і на тое, што Абрам быў у паўкажушку, у вялікіх ботах, ногі ў якіх былі абмотаны анучамі, ад доўгага ляжання ў снезе было холадна. Спачатку адчуў, як пачынае мерзнуць спіна, потым і ногі. Але хлопец не хацеў адступаць. Ён адпоўз ад дрэў, падняўся і хутка пайшоў, каб сагрэцца. Прайшоў з паўкіламетра, беручы правей, затым, заблытаўшыся ў белы шоўк, наблізіўся да ўзлеску. Ён усё больш прыходзіў да высновы, што адзіны шанец — выратавацца — паспрабаваць прабрацца ў Мінск праз драцяныя загароды. Але на іх былі навешаны пустыя кансервавыя бляшанкі: своеасаблівы сігнал трывогі, калі хто-небудзь дакранецца да дроту.

«Трэба рызыкнуць! — думаў хлопец. — Назад шляху няма, а заставацца тут, у снезе, — гэта проста адубець». Ён яшчэ раз уважліва агледзеў драцяныя агароджы, пасты, размешчаныя адзін ад аднаго на адлегласці двухсот метраў, і зразумеў, што калі ісці, то трэба ісці не там, дзе няма слядоў — гэтыя месцы замініраваны, а дзе яны ёсць. На што яшчэ звярнуў увагу Абрам — колькасць салдат на пастах чаргавалася: калі на адным два немцы, то на наступным — тры.

«Пайду міма таго паста, што бліжэй да шашы. На ім двое салдат, а тое, што ўязныя вароты ды бліндаж з кулямётам, бронетранспарцёр павінны прытупіць пільнасць салдат».

Абрам адышоў у лес, пажаваў іголкі ад елкі, закусіў снегам і тужліва падумаў: «Трэба было ўзяць чаго-небудзь з ежы больш. Мама не пакрыўдзілася б». Абрам вялізным намаганнем волі прымусіў сябе не думаць пра ежу. Знайшоў пятачок сярод ельніка, дастаў з кішэні даволі вялікі самаробны нож, які ён прыхапіў разам з паловай карабка запалак. Спачатку наламаў яловых галін, зрабіў з іх своеасаблівы насціл для ног, затым вытаптаў у снезе невялікі круг і ачысціў ад іголак некалькі дзясяткаў дубцоў, наламаў сухіх галінак.

Абрам разумеў, варта яму распаліць вогнішча, і адразу паднімецца дым, які хутка можа заўважыць вораг. Падумаўшы, ён наламаў яшчэ добрую кучу касматых лапак і ўсеўся на іх. Дастаў запалкі і акуратна падпаліў сухія сучкі і вычышчаныя ад іголак дубцы. Вогнішча было невялікім, але ад яго адразу ж пайшло цяпло. Абрам працягнуў да яго ногі, а затым і рукі, паглядзеў на неба. Дзень відавочна пайшоў на спад, і цяпер, да наступлення цемры, трэба было сагрэцца.

Нагам нарэшце стала цёпла, і Абрам, не шкадуючы дроўцаў, даў магчымасць агню разгарэцца, стаў па чарзе паварочвацца да яго спінай і бакамі.

Калі наступіла цемра, ён кінуў у вогнішча вялікія галіны, пад ім іх было шмат. Агонь прымушаў хлопца адсоўвацца, гадзінніка ў яго не было, але ён разумеў, што спяшацца няма куды. Трэба ісці пазней, калі салдаты стомяцца, іх пацягне на сон. Рух па дарозе і праз КПП з наступленнем цемры спыняўся, насоўвалася здрадлівая цішыня. Нарэшце зусім сцямнела, і Абрам вырашыў: «Пара!»

Ён рушыў да ўзлеску па сваіх слядах. Цяпер ужо не было сэнсу хавацца сярод дрэў. Вось і ўскрай лесу. Наперадзе вялікае беласнежнае поле. Трэба было спяшацца, каб не намёрз наст, хруст якога будзе чутны далёка. Абмятаўшыся парашутным палатном, ён павольна пакрочыў у бок драцяных агародж. Метраў праз трыста папоўз. Чым бліжэй набліжаўся да агароджы, тым асцярожней рухаўся.

Абрам змакрэў, зрэдку хапаў ротам снег, не забываючы паглядаць на пост. Немцы былі не ў маскхалатах, і, нават пры невыразным святле месяца за імі

лёгка можна было назіраць. Нарэшце ён дасягнуў агароджы. Пустыя кансервавыя бляшанкі здрадліва нагадалі пра ежу, а затым ужо і пра небяспеку. Ён правёў рукой па калючым дроце. Павольна, сантыметр за сантыметрам пачаў паднімаць яго ўгору. Глыбей закопваючыся ў снег, лежачы на спіне, падтрымліваючы дрот, прасунуў правую нагу, затым асцярожна астатнюю частку цела. Вось ужо галава пралезла, жывот, а затым левая нага. Усё, ён у горадзе. Праўда, да крайніх дамоў адлегласць такая ж, як і да лесу.

Ускраіна горада — гэта аднапавярховыя хаткі, ці ёсць патрулі на вуліцах, Абрам не ведаў.

«Бадай, павінны быць, — разважаў ён, — бо небяспечная зона заўсёды ўзмоцнена ахоўваецца». Апынуўшыся ля крайняй хаты, агледзеў нешырокую вуліцу. Быццам бы пуста. У вокнах няма святла. Зразумела, маскіроўка. Абрам падумаў: «А што, калі схавацца ў якім-небудзь хляве, а як наступіць раніца, скончыцца час дзеяння каменданцкай гадзіны, ісці далей?» Але дзе ты знойдзеш такі прытулак? Усе вароты, брамкі на завалах. Ён вырашыў рухацца па вуліцах далей, да цэнтра. Балазе гэты раён ён ведаў. Абрам у першую чаргу шукаў незамкнёныя вароты ці брамку, хоць бы невысокі плот. Калі пачуе шум матора, схаваецца ў чужым двары.

Набліжалася раніца, калі Абрам нарэшце з'явіўся на сваёй роднай вуліцы. Зашчымела сэрца. Ён успомніў той шчаслівы час. Вось і гэтыя два дамы — у іх жылі тры шчаслівыя сям'і: Рабіновічы, Статкевічы, Левіны.

«Дамы — пустыя, у іх ніхто не жыве. А што, калі мне пераначаваць дома?»

І Абрам рашыўся, праз плот пракраўся ў двор свайго роднага дома. Сэрца зашчымела ад успамінаў шчаслівага жыцця. Усё тут было, як раней. Дзверы былі на замку. Ламаць? Чым? Ды і шуму будзе шмат. Хлопец абышоў дом і з боку гарода паспрабаваў зазірнуць у акно. Зусім цёмна. Абрам, прытуліўшыся тварам да халоднага шкла, раптам адчуў нейкую пустату, нібы нейкая невядомая чужая сіла адштурхвала яго ад акна, заклікала: не залазь!

Хлопец абышоў дом і апынуўся ў двары. Насупраць — дом, у якім пражывала сям'я суседзяў. Успомнілася адважная Жэня. Пастаяўшы трохі, ён падняўся па некалькіх прыступках на ганак, пакратаў дзверы, зачынена. Абрам зазірнуў у бліжэйшае акно, цёмна, але той палохаючай пустаты, якая адштурхоўвае, ён не адчуў. Праз некалькі гадзін наступіць раніца. Абрам адважыўся. Нажом адкалупнуў замазку, адагнуў маленькія цвічкі і кончыкам нажа па чарзе зачапіў краі шкла. Яно паддалося. Рукой адкрыў шпінгалеты і прыняўся за ўнутраную раму. Акно расчынена. Абрам уставіў шкло на месца, зняў паўкажушак, перакінуў яго ўнутр, а затым залез сам і зачыніў за сабой акно. Ён памятаў, як размешчаны пакоі, і пайшоў у маленькі, дзе раней жылі Вася, Косця і Валера. Адразу ж наткнуўся на ложак, які прызначаўся Васю. Памацаў: матрац на месцы. Лёг, накрыўся паўкажушкам і адразу ж заснуў, а калі прачнуўся, было ўжо светла. Асцярожна зірнуў у акно, якое выходзіла на вуліцу. Там праходзілі рэдкія людзі, адзін раз праехаў нямецкі грузавік з ланцугамі на задніх колах.

Голад ізноў нагадаў пра сябе. Абрам прайшоў на кухню, агледзеў стол, печку, пасудзіну: ежы нідзе не было.

Абрам разумеў, што трэба тэрмінова штосьці рабіць. Паразважаўшы, вырашыў, што трэба рызыкнуць і выйсці на вуліцу, дзе ўжо ярка свяціла сонца. Дзверы былі зачынены на вісячы замок, і хлопец вылез праз акно, прайшоў дваром і адкрыў клямку на брамцы. Вызірнуў, на вуліцы толькі адзінокія прахожыя. Схаваўшы твар глыбей у каўнер, рушыў па тратуары, які ўжо амаль

цалкам вызваліўся ад снегу. Ніхто з прахожых не звяртаў увагі на хлопца, і ён падбадзёрыўся. Абрам ужо цвёрда вырашыў, што трэба ісці да Леаніда, свайго выратавальніка. Вось і знаёмы дом. Брамка замкнёна, зазірнуў праз дашчаны плот і разгублена застыў. У двары — ніводнага следу.

«Няўжо іх няма? Што здарылася, няўжо фашысты схапілі Леаніда і яго сям'ю? Можа, з-за мяне? — ліхаманкава думаў ён. — Што рабіць? Больш у мяне нікога няма. Няўжо трэба шукаць сховішча ў ацалелых скляпах разбураных дамоў? Але там жа акалееш ад голаду і холаду!»

Сапраўды, становішча было бязвыхадным. Хлопец упершыню падумаў, ці правільна ён зрабіў, што збег. Вось калі б ён мог проста цяпер сустрэць Готэнбаха. Нож ёсць, ён адплаціў бы фашысту за ўсе яго злачынствы. А там будзь што будзе. Галоўнае — адпомсціць за сваіх родных, блізкіх, за ўсіх, каго Готэнбах і яго каманда замучылі!

«Але як знайсці гэтага звера? Часу ў мяне так мала! — думаў Абрам. — Хто ж можа мне дапамагчы?»

І раптам ён успомніў. Тут дзесьці павінна жыць дзяўчына, якая некалькі разоў прыходзіла ў дом Леаніда.

Ён успомніў, што завуць дзяўчыну Таня, так яе клікала мама Леаніда. Абрам рушыў уздоўж плота, выглядваючы ў дварах каго-небудзь з жыхароў. Абышоў адзін дом, другі, трэці, нарэшце ў двары пятага дома ўбачыў немаладую жанчыну.

— Цётка, — паклікаў ён, — можна ў вас спытаць?

— Што табе? — тон у яе не быў варожым.

— Вы не ведаеце дзяўчыну Таню? Яна жыве дзесьці ў гэтых дамах.

— Таня, Таня... — задуменна паўтарыла жанчына. Яна падышла бліжэй да Абрама, працягваючы разважаць услых. — А прозвішча яе ты не ведаеш?

— Не. Але ведаю, што яна жыла недалёка ад Цвятковых, але іх дома няма.

— А ты кім даводзішся Цвятковым? Хоць, бачу, не сваяк.

«Адразу вызначыла, што я — яўрэй», — трывожна падумаў Абрам і адказаў:

— Не, не сваяк, але я ведаў іх дзяцей, мы разам у школе вучыліся.

— А, вось яно што. — Жанчына адкрыла брамку і прапанавала: — А ты заходзь у двор. Няма чаго стаяць навідавоку ў прахожых. Розныя яны бываюць.

— Ваша праўда, — пагадзіўся Абрам, уваходзячы ў брамку. — Дзякуй вам.

— За што мне дзякаваць, сынок, усе мы людзі. Праўда, таксама розныя, здаецца, я здагадваюся, пра якую Таню кажаш. Яна ўжо сапраўдная нявеста. Добрая дзяўчына, жыве ў другім ці трэцім доме ад Цвятковых. А табе не небяспечна хадзіць па горадзе, могуць жа пазнаць, што ты яўрэй. Іх жа, бедных, амаль усіх пазабівалі.

— Усіх не заб'юць, ды і не толькі нас яны забіваюць.

— Так, так, сынок, усіх яны знішчаюць, моладзь, спецыялістаў, як скаціну, заганяюць у таварнякі і вязуць у сваю Германію. Кажуць, што там іх за рабоў лічаць. Божа, калі ўсё гэта скончыцца!

— Цётка, а ў вас кавалачка хлеба ці сухарыка не знойдзецца? Выбачайце, вядома.

— А ну, пайшлі ў дом! — рашуча сказала яна і першай ступіла на парог.

Калі яны зайшлі ў добра напаленую кухню — пярэдні пакой, гаспадыня скамандавала:

— Распранайся, вось рукамыйнік, калі хочаш, памый рукі, памыйся, ручнік побач вісіць, і садзіся да стала. У мяне як раз боршч учарашні ёсць, боршч, калі яго суткі патрымалі, ён смачнейшы, наварысцейшы робіцца. — Яна засунула чыгунок у яшчэ гарачую печ, дастала паўбохана хлеба, адрэзала два кавалкі і разам з лыжкай паклала на стол: — Бяры зэдлічак, прысаджвайся, праз пару хвілін боршч сагрэецца. Праўда, больш цябе пачаставаць няма чым. Жыву я з мужам, мой стары падзарабляе на рынку, часам і костачку з мясам прынясе.

— А дзеці ў вас ёсць?

— Ёсць, — жанчына цяжка апусцілася на свабодны зэдлік, — была дачушка, ёй дваццаць тры ўжо было. Схапілі яе падчас аблавы, кажуць, што ў Германію павезлі.

Яна краем хусткі выцерла слёзы і накіравалася да печкі. Спрытна віламі дастала чыгун і вялікім чарпаком наліла ў алюмініевую міску боршч, не пашкадаваўшы нават, напэўна, тую самую мясную костачку:

— Еш, сынок, еш, толькі асцярожна, гарачы ж боршч.

Ад паху баршча ў Абрама кругам пайшла галава, ён узяў хлеб і апусціў лыжку ў міску. Еў прагна, апякаючыся. Гаспадыня паставіла чыгун на пліту, зачыніла засланкай печ і, каб не бянтэжыць хлопца, выйшла ў суседні пакой. Хвілін праз пяць вярнулася і паклала на стол цёмна-сіні шалік:

— Вазьмі, сынок. Шыю захутай ды твар хоць неяк прыкрый, каб не паклаў на цябе вока фашыст ці нейкі паліцай смярдзючы.

— Дзякуй вам. Я ніколі гэтага не забуду. Я ўжо думаў, памру з голаду. А вы не ведаеце, што з Цвятковымі?

— З'ехалі яны ў вёску. Лёнька-то паліцай. Праўда, шкоды людзям не рабіў, не забіваў, не страляў.

— А дзе ён?

— Хто яго ведае. Прыехаў на грузавіку, забраў сваіх і з'ехаў. Праўда, кажуць, што хтосьці бачыў яго ў горадзе, апрануты не ў паліцэйскую форму. Можа, Таня ведае. А як цябе завуць? — нечакана спытала яна.

— Абрамам.

— Абрамам? Ты лепш завіся Антонам ці Андрэем. Сам ведаеш.

— Дзякуй, — падхапіўся Абрам. — Наеўся, хопіць на цэлых тры дні.

— А хочаш, я сама схаджу да Тані?

— Не ведаю, — засумняваўся Абрам, — а можа, яна не ўспомніць мяне ці спалохаецца, падумае, што вы правяраеце яе. А так убачыць мяне, павінна ўспомніць. Мы ж з ёй толькі пару разоў размаўлялі.

— Ну, добра, сынок, ідзі. Дый мой стары хутка на абед прыйдзе. Убачыць цябе, спалохаецца. Ён зараз, як тая варона, куста баіцца, уначы ад кожнага шоргату ўздрыгвае. Я яму кажу: каму мы патрэбныя, а ён мне ў адказ: яны забіваюць для прыліку.

У двары Абрам упершыню ў жыцці пакланіўся:

— Дзякуй вам, вялікі дзякуй!

— А колькі табе гадоў?

— Ужо шаснаццаты пайшоў. — І сапраўды, Абраму было ўжо пятнаццаць гадоў і адзін месяц.

Выйшаўшы на вуліцу, ён накіраваўся ізноў да дома Цвятковых, а затым, адлічыўшы два дамы, падаўся ў двор трэцяга.

Двор быў вычышчаны ад рэштак снегу, нават траўка дзе-нідзе стала вылазіць на сухіх месцах. Ён наблізіўся да ганка, а з уваходных дзвярэй выйшла Жэня:

— Ага, з’явіўся, не запыліўся? — закрычала яна.

З-за яе спіны вызірнула Таня, дадала:

— Уцякач няшчасны!

— А вы што, ведаеце? — здзіўлена спытаў Абрам.

Жэня, нібы яго не заўважаючы, павярнулася да Тані:

— Я ж табе казала, больш яму ісці няма куды. — Яна звярнулася да Абрама: — Толькі не зразумела, як ты тут апынуўся?

— Вылічыў, — усміхнуўся хлопец.

— Ну, заходзь, пагаворым,— шматзначна прамовіла яна.

Калі Абрам распрануўся, паведаміў:

— Жэня, а я ў тваім доме пераначаваў, праз акно залез. Не было куды ўначы ісці.

— Добра, што не ў свой дом папёрся.

— Гэта чаму ж?

— А таму, што там немцаў поўна. Толькі мёртвых.

— Як гэта?

— А вось так гэта! Ты лепш скажы, што з табой рабіць?

— Жэня, я прыйшоў, каб адпомсціць Готэнбаху, каменданту гета. А за што, ты сама ведаеш. І пакуль я гэтага не зраблю, я не супакоюся. Калі вы нават мяне зноў у атрад ці вёску адправіце, я ўсё адно вярнуся ў Мінск.

— Але…

— Жэня, не трэба! Я ўжо не маленькі. Калі табе было гэтулькі гадоў, колькі мне сёння, ты рызыкавала жыццём, дапамагаючы нам. Забылася? Таму прашу цябе, дапамажы мне знайсці Готэнбаха. Ён жа тут, у Мінску?

— Бачыла яго пару разоў, — машынальна адказала Жэня. — Ён у генеральным камісарыяце цяпер служыць. Добра, адпачывай пакуль. Потым пагаворым.

Жэня павярнулася да Тані:

— Танечка, у вас за печкай тапчан, можа, пакладзём яго там, хай адаграваецца?

— Добра, я цяпер усё прыгатую.

Прайшло не меней як тры гадзіны, калі хлопец прачнуўся. Ён адчуў прыліў новых сіл і хацеў ужо ўставаць, як раптам пачулася прыглушаная гутарка сябровак. Яны гаварылі пра яго і заклапочана раіліся, што рабіць.

— Ведаеш, Таня, — казала Жэня, — а я разумею Абрамчыка. У яго становішчы я зрабіла б гэтак жа.

— Але як яму дапамагчы? Нашых прасіць нельга. Загад катэгарычны — адправіць хлопца ў брыгаду. Вось быў бы тут Лёня.

— Лёня ўжо дзесьці па Берліне гуляе, — сказала Жэня. — А што мы? Бабы! Удзвюх, ды яшчэ з Абрамам з гэтым фашыстам не справімся?

— Трэба падумаць. Лёня ж схаваў у сваім хляве, дзесьці ў куце пад дахам, дзве міны. Яму выдалі іх, каб знішчыў начальніка паліцыі і палкоўніка-гестапаўца, але абышлося без выбухаў. А людзей у нас з табой, Жэня, каго можна прыцягнуць да гэтай справы, няма. Таму, я лічу, нам трэба паведаміць пра яго з’яўленне, і яго даставяць у брыгаду. Шкада хлопца, палезе наўздагад, а гэта немінучая смерць. А за яго бацькоў і сястрычак каму трэба адпомсцяць. Нам неабходна яго ўгаварыць.

— Ой, не ведаю, Таня, не ведаю. Упэўнена, што Абрам, нагледзеўшыся ўсіх жахаў у гета, не спыніцца, не будзем жа мы звязваць яго, зневажаць, каб вярнуць у лес.

У Абрама сон як рукой зняло. Тое, што ён пачуў, давала яму шанец.

Ён праваляўся яшчэ з паўгадзіны, робячы выгляд, што спіць. Калі зразумеў, што дзяўчаты скончылі гутарку і выйшлі з кухні, ён наўмысна заварочаўся, імкнучыся, каб яны яго пачулі.

Дзяўчаты пачулі і вярнуліся ў кухню. Абрам выйшаў з-за печы і не мог стрымаць усмешкі.

— Ты што гэта такі шчаслівы? — пацікавілася Жэня.

— Дык так выспаўся. Адпачыў выдатна.

— Гэта добра, — прамовіла Таня, — па-мойму, самы час і пагаварыць сур'ёзна.

— А можа, не трэба? — узмаліўся хлопец.— Калі вы не хочаце мне дапамагчы.

— Ды перастань ты, — абурылася Жэня. — У нас няма ніякай магчымасці дабрацца да гэтага Готэнбаха! Табе б лепш назад. Запэўніваю, што і Готэнбахам, і генеральным камісарам будуць займацца сапраўдныя прафесіяналы.

— Увогуле, так, — параіла Таццяна. — Ты, Абрамчык, пакуль адпачывай, пасядзіш пару дзянькоў дома, а мы пачакаем указанняў, што рабіць далей.

Дзяўчаты расказалі хлопцу, што сям'я Тані жыве ў доме настаўніцы Караблёвай, і растлумачылі, з чым гэта звязана.

— Ты, Абрам, будзеш у гэтым доме гаспадарыць адзін. Вядома, мы кожны дзень будзем прыходзіць, рыхтаваць табе паесці. Калі хто-небудзь спытае пра нас, адказвай, што не ведаеш, бо тваю сям'ю, а прозвішча тваё, скажам, Іваноўскі, засялілі сюды ўлады, маці на рабоце. Спытаюць, дзе працуе і кім. Адказвай — на чыгунцы, а кім — не ведаеш. Наогул, — дадала Жэня, — прыкінься чайнікам: я маленькі, нічога не ведаю. Спытаюць, колькі гадоў, адказвай — трынаццаць. Табе не дасі пятнаццаці, бач які худзенечкі, як сапраўды дзіця.

— Трохі хлеба табе пакінем на ўсякі выпадак, астатняе будзем прыносіць. Печку сам распальвай. Дровы — у хляве, для падпалкі — пад печкай, сухія, сякера — у куце, — удакладніла Таня.

— А дзе ключы ад хлява і дома?

— А навошта ад дома? — насцярожылася Таня.

— На ўсякі выпадак, калі ў хлеў пайду ці выйсці, падыхаць.

— Бачыш, ля дзвярэй на цвічку, разам з замком ад дома, вісяць?

— Ага, бачу, дзякуй.

Таня яшчэ раз папярэдзіла:

— Абрам, дарагі, я цябе малю, на вуліцу выходзіць небяспечна. Ведаеш, колькі тут шпікаў у цывільным ходзіць, усё выглядваюць, людзей распытваюць, а праз некаторы час да якога-небудзь дома «чорны крумкач» прыязджае, гестапаўцы з вялікімі бляхамі на грудзях і аўтаматамі ў руках выскокваюць.

— Не хвалюйся, не маленькі, разумею, — супакоіў Таццяну Абрам.

— Ну і добра, што разумееш, — адказала Таня і паглядзела на сяброўку: — Ну што, Яўгенія, пайшлі?

Дзяўчаты пайшлі. Абрам, гледзячы ў акенца, перш за ўсё выйшаў у сенцы і зачыніў уваходныя дзверы на вялікі кручок. Вярнуўшыся ў дом, ён сеў ля стала і задумаўся: «У мяне ёсць толькі пару дзён, не больш. Прыйдуць, забяруць і адвязуць назад. Не будзеш жа супраціўляцца, гэта ж — свае. — Ён устаў, падышоў да акна, гледзячы, як па вуліцы ідуць прахожыя, праязджаюць машыны.— Дык, у кожнага з іх ёсць хоць дакумент, а ў мяне? Яўрэйскі твар, для майго апазнання ніякага дакумента і не трэба».

Ён вярнуўся да стала, трохі супакоіўся і нечакана падумаў: «Цікава, колькі цяпер часу? Шкада, што ў мяне няма гадзінніка. Толькі сонца і ратуе».

Абрам падышоў да акна і паглядзеў на неба. Балазе пачалася вясна па-сапраўднаму, ярка-блакітнае неба. «Так, — прыкінуў Абрам, — дзесьці каля дзвюх гадзін».

Ён памкнуўся адысці ад акна, як раптам убачыў, што ля брамкі спыніўся мужчына, акінуў позіркам фасад дома, затым паціснуў плячамі і рушыў далей. Абрам раптам заўсміхаўся. У яго з’явілася ідэя. «Нарэшце я ведаю, што рабіць, хутчэй бы дзяўчаты прыйшлі».

Прайшло не меней як гадзіна, як у дзверы гучна пастукалі. Абрам зірнуў у акно — на ганку стаяла незнаёмая жанчына і стукала ў дзверы сенцаў. Хлопец не ведаў, як яму быць. «Раптам гэта праверка, ці не хаваюся я тут? А яшчэ мужчына, які разглядаў дом. Можа, ён шукаў патрэбны адрас, а на доме няма нумара. А калі гэта гестапа?!» І Абрам ціха адышоў ад акна, прыгаворваючы: «Няма чаго кожнай сустрэчнай па першым груку дзверы адкрываць. Не маглі ж Таня ці Жэня без папярэджання паслаць да мяне жанчыну, якую я не ведаю. Яны ж разумеюць, што я проста не маю права ўпускаць у хату незнаёмага чалавека». А жанчына зноў пастукала, і ў гэты момант пачуўся голас Жэні: «Абрамчык! Адкрый!»

Ён ізноў асцярожна падышоў да акна. На ганку побач з незнаёмкай стаялі Жэня і Таня.

— Вось гэта іншая справа,— прамармытаў Абрам і накіраваўся ў сенцы.

Калі ўсе ўвайшлі ў дом, Таня сказала:

— Абрам, гэта мая мама. Яна крыху апярэдзіла нас. Мы дамовіліся тут сустрэцца.

Ларыса Андрэеўна паставіла цяжкую торбу на зэдлік і стала даставаць з яе і класці на стол прадукты. Апошнім дастала загорнуты ў анучу і паперу чыгунок. Зняла вечка, і з чыгунка, запоўненага варанай бульбай, паваліла пара.

— Пакуль мае дзяўчаткі бегалі ў дом Цвяткова, я іх апярэдзіла. Ну, думаю, калі не адчыніць дзверы Абрам, пайду дахаты, а ён хай галодным застаецца.

Усе дружна прыняліся за ежу, а калі скончылі, Абрам сказаў:

— Сёння з раніцы ў двор тройчы прыходзілі мужчыны. Спачатку двое ў чорных скураных паліто, праз гадзіну яны прыходзілі другі раз. А прыблізна паўтары гадзіны назад гэтыя двое прыходзілі яшчэ з адным, апранутым у доўгае чорнае паліто.

— Стукаліся? — насцярожана спытала Таня.

— Так, кожны раз, як прыходзілі.

— Хто ж гэта мог быць? — задумалася Жэня.

Хітры Абрам падліў масла ў агонь, сказаўшы:

— Хто гэта тройка, я не ведаю, але заўважыў, калі яны выйшлі з брамкі, павярнулі направа, то праз хвіліну пачуўся шум матора легкавой машыны і яна паехала.

— Легкавая? — перапытала Ларыса Андрэеўна. — Тады гэта гестапа ці іншая іх сакрэтная служба. Паліцаі легкавых машын не маюць. Штосьці западозрылі, сволачы! Я думаю, дзяўчаткі, Абрама трэба тэрмінова адгэтуль прыбраць.

— Куды? Яны, напэўна, і да нас заявяцца, — выказала здагадку Таня.

— Я магу да сябе дамоў пайсці, — прапанаваў Абрам.

— Ды ты што! — усклікнула Жэня. — У тваім доме цэлыя могілкі, тры трупы фрыцаў. Табе, Абрамчык, трэба вяртацца да нашых.

— Калі? Цяпер?

— У тым і справа, што цябе змогуць забраць толькі праз два, а можа, тры дні. — Раптам Жэню асяніла: — А што, калі мы Абрама ў доме Цвятко-

ва схаваем? Як-ніяк дом паліцая. Лёня, калі з’язджаў, развесіў сваю форму насупраць вокнаў. Калі хтосьці паглядзіць у акно, то пераканаецца, што ў доме жыве паліцай.

— Правільна. Там за печкай у навалачцы ад падушкі мы сухары пакінулі. Памятаеш, мама?

— Вядома, я ж іх сама на чорны дзень сушыла, там ёсць запалкі, соль, у паўлітровым слоіку круп трохі.

— А чаго тут думаць, — падтрымаў гаворку Абрам, — давайце ключы ад дома, я зараз жа перабяруся туды. Пачакаю, калі на вуліцы нікога не будзе, і сігану.

Яны яшчэ з паўгадзіны раіліся і вырашылі, што сапраўды лепш за ўсё Абраму перабрацца ў дом Цвяткова.

Да вечара Абрам быў у доме Леаніда. Паколькі Таня і Жэня настойліва папярэдзілі яго, каб увечары і ўначы святло не запальваў, ён, нягледзячы на тое, што ў доме было не менш як тры газавыя лямпы і нават дзве свечкі ў кухні, вырашыў паслухацца іх. Але было вельмі холадна, і Абрам, узяўшы свечку і запалкі, знайшоўшы момант, калі яго ніхто не мог убачыць з вуліцы, прыхапіў звязку ключоў, якая вісела на цвіку, і пайшоў у хлеў. Хутка падабраўшы ключ да вісячага замка, ён прычыніў знутры дзверы і запаліў свечку. Дровы ляжалі ў штабелі злева ад увахода, але Абрам адразу ж накіраваўся ў левы кут.

«Сёння агледжу гэты кут, а заўтра хлеў цалкам», — вырашыў ён. У куце было звалена нямала рознага хламу і рыззя. За паўгадзіны Абрам справіўся. Падцягнуўшы лесвіцу, якая стаяла ля ўвахода, узлез на гарышча. Тут з агнём трэба быць асцярожным, сена і салома, сухія дошкі — небяспечны гаручы матэрыял. Абшукаўшы ўважліва левы кут, зазірнуўшы за кроквы, зразумеў, што тут мін няма. Ён і не засмуціўся. «Заўтра вазьму газавую лямпу і буду як след шукаць»,— вырашыў ён, асцярожна спусціўся, патушыў свечку і, набраўшы пабольш дроў, саломы для падпалкі, зачыніў на замок дзверы, пайшоў у дом. Першае, што ён зрабіў, — высветліў, ці магло святло ад печы быць бачна з вуліцы. Уздыхнуў з палёгкай — усё ў парадку. Абрам запаліў у печы, уладкаваўся насупраць топкі і аддаўся летуценням і ўспамінам. Яго яшчэ кароткае жыццё падзялялася як бы на дзве часткі: даваенную, шчаслівую, з гульнямі ў двары, калі збіралася іх, хлапчукоў, не менш як дзясятак, і жыццё ў гета падчас вайны. Яму нават цяпер стала страшна ад гэтых успамінаў. Але ў той жа час у душы зноў паўсталі крыўда і злосць. Хто даў права прышэльцам абыходзіцца з людзьмі, як са скацінай, забіваць, цкаваць сабакамі, спальваць у печах?! Абрам разумеў, што камендант гета Готэнбах — маленькая шрубка ў велізарнай сістэме забойстваў. Але Абрам бачыў яго ў гета, чуў яго дзікія каманды, пры выкананні якіх падначаленыя гэтага бандыта здзяйснялі пагромы, забівалі старых і дзяцей, заганялі ў «душагубкі».

«Я павінен даказаць сваю любоў да мамы і таты, сваім сёстрам Соні і Ларысе, да сваіх сяброў і іх бацькоў і адпомсціць хоць бы гэтаму зверу Готэнбаху». Яму ўжо было цёпла, але ад узрушанасці ён адчуваў дрыжыкі. Ён быў гатовы проста цяпер выбегчы з дома і знішчыць гэтага забойцу. У яго ёсць нож, ён схапіў бы палку і накінуўся на бандыта. Абрам гатовы быў аддаць сваё жыццё, каб адпомсціць крывапіўцу, але паступова ён супакоіўся і падумаў: «Я не павінен дзейнічаць усляпую, бегчы, крычаць, дзе Готэнбах? Мяне проста схопяць і заб’юць. Трэба дзейнічаць спакойна, прадумваць кожны крок, тады ў мяне ёсць шанец»... Убачыўшы, што ў печы прагарэла, хлопец зачыніў юшку і лёг спаць на тапчане, як і раілі яму Жэня і Таня. Тапчан быў за печкай, якая выпраменьвала прыемнае цяпло.

Спаў ён, пакуль не развіднела. Успомніў, што ў доме няма вады, значыць, трэба ісці да калонкі, туалет, натуральна, на вуліцы. Але гэта здавалася яму дробязнай праблемай.

«Выберу момант і схаджу па ваду», — вырашыў ён, а пакуль узяў пустое вядро і, збегаўшы за хлеў, набраў ля плота ў вядро снегу, якога заставалася ўжо зусім трохі.

Неўзабаве прыйшла Жэня. Яна прынесла паесці, схапіла пустое вядро, сама прынесла вады:

— Абрам, я табе на ўсякі выпадак прынесла ежы з запасам. Увечары можаш зварыць суп. Вось тут, — яна дастала з торбачкі некалькі скруткаў, — маргарын, костачка для супу, у гэтым слоіку крупы, а вось дзве бульбіны. Хлеба даём табе цэлую буханку, не забудзься пра сухары. А вось гаючая трава для чаю. Цукру, сам ведаеш, няма.

— Жэня, а дзе цяпер знаходзіцца генеральны камісарыят?

— А навошта табе? Ты што, думаеш...

— Нічога я не думаю. Я проста разважаю, калі будуць пагромы ціператрусы ў дамах, каб не бегчы ў бок гэтага камісарыята.

Жэня растлумачыла яму, дзе знаходзіцца рэйхскамісарыят, настрашыла хлопца аховай, якая хапае людзей нават на подступах да яго.

— Ты ведаеш, я калі ішла сюды, — успомніла Жэня, — сустрэла Сашу Панова, памятаеш, ён жыў побач з вашым домам, ён жа твой аднагодак. Мы разгаварыліся, а ён раптам цябе ўспомніў ды і ўсіх суседзяў, якіх ужо няма ў тых дамах.

— А чым ён займаецца?

— Ды швэндаецца з дзецьмі па вуліцах, па базары сноўдаюць, каб сперці што-небудзь з ежы.

Жэня зноў папрасіла хлопца:

— Але, Абрам, ты выкінь з галавы, калі ў ёй яшчэ засталася твая задумка. Дацягнуцца да Готэнбаха ні ў нас, ні тым больш у цябе ніякага шанцу няма. Успомні, з якой цяжкасцю ўдалося цябе выратаваць, а цяпер рызыкаваць пры стопрацэнтнай няўдачы ты проста не маеш права. Ты проста абавязаны жыць, каб прадоўжыць свой род.

Абрам маўчаў. Ён глядзеў у акно, і здавалася, ён не чуе Жэню.

Яна спытала:

— Ну, чаго ты маўчыш?

Раптам ён паглядзеў на яе, і Жэня ўразілася. Яго вочы былі поўныя слёз.

— Што ты, Абрамчык? Не трэба.

— Жэня, зараз паслухай мяне. Дзякуй табе за ўсё, што ты зрабіла для нас. — Голас яго гучаў спакойна і цвёрда. — Я ніколі не забуду таго, што рабілі немцы і іх памагатыя з іншых краін, у тым ліку з Беларусі. Я добра разумею, што Готэнбах — гэта невялікая постаць у параўнанні з Гітлерам і іншымі буйнымі начальнікамі Германіі. Але зразумей мяне, Жэня, я ўжо не маленькі. Успомні, як ты, дзяўчына, у маім узросце, адважна ішла на рызыку, ты магла загінуць, але дзеля сваіх знаёмых рызыкавала жыццём. А ў мяне асаблівае становішча. Гаворка ідзе не толькі пра маіх сяброў, суседзяў, але і пра маіх маму, тату, маіх сясцёр Ларысу, зусім маленькую Соню. — Абрам памаўчаў і голасам, які задрыжэў, ледзь стрымліваючыся, праз сілу вымаўляючы словы, сказаў: — Да нас у дом увайшлі чацвёра немцаў і трое латышскіх ці літоўскіх паліцаяў. Яны стукнулі маму, скруцілі мяне, кінулі тварам на падлогу, на мяне селі двое паліцэйскіх, а два немцы схапілі маю сястру Ларысу і пацягнулі на кухню, дзе паклалі яе сілай на лаўку і ты

сама ведаеш, што яны зрабілі. Ларыса памерла, не, яны яе забілі. А надвячоркам міма нашага дома прагульваўся са сваёй аховай сам Готэнбах. Мама ўзяла мёртвую Ларысу, вынесла яе на вуліцу і, трымаючы на руках, глядзела на Готэнбаха. Ён падышоў, мая мама расказала яму пра звяроў, а ён засмяяўся і сказаў: «Твая дачка ўжо шмат пажыла, каб задаволіць нямецкага салдата. Ганарыся». Ён загадаў сваім салдатам, тыя адабралі ў мамы мёртвую Ларысу, а маму і мяне, калі я кінуўся да мамы, стукнулі прыкладам. Я памятаю, як Готэнбах каля аднаго з дамоў страляў са свайго пісталета па людзях. Тыя падалі, калі хтосьці яшчэ жыў, ён дабіваў.

Жэня, я гэтага ніколі не забуду! Не забуду, як на людзей, якім звязалі рукі на плошчы гета, Готэнбах напусціў з дзясятак сабак. Сабакі рвалі людзей, грызлі іх за твары, за цела, ірвалі іх на часткі, пакуль людзі не паміралі. — Ён ізноў падняў на Жэню вочы: — Жэня, і ты будзеш пераконваць мяне, каб я збаяўся, з’ехаў?! Ты павінна мяне зразумець, я ведаю, ты не можаш мне дапамагчы, але, прашу цябе, не замінай. Калі мяне павязуць у лес ці вёску, я ўсё адно ўцяку і з’яўлюся ў Мінску!

Жэня заплакала. Яна прыцягнула да сябе галаву хлопца і сказала:

— Ты выбач мяне, Абрам. Мне проста хацелася, каб ты не рызыкаваў сваім жыццём. Бачу, што я проста абавязана быць з табой. Мы будзем разам шукаць падыходы да Готэнбаха. Толькі дай слова, што будзеш слухацца мяне. Ты ж не ведаеш ні горада, ні парадку ў ім. Сунешся сам — загінеш. Дамовіліся?

— Дзякуй, Жэня. Я буду слухаць цябе.

На наступны дзень Жэня пайшла ў разведку. Ёй удалося высветліць, што Готэнбах бывае часта ў генеральным камісарыяце, бо займаецца пытаннямі адпраўкі людзей у Германію. Месца яго пастаяннага знаходжання — будынак, дзе размяшчалася камандаванне СС.

Жэня пасля абеду зноў накіравалася працягваць разведку. Нарэшце ёй пашанцавала. Яна сустрэла знаёмага: мужчыну, які да вайны разам з Іванам Платонавічам працаваў на будоўлі. Цяпер Ілья Анатольевіч, так яго звалі, удзельнічаў у рамонтных працах у будынку СС. Ён растлумачыў, што іх брыгада рамантуе левае крыло дома.

Жэня спытала:

— А што вы ўзводзіце ў двары, хлеў?

Ілья Анатольевіч усміхнуўся:

— Прыбіральні, дачка, робім, прыбіральню для паноў афіцэраў асобна, для салдат асобна і для прыслугі тыпу нашага брата.

— А што, туалета ў будынку няма?

— На жаль, уся каналізацыйная сістэма ў гэтым раёне выйшла са строю. Пах стаяў у будынку яшчэ той! Начальства забараніла ўсім карыстацца туалетамі, і зараз будуць хадзіць у прыбіральню. Для самага высокага начальства, а іх пяцёра, робім апартаменты з дзіркамі асобна. Загадана зрабіць стульчакі з дзіркамі, каб яны маглі зручна ўладкоўваць свае зады, чорт бы іх узяў! А ты чаго тут?

— У мяне сяброўку схапілі, цяпер яна ў турме на Валадарскага. Кажуць, што могуць дапамагчы гэтыя эсэсаўцы, ці ўплывовыя паліцэйскія.

— Я не ведаю, уплывовы ці не адзін з паліцаяў, якога я ведаю.— Ілья Анатольевіч раптам ажывіўся. — Хоць, Жэня, ты яго сама павінна ведаць. Яго бацька працаваў у твайго таты. Прозвішча яго Ляскоўскі.

— А сына, правільней, паліцая, завуць Лёшка, Аляксей? — усклікнула Жэня. — Ой, я яго сапраўды ведаю.

Увечары Жэня была ўжо ля дома Ляскоўскіх. Гэты дзень для яе быў пасапраўднаму ўдачлівым. Яна сустрэла Аляксея.

— Прывітанне, Лёшка! Ты ўжо, напэўна, зазнаўся да такой ступені, што старых знаёмых не пазнаеш. Як твой тата, працуе? Ён жа будаўнік, а прафесія такая самая хадавая.

— А, Жэня, прывітанне. Даўно я цябе не бачыў. А як твой бацька, Іван Платонавіч, здаровы?

Тон у Аляксея быў добразычлівы. Жэня ўжо даўно заўважыла, што мясцовыя паліцэйскія разгублены і нават спалоханы, чуткі пра хуткі прыход Чырвонай Арміі рабілі іх чалавечнейшымі.

Яны разгаварыліся, Лёшка не хаваў сваёй трывогі. Здавалася, ён у кожным суразмоўцу шукаў разумення і абароны:

— Ты ведаеш, мой бацька сышоў разам з адной адыходзячай праз Мінск вайсковай часцю. Думаю, хацелася б думаць, што ён жывы, здаровы.

— Дзіўна, ці не праўда, — Жэня як заўсёды была вострая на язык, — бацька ваюе супраць сына.

— Ды я спалохаўся. Мяне ж хацелі адправіць у Германію.

Завязалася гаворка, яна доўжылася прыкладна паўтары гадзіны. Жэня зрабіла выснову: і Ілья Анатольевіч, і Аляксей Ляскоўскі, калі спатрэбіцца, дапамогуць ёй і Абраму. Трэба было высветліць, дзе часцей за ўсё бывае Готэнбах, дзе ён жыве, з кім мае зносіны. Яшчэ яна высветліла, што і Ілья Анатольевіч, і Аляксей ведаюць у твар Готэнбаха.

Жэня нават не здагадвалася пра тое, што Абрам падчас яе адсутнасці працягваў ператрус у хляве і знайшоў міны. Ён прынёс іх у дом і ўважліва вывучыў. Адна была гадзіннікавая. Абрам разабраўся, як яна дзейнічае. Трэба было, як у будзільніку, завесці гадзіннікавыя спружыны і паставіць стрэлкі на патрэбны час. Зразумеў ён і прынцып, як устанавіць час выбуху, каб міна не падарвалася ў руках. Другая міна па памеры была большай, чым першая, і ўзрывалася пры дапамозе бікфордава шнура. Даўжыня шнура крыху большая як тры метры. Абрам вырашыў выкарыстаць сантыметраў пяць шнура, каб разлічыць хуткасць гарэння. Але для такога падліку патрэбен быў гадзіннік.

«Папрашу Жэню, хай паспрабуе дастаць гадзіннік», — вырашыў ён. Акуратна загарнуў міны ў дзяружку, у якую яны і былі ўпакаваны, перавязаў шнурком і схаваў у сенцах, пад вялікай дзіравай каструляй. Толькі ён паспеў справіцца з мінамі, як прыйшла Жэня. Яна расказала пра вынікі свайго паходу.

Абрам не хаваў радасці, усміхаючыся, ён сказаў:

— Галоўнае, што мы яго вылічылі, зараз трэба падумаць, як яго дастаць.

Жэня паспрабавала астудзіць яго запал:

— Пачакай, пачакай, не гарачыся! Не заявімся ж мы з табой у эсэсаўскі гадзюшнік і не скажам: «Падайце нам гэтага бандыта, мы будзем караць яго смерцю».

Абрам стаў сур'ёзным:

— Жэня, а ты забылася пра міны, якія Леанід схаваў у хляве?

— Ах так, Таня ж мне казала. А ты адкуль пра міны ведаеш? Хто табе сказаў? Кажы неадкладна!

— А я выпадкова пачуў, як Таня табе пра гэта расказвала.

— Што, бессаромны, падслухоўваў?

— Не, я спаў і чуў. Але ты не хвалюйся. Я іх знайшоў.

— Што знайшоў?

— Ну, міны. І нават разабраўся, як з імі абыходзіцца. Калі я быў у брыгадзе, сяму-таму навучыўся ў мінёраў, якія рыхталіся да паходу на чыгунку.

Дык вось, адна міна — гадзіннікавая, а другая — з бікфордавым шнуром. Жэня, у цябе гадзіннік ёсць?

— Ну так, — Жэня паказала запясце.

— Разумееш, трэба высветліць, за колькі секунд згарае пяць ці дзесяць сантыметраў бікфордава шнура. Трэба ж ведаць, калі яго падпальваць.

— Абрам, ты скончыў чатыры класы.

— Не, пяць. Арыфметыку ўжо ведаю.

— Добра, — перапыніла яго дзяўчына, — заўтра выведу цябе ў свет.

— І куды?

— Насупраць эсэсаўскай зоны стаяць два, не, тры разбураныя бамбёжкай будынкі. Мы пройдземся ў развaліны і паназіраем. Паглядзім, што там і як. А цяпер адпачывай. Я пайду Таню супакою.

Раніцай наступнага дня яны былі ў адным з разбураных дамоў. Да вайны гэта быў даволі вялікі чатырохпавярховы дом, а цяпер яго руіны месцамі ўзвышаліся амаль да другога паверха. Яны забраліся на вышэйшую кропку гэтых нагрувашчванняў сцен, перакрыццяў і буйных абломкаў. Убачыць іх з боку было складана, бо яны апынуліся як бы ў каменным будане.

Жэня здаволена сказала:

— Ну што, Абрамчык, і цяпер будзеш бурчаць: навошта паўкажушак?! Навошта валёнкі?! Калі не ацаніў маёй парады цяпер, то праз пару гадзін зразумееш, што старэйшых трэба слухацца.

Сапраўды, яны былі апрануты, як быццам на Паўночны полюс сабраліся.

А недалёка, за агароджай, дзе размяшчаўся штаб СС, бурліла жыццё: да будынка пад’язджалі легкавыя, радзей грузавыя аўтамашыны, уваходзілі і выходзілі афіцэры. Бліжэй да руін, дзе схаваліся назіральнікі, знаходзіліся дашчаныя збудаванні. Іх было тры. Праз гадзіну-паўтары Жэня і Абрам зразумелі, каму служаць гэтыя будынкі. Той, які быў правей, крыху ўбаку ад двух іншых, з’яўляўся прыбіральнямі для вышэйшых чыноў. Туды зрэдку заходзілі важныя афіцэры. Яны нават у гэтых умовах мелі «сваё» ўстановы. Прыбіральнямі больш вялікімі карысталіся салдаты і цывільныя.

Жэня паказала пальцам крыху лявей:

— Бачыш, Ілья Анатольевіч. Яны зараз будуюць, як ён сказаў, нейкі склад.

— А што за людзі каля каналізацыйнага калодзежа?

— Гэта рабочыя спрабуюць паправіць каналізацыйныя трубы. Таму немцы і загадалі збудаваць часовыя туалеты. А ты, Абрамчык, выпадкова ў туалет не хочаш? — усміхнулася Жэня.

Ёй, як заўсёды, хацелася паставіць суразмоўцу ў няёмкае становішча.

— А ну цябе! — адмахнуўся Абрам і раптам сіпатым голасам прамовіў: — Глядзі, Готэнбах!

Жэня ўбачыла, як да «галоўнага» збудавання спяшаецца афіцэр.

— Ты ўпэўнены? Не памыляешся?

— Ён, я яго нават у цемры пазнаю. Ён і там, у гета, па снезе хадзіў, дробна перабіраючы нагамі, а левую руку заўсёды трымаў у кішэні, нават калі страляў з пісталета ў людзей, не вымаў яе з кішэні.

— Так, значыць, мы ўжо адно месца, дзе ён абавязкова з’яўляецца, выявілі, — задаволена сказала Жэня.

Пачакаўшы, пакуль Готэнбах пакіне «ўстанову», Абрам звярнуўся да Жэні:

— А Ілья Анатольевіч не можа мне дапамагчы прабрацца на тэрыторыю? Без староннай дапамогі туды не патрапіць.

— Не забывай, што са знешняга боку агароджы патрулююць паліцаі.

— А гэты, як яго...

— Ляскоўскі? — здагадалася Жэня. — Ён таксама.

— А хто гэтыя рабочыя каля каналізацыйнага калодзежа?

— Не ведаю. Але калодзеж сапраўды размешчаны блізка ад афіцэрскай прыбіральні.

— Жэня, нам трэба пагаварыць з Ільёй Анатольевічам.

— Правільна, магчыма, і з Ляскоўскім трэба пагаварыць. Я думаю, што і ён можа спатрэбіцца. Так, галубок, уставай, нам сёння тут рабіць няма чаго. Трэба пагаварыць з Ільёй Анатольевічам і Лёшкам...

Брыгада цесляроў прыбыла на асобы аб’ект роўна ў восем раніцы. Яшчэ не зусім развіднела, але да поўнага світанку рабочыя павінны пераапрануцца і адразу ж прыступіць да работы. За імі наглядаў немалады фельдфебель, які, як заўважылі рабочыя, быў не зусім зверам, ён трохі гаварыў па-руску і не пускаў у ход цвёрды стэк, які ўвесь час насіў у руцэ. Ён патрабаваў аднаго — каб цесляры працавалі да пяці вечара, не ленаваліся і, вядома ж, выконвалі план.

Кіраўніцтва СС вырашыла не ставіць свой транспарт і не захоўваць свае запасы ўдалечыні ад свайго галоўнага ўпраўлення.

Таму было вырашана пабудаваць проста на тэрыторыі склады і гараж на некалькі дзясяткаў аўтамабіляў. Ілья Анатольевіч і яшчэ трыццаць восем будаўнікоў былі прыцягнуты да гэтай работы, будматэрыялы дастаўлялі з лесапільні іншыя рабочыя.

Фельдфебель звярнуў увагу на хлапчука гадоў пятнаццаці.

— Гэта што? — ткнуў ён стэкам у Абрама.

— Сын мой, пан фельдфебель, холадна ж, будзе вогнішча нам паліць ды і дапамагаць заадно. Дарэчы, ён на спецыяліста каналізацыйшчыка вучыцца. Можа, і ў гэтай справе спатрэбіцца.

Неўзабаве фельдфебель страціў цікавасць да хлапчука, гэтаму спрыяў і холад. Свяціла сонца, раставаў снег, але вецер даймаў да касцей.

Куртаты шынель, пад які фельдфебель напяў ваўняную жаночую кофту, споднікі пад суконнымі штанамі-галіфэ, тоўстыя шкарпэткі ў ботах не абаранялі яго ад халоднага ветру, таму ён то хаваўся за драўлянай сцяной, то ўцякаў на пяць-дзесяць мінут у адзін з двухпавярховых цагляных будынкаў, каб сагрэцца.

Абрам выбраў момант, каб пераканацца, што па каналізацыйных трубах да штаба не падабрацца.

Трубы дыяметрам трыццаць сантыметраў не дазвалялі гэта зрабіць. І тады Абрам сканцэнтраваў усю ўвагу на туалетах, дакладней на адным з іх — галоўным. Зазірнуў унутр — тры вочкі, над імі для выгоды штосьці накшталт табурэтак з дзіркай пасярэдзіне. Уздоўж бакавой сценкі — драўляны жолаб для малой патрэбы.

— Утульна і добра, — сказаў Абрам і пайшоў дадому.

У яго выспеў план. Увечары яны з Жэняй абмеркавалі яго, а затым па чарзе сустрэліся з Ільёй Анатольевічам і Аляксеем.

І вось надышоў дзень, якога з такім нецярпеннем чакаў Абрам. Пры пад’ездзе да тэрыторыі эсэсаўскага будынка метрах у двухстах разбураны дом. Напярэдадні Абрам разам з Жэняй аднеслі туды і схавалі ў руінах захутаную ў рыззё гадзіннікавую міну. Назаўтра Абрам шчыльна прымацаваў на грудзі другую, меншую памерам, абматаў вакол цела бікфордаў шнур і разам з Ільёй Анатольевічам прыбыў на работу.

Ілья Анатольевіч працягнуў фельдфебелю невялікі кавалак сала, загорнутага ў чыстую анучку:

— Гер фельдфебель, прэзент.

— О, шпек, гут, гут, данке шон, — расплыўся ва ўсмешцы немец і па-сяброўску паляскаў па плячы Ілью Анатольевіча, а затым дастаў з кішэні пачак цыгарэт, узяў дзве і працягнуў іх Ільі Анатольевічу.

Неўзабаве немец пайшоў адаграваецца, а Абрам схапіў загадзя падабраны кінуты кімсьці кавалак электрапровада і кінуўся да туалета. Там ён прасунуў у шчыліны падлогі провад, абодва канца схаваў пад падлогу і хутка выйшаў. Літаральна праз паўхвіліны да туалета падышоў тоўсты палкоўнік. Зрабіўшы сваю справу, ён сышоў. Абрам кінуўся да тыльнага боку туалета. Ён быў з боку драцяной агароджы. Адкрыў доўгі люк выграбной ямы і прасунуў да месца, дзе павінна знаходзіцца адно з вочак, даволі вялікую палку з цвіком на канцы. Прыціснуў яе, каб не звалілася ўніз, вечкам і пераканаўся, што пакуль ніхто з паноў афіцэраў не хоча наведаць гэтую «ўстанову». Хутка дастаў міну, яна была ў авосьцы, прымацаваў адзін канец бікфордава шнура да палкі, а другі канец да міны і замацаваў авоську з «прэзентам» з дапамогай электрапровада пад падлогай. Праверыў — не відаць. Каб убачыць міну, трэба было нагнуцца і зазірнуць у вочка. Абрам быў упэўнены, што ніводзін афіцэр не дадумаецца зазірнуць у дзірку. Ён выйшаў, прапусціў трох афіцэраў, якія наведалі туалет, і кінуўся зноў да выграбной ямы. З дапамогай палкі выцягнуў бікфордаў шнур і замацаваў яго ў вечка. Затым ён ізноў далучыўся да рабочых.

Прыйшоў фельдфебель, убачыўшы, што цесляры працуюць старанна, пагрэў рукі, ногі ля вогнішча і, сказаўшы Абраму «моладьец», пайшоў ізноў адаграваецца ў будынак.

А тым часам Аляксей Ляскоўскі падышоў да старэйшага нарада па прозвішчы Ліпкоўскі:

— Ну што, колькі нам яшчэ засталося?

— Амаль дзве гадзіны, — адказаў Ліпкоўскі і строга спытаў: — А ты чаго свой пост пакінуў? Дуй назад.

— Табе добра, сонейка прыгравае, а ў мяне цень, холадна.

Яшчэ ўчора Аляксей расказаў Жэні, што Ліпкоўскі — страшны мярзотнік. Ён з задавальненнем удзельнічаў у пагромах, арыштах і шматлікіх расстрэлах мірнага насельніцтва. Так атрымалася, што менавіта Ліпкоўскі мог бачыць Абрама, калі той валаводзіўся ля выграбной ямы. Праўда, не было стопрацэнтнай упэўненасці, што гэты кат бачыў Абрама, ды калі і бачыў, то, напэўна, палічыў, што работнік займаецца чысткай ямы. Але, паводле плана, менавіта ў гэтым месцы трэба будзе перакусіць калючку, каб даць магчымасць Абраму бегчы да руін. І Аляксей напружана ўзіраўся ў накірунку туалетаў.

Абрам падкінуў некалькі кавалкаў ад дошак у вогнішча і нарэшце ўбачыў таго, каго чакаў! Готэнбах, як заўсёды тупаючы нагамі, спяшаўся да туалета. Абрам азірнуўся — дзе фельдфебель? Не відаць, і ён бокам рушыў да тыльнага боку прыбіральні. Тым часам да старэйшага нарада ззаду наблізіўся Аляксей і з усіх сіл абрынуў на яго галаву прыклад. Было добра чуваць, як досыць гучна хруснулі косткі чэрапа. Паліцай асунуўся на зямлю. Аляксей дастаў з кішэні шыняля кусачкі і хутка перакусіў усе чатыры драцяныя калючкі. Рассунуў іх канцы, падышоў да трупа і, узяўшы вінтоўку Ляскоўскага, накіраваўся да руін.

Там яго чакала Жэня. Яны схавалі вінтоўку ахоўніка ў развалінах, і Жэня адправіла Аляксея па загадзя абумоўленым адрасе, сама ж засталася на месцы. Яна добра бачыла, як у прыбіральню ўвайшоў Готэнбах, а да зваротнага боку будынка хутка набліжаўся Абрам.

Імкнучыся не шумець, хлопец адкрыў вечка выграбной ямы, зняў з палкі бікфордаў шнур, дастаў з карабка адразу тры запалкі і шоргнуў імі па карабку. Загарэлася адна запалка, і ад яе агеньчыка ўспыхнулі яшчэ дзве. Паднёс іх да канца бікфордава шнура, ён адразу ж выпусціў невялікі белы дымок, было добра відаць, як агонь хутка папоўз па шнуры. Абрам кінуўся да драцяной агароджы. Ён бачыў зроблены ў плоце праём і падбягаў ужо да месца, дзе схавалася Жэня, як ззаду грукнуў выбух. Ён быў такой сілы, што выбуховая хваля нават Абрама ледзь не збіла з ног.

Вось і Жэня. Яна радасна сказала:

— Усё яму! Накакаўся, гадзіна.

— Не. У яго, напэўна, запор ад іх каўбаскі. Адыходзім!

Калі яны адышлі ад руін і азірнуліся назад, то ўбачылі велізарны слуп дыму....

Загучала сірэна трывогі. Пачалася паніка.

— Абрам, можа, не будзем займацца другой мінай? — спытала Жэня.

— Нельга, каб немцы западозрылі рабочых.

Неўзабаве яны былі на дарозе, якая вядзе да галоўнага будынка эсэсаўцаў.

Там ля варот ужо стаяла некалькі грузавікоў. Абрам дастаў са схованкі міну. Яна была загорнутая ў анучы і змяшчалася ў авоську. Хутка завёў механізм і, падумаўшы, паставіў стрэлкі на трыццаць мінут. Яны выйшлі да дарогі, там і рассталіся.

Жэня засталася на месцы, а Абрам пайшоў у бок цэнтра горада. Зараз яны знаходзіліся ў метрах трыццаці адзін ад аднаго, як і дамаўляліся. Абрам выбіраў машыну, у кузаве якой не было людзей. Пераканаўшыся ў гэтым, ён павінен быў падняць левую руку. Гэта быў сігнал для Жэні. Прайшло два грузавікі, перш чым Абрам падаў сігнал. Жэня выйшла на праезджую частку дарогі і замахала рукой. Машына спынілася, Абрам кінуўся да яе і хутка паклаў у кузаў «прэзент».

Шафёр-немец спытаў у Жэні:

— Вас валензі? (Што вам заўгодна?)

Жэня спытала:

— Сігарэтэн найн?

— Вэк! — адказаў шафёр і даў газ.

Машына паехала далей. Жэня і Абрам адышлі да адной з невялікіх вулачак і далучыліся да натоўпу людзей, якія выскачылі з дамоў на гук выбуху.

Чуліся галасы: «Што гэта?», «Напэўна, самі сябе!», «А можа, падпольшчыкі і ў гэты гадзюшнік пранiклі?»

Жэня зірнула на гадзіннік. Засталося чатырнаццаць мінут. Яны бачылі, што ўсе машыны праехалі ў глыб тэрыторыі, відавочна, вызваляючы месца медыцынскім і пажарным машынам, якія спяшаліся туды. Гарэлі драўляныя будынкі: туалеты, што, будуюцца, гаражы і склады. Пацярпеў і будынак, дзе размяшчаліся вышэйшыя чыны эсэсаўцаў.

Дзе знаходзіцца грузавік з «прэзентам», са свайго месца Жэня і Абрам не бачылі.

Але роўна ў прызначаны час ён выявіў сябе. Побач з асноўным будынкам, толькі з іншага боку, грукнуў другі, больш магутны выбух. Людзі пачалі разыходзіцца па дамах. Яны добра разумелі, што вось-вось могуць з’явіцца атрады карнікаў. І лепш за ўсё ў такі момант быць дома.

Жэня і Абрам паспяшаліся хутчэй сысці, каб згубіцца сярод шматлікіх вуліц.

Праз гадзіну яны былі дома. На душы было трывожна. Як там Ілья Анатольевіч? Бліжэй к вечару Жэня, пакінуўшы Абрама аднаго, накіравалася да яго дома.

— Як вы? — трывожна спытала яна.

— Быццам пранесла. Прыбіральню разам з вашым афіцэрам і дзярмом разнесла на сотні метраў, нават на нас сёе-тое звалілася. Нас сабраў фельдфебель, загадаў нікуды не сыходзіць, а сам накіраваўся ў будынак, напэўна, атрымліваць заданне. Толькі ён наблізіўся да галоўнага корпуса, а там як ірване! Кажуць, падарваўся грузавік з поўным кузавам выбухоўкі, дамы разбураны, дзясяткі немцаў — разарвала, нашага фельдфебеля таксама. Ну а мы — ногі ў рукі і далей ад граху.

— Ага, значыць, пра Абрама фельдфебель нікому не скажа.

— Думаю, і пра нас таксама. Спісы са звесткамі на кожнага з нашай групы ён насіў з сабой...

Жэня, не стрымаўшыся, пацалавала Ілью Анатольевіча і накіравалася назад.

Увайшла ў дом і аслупянела: Абрам сядзеў за сталом і плакаў.

— Абрамчык, што здарылася?

— Усё нармальна, Жэнечка, я плачу ад шчасця: мама, тата, мае сёстры! Я адпомсціў!

Жэня пагладзіла яго па галаве:

— Так, ты адпомсціў! Ты — герой, Абрам! Сапраўдны герой. Мы ўсе ганарымся табой! А цяпер супакойся, паеш і кладзіся спаць. Я лічу, табе трэба тэрмінова ў лес.

— Чаму? Немчура ж не ведае мяне. Сама ж сказала, што фельдфебель накрыўся, хоць толькі ён мог сказаць, што Ілья Анатольевіч прывёў мяне на тэрыторыю.

— Так, атрымалася ўдала. Але ты нават не ўяўляеш, што заўтра пачнецца ў горадзе: суцэльныя ператрусы, аблавы, арышты. Таму цябе трэба тэрмінова эвакуіраваць.

— А ты?

— У мяне надзейныя дакументы, а ў цябе, дарагі, — ні фіга. Давай адпачывай.

Жэня пайшла, Абрам так і не дакрануўся да ежы, ды і не мог заснуць. Ізноў успомніў гета, сваю сям’ю, суседзяў, увесь час у галаве круціліся пытанні: «За што?», «Чаму?» За што немцы знішчаюць цэлыя народы? Чаму такі культурны народ, так казалі настаўнікі, як немцы, аказаўся гэткім жорсткім? Што адбываецца ў свеце? Хлопец не змог знайсці адказы на гэта і, урэшце, заснуў.

Жэня не памылілася. З раніцы горад гуў: гестапаўцы, эсэсаўцы і паліцаі абшнырвалі ўсе вуліцы, імкнучыся не прапусціць ніводнага дома, хлява, нават сабачыя будкі пераварочвалі дагары. Людзей хапалі сотнямі, зганялі на нейкія зборныя пункты, апытвалі кожнага, многіх арыштавалі. У гэтай частцы горада самай вялікай плошчай была Камароўская, ці, як яе звалі ў народзе, камароўскія вілы ці скрыжаванні. Гэта таму, што ад пляца на ўсход ішлі дзве вуліцы, а з іншага боку — дзве дарогі на захад. Апоўдні людзей, якія пражываюць на найблізкіх вуліцах ад Камароўкі да Старажоўкі, сталі зганяць на гэтую плошчу. Гналі прыкладамі, з пагрозамі, мацюкамі. Усе, хто аказаўся на плошчы, адразу ж з жахам глядзелі на шэраг збудаваных шыбеніц. З боку цэнтра пад узмоцненым канвоем прыгналі натоўп людзей. Галоўным чынам гэта былі жанчыны і дзеці, рукі ў кожнага за спінай былі звязаны вяроўкамі. Іх падагна-

лі да шыбеніц. Нямецкі афіцэр выйшаў на цэнтр плошчы, агледзеў людзей і пальцам паклікаў другога афіцэра, у якога ў руках быў вялікі бляшаны рупар, гэта быў перакладчык.

Афіцэр з дапамогай перакладчыка звярнуўся да натоўпу:

— Жыхары Мінска! Учора бандыты здзейснілі напад на нямецкіх салдат. Вы ўсё чыталі загад германскага камандавання пра тое, што за забойства нямецкага салдата будзеце адказваць сваёй галавой. Перад вамі роўна дваццаць жыхароў горада Мінска. Яны цяпер будуць павешаны. Іх могуць выратаваць толькі тыя, хто скажа, хто здзейсніў учарашняе злачынства, падчас якога, акрамя германскіх салдат, загінула шмат дзяцей, жанчын і старых.

«Вось гады! — абурана падумаў Абрам. — Там жа не было ніводнай жанчыны, ніводнага дзіцяці, ды і старых не было».

Паўгадзіны назад у дом, дзе знаходзіўся Абрам, уварваліся салдаты, яны літаральна выламалі дзверы, схапілі яго і павалаклі на вуліцу. Хлопец толькі паспеў схапіць старэнькую ватоўку, якая вісела ля дзвярэй. Шапку ўзяць не далі. На вуліцы было шмат людзей, іх нямецкія салдаты, падштурхоўваючы прыкладамі, гналі да плошчы.

Абрам спрабаваў высветліць, ці няма ў натоўпе Жэні, Тані і яе мамы. Ён бачыў дзясяткі людзей, а ўбачыць сярод іх сваіх не ўдалося. Апынуўшыся на плошчы, Абрам адразу ж зразумеў, навошта немцы сагналі сюды жыхароў. Злавесна стаялі шыбеніцы з вяроўкамі і петлямі на іх. Ціснуліся адзін да аднаго асуджаныя. Абрам аўтаматычна палічыў: дваццаць чалавек, сярод іх пяцёра дзяцей.

А тым часам нямецкі афіцэр ізноў пракрычаў:

— Паглядзіце на іх, — ён рукой паказаў на асуджаных, — кожны з вас можа выратаваць іх. Ён павінен падысці сюды і назваць тых, хто ўчора падняў руку на вялікага германскага салдата. Калі знойдзецца сярод вас такі сумленны чалавек, то ён выратуе гэтых дваццаць чалавек. Глядзіце, як на вас глядзяць дзеці, яны моляць вас.

Афіцэр штосьці сказаў, і салдаты сталі падштурхоўваць людзей да шыбеніц. Кожнаму на шыю наклалі петлі. Адной жанчыне стала дрэнна, і яна, знепрытомнеўшы, звалілася на брук. Салдаты падцягнулі яе за рукі да збітай лавы. Пасадзілі яе, абапёршы спінай на лаву, і, падтачыўшы вяроўку, накінулі на шыю пятлю. Зараз кожны з асуджаных знаходзіўся ля «сваёй» шыбеніцы. Заставалася паставіць іх на лаўкі, падцягнуць вяроўкі і выбіць лаўкі з-пад ног.

Немец папярэдзіў:

— У іх адна хвіліна да смерці, і ў вас адна хвіліна для выратавання іх жыццяў. — Ён паглядзеў на гадзіннік. — Засталося сорак секунд. — Памаўчаўшы трохі, апавясціў: — Засталося трыццаць секунд. — Неўзабаве зноў крыкнуў: — Засталіся лічаныя секунды, няўжо сярод вас няма сумленных людзей, якія пашкадуюць гэтых няшчасных? Чуеце, як плачуць дзеці?!

Афіцэр ізноў паглядзеў на гадзінік і аддаў каманду салдатам. Тыя па двое падышлі да кожнай ахвяры, зацягнулі вузлы, прымусілі асуджаных людзей устаць на лаўкі. Дзве дзяўчынкі яшчэ гучней заплакалі, адна з іх хацела саскочыць з лавы. Яе падхапілі два салдаты і, пакінуўшы на лаве, трымалі рукамі.

Афіцэр ізноў звярнуўся да людзей:

— Праз дзесяць секунд пакаранне смерцю адбудзецца. Яны будуць павешаны. Апошні раз пытаю: хто хоча іх выратаваць?!

Абрам успомніў гета: немцы гвалтуюць дзяўчынак, забіваюць людзей. І ён раптам, адсунуўшы наперадзе стаяўшых людзей, ступіў наперад і гучна крыкнуў:

— Хайль! — І, накіроўваючыся да афіцэра, падняў руку. — Я хачу пагаварыць.

Замітусіліся ў разгубленасці афіцэры, жандары накіравалі на хлопца аўтаматы. Старшы афіцэр гучна загадаў лаўкі з-пад ног няшчасных не выбіваць. Расшпіліўшы кабуру пісталета, напружана чакаў, калі хлопец падыдзе. Ён штосьці нягучна сказаў, і насустрач Абраму кінуліся два салдаты. Яны спынілі яго, старанна абшукалі і ткнулі ў спіну аўтаматам.

Абрам падышоў да афіцэраў і звярнуўся да перакладчыка:

— Спытайце ў старшага, калі я назаву, хто ўчора падарваў дзве міны ў эсэсаўскім камісарыяце, ён адпусціць гэтых людзей? — Абрам кіўнуў у бок шыбеніц.

Перакладчык пераклаў пытанне старшаму. Той паспешна заківаў галавой:

— Кажы.

— Я скажу ўсё, але спачатку адпусціце невінаватых!

Старэйшы выслухаў перакладчыка, недаверліва ўхмыльнуўся:

— Куды іх адпусціць?

— Да людзей. Вунь яны вакол плошчы стаяць. Хай ідуць да іх, і мы пачнём размову.

— А дзе гарантыя, што ты не хлусіш?

— А ў вас вунь колькі заложнікаў, — абвёў рукой вакол хлопец. — Я не хлушу. Я ведаю, хто падклаў учора міну ў прыбіральню, дзе разнесла ў кавалкі Готэнбаха і разам з дзярмом раскідала. Я ведаю, што міна, закладзеная ў грузавік, разнесла і будынак эсэсаўцаў. Дарэчы, там не было жанчын і дзяцей, адпускайце няшчасных! — Бачачы, што афіцэр працягвае вагацца, сказаў. — Вас жа, вядома, цікавіць, што здарылася з вашым палкоўнікам і трыма салдатамі? Гэта было на мінулым тыдні. Так ці не так?

Афіцэр разгублена прамармытаў:

— Я, я. Быў такі выпадак. Дык ты гаворыш, што і пра гэта раскажаш.

— Адпускай людзей!

Афіцэр разумеў, што, адпусціўшы няшчасных, ён фактычна нічога не губляе. Вакол гэтулькі народу, хапай любога і стаў да шыбеніцы. Ён наблізіўся да Абрама:

— Ты яўрэй?

— Так.

— Добра, я адпушчу заложнікаў, але калі ты блефуеш, цябе першага павешу на адной з гэтых шыбеніц.

— Так.

Афіцэр абярнуўся і загадаў:

— Заложнікаў развязаць і адпусціць.

Ён тут жа звярнуўся да Абрама:

— Кажы!

— Пачакай, хай заложнікі разыдуцца.— І паглядзеў, як яны паспешна разбягаліся.

Раптам жанчына, якая літаральна цягнула за сабой дзяўчынку гадоў пяці, прыпынілася недалёка ад Абрама і паказала на яго пальцам:

— Анечка, глядзі, гэты хлопчык выратаваў нас з табой. Запомні яго. — Нечакана яна спытала: — Як цябе клічуць, родны?

— Абрам Рабіновіч, я мінчук. Сыходзьце хутчэй!

Ён поглядам выпраўляў жанчыну з дачкой, пакуль іх не праглынуў натоўп. Павярнуўся да афіцэра:

— Усё гэта зрабіў я! Я адпомсціў вам, асабліва каменданту гета Готэнбаху за смерць сваіх родных і забойства тысяч невінаватых. Зараз я гатовы да гутаркі.

Афіцэр аддаў загад салдатам, і яны, звязаўшы за спінай Абрама рукі, пацягнулі яго да легкавога аўтамабіля. Афіцэры рухаліся за імі. Яны не зусім верылі такому поспеху і не маглі пераадолець разгубленасць і нават страх, трымаючыся на адлегласці ад Абрама.

Жэня і Таня знаходзіліся ў натоўпе з іншага боку плошчы. Яны ўсё бачылі і чулі. Вакол людзі, здзіўленыя тым, што здарылася, хутка разыходзіліся. Такое яны бачылі ўпершыню. У большасці на вачах былі слёзы.

Дзяўчаты, як у трызненні, цягнуліся дахаты. Іх сустрэла Ларыса Андрэеўна. Ёй удалося схавацца ў хляве, дзе яна брала дровы, калі салдаты зганялі людзей у калону і гналі на плошчу.

Ад людзей, якія праходзілі міма, яна ўжо ведала, што здарылася на Камароўскай плошчы. Абдымаючы дачку і яе сяброўку, толькі спытала:

— Гэта быў Абрам?..

Раніцой да хаты Тані пад’ехала грузавая машына. За рулём сядзеў немец, у кузаве — два нямецкія аўтаматчыкі і чацвёра паліцаяў.

Убачыўшы, што адзін з немцаў уваходзіць у двор, Ларыса Андрэеўна пахаладзела:

— Дачушкі, за намі!!!

Жэня першай апынулася ля акна, зірнула і заўсміхалася:

— Гэта нашы, Ларыса Андрэеўна.

Жэня адразу ж пазнала Мароза, звярнулася да сяброўкі:

— Танечка, адкрывай, гэта Сцяпан Пятровіч з нашымі.

Сцяпан Пятровіч, прывітаўшыся, заклапочана сказаў:

— Прынята рашэнне часова перавезці вас у іншае месца. Мы падабралі дом у сельгаспасёлку, там пакуль пажывяце. Як кажуць, ад граху далей.

Жэня ўпэўнена прамовіла:

— Сцяпан Пятровіч, Абрам пра нас ім нічога не скажа!

— Мы таксама на гэта спадзяёмся, але рызыкаваць не маем права. Бярыце самае каштоўнае для вас, хутка загружаемся і з’язджаем. — Ён павярнуўся да гаспадыні: — Ларыса Андрэеўна, камандуйце, што выносіць. Мы дапаможам, толькі трэба вароты адкрыць, каб машына задам заехала. Давайце, дарагія, хутка! Крый божа, гестапа заявіцца.

У доме пачалася мітусня. Ларыса Андрэеўна і дзяўчаты хапалі, што можа спатрэбіцца, усё гэта завязвалася ў вузлы з абрусаў, прасцін, коўдраў, а «немцы» і «паліцаі» хутка загружалі ў крыты кузаў грузавіка. Нягледзячы на паніку, сабраліся даволі хутка.

Сцяпан Пятровіч адазваў убок Жэню.

— Ты жмі на канспіратыўную кватэру на Камароўскай. Гаспадыня цябе ведае?

— Так, так, мы добра знаёмыя, мы там Леаніда Цвяткова праводзілі.

— На сувязь з табой будуць выходзіць сувязныя, ты іх таксама ведаеш. Будзем разбірацца, што да чаго. Цяпер галоўнае — разведка. Упаролі вы, дзеці!

— Іншага варыянту не было. Абрам нізавошта не згаджаўся з’язджаць.

— Ведаю, ведаю, Жэня. Цяпер позна ўжо рукамі махаць. Слоў няма, хлопец — герой. Увесь Мінск гудзе, людзі, як легенду, расказваюць пра яго ўчынак. Але страшна падумаць, што з ім цяпер робяць у гестапа. Ці хопіць у хлопца сіл усё гэта вынесці.

— А мы ніяк не можам яму дапамагчы?

— Не, Жэня, на жаль.

Неўзабаве грузавік, распырскваючы лужыны, панёсся ў бок сельгаспасёлка, а Жэня накіравалася па адрасе, які ёй назваў Сяргей Пятровіч. Па дарозе

яе тройчы спынялі патрулі, правяралі дакументы. Жэня з нейкай абыякавасцю ставілася да праверак, машынальна адказвала на пытанні. Яна хвалявалася за Абрама: «Як ён там? Ці жывы? Напэўна, яго катуюць па-зверску?»

Але пакуль яна памылялася. Адразу ж як толькі Абрама даставілі ў гестапа на плошчы Свабоды, яго прывялі да начальніка гестапа.

У вялікім, цёплым, багата абстаўленым кабінеце, акрамя начальніка гестапа, знаходзіліся два ахоўнікі, перакладчык — малады халёны обер-лейтэнант — і два афіцэры: адзін — афіцэр СС, другі — з сакрэтнай службы. Начальнік гестапа, сярэдніх гадоў палкоўнік, загадаў развязаць Абраму рукі і прапанаваў:

— Садзіся, герой! Ты ведаеш, а я цябе разумею. Ты не мог прабачыць Готэнбаху яго жорсткасць. Але цяпер не да яго, тым больш ты яго пакараў. — Паглядзеўшы на ліст паперы, што ляжаў на стале, спытаў: — Ты сапраўды Абрам? І тваё прозвішча Рабіновіч? Дзе ты пражываеш?

— Перад вашым нападам на нас я жыў па вуліцы Старажоўскай.

— Ты сказаў, што ў тваім доме знаходзяцца трое забітых нямецкіх вайскоўцаў. Гэта так?

— Так, вы ж лёгка можаце праверыць.

— Сапраўды, Абрам. Самае правільнае гэта — праверыць.

Палкоўнік па ўнутраным перагаворным прыстасаванні выклікаў двух афіцэраў, загадаў узяць ахову і праверыць дом Рабіновічаў. Ён працягнуў аднаму з афіцэраў лісток:

— Вось адрас. Калі там сапраўды знаходзяцца забітыя, выклікайце крыміналістаў, а мне далажыце неадкладна!

Афіцэры, казырнуўшы, выйшлі.

Палкоўнік, падкрэслена добразычліва, прапанаваў:

— Абрам, можа, цябе пакарміць?

— Не хачу.

— Ну, раскажы, як гэты ты ўчора так разумна здзейсніў дыверсію.

— Вядома, раскажу. Я падабраўся ззаду да паліцая, які ахоўваў ваш будынак ля драцянога плота. Стукнуў яго тоўстай жалезнай трубой, затым зацягнуў за дрэвы, там жа невялікі лясок. Перакусіў абцугамі дрот.

Абрам расказаў, як ён замініраваў прыбіральню і, дачакаўшыся, калі туды зойдзе Готэнбах, падпаліў шнур.

— А дзе ты ўзяў трубу?

— Гэта кавалак трубы, там побач руіны дамоў, у іх і знайшоў.

— І што, ты адзін змог адцягнуць цяжкага паліцая так далёка?

— Ён мне не здаўся цяжкім.

— А куды дзеў вінтоўку?

— Схаваў у развалінах дома.

— Пакажаш?

— Так, магу нават намаляваць схему.

— На паперу, на аловак, намалюй.

Абрам пазначыў эсэсаўскую тэрыторыю, паказаў, дзе знаходзілася прыбіральня, дзе зрабіў праход у агароджы, затым паказаў шлях да руін і растлумачыў:

— Вось тут, ля самага пачатку развалін, вялікі кавалак сцяны. Вінтоўку я туды засунуў.

Палкоўнік націснуў кнопку, і ў кабінеце з'явіўся яшчэ адзін афіцэр.

— Вазьміце схему, ахову, едзьце туды і паспрабуйце знайсці вось тут, — ткнуў ён у крыжык, — вінтоўку паліцэйскага.

Загад ён аддаваў па-нямецку, і Абрам падумаў: «Калі ён не пытае, куды зацягнулі забітага паліцая, значыць, яго знайшлі». Ён асцерагаўся менавіта гэтага пытання. Але палкоўнік быў дасведчаным і ўніклівым следчым. Ён імкнуўся замацаваць сведчанне яўрэя доказамі, таму асцярожна вёў допыт. Ён стараўся схіліць да сябе хлопца, быў ветлівым, увесь час усміхаўся. Калі афіцэр пайшоў выконваць загад, палкоўнік спытаў:

— А як ты арганізаваў другі выбух?

— Я ўсё прадумаў. Недалёка ад уязных варот на тэрыторыі эсэсаўскага гарнізона ёсць разбураны бомбамі дом, там я схаваў міну з гадзіннікавым механізмам. Пасля выбуху прыбіральні я прыйшоў да развалін, дзе была схавана міна. Адтуль бачыў, якая паніка пачалася на тэрыторыі. Ля варот сабралася нямала аўтамашын, я дачакаўся, калі іх сталі прапускаць, кінуў на дарозе мяшок з розным барахлом. На мяшку была свастыка і надпіс на нямецкай мове. Як я і думаў, шафёр аднаго з грузавікоў, убачыўшы мяшок, вырашыў, што ён выпаў з кузава папярэдняй машыны, спыніўся і пайшоў глядзець. Я за гэты час паспеў паставіць на міне час выбуху і кінуў у кузаў, а сам спакойна пайшоў у зваротны бок. Шафёр нават не звярнуў на мяне ўвагі...

Тым часам у кабінет без даклада ўбег адзін з афіцэраў і паклаў перад палкоўнікам ліст спісанай паперы. Палкоўнік, прачытаўшы, расхваляваўся. Ён адклаў паперу, прыстукнуўшы па ёй рукой, і сказаў:

— Ну што ж, Абрам. Ты сказаў праўду пра забітых у доме. Давай з табой дамовімся, калі ты і далей будзеш такім праўдзівым, мы захаваем табе жыццё. Ніхто цябе не будзе катаваць. Павер, і нам патрэбны такія адважныя людзі. Мы знойдзем табе прымяненне, самае галоўнае, ты будзеш жыць. Яшчэ раз адкажы мне на такое пытанне: у доме выяўлены тры трупы. Нягледзячы на тое, што яны без форменнай адзежы, іх апазналі, сапраўды германскія салдаты. Ты ж не будзеш сцвярджаць, што адзін забіў траіх. З імі быў афіцэр. Дарэчы, што з ім адбылося?

Абрам ужо прадумаў свае сведчанні. Дзякуючы сваім старэйшым таварышам, ён ведаў, як праходзіла аперацыя.

— Гэта доўгая гісторыя. Пачалася яна з таго, што адзін паліцай з дапамогай свайго сябрука з літоўскага паліцэйскага батальёна, які ахоўваў гета, пашкадаваўшы, вывеў мяне адтуль. Я яму расказаў, дзе наша сям'я пражывала да вайны, да таго, як нас усіх, як скаціну, схапілі і змясцілі ў гета. Ён правёў мяне да майго дома, дзе я застаўся жыць. Ён яшчэ тады сказаў, што я магу яму спатрэбіцца. На мінулым тыдні ён прыйшоў да мяне ў дом яшчэ з трыма мужчынамі.

— А як ён табе прадставіўся?

Абрам зрабіў выгляд, што ўспамінае, і хутка адказаў:

— Па-мойму, яго клічуць Антон. Магу нават яго прозвішча назваць.

— Ну, ну, кажы.

— Антончык, яго вы ўжо не знойдзеце, ён у партызанскім атрадзе.

— Добра, расказвай далей.

— Дык вось, Антон і яго сябры прынеслі з сабой дзве міны. Адна магла спрацаваць з дапамогай бікфордава шнура, другая з гадзіннікавым механізмам. Антон расказаў, што адну міну яны хацелі падкласці начальніку паліцыі, не ведаю прозвішча, а другую — у кабінет нейкага палкоўніка, які сябраваў з начальнікам паліцыі. Тыя збіралі золата і іншыя каштоўнасці. Пасля Антончык перадумаў, як я зразумеў, яны зарэзалі начальніка паліцыі. Перадумалі ўзрываць і палкоўніка. Таму абедзве міны засталіся ў маім доме.

— Добра. І што яны зрабілі з палкоўнікам?

— Аднойчы Антон абмяркоўваў са сваімі сябрамі свой план. Улічваючы, што палкоўнік вельмі прагны да каштоўнасцей, Антончык аднёс яму вельмі прыгожую брошку. Я дакладна ведаю, што гэта брошка засталася ў палкоўніка, пра гэта гаварылі паміж сабой Антон і яго сябры, нават шкадавалі, што такая каштоўная брошка засталася ў вашага палкоўніка.

— Добра, добра, Абрам, расказвай далей.

— А што тут расказваць? Антончык паведаміў палкоўніку, што ў маім доме цэлы склад каштоўнасцей. Ён прапанаваў палкоўніку адабраць для сябе ўсё, што яму спадабаецца, а потым ужо забраць усё са складу. Палкоўнік прыехаў на аўтамашыне з вадзіцелем і ў суправаджэнні матацыкла, у якім былі два немцы. У дом ён увайшоў адзін. Яго схапілі, распранулі, звязалі і сунулі ў рот кляп. Затым паклікалі шафёра, яго таксама распранулі і забілі. Пасля гэтага запрасілі ў дом і дваіх матацыклістаў, з імі зрабілі тое ж, што і з шафёрам. Пераапрануліся ў нямецкую форму і з’ехалі. Праўда, па маёй просьбе Антончык высветліў, дзе знаходзіцца Готэнбах.

У гэты момант у кабінет увайшоў афіцэр і паставіў ля сцяны, злева ад дзвярэй, вінтоўку, сцісла далажыў, што вінтоўку знайшлі паводле схемы.

— Гут, — ухвальна сказаў палкоўнік і звярнуўся да Абрама: — Так, пакуль ты кажаш праўду. Хвалю. Ну і што далей было ў цябе дома?

— Ну што? Яны пераапрануліся ў нямецкую форму, загрузілі захутанага ў футра палкоўніка ў багажнік машыны, двое селі ў легкавушку, а двое ў матацыкл пад выглядам аховы і паехалі з горада.

— Хто надзеў форму палкоўніка, Антончык?

— Не, адзін з яго сябрукоў. Ён ведаў нямецкую мову. А за руль матацыкла сеў таксама той, хто ведаў нямецкую. Антончык сеў за кулямёт.

— А ты чаму не паехаў?

— А мне патрэбен быў забойца маёй сям’і Готэнбах. Я быў рады, што мне пакінулі міны.

— Як думаеш, куды яны паехалі? Табе яны не казалі?

— Яны размаўлялі паміж сабой пра тое, што трэба ехаць на захад, а выехаць з Мінска ў іншым месцы.

— Яны не казалі, ці будуць вяртацца?

— Не, хоць Антончык пра сябе штосьці такое казаў. Маўляў, у яго ёсць сябрукі ў паліцыі, у тым ліку і сярод літоўцаў, нават хтосьці з немцаў.

— Прозвішчы не называлі?

— Не, мне нават не падабалася, што яны ставіліся да мяне, як да маленькага дзіцяці...

— Добра, Абрам, у мяне складваецца ўражанне, што ты адважны малады чалавек. Цяпер мы зоймемся праверкай тваіх сведчанняў. Цябе змесцім у асобную камеру, будзем добра карміць. Ты падумай, можа, яшчэ што-небудзь успомніш ці дзесьці сказаў няпраўду. Тэрмін у цябе — да заўтра.

Абрама адвялі. Палкоўнік задумаўся. Гэты яўрэй такі адважны, так перакананы ў сваёй праваце, што палкоўнік не стрымаўся і гучна прамовіў:

— Вось мне хоць бы двух-трох такіх афіцэраў. Я з імі мог бы і да Крамля дабрацца, — і нечакана для сябе падумаў: «А можа, і да рэйхсканцылярыі?!» — І са страхам азірнуўся: ці не сказаў ён гэта ўслых.

## Раздзел 53

Камбрыга Грынёва нечакана выклікалі ў Маскву. Сяргей Іосіфавіч быў гатовы да таго, што яго запрашаюць у Галоўнае разведупраўленне.

Цэнтральны штаб партызанскага руху яшчэ ў студзені 44-га быў скасаваны. Кіраўніцтва штаба было занята падрыхтоўкай узнаўлення інфраструктуры дзяржаўнага кіравання рэспублікі. Ужо амаль як паўгода была вызвалена Гомельская вобласць, там дзейнічала савецкая ўлада, аднаўлялася прамысловасць, будавалася жыллё, Гомель на ўсю моц працаваў для фронту. Але поўнае вызваленне Беларусі было яшчэ наперадзе. У Маскве добра разумелі, што бітва за вызваленне Беларусі — адна з самых маштабных і важных стратэгічных наступальных аперацый, і планамерна рыхтаваліся да яе. Падрыхтоўка да вырашальных падзей вялася ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі: і ў сельскім, і ў прамысловым сектарах эканомікі. Асабліва напружанай была праца абароннай прамысловасці і, вядома ж, у арміі. У гэтых умовах разведка выконвала неацэнную ролю.

Палкоўнік Грынёў прыбыў у Маскву ў сярэдзіне сакавіка. Яго сустрэлі ўжо знаёмыя яму па мінулым прыездзе афіцэры, якія суправадзілі яго ў гасцініцу «Масква», сказаўшы, што ў яго ўвесь дзень — вольны. Апынуўшыся ў вялікім нумары, Грынёў, не марудзячы, накіраваўся ў ванную. Мыўся доўга, адчуваючы сябе, як у раі. Здавалася, асалодзе не было мяжы. Нарэшце, надзеўшы на сябе халат, накіраваўся ў пакой. У куце стаяў вялікі радыёпрыёмнік. Асцярожна павярнуўшы ручкай настройкі, пачуў голас дыктара. Зручна ўладкаваўшыся на скураной канапе, з асалодай, нібы слухаючы добрую песню, услухоўваўся ў гэты голас. Нягледзячы на бяссонную ноч, Грынёў не спяшаўся ў спальню, але калі туды ўвайшоў, убачыў на адной з тумбачак таксама радыёпрыёмнік. Пстрыкнуў уключальнікам і пачуў песню. Праз імгненне ён ужо ляжаў у пасцелі. Не хацеласая ні пра што думаць, ён проста ўслухоўваўся ў голас, спрабаваў уявіць, як магла выглядаць спявачка. І перш чым заснуць, паспеў падумаць: «Напэўна, прыгожая, калі так выдатна спявае».

Калі прачнуўся, паснедаў, адразу ж — на Красную плошчу. Прайшоўся па прылеглых вуліцах, скверы, ля сцяны Крамля. Вярнуўся ў гасцініцу, калі сцямнела.

«Шкада, што грошай няма, а то змог бы што-небудзь купіць сваім», — падумаў ён, накіроўваючыся да шырокіх мармуровых прыступкаў. Падняўся на трэці паверх, узяў у дзяжурнай па паверсе ключ і рушыў па калідоры да свайго нумара. Ззаду пачуліся крокі і яго паклікалі:

— Таварыш палкоўнік!

Грынёў азірнуўся і ўбачыў маёра. Той працягнуў яму даволі вялікі пакет:

— Таварыш палкоўнік, гэта — вам. Прасілі перадаць, што заўтра ў дзесяць за вамі прыедуць. Зойдуць у нумар, і вы паедзеце ва ўпраўленне. — Афіцэр, казырнуўшы і павярнуўшыся, пайшоў па калідоры.

Грынёў увайшоў у нумар, зняў шынель, фуражку і, уладкаваўшыся на канапе, разгарнуў пакет. У ім ляжалі новенькая гімнасцёрка з залацістымі пагонамі, шкарпэткі, насоўкі і палявая цёмна-карычневая сумка-планшэт. У ёй — новенькая геаграфічная карта. Аднаго пагляду было дастаткова, каб пераканацца, — гэта новая карта, на якой добра былі бачныя не толькі заходняя частка СССР, уся Беларусь, але і Еўропа — уся Германія і іншыя краіны. Сэрца радасна забілася: перад ім сведчанне далейшых дзеянняў Чырвонай Арміі. Спачатку Грынёў не звярнуў увагі на тое, што ў сумцы былі алоўкі, камандзірская лінейка, папера, блакнот, сцірка і нейкі невялікі папяровы

пакет. Грынёў разгарнуў яго і ахнуў: новенькі наручны гадзіннік з бліскучым чорным раменьчыкам.

Калі яго прымераў, застаўся задаволены, дастаў з кішэні свой стары, яшчэ даваенны, кішэнны гадзінік, пайшоў у пярэдні пакой і паклаў яго ў кішэнь шыняля.

Яшчэ раз палюбаваўся на гадзіннік, падышоў да тэлефоннага апарата, што стаяў на вялікім пісьмовым стале, набраў нумар тэлефона рэстарана і заказаў вячэру. Зняўшы кіцель, боты, усунуўшы ногі ў тапкі, уладкаваўся за пісьмовым сталом.

Ён разгарнуў карту і пачаў уважліва яе вывучаць. Лінейкай вылічваў адлегласці паміж вялікімі населенымі пунктамі. Адкінуўшыся на спінку крэсла, сказаў:

— Аказваецца, да Берліна не так ужо і далёка. Але спачатку Мінск, Брэст, Гродна, Варшава. Не, усё адно — недалёка!

Прынеслі вячэру. Грынёў хутка прыбраў са стала карту і папрасіў маладзенькую афіцыянтку паставіць усё на часопісны столік, які стаяў паміж крэсламі. Калі афіцыянтка пайшла, ён з задавальненнем агледзеў вячэру: салата з капусты, свіная адбіўная са смажанай бульбай, хлеб, кавалачак торта, маленькі чайнік з чаем і гранёны крышталёвы графінчык.

«Сапраўды, дзвесце грамаў, — здаволена падумаў ён, — малайцы, ведаюць, для чалавека з лесу і гэта не лішняе».

Еў не спяшаючыся, расцягваючы задавальненне, у стограмовую чарку наліваў не больш як пяцьдзясят грамаў, кожны раз уяўна прамаўляючы тосты: «За перамогу!», «За таварыша Сталіна!», «За Чырвоную Армію!», «За брыгаду «Штурмавая» і баявых таварышаў!»

...Гэтым разам Грынёва прывезлі ў вялікі манументальны будынак. Сяргей Іосіфавіч зразумеў, што яго запрасілі на вялікую нараду камандзіраў партызанскіх злучэнняў і буйных падраздзяленняў. Ён завочна быў знаёмы з такімі камандзірамі, як Каўпак, Машэраў, Казлоў. Але вось убачыць іх і іншых партызанскіх камандзіраў яму давялося ўпершыню.

Гаворка ішла пра хуткую стратэгічную аперацыю ў Беларусі, якая прывядзе да поўнага вызвалення тэрыторыі рэспублікі. Выступоўцы — высокія чыны з ГРУ, арміі, здавалася, не хавалі ад прысутных ніякіх сакрэтаў. Было ясна, што кіраўніцтва краіны, арміі і разведкі цалкам давярала прысутным, падрабязна даводзілі да іх звесткі, як кажуць, поўную расстаноўку сваіх сіл і дыслакацыю праціўніка. Прайграваліся шматлікія варыянты дзеянняў, якія маглі адбыцца падчас летняй кампаніі, уважліва выслухоўваліся выступленні партызанскіх камандзіраў.

Толькі к вечару скончылася нарада, затым камандзіры былі размеркаваны па групах, для якіх ставілася пэўная задача. Удакладнялася тое, што неабходна партызанам, вызначаліся тэрміны паставак. Шмат часу надавалася разведцы.

Прозвішча камбрыга Грынёва прагучала тройчы. Асабліва адзначаліся атрыманыя дадзеныя пра зверскія злачынствы акупантаў у Сёмкаве. Прагучала хвала ў адрас брыгады «Штурмавая» і яе камандзіра за выдатна праведзеную аперацыю па выратаванні дзяцей. Выклікаў ажыўленне і смех расказ, як Грынёў і яго байцы ўжылі новую «сакрэтную» зброю супраць немцаў — пасткі на звяроў.

Крытыкаваліся камандзіры, у зоне дзеянняў якіх знаходзіліся іншыя цэнтры па заборы крыві ў дзяцей. Адсутнасць поўнай агентурна-разведвальнай інфармацыі прывяла да таго, што немцы ў Гомельскай вобласці на тэрыторыі навучальнай гаспадаркі «Чырвоны Бераг» стварылі зборны пункт для дзяцей

ва ўзросце ад 8 да 15 гадоў, якіх сілком адымалі ў бацькоў і адпраўлялі ў Германію для забору крыві для параненых нямецкіх салдат і афіцэраў.

— Брыгадзе «Штурмавая» пад камандаваннем палкоўніка Грынёва Сяргея Іосіфавіча, — дакладваў прадстаўнік ГРУ генерал-лейтэнант, — дзякуючы добра праведзенай разведцы ўдалося не толькі выратаваць ад пакутлівай смерці больш як пяцьсот дзяцей ва ўзросце ад шасці да дванаццаці гадоў, але і ўзяць у палон камандаванне цэнтра, катаў-медыкаў, якія ўласнаручна мучылі да смерці дзетак, выпампоўваючы кроў. Акрамя гэтага, таварышу Грынёву ўдалося захапіць найкаштоўныя дакументы, якія пацвярджаюць стварэнне акупантамі на тэрыторыі Беларусі донарскіх цэнтраў. Гэтыя дакументы, як і каты-крывасмокі, будуць прадстаўлены міжнароднаму суду. За гэту аперацыю камандаванне і многія байцы брыгады «Штурмавая» ўзнагароджаны высокімі ўрадавымі ўзнагародамі. Таварыш Грынёў асабіста ўзнагароджаны другім ордэнам Баявога Чырвонага Сцяга.

Усе бурна апладзіравалі, а Грынёў, чырвоны ад збянтэжанасці, не ведаў, ці трэба ўставаць яму з месца ці працягваць сядзець, нягледзячы на тое, што многія, хто сядзеў у зале, круцілі галовамі, каб убачыць героя.

Пасля нарады была агульная вячэра, падобная на святочны прыём. На наступны дзень усе камандзіры маглі знаёміцца з Масквой, вырашаць асабістыя праблемы. Не забыліся і пра тое, каб выдаць кожнаму даволі буйную суму грошай. Праўда, Грынёву не прыйшлося выкарыстоўваць атрыманыя грошы. Яго выклікалі ў Крэмль, дзе ва ўрачыстай абстаноўцы яму быў уручаны ордэн Баявога Чырвонага Сцяга. Яму таксама было даручана ўручыць высокія баявыя ўзнагароды сарака тром байцам і камандзірам брыгады. Так Радзіма высока ацаніла заслугі сваіх сыноў, якія ратавалі дзяцей.

Увечары палкоўнік быў дастаўлены на аэрадром, і цяжка загружаны ЛІ-2 узяў курс на захад.

Камбрыг вёз не толькі ўзнагароды, але і шмат маёмасці, боепрыпасаў, зброі і нават новыя карты.

## Раздзел 54

Абрам выдатна разумеў, што роблена-саладжавыя гутаркі, якія вядуць з ім кіраўнікі гестапа і тайнай паліцыі, часовыя. Яны бачылі, што хлопец даволі ахвотна расказвае пра злачынствы, якія выклікалі ў акупантаў такі перапалох. Таму ў першыя дні Абрама не катавалі і не збівалі. Абрам жа такой славеснай гульнёй ставіў сабе адразу некалькі мэт.

Ён імкнуўся адвесці падазрэнні ад Жэні, Тані і іншых падпольшчыкаў. У гэтым плане добра спрацавала яго версія пра тое, што гестапаўскага палкоўніка выкраў паліцэйскі Антончык. Немцы адразу ж праверылі інфармацыю пра Антончыка і пераканаліся, што быў такі дэзерцір, і сведчанням Абрама паверылі. Падчас чарговага допыту спыталі ў хлопца — ці не ведае ён каго-небудзь з сяброў ці знаёмых Антончыка.

Абрам адразу ж «успомніў» свайго цёзку — Абрама Ліпковіча:

— Я чуў, як Антончык у гутарцы са сваімі сябрукамі згадваў прозвішча Ліпковіча. Антончык казаў, што з Ліпковічам яны нарабавалі шмат золата, дзівіўся, што Ліпковіч па нацыянальнасці яўрэй, але гэта зусім не перашкаджала яму рабаваць і забіваць сваіх супляменнікаў. І яшчэ, Антончык вельмі шкадаваў, што яны разам з Ліпковічам рыхтаваліся адпомсціць гестапа за тое, што арыштавалі і спалілі ў Трасцянцы сям'ю Ліпковіча, але адбыўся выпадковы выбух.

— А ты не ведаеш, дзе цяпер гэты Ліпковіч?

Гэтыя пытанні задаваліся яму і раней. Абрам паўтараў свае сведчанні, дадаваў штосьці новае.

— Не ведаю. Але, са слоў Атончыка, Ліпковіч выжыў і дзесьці лечыцца, па-мойму, у шпіталі.

— А што яшчэ ты ведаеш пра Ліпковіча?

— Больш нічога. — Раптам Абрам вырашыў, што будзе не лішнім сказаць, што Ліпковіч сябраваў з тым гестапаўскім палкоўнікам, якога выкралі.

Ён рабіў выгляд, што спрабуе яшчэ штосьці ўспомніць. Гестапавец клюнуў. Ён усміхнуўся і заахвочвальна сказаў:

— Ну, ну, што ты яшчэ ведаеш?

— Так, я ўспомніў, я адзін раз чуў, як Антончык сваім сябрукам, а гэта было ў мяне дома, казаў, што дзякуючы Ліпковічу яны змогуць завабіць палкоўніка да сябе. Але пра гэта я ўжо расказваў.

— І што далей? Паўтары, калі штосьці ўспомніў, дапоўні свае сведчанні.

— Ліпковіч сябраваў са сваім шэфам — начальнікам паліцыі, а той здабываў каштоўнасці для гестапаўскага палкоўніка. Антончык і яго сябрукі выкарыстоўвалі гэта. Яны забілі начальніка паліцыі, яшчэ смяяліся, што зарэзалі яго, як свінню, затым самі падкаціліся да гэтага палкоўніка, уручылі яму вельмі каштоўную дыяментавую брошку і сказалі, што выявілі ў маім доме цэлы склад каштоўнасцей. Прапанавалі палкоўніку самому паехаць і адабраць для сябе асабіста ўсё, што спадабаецца. Вось палкоўнік і клюнуў.

— Як думаеш, а дзе гэта брошка?

— Я думаю, што яе трэба шукаць у кабінеце палкоўніка. Антончык шкадаваў, што палкоўнік не ўзяў яе з сабой.

Пасля допыту Абрама адвялі ў камеру, далі ежу. Абрам занадта добра разумеў, што добрае стаўленне да яго хутка скончыцца. Гестапаўцы паспрабуюць выцягнуць з яго іншыя звесткі пра падпольшчыкаў і партызан. Ён разумеў, што яго будуць катаваць і, вядома ж, расстраляюць ці павесяць.

«Ну і што, — думаў Абрам, — галоўнае, я змог адцягнуць увагу немцаў ад сваіх сяброў».

Абрам быў рады і таму, што яму ўдалося не дапусціць пакарання смерцю ні ў чым не вінаватых людзей.

«Хай мяне заб'юць, але я адпомсціў фашыстам за сваю сям'ю, за ўсіх, каго яны забілі!»

Ён не ведаў, што адразу ж пасля допыту гестапаўцы выявілі ў кабінеце выкрадзенага палкоўніка каштоўную брошку.

Атрымліваецца, Абрам казаў праўду. Нарэшце ім удалося адшукаць у адным са шпіталяў Ліпковіча. Нягледзячы на тое, што той быў у коме, яго тут жа перавялі ў турэмны лазарэт, устанавілі кругласутачную ахову, а ад урачоў запатрабавалі як мага хутчэй вывесці яго з комы. Былі дапытаны калегі Ліпковіча і Антончыка. Тыя пацвердзілі іх сяброўства. Было важна тое, што ніхто з паліцэйскіх не сказаў штосьці пра асобыя адносіны Ліпковіча і Цвяткова. Пра гэта ніхто і не ведаў.

Прайшло яшчэ чатыры дні, і немцы атрымалі яшчэ адзін удар. Ліпковіч, не прыходзячы ў свядомасць, памёр у турме. Абрам не ведаў пра гэта, яму было невядома і тое, што на сумеснай нарадзе агентаў тайнай паліцыі і гестапаўцаў было прынята рашэнне працягваць дапытваць Абрама. Калі ж яго інфармацыя вычарпаецца, зыходзіць з таго, што ён не ўсё сказаў, і прымяніць да яго катаванні, а затым прылюдна пакараць смерцю праз павешанне.

І вось наступіў пераломны момант у стаўленні гестапа да хлопца. На чарговым допыце Абрам паўтараў толькі тое, што казаў раней.

Афіцэр тайнай паліцыі спытаў:

— Скажы, Абрам, чаму ты не прыйшоў да нас добраахвотна і не пачаў з намі супрацоўнічаць, ты ж быў бы для нас каштоўным інфарматарам, цябе ніхто не чапаў бы, наадварот, ты жыў бы як у Бога за пазухай?

Абрам усміхнуўся:

— Я ж прыйшоў да вас добраахвотна, там, на Камароўскай плошчы. Я адпомсціў Готэнбаху. Калі б вы не прыйшлі на нашу зямлю, мы жылі б шчасліва. Я ніколі не стаў бы дапамагаць вам. Я рады, што адпомсціў за сваю сям'ю, за ўсіх, каго вы забілі ці спалілі ў печах.

Гестапавец спытаў:

— Значыць, ты не хочаш расказаць нам усё?

— Я ўжо ўсё расказаў.

Афіцэр, устаўшы, падышоў да Абрама, які сядзеў на табурэтцы.

— Мы не верым табе! Ты можаш расказаць нам яшчэ многае: пра падпольшчыкаў, пра партызан, пра тых, хто служыць у паліцыі і працуе супраць нямецкага войска. Папярэджваем: не будзеш казаць добраахвотна, мы прымусім цябе быць праўдзівым! Даём табе тры гадзіны на тое, каб ты падумаў. Калі не паслухаешся, мы ўчынім над табой такі гвалт, што нават смерць табе здасца шчасцем.

Абрама адвялі ў камеру. Есці ўжо не давалі.

«Ну што ж, — вырашыў хлопец, — я гатовы да таго, каб памерці. Ніякія катаванні не прымусяць мяне расказаць ім пра маіх таварышаў. Я адпомсціў акупантам, не даў забіць многіх людзей. Я гэтага і хацеў».

Тры гадзіны прайшлі хутка. Адчынілася дзверы камеры, двое ахоўнікаў павялі яго па доўгім калідоры не туды, куды яго вадзілі да гэтага.

Яго ўвялі ў камеру. Там ужо знаходзіліся чацвёра. Абрам пазнаў аднаго з іх. Гэта быў афіцэр тайнай паліцыі. Ён, ухмыльнуўшыся, рукой паказаў на моцны драўляны нізкі стол, паверхня якога была абабіта бляхай. Да стала было прыроблена штосьці падобнае на наручнікі, прымацаваны рамяні з металічнымі засцежкамі.

— Гэта будзе твой пуховы ложак. А тут, — ён паказаў на звычайны стол, — абцугі. Імі мы выдзіраем зубы, языкі, пазногці. А гэтыя іголачкі мы заганяем пад пазногці. А вось гэта штучка, бачыш, як паяльнік. Гэтым прыстасаваннем мы выпалім табе на грудзі, ілбе і спіне зоркі. А вось гэтай кувалдачкай, глядзі, якая яна прыгожая, мы пераломваем косткі пальцаў, рук, рэбраў, ног. Вось бачыш, які набор прылад цябе чакае, калі ты не пагодзішся зараз жа на супрацоўніцтва з намі і не раскажаш нам усё.

— Я ўжо ўсё сказаў.

— Хлусіш, юда! — Афіцэр наводмаш стукнуў хлопца ў твар. Абрам ударыўся аб сцяну, але выстаяў на нагах. Афіцэр штосьці загадаў па-нямецку.

Да Абрама падышлі трое, схапілі і падвялі да нізкага стала. Яго паклалі, прыкавалі рукі, ногі перавязалі рамянямі. Зараз ён мог толькі гаварыць, маргаць і ледзь-ледзь варушыць пальцамі рук і ног. Над ім з'явіўся твар афіцэра, які ўхмыляўся.

— Няўжо ты думаеш, што смерць германскага салдата ці афіцэра можа быць беспакаранай?

Абрам разумеў: упрошваць — бескарысна. Ён раптам усміхнуўся і, гледзячы на фашыста, цвёрда сказаў:

— Я вас перамог. Хутка вы, усе немцы, уся ваша Германія, будзеце стаяць на каленах, каяцца за свае злачынствы і маліць пра літасць...

Потым ён падумаў: «Жэня, Таня, таварышы, Элачка, прабачце мяне, але я адпомсціў!»

Прайшло яшчэ тры дні. Жыхароў найбліжэйшых да камароўскай плошчы вуліц немцы і іх памагатыя ў чорных паліцэйскіх шынялях з бела-чырвона-белымі павязкамі на рукавах пачалі зганяць на плошчу. Людзей было шмат. Яны стаялі вакол плошчы па тры-чатыры чалавекі ў рад. У цэнтры плошчы была ўстаноўлена шыбеніца. У натоўпе былі і Жэня з Таняй. Недалёка ад іх — Іван Мікалаевіч Мароз, ледзь наводдаль — яшчэ некалькі партызан і падпольшчыкаў. Праз надзейныя крыніцы камандаванне брыгады «Штурмавая» атрымала інфармацыю, што акупанты будуць караць смерцю Абрама Рабіновіча менавіта тут.

А тым часам двое салдат паднялі Абрама з зямлі. Ісці ён, вядома ж, сам не мог. Усё, што можна, каты паламалі, пакалолі.

Яго рукі з пераламанымі пальцамі безжыццёва віселі ўздоўж цела. Хлопца падцягнулі да грузавіка, і чацвёра салдат пагрузілі яго ў кузаў. Неўзабаве машына заехала на цэнтр плошчы і спынілася ля шыбеніцы. Салдаты адкінулі бакавыя і задні барты, і людзі ўбачылі ляжачага хлопца. Ніхто б не змог яго пазнаць. Замест твару — суцэльнае крывавае месіва.

Афіцэр улез у кузаў і ўзяў жасцяны рупар:

— Увага! Гэты яўрэй па імені Абрам Рабіновіч паквапіўся на самае святое — на жыццё германскага салдата. За такое бандыцкае злачынства па законе ваеннага часу належыць толькі смерць. Гэта нягледзячы на тое, што гэты яўрэй расказаў акупацыйным уладам усё, што ведаў. Ён назваў усіх сваіх саўдзельнікаў, большасць з іх ужо арыштаваны і даюць сведчанні-прызнанні. А цяпер глядзіце і майце на ўвазе, што такая кара чакае кожнага, хто паквапіцца на жыццё германскага салдата ці афіцэра!

На шыю Абраму павесілі пятлю. Ён раптам заварушыўся, велізарным высілкам волі павярнуўся і паспрабаваў штосьці сказаць. Калі б Жэня ці хто-небудзь з яе сяброў былі побач, яны напэўна змаглі б пачуць:

— Бывайце, дарагія. Я адпомсціў. Мы пераможам!!!

Машына кранулася, вяроўка нацягнулася, і неўзабаве пад крыкі жаху і стогну людзей Абрам Рабіновіч вісеў на шыбеніцы.

Узрушаныя Жэня і Таня са слязамі на вачах моўчкі ішлі па вуліцы.

На канспіратыўнай кватэры дзяўчаты заспелі Мароза і яшчэ чацвярых партызан-разведчыкаў.

Іван Мікалаевіч як мог супакойваў дзяўчат, а затым строга сказаў:

— Сёння ўначы мы забяром цела Рабіновіча. Ён будзе пахаваны ў роднай зямлі, і пахаваны як і належыць герою.

Прайшло яшчэ пяць дзён, і ў брыгаду «Штурмавая» прыйшла радыёграма з Масквы: «За гераізм, праяўлены ў барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі, Рабіновіч Абрам Айзікавіч узнагароджаны ордэнам Баявога Чырвонага Сцяга (пасмяротна)».

Нягледзячы на тое, што месца пакарання смерцю ахоўвалася, партызанскія разведчыкі змаглі зняць цела Абрама і даставіць яго ў брыгаду.

Абрам быў пахаваны на невялікім узвышшы... Менавіта сюды ў ліпені 1944 года прыйшоў бацька Абрама — Айзік Аронавіч Рабіновіч. Разам з ім прыйшоў і Іван Платонавіч Статкевіч. Яны ў складзе Чырвонай Арміі вызвалялі Беларусь. Побач з імі на магілу Абрама ўскладалі кветкі Алена Пятроўна, яе дзеці, сярод якіх была і Эла, якой ішоў ужо пяты гадок, і Ісак, і Роза.

Айзік Аронавіч, апусціўшыся на калені, гладзіў рукамі магілу, спрабуючы яе абняць. Усе плакалі.

## Ад аўтара

Гэты мастацкі твор напісаны на дакументальнай аснове — жудасных злачынстваў акупантаў у Беларусі. Трэба памятаць, што ў нашай краіне загінуў кожны трэці яе жыхар.

На тэрыторыі Беларусі нямецкімі акупантамі было створана 260 лагераў смерці. У іх загінула 2 мільёны 200 тысяч чалавек: 1 мільён 400 тысяч цывільнага насельніцтва і 800 тысяч ваеннапалонных. Былі сілком вывезены ў Германію сотні тысяч чалавек.

Акрамя Сёмкава дзіцячыя канцлагеры для донараў былі створаны ў вёсцы Скаброўка Пухавіцкага раёна. У вёсцы Лучыцы Петрыкаўскага раёна Гомельскай вобласці ўтрымліваліся дзеці ад 7 да 17 гадоў. Сотні былі адпраўлены ў Германію ў якасці донараў для нямецкіх салдат. У лагеры ўвесь час знаходзілася 200—250 дзяцей. Рэгулярна яны адпраўляліся ў Германію, і лагер папаўняўся новымі дзецьмі. Такі ж лагер знаходзіўся ў мястэчку Парычы Гомельскай вобласці. Самы буйны ў Гомельскай вобласці канцлагер для дзяцей-донараў, чыя кроў адбіралася для нямецкіх параненых салдат і афіцэраў, знаходзіўся на тэрыторыі навучальнай гаспадаркі «Чырвоны Бераг» Жлобінскага раёна. У ім увесь час знаходзіліся дзеці ва ўзросце ад 8 да 14 гадоў, немцы іх сілком адбіралі ў бацькоў — жыхароў Жлобінскага, Добрушскага і іншых найбліжэйшых раёнаў і ўсіх адпраўлялі ў якасці донараў для нямецкіх вайскоўцаў у Германію. Апошняя партыя — 1990 дзяцей.

Даведка ў адносінах толькі аднаго з нямецкіх афіцэраў СС Вільгельма Мойрына. Дакумент узяты з архіва Лонданскай «Бібліятэкі Альфрэда Вінера». Усяго гэты афіцэр СС даставіў у Мінск толькі за адзін рэйс з Дзюсельдорфа 3992 яўрэі, з іх выжыла ўсяго пяцёра.

Ёсць у згаданай бібліятэцы паліцэйскі пратакол, у якім ідзе гаворка пра дэпартацыю з Дзюсельдорфа цягніком у Мінскае гета 992 нямецкіх яўрэяў. У пратаколе Мойрын адчытваецца пра вываз чарговай партыі яўрэяў цягніком у гета Мінска. Мойрын падрабязна апісвае, якія «нягоды» яму асабіста давялося перажыць падчас чатырохдзённага затрымання цягніка Дзюсельдорф—Мінск. Тое, што зняволеных за чатыры дні ні разу не выпусцілі з таварных вагонаў, — дробязь у параўнанні з тым, што яму было на асобных участках дарогі холадна, а стаяў васямнаццаціградусны мароз, і што пасля перасячэння савецкай мяжы ў яго вагоне скончылася вада. Самая вялікая праблема ў тым, што яму давядзецца вяртацца ў Германію трэцім класам, што порцыя алкаголю, якая выдаецца яму для такой працяглай паездкі, — занадта малая, што трэба канваірам выдаць навушнікі.

Начальнік канвою гэтага саставу смерці дадае, што з 992 яўрэяў 300 не маглі самастойна рухацца, але нягледзячы на гэтыя цяжкасці, разгрузка саставу ўклалася ў адведзены тэрмін. Ён тут жа адзначае, што «8000 «рускіх» яўрэяў у Мінскім гета — расстраляны», гэта значыць, месцы вызвалены...

Часам, калі бываеш у Хатыні, можна назіраць рэдкую карціну: ад групы турыстаў з Германіі не-не ды і адлучыцца хто-небудзь з мужчын. Ён кленчыць і каецца за свае грахі. Хто ведае, можа, у яго жылах цячэ кроў нашых дзяцей. Ці памятаюць гэта немцы? Мы — памятаем.

***Пераклад з рускай Алеся МАРЦІНОВІЧА.***



Уладзімір БАРМУТА

# «ВІТАЮ ЧАС НАТХНЕННЯ І СПАКОЮ...»

## ВЕТЭРАНУ

Усё ў жыцці праходзіць незваротна,
імкліваю ракою час бяжыць,
а ў снах тваіх агонь атак смяротных,
а ў памяці ўсё тыя рубяжы,

дзе, малады, стаяў ты непахісна
і быў сваё жыццё аддаць гатоў,
каб дзень свой чорны вораг ненавісны
запамятаў на тысячы гадоў,

каб мір прыйшоў да роднага парога,
каб мы не зналі болю ран і страт.
Здабытая табою Перамога —
і фініш твой, і ў будучыню старт.

## ПРАЗ ЦЕРНІ АД ЗОРАК

Настане час — твой дух мяцежны
пакіне гэты грэшны свет
і адляціць у той, бязмежны,
да зор далёкіх і планет.

---

*__Бармута Уладзімір Антонавіч__ нарадзіўся 18 жніўня 1940 года на хутары Астравок Пружанскага раёна Брэсцкай вобласці. Пасля заканчэння дзесяцігодкі працаваў у калгасе палявадам, рабочым на цагельні. Служыў у Савецкай Арміі. Скончыў філалагічны факультэт Брэсцкага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А. С. Пушкіна (1968). Настаўнічаў у Велікарыцкай сярэдняй школе Маларыцкага раёна. З 1972 года жыве ў Навагрудку. Працаваў у рэдакцыі раённай газеты «Новае жыццё», у партыйных органах, выкладаў беларускую мову і літаратуру ў СШ № 6.*

*Піша вершы і прозу. Друкаваўся ў розных перыядычных выданнях, у тым ліку ў часопісах «Маладосць», «Бярозка», «Вожык».*

І за нябачнай вокам гранню
пазнае ён дабро і зло,
за што расплаціцца маўчаннем,
забудзе ўсё, што з ім было.

Але на той нямой арэне
праз год ці, можа, праз мільён
знаёмы воблік ён сустрэне,
успомніць май, зялёны клён,

і каруселі, і эстраду,
і дом знаёмы, і камін,
і мары светлыя, і здраду —
і апячэ яго ўспамін.

Спакой забудзе дух мяцежны
на трасах зорак і планет
і зноў захоча ў гэты грэшны,
пакут і шчасця поўны свет.

## МОЖА СТАЦЦА

Гадоў разгорнецца сувой,
рассыпле белы іней.
Зямля, зялёны покрыў твой
пад ім навек загіне.

Цябе ахутае туман,
і станеш ты замглёнай.
Дзе дыхаў цёплы акіян,
там будзе снег салёны.

На гэту, нібы цукар, бель,
на снежныя пагоркі
аднойчы сядзе карабель
з далёкай самай зоркі.

Нагою ступіць астранаўт
на снег, вякамі збіты,
і ўсё ацэніць ён спаўна
з часоў, даўно забытых:

«Зямля — Сусвету кут глухі,
бязлюдны, мёртвы, сумны.
Тут пакараны за грахі
быў чалавек разумны».

Зямлю пакіне астранаўт,
не будзе больш вяртацца.
…Хацеў бы я, каб кожны знаў:
такое можа стацца.

## ПЫТАННЕ

Не ўсе, відаць, рашаюцца задачы
і на зямлі, і там, на небясі,
бо, мусіць, і Гасподзь не змог прадбачыць,
што Еву змей захоча спакусіць,

каб ад старога ўсе да немаўляці
мы адчувалі, што і нам баліць,
і першы грэх той нашае прамаці
ніхто не мог ніколі замаліць.

Ці ўсё было інакш, і ў такім разе
свядома Бог нам вызначыў шляхі,
і па вышэйшай волі мы ў адказе
і за свае, і за бацькоў грахі?

## ВЕЧНАСЦЬ

Млечны Шлях цячэ да небакраю.
Сузіранне вечнай прыгажосці
кожнаму яшчэ раз нагадае:
мы на гэтым свеце толькі госці.

Хоць не грэе тых нямая млечнасць,
у каго зямных багаццяў многа,
час праб’е — і ім напомніць Вечнасць
пра часовасць усяго зямнога.

## ЗАГАДКІ

Няма дарог на свеце гладкіх,
наадварот усё якраз.
І не на ўсе ў жыцці загадкі
знайсці мы здолеем адказ.

Навука, вера і старанне —
шляхі да мудрасці Тварца.
Няма табе мяжы, пазнанне,
няма, загадкі, вам канца.

Такі спакон вякоў парадак,
што з кожным новым адкрыццём
ніяк не менее загадак,
і гэта рухае жыццё.

## ПАЭЗІЯ

Бяжыць радок, як па тэлеэкране,
радок саспеў, прыйшла яго пара,
і ён спяшыць, сарваўшыся з пяра,
людскія сэрцы і гаіць, і раніць.

## УЗЛЁТ

Не варажы на гушчы і вадзе
і прэч гані дарэмную трывогу,
бо нам вядома: кожны, хто ідзе,
сваю заўжды адолее дарогу.

Дарог мільён, але твая адна.
І дзе б ні жыў, ні працаваў бы дзе ты,
найлепшая з усіх, калі яна
прыводзіць нас да запаветнай мэты.

І чым цяжэй, вышэйшы тым узлёт,
таму абходных сцежак нам не трэба.
Хоць пра зямлю і думае пілот,
аднак ён марыць пра бясконцасць неба.

## ДЗЯДУЛЯ

Гады прайшлі, як шпаркія мінуты,
жыццё цябе круціла так і сяк.
І, нібы дрэву са ствалом сагнутым,
не выпрастацца ўжо табе ніяк.

Шмат пройдзена па свеце і пражыта,
але тужыць няма чаго, калі
табою дбайна ўзрошчанае жыта
квітнее для нашчадкаў на раллі.

## БЫЛОЕ

Вітаю час натхнення і спакою,
прастор бязмежны, ясны дагляд!

І добрае, і кепскае былое
не вернеш і не вернецца назад.

Нам ад яго ні соладка, ні горка,
яно ўжо не трывожыць, не заве.
Няхай гарыць спакойна тая зорка,
што вечарам ледзь бачна ў сіняве.

## ДЗВЕ ДАРОГІ

Дзве дарогі ў чыстым полі —
ільняныя ручнікі.
Дзве дарогі, як дзве долі,
беглі ў розныя бакі.

А наўсцяж імкнулі хвалі
недаспелай збажыны,
над сабою калыхалі
ветразь воблака яны.

І пра гэтае раздолле
пелі ў небе жаўрукі…
Дзве дарогі як дзве долі.
Дзве жыццёвыя ракі.

## ВЕЧНЫ РУХАВІК

Белапенная, крутая
хваля точыць камяні
і на бераг вымятае
скарб, схаваны ў глыбіні.

Гэта золата бурштыну,
белы жэмчуг і карал.
Б’ецца хваля без спачыну,
у яе штодня аўрал.

То прылівы, то адлівы
пад бясконцы чайкі крык,
бой нястомны, бег імклівы,
хваля — вечны рухавік.

## ЛІСТАПАД

Па сонцы зажурыўся дагляд,
не ўбачыць за туманам краявідаў.

Прыйшоў у горад ноччу лістапад
і па асфальце золата раскідаў.

Яго збірае ў парку дзетвара,
шчаслівы смех разносіцца далёка,
а ў дворнікаў не лепшая пара,
і да зімы не болей, чым паўкроку.

Мятуць, грабуць пажоўклыя лісты,
і хутка іх зусім ужо не стане.
Праз месяц век мінецца залаты
і ўслед за ім сярэбраны настане.

## ЛІСТОК

Плывуць аблокі — тоненькі лядок.
Даўно заціхла выраю гамонка.
А тут, на ўзлессі, б’ецца матылёк
над аганьком запозненым рамонка.

І верыцца: далёка халады.
Насуперак усякаму прагнозу
цяплом сінее гладзь рачной вады,
і не чуваць ні снегу, ні марозу.

І ў сэрцы растапіўся халадок,
і ажылі надзеі і жаданні.
Ляціць спакойна, кружыцца лісток —
табе мой ліст, апошняе каханне.

## У АКНЕ

Прыпыняю крокі я міжволі,
хоць хутчэй за ўсё здалося мне:
штора варухнулася паволі
на тваім зацененым акне.

А за шторай белыя герані
цягнуцца да сонца і цвітуць.
Ведаю, мае перажыванні
аніяк цябе не закрануць.

Ты — мая халодная лілея
на рачной празрыстай сіняве…
Азірнуся, а герань бялее,
дражніцца, смяецца і заве.

## АПОШНЯЯ СУСТРЭЧА

Я зразумеў: твой поціск развітальны,
хоць не сказалі мы ані слаўца.
Прачнуўся ветрык ранішні, світальны,
каб рушыць у дарогу без канца.

Плылі на захад воблачныя грады,
глядзела з даху зорка ўніз адна.
А нам шаптала лісце вінаграду,
што мы віно не выпілі да дна.

## СТАТЫСТЫКА

Нехта сказаў:
«Статыстыка ведае ўсё».
І гэта амаль праўда.
Статыстыка падлічыла,
колькі людзей
пражывае на Зямлі,
колькі сярод іх
мужчын і жанчын,
колькі багатых і бедных,
колькі галодных, непісьменных,
бяздомных, беспрацоўных…
Але статыстыка
не ведае галоўнага:
колькі на Зямлі шчаслівых.



**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ**

# ПОДЫХ ПЯШЧОТЫ

*Аповесць*

...Аўтобус няўмольна аддаляўся. Здаецца, толькі секунду таму яшчэ гарэлі заднія чырвоныя ліхтары, а ўжо цемра хавала сілуэт, пакідаючы толькі слабы гул матора, які паступова рабіўся ўсё цішэй і цішэй.

Андрэй прыпыніў бег, пераканаўшыся, што даганяць далей дарэмна. Сэрца калацілася ў грудзях, кроплі поту сцякалі па лбе.

«Трэба патэлефанаваць хутчэй, там жа ўсе свае, хай скажуць шафёру, каб спыніўся, пачакаў крыху», — мільганула ў галаве думка. Але мабільніка чамусьці не было.

«Як так, дзе ж я яго мог згубіць?» — роспачна думаў Андрэй. — «Як назло!»…

І тут рапатам мабільнік азваўся меладычным звонам.

Андрэй прачнуўся, адкінуў коўдру, намацаў мабільнік на тумбачцы, выключыў будзільнік. Ён быў увесь мокры ад поту, пакамечаная прасціна сведчыла, што пакруціўся на ёй за ноч ён дужа не слаба.

Каторы раз прыходзілі яму пад раніцу падобныя сны: то ён спазняўся на цягнік ці на самалёт, то ўсе сябры, з якімі ён быў у камандзіроўцы, пакідалі яго ў гатэлі аднаго… Доктар, цудоўная чулая жанчына, казала, што гэта ўсё ад ягонай стэнакардыі, раіла піць перад сном нешта заспакаяльнае.

Андрэй устаў, падышоў да акна. Шарэла. Церусіў дробны дожджык, і бронзавы Скарына насупраць, на плошчы, здавалася, увесь скукожыўся. «Бедны Францішак, — усміхнуўся сам сабе Андрэй, — і не схавацца, бо з п’едэстала не зрушыць, і парасона няма».

---

*__Гальпяровіч Навум Якаўлевіч__ нарадзіўся 14 студзеня 1948 года ў горадзе Полацку. Пасля заканчэння сярэдняй школы працаваў грузчыкам на заводзе шкловалакна, карэктарам, літсупрацоўнікам полацкай газеты «Сцяг камунізму», рэдактарам радыёвяшчання наваполацкага вытворчага аб’яднання «Палімір». Скончыў Віцебскі педагагічны інстытут імя С. М. Кірава (1979). Працаваў уласным карэспандэнтам Беларускага радыё ў Віцебскай вобласці, намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Вожык», намеснікам старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў, галоўным рэдактарам каардынацыйнай дырэкцыі Беларускага радыё. Цяпер — галоўны дырэктар замежнага вяшчання Беларускага радыё.*

*Аўтар паэтычных кніг «Сцяжына» (1983), «Брама» (1990), «Востраў душы» (1995), «Струна» (1997), «Шляхі і вяртанні» (2000), «Святло ў акне» (2002), «Голас і рэха» (2004), «Гэта ўсё для цябе» (2006), «Насцеж» (2008), «На трапяткім агні» (2012), «Сюжэт для вечнасці» (2013) і інш.*

Стала крыху спакайней. Тут, у родным горадзе, было досыць нязвыкла глядзець на знаёмую плошчу з гатэльнага акна. Андрэй успомніў, як урачыста адкрывалі гэты помнік, і ён, хлапчук з полацкай ускраіны, заварожана глядзеў, як спадала з бронзы белае палатно і воку адкрывалася постаць славутага палачаніна.

«Вось бы напісаць пра гэта, але ці ўдасца перадаць усё тое дзіцячае захапленне, тое трапяткое пачуццё радасці і гонару і адчуванне далучэння да нечага велічнага і таямнічага», — так думаў Андрэй, апранаючыся. Ён ведаў, што часам яго блізкія пасмейваюцца з яго такой сентыментальнасці, юначага максімалізму ў яго сівыя гады, але нічога з сабой зрабіць не мог. У асяроддзі такіх жа краязнаўцаў, як і ён, Андрэй быў аўтарытэтам, хадзячай энцыклапедыяй. І тэма яго дысертацыі, і шматлікія артыкулы былі ў асноўным пра Полацк ці пра падзеі, звязаныя з полацкай зямлёй. З ранняга дзяцінства Андрэй рабіў ва ўяўленні падарожжы па падземных хадах, што ішлі ад Сафіі, разам з Усяславам Чарадзеем скакаў праз начны лес ад Кіева ў родны Полацк, біўся з напалеонаўскім войскам на Чырвоным мосце.

Яго настаўнік гісторыі Якаў Аляксандравіч, якога Андрэй паважаў, як самага дасведчанага ў свеце чалавека, бачыў захапленне хлапчука і раіў яму пісаць гісторыю роднай вуліцы. І яны разам з сябрам па гістарычным гуртку Толікам Васіленкам хадзілі па хатах, запісвалі ў сшыткі расповеды пра арцель «Праўда», пра нафтабазу, пра чыгуначны тупік… Андрэй спрабаваў нешта даведацца больш пра блізкі Спаса-Еўфрасіннеўскі манастыр, але Толік яго стрымліваў, казаў, што ягоны бацька не раіць чапаць багамолак.

Хто ведаў тады, што вуліца іх стане называцца вуліцай Еўфрасінні Полацкай і што па ёй будуць ездзіць шыкоўныя турыстычныя аўтобусы да манастырскіх варот?..

Будучы студэнтам, потым аспірантам, Андрэй з радасцю спяшаўся дадому — у невялікую, але ўтульную хату бацькоў, дзе ў двары чакаў стары вяз, драўляны столік з лаўкай пры ім, дзе Андрэй любіў пасядзець з кніжкай, калі рыхтаваўся да выпускных экзаменаў у школе. У цеснаватай прыхожай на вешалцы віселі знаёмыя рэчы, у зале цешыла вока карціна на сцяне, якую яны з мамай некалі купілі ў кнігарні з мамінай трынаццатай зарплаты.

Гэта была, вядома, рэпрадукцыя. Паленаў, «Маскоўскі дворык». Тады яна і спадабалася падабенствам на іх двор, і за гады, якія пражыў тут Андрэй, гэты маскоўскі дворык стаў амаль сваім.

Карціна па-ранейшаму вісіць на той самай сцяне, але ні таты, ні мамы ўжо даўно няма, стары вяз спілавалі. У хаце цяпер жыве жончына старэйшая сястра, якая з трыма дзецьмі ўцякла з палаючага Грознага падчас першай чачэнскай вайны. Яе муж, шафёр «хуткай дапамогі», мясцовы рускі, загінуў ад шалёнай кулі свайго ж рускага салдаціка, які прыняў яго за баевіка, калі ён на сваёй уласнай машыне імчаўся дадому папярэдзіць сям'ю, што ў горад урываюцца танкі.

Андрэй ужо тады жыў з сям'ёй у Мінску, бацькоўская хата ў іх з сястрой была за дачу, і, канешне, калі жонка са слязамі на вачах стала казаць, што Зоі з дзецьмі няма дзе жыць, сумненняў не было. Праўда, муж сястры Пятро заікнуўся было, што трэба заплаціць ім за іх долю, але Андрэй тады ўчыніў скандал, сказаў, што ён за ўсё заплаціць, але знацца болей з сястрой не будзе, і ўрэшце ўсё супакоілася, бо Пятро, хоць і быў добры выпівоха і скандаліст, Андрэя крыху пабойваўся і паважаў.

Неяк, у час аднаго з прыездаў, Зоя паслала яму на знаёмай старой канапе ў зале.

Андрэю спалася дрэнна. Ледзь золак, ён падняўся, падышоў да акна, якое глядзела ў стары сад, азірнуўся на знаёмую карціну. Стала вусцішна ад выявы паленаўскага дворыка на ёй, нахлынулі ўспаміны, і ногі самі сабой павялі Андрэя на вуліцу.

Ён, не спяшаючыся, рушыў да блізкай брамы Спаскага манастыра. Цэркаўка, бы маленькая свечка, бялела ў ранішнім мроіве. Андрэй перажагнаўся.

Ён, былы піянер, камсамолец, камуніст, сам не чакаў ад сябе, што некалі прыйдзе да веры, што імя прападобнай Еўфрасінні, пра якую ён чуў і ведаў з самага дзяцінства, стане для яго не проста вобразам асветніцы, а засвеціцца святым агнём у душы, што ён будзе паважаць гэтае імя, як імя святой заступніцы беларускага народа.

…Андрэй адагнаў успамін, рушыў у душ, і стоячы пад тугімі струменямі прахалоднай вады, асвойваў новы стан прыезджага госця ў родным горадзе.

Выйшаўшы з ваннага пакоя і выціраючыся махровым ручніком, Андрэй аглядаў сваё часовае прыстанішча. Гэта быў, канечне, не Шанхай, адкуль ён месяц таму прыехаў з камандзіроўкі. Там усё блішчэла раскошай: і шырачэзны ложак, і тэлевізар на ўсю сцяну, і шыкоўны буфет з посудам, і ваза на стале са свежымі фруктамі — падарунак адміністрацыі…

У родным горадзе было ўсё прасцей і па-спартанскаму строга. Андрэй апошнім часам не раз начаваў у розных гасцініцах, і прывык ацэньваць іх перш за ўсё па тым, наколькі яны зручныя. Полацкі гатэль у гэтым сэнсе выглядаў хоць і не на сто працэнтаў, але цалкам цярпіма.

Спусціўшыся ў хол і прайшоўшы міма дзяжурнай, якая, відаць, пазнала яго, бо ветла заўсміхалася, ён выйшаў на плошчу. Дождж сцішыўся, але ў паветры пахла вільгаццю і ранішняй свежасцю.

Андрэй падышоў да бронзавага Скарыны, крыху пастаяў, углядаючыся ў знаёмую з юных гадоў фігуру, стаў спускацца ўніз, да набярэжнай.

Над Дзвіной вісеў туман і ад вады падымалася пара, як бывае заўсёды, калі на змену ўчарашняй спякоце прыходзяць дождж і прахалода.

Андрэй узгадаў, як яны з аднакласнікамі пасля выпускнога экзамену ўзялі напракат на лодачнай станцыі лодку і паплылі на ёй насупраць дзвінскай плыні ўверх, за чыгуначны мост. Грэбці было цяжкавата, але менавіта гэта і вабіла, бо юначыя мышцы патрабавалі нагрузкі, хацелася адчуць сілу ў руках, тую бадзёрасць ва ўсім целе, якая бывае толькі ў маладосці.

Была вясна, шчодрая на цяпло і п’янкія пахі бэзу і чаромхі, наперадзе чакала новае, дарослае жыццё…

Раптам з набеглай хмаркі лінуў халодны праліўны дождж.

— Разварочваемся! — крыкнуў Сашка Дварэцкі. — Прамокнем тут наскрозь!

Дождж не сціхаў. Калючыя кроплі білі па галаве, па твары. Раз-пораз Андрэй чэрпаў рукой дзвінскую ваду, якая здавалася цяплейшай. Уся вопратка, складзеная ў кутку лодкі, ужо даўно прамокла.

Андрэй нават усміхнуўся, узгадаўшы, як яны беглі па вуліцах праз цэнтральную плошчу ў адных плаўках, трымаючы ў руках скамечаныя, прамоклыя штаны і кашулі, як на іх пазіралі прахожыя, хто са смехам, а хто і з асуджэннем…

— Уважаемый, закурить не будет? — перарваў ягоны ўспамін хрыпаты басок.

— Не куру! — хацеў было адказаць Андрэй, але нешта ў сівым, бамжаватага выгляду чалавеку падалося вельмі знаёмым.

— Толік, ты?

Так, гэта быў Сідаровіч, яго былы аднакласнік, памяты, сівы, са стойкім пахам перагару.

— Андруша! — адгукнуўся, паказваючы ва ўсмешцы рад металічных зубоў, Сідаровіч. — А я думаю, вось мэн нейкі заезджы, раскалю яго на цыгарэты. А можа, і наяўнасць разам палічым?

Толік яшчэ з сёмага класа загрымеў у калонію для непаўналетніх, а потым безліч разоў цягнуў тэрміны, праводзячы кароткія перыяды волі ў бацькоўскай хаце.

Андрэй дастаў з кішэні пачак «Мальбара» і працягнуў яго аднакласніку.

— Бяры ўвесь. У мяне ў гасцініцы яшчэ ёсць.

Андрэй увогуле курыў рэдка, і цыгарэты браў з сабой больш на ўсялякі выпадак.

— Спасібачкі, — зноў расцягнуў ва ўсмешцы вусны Сідаровіч. — А ты забурэў, забурэў!.. Бачыў цябе аднойчы па целівізары з нейкай навуковай канферэнцыі. Чувакам кажу, — карашок мой былы!

Яны сапраўды ў дзяцінстве маглі стаць сябрамі. Толік прыйшоў у іх пяты клас і адразу чамусьці звярнуў увагу на Андрэя. Можа, таму, што Андрэй сярод аднакласнікаў вылучаўся спартыўнай фігурай, прычоскай з моднымі тады даўгімі валасамі. Не раз атрымліваў заўвагі за прычоску ад настаўнікаў, але ўпарта не ішоў да цырульніка, і гэтая пазіцыя навічку імпанавала. У Толіка таксама быў шыкоўны каштанавы чуб, які спадаў на лоб і рабіў твар больш дарослым.

За навічком ужо хадзіла благая слава, пра гэта нават папярэдзіла вучняў іх класная. І хоць бацька яго быў міліцыянер, сам Сідаровіч, па словах настаўніцы, ужо стаяў на ўліку ў камісіі па справах непаўналетніх.

Тым не менш, Андрэю навічок спадабаўся, і іх часта сталі заўважаць разам.

Аднойчы, калі Андрэй вярнуўся са школы дадому, ён застаў у іх кватэры класную, якая размаўляла з яго маці.

— Вось і Андрэй! Добра, хай паслухае. Я і кажу, не падабаецца мне, Соф'я Рыгораўна, што ён з Сідаровічам водзіцца. Звядзе той вашага хлопца з нармальнага шляху.

— Таццяна Пятроўна, вы ж самі казалі, што піянер павінен заўсёды памагаць сябру пазбавіцца ад яго недахопаў. Я вось і хачу памагчы Толіку перавыхавацца, — запярэчыў хлапчук.

— Глядзі, каб ён цябе не перавыхаваў! — парыравала настаўніца. — Я вам, Соф'я Рыгораўна, настойліва рэкамендую абмежаваць кантакты вашага сына з будучым малалетнім злачынцам.

Тым не менш, Андрэй яшчэ спрабаваў працягваць сяброўства, але патроху яно пачало затухаць, бо і Толік стаў аддаляцца, больш часу праводзіць у сваёй старой кампаніі, дзе завадзілам быў былы другагоднік, які ўжо не вучыўся ў школе, па мянушцы Бурма.

А праз год Сідаровіч сапраўды трапіў у калонію. Казалі, што яго сябрукі залезлі на тэрыторыю мясакамбіната, вынеслі адтуль дзве скрыні тушонкі, і хоць Толіка ў той дзень з імі не было, ён узяў віну на сябе. З таго часу ў яго і пайшло-паехала: то пабіўся з такім жа, як і ён, малым зэкам, то нагрубіў выхавацелю… Адным словам, як кажуць, турма стала для яго родным домам.

— Слухай, раз ужо сустрэліся, — вярнуў яго ў рэальнасць Сідаровіч, — можа, знойдзеш для мяне пару рублёў? Учора перабралі з сяброўкай, катлы гарацЬ.

— Ладна, прастаўлю ў гонар сустрэчы. Толькі па пяцьдзясят грам, не болей.

Андрэй ведаў, што буфет у гасцініцы адчыняецца ажно ў сем раніцы, і таму ён упэўнена павёў былога аднакласніка ў сваё часовае прыстанішча.

Падышоўшы да буфетнай стойкі, Андрэй заказаў дзвесце грамаў каньяку і пару бутэрбродаў з чырвонай ікрой.

Буфетчыца, якая, відавочна, пазнала Андрэя, хацела яму нешта сказаць, але ён апярэдзіў яе:

— Вось аднакласніка сустрэў. Шмат год не бачыліся.

Буфетчыца недаверліва-асуджальна паглядзела на Андрэя, але моўчкі падала графінчык і бутэрброды.

Толік хутка захмялеў. Да бутэрбродаў ён амаль не дакрануўся. На твары выступілі чырвоныя плямы.

— Ты вось вучоны, а колькі табе плацяць? Ішачыш, пэўна, у сваім інстытуце за капейкі. А ты вось раман пра мяне напішы, такая кніжка будзе! Я табе такое панараспавядаю, за вушы чытача не адцягнеш!..

Андрэй ужо шкадаваў, што прывёў яго сюды. У чарговы раз яму жыццё дало зразумець, што былое не вернеш, што людзі мяняюцца, і што высокі інтэлігенцкі парыў часта заканчваецца прыкрасцю і расчараваннем.

Тым больш, што з Толікам гэта здарылася ўжо ў другі раз. Першы, гадоў дваццаць таму, ён, сустрэўшы яго на вуліцы, падзяліўся радасцю ад нараджэння дачкі.

Толік тады нечакана расчуліўся, вызваўся праводзіць яго дадому. Па дарозе яны сустракалі нейкіх падазроных асоб, якія віталіся з Толікам, а ён усім расказваў, што з ім яго даўні кораш, у якога нарадзілася дачка… Потым іх зацягнулі ў двор нейкія расфарбаваныя кабеты, якія даставалі з сумачак таннае віно і закускі, і Андрэй элементарна збег, бо што можна было чакаць далей, здагадацца было няцяжка.

Так здарылася і сёння.

«Будзе табе навука!» — папракнуў у думках сябе Андрэй і ўголас сказаў:

— Ладна, пара развітвацца, у мяне сёння шмат спраў.

— Добра, добра, — замітусіўся Толік, — а можа, пару рублёў...

Андрэй не даслухаў, палез у кашалёк, вынуў пяцёрку, паклаў на стол, і не развітваючыся больш, ледзь не выбег з буфета.

— Шэраму кідаць? Шэраму і так на сподачку прынясуць, — чуў ён за спінай п’янае мармытанне.

«Вось табе і першае спатканне ў родным горадзе! — з горыччу падумаў Андрэй. — Заўсёды, калі чакаеш нечага высокага і прыгожага, атрымліваецца такая вось лухта!»

Андрэй падняўся да сябе ў нумар, распрануўся, зайшоў у ванны пакой і падставіў цела пад калючыя струмені душа.

«А што я хацеў убачыць? — думаў ён, адчуваючы, як вада вызваляе яго ад нечаканай стомы і раздражнення. — Радасць сустрэчы з былым аднакласнікам?» Неяк, калі яны аднойчы разам з Валерам Федарэнкам у гасцях у сваёй былой настаўніцы Таццяны Пятроўны ўзгадалі Сідаровіча са шкадаваннем, Валера нават раззлаваўся:

— Нечага яго шкадаваць! Кожны выбірае свой шлях. Я рос без бацькі ў такім жа хуліганскім асяроддзі. Але ж ні ў калонію, ні ў турму не трапляў.

Валера сапраўды быў з той жа кампаніі, што і Сідаровіч, пайшоў у спартыўную секцыю, стаў вядомым баксёрам, паступіў у ветэрынарны інстытут, стаў галоўным ветурачом у суседнім раёне.

Андрэй і сам не раз пераконваўся, што не заўсёды высакародны парыў прыносіць добры вынік. Ён дапамог свайму вучню абараніць дысертацыю, а калі той трапіў у аўтакатастрофу і быў прыкаваны да ложка, хадзіў да яго, дапамагаў грашыма. А ў выніку Міхасёк брудна плявузгаў пра яго за ягонай спінай, нават пасквіль у інтэрнэце ціскануў.

Яму стала прыкра за тое пачуццё перавагі, якое міжволі слізганула падчас яго сустрэчы з Толікам. Ён не раз лавіў сябе на гэтым прыкрым жаданні ўзяць рэванш за дзіцячыя і юначыя крыўды: перад бібліятэкаркай Кацяй, якая падманула яго, выбраўшы другога, перад Фацімой — сваім першым, і, відаць, самым моцным каханнем.

Дом, у якім яна жыла, і сёння стаіць проста за мостам праз Дзвіну. Колькі разоў яны праходзілі па гэтым мосце, колькі гадзін правёў ён у яе халодным пад'ездзе!..

Упершыню ўбачыў ён яе ў цягніку, калі ехаў з сябрам у Мінск. Тоненькая, зграбная, з крыху раскосымі шэрымі вачыма, яна адразу, нібы маланкай, працяла сэрца. «Гэта яна!», — сказаў ён тады сябру, з якім ехалі разам. Яна была ў вагоне разам з сястрой, і яны падселі да дзяўчат, і ўсю ноч жартавалі, смяяліся, і, здаецца, Андрэй ніколі не быў яшчэ такім красамоўным.

У Мінску ён не пайшоў на заняткі, два цудоўныя дні яны сустракаліся ў горадзе, хадзілі ў кіно, на КВЗ у політэхнічным інстытуце, дзе вучылася яе сястра. Потым Фаціма з'ехала, і Андрэй лічыў хвіліну за хвілінай, каб сустрэцца, бо яна яшчэ была дома, у Полацку, а ў яго туга па родным горадзе ўзмацнілася настолькі, што цягнула, як магнітам да родных вуліц, да дома, дзе жыла ягоная жаданая Фаціма.

Доўгіх шэсць гадоў, ведаючы, што яна пакахала не яго, а таго сябра, з кім ён ехаў тады ў цягніку, ён стараўся пераламіць сітуацыю, таму што, як жыць без яе, не ўяўляў. Але нават тое, што сябра ажаніўся з іншай, і яны з Фацімой былі разам на яго вяселлі, не растапіла яе сэрца…

Ён звыкла адагнаў балючы ўспамін. Развітаўшыся з каханнем, потым шукаў дзяўчат і жанчын, заводзіў бясконцыя раманы, каб забыць яе, а вось зараз чамусьці ўзгадаў...

Андрэй выцерся махровым ручніком і стаў збірацца на цэнтральную плошчу. Новая кашуля і гальштук, любімы, у сінюю палоску касцюм рабілі яго салідным, як сказала бы жонка, імпазантным. Андрэй адносіўся да тыпу мужчын, якія прыгажэюць з гадамі, і нічым цяпер не падобны на цыбатага, з пушком над верхняй губой падлетка, якім быў трыццаць год таму.

На плошчы ўжо збіраўся народ.

— Андрэй Сямёнавіч, вітаю! — заўсміхаўся здалёк загадчык гарана Волкаў. Некалі ён быў проста Лёнікам Волкавым, з якім яны бавілі вольны час, калі Андрэй працаваў пасля інстытута ў школе. Лёнік таксама выкладаў матэматыку ў той жа школе, але яго неўзабаве забралі інструктарам у райкам камсамола.

Амаль кожны дзень яны блукалі па полацкім «Брадвеі», які насіў імя заснавальніка навуковага камунізму Карла Маркса, часам заходзілі ў кафэшку ў Доме афіцэраў ці на танцпляцоўку ў парку над Дзвіной.

Неяк выбраліся разам у сельскую школу-інтэрнат, дзе працавалі пасля размеркавання маладыя настаўніцы. Адна, светлавалосая, з доўгай касой, ладна збітая Святлана праз год стала Лёнікавай жонкай, а Андрэй быў у сябрука за сведку.

— Прывітанне, Леанід Генадзевіч, рады цябе бачыць, — сухавата адказаў Андрэй.

Ён так і не здолеў забыцца на тое, што калі праз два гады працы ў школе паехаў у Мінск уладкоўвацца ў інстытут гісторыі і яго не ўзялі з-за таго, што не было прапіскі, вярнуўшыся ў родны горад, не мог уладкавацца на працу. Лёнік жа, які быў тады ўжо сакратаром райкама камсамола, пазбягаў сустрэчы з ім, бо нехта ў горадзе пусціў чутку, што ў Андрэя нейкія нелады з праваахоўнымі органамі.

Потым Андрэй паступіў у аспірантуру, стаў доктарам навук, загадчыкам кафедры буйнейшай ВНУ краіны, аўтарам і вядучым адной з праграм тэлебачання, і хоць па пэўных мерках — не надта вялікі начальнік, але ўсё ж — вядомы ў краіне чалавек.

І Волкаў стараўся загладзіць былое непаразуменне, адрадзіць сяброўства, нават пару разоў прыязджаў да Андрэя ў Мінск, але старая крыўда ўсё ж не праходзіла.

Андрэю было прыемна бачыць старых знаёмых, тых, каго ведаў яшчэ з дзяцінства, з кім працаваў на заводзе і ў школе.

Заўсміхаўся Паўлу Апанасавічу Сташкевічу, высокая постаць якога з Зоркай Героя Сацыялістычнай Працы выдзялялася з натоўпу. Гэта першы год, калі Андрэй не паступіў пасля школы ў інстытут, давялося пайсці працаваць вучнем слесара на завод шкловалакна. Яго тады прымацавалі вучнем да Паўла Апанасавіча, імя якога грымела паўсюль, партрэт красаваўся на Дошцы гонару, ад карэспандэнтаў, жадаючых пісаць пра Героя, адбою не было.

Шчыра кажучы, прафесія слесара не дужа вабіла Андрэя, рукі ў яго, па словах Паўла Апанасавіча, не з таго месца раслі, але неяк яны з настаўнікам сышліся. Ён вельмі любіў слухаць расказы Сташкевіча пра тое, як ён дванаццацігадовым хлапчуком з Ушаччыны стаў сувязным і разведчыкам партызанскага атрада, як стаў потым сынам палка і разам з байцамі дайшоў да Берліна, як закончыў службу на Далёкім Усходзе і прыехаў у напаўразбураны Полацк, як будавалі завод, на які прыйшоў працаваць. Завод шкловалакна ў Полацку на той час быў сапраўдным гігантам, даў магчымасць сотням дзяўчат і хлопцаў атрымаць рабочую прафесію, інтэрнат, нядрэнныя заробкі.

— Не выйдзе з цябе слесара, — уздыхаючы гаварыў Павел Апанасавіч, — гледзячы на тонкія пальцы вучня, — але хлопец ты неблагі, башкавіты, так што вучыцца табе трэба.

І праз некалькі гадоў, калі Андрэй ужо стаў кандыдатам навук, пры сустрэчы сказаў:

— Рады за цябе. Добра, што на заводзе не застаўся. Як кажуць, хто на каго вучыўся. Так што рухай навуку!

Сёння ветэран, яшчэ больш сівы, даўно ўжо на пенсіі, але прыходзіць на ўсе гарадскія мерапрыемствы, куды яго запрашаюць як ганаровага грамадзяніна горада.

Яшчэ з адным чалавекам было прыемна ўбачыцца. Гэта яго былы трэнер Васіль Сіваграк — такі ж магутны ў плячах, такі ж выкшталцоны, у дарагім касцюме. Ён і тады, у Андрэевым дзяцінстве, вылучаўся сярод іншых сваім знешнім выглядам. Родны брат алімпійскага чэмпіёна па штанзе Івана Сіваграка, ён нейкім цудам трапіў пасля інстытута фізкультуры ў Полацк, ды так і застаўся ў горадзе надоўга.

Сам па спартыўнай кваліфікацыі кідальнік молата, ён стаў трэніраваць лёгкаатлетаў. Андрэй прыйшоў у секцыю лёгкай атлетыкі дзіцячай спартыў-

най школы пасля няўдалай спробы стаць гімнастам. Што паробіш, не атрымлівалася ў яго ніяк скакаць праз каня, ды і на брусах не надта ладзілася. У футбольную секцыю паступіць было цяжка, а ў секцыю па лёгкай атлетыцы бралі ўсіх жадаючых.

Новы малады трэнер пасля некалькіх трэніровак пакінуў Андрэя і яшчэ аднаго хлопца.

— Ты, Паша, зоймешся бегам з бар’ерамі, а цябе, Андрэй, зраблю чэмпіёнам у бегу на сярэднія дыстанцыі.

Паша быў высокі, худы, з доўгімі нагамі. Андрэй жа нашмат саступаў яму ў росце, з тоненькімі рукамі, пазбаўленымі нават слядоў біцэпсаў. Адзінае, што бегаў, здаецца, няблага.

Але, як растлумачыў трэнер, у яго ідэальныя дадзеныя для бегуноў на чатырыста і восемсот метраў: высокая стартавая хуткасць, невялікі рост, толькі трэба набыць вынослівасць.

— І падкачацца, — дадаў трэнер. — Сіл паднабрацца, жалеза пацягаць.

Пачаліся знясільваючыя трэніроўкі: прысяданні і скачкі праз прыступкі з важкімі металічнымі блінамі ў руках, жым штангі лежачы, дзясяткі кругоў па бегавой дарожцы адзінага ў горадзе стадыёна «Лакаматыў»…

— Давай, давай, Андрэй! Я з цябе чэмпіёна Еўропы зраблю!

Але Андрэй не надта верыў у тое, што стане чэмпіёнам Еўропы. Хацелася нечага іншага: гуляць у футбол, хадзіць у драматычны гурток, праседжваць гадзінамі ў чытальнай зале бібліятэкі, шукаць скарбы ў раскопках на беразе Дзвіны… І ён рашыў кінуць секцыю.

Андрэй стаў хавацца ад Сіваграка. Не раз ён са страхам уяўляў зычны голас трэнера, які прымусіць зноў цягаць тыя ненавісныя жалезныя бліны.

Але ўсё абышлося. Праўда, з футбольнай секцыі, куды ён паступіў неўзабаве, яго адлічылі, бо не выканаў нарматывы па скачках у вышыню… На гэтым яго спартыўная кар’ера закончылася.

Сіваграк, між тым, здаецца, не памятаў свайго былога выхаванца. Пазнаёміліся яны зноў у час адной з навуковых канферэнцый у музеі беларускага кнігадрукавання, бо Сіваграк захапіўся гісторыяй Полацка і нават выступаў з дакладам пра старажытныя рукапісы.

«Вось табе і абяцанне выгадаваць чэмпіёна Еўропы!» — падумаў тады Андрэй.

Народ на плошчы пачаў строіцца ў калону. Заблішчэлі трубы духавога аркестра, наперадзе фарміравалася калона перадавікоў з чырвонымі стужкамі.

«Зусім, як раней, — падумаў Андрэй, — нібыта нічога не змянілася за гэтыя дваццаць гадоў».

Ён добра памятаў ранейшыя ўрачыстасці, сам не раз крочыў у калоне роднай школы. Яўка на любую такую дэманстрацыю была абавязковай. Калі нехта ў гэты дзень з’язджаў з горада, павінен быў прынесці даведку аб вызваленні. Тым не менш, было весела, бо пасля шэсця збіраліся купкамі, ішлі на бераг Дзвіны або ў якую-небудзь кафэшку, часам тусоўкі зацягваліся да позняга вечара.

Ён не ведаў, як збіралі калону зараз, але людзей было нямала. Пад гукі аркестра людскія шэрагі пайшлі па цэнтральным праспекце. Паабапал, на тратуарах, стаялі людзі, чуліся вітанні, многія здымалі шэсце на фотаапараты і мабільныя тэлефоны. Наперадзе ішлі кіраўнікі на чале з мэрам, за імі перадавікі і ганаровыя госці.

«Вось бы мама парадавалася», — мільганула ў галаве. Андрэева мама, якой ленінградская блакада не дала давучыцца ў пединстытуце, заўсёды хацела, каб яе сын атрымаў вышэйшую адукацыю, выйшаў у людзі. Яна, сціплы бухгалтар у канторы маленькага заводзіка, дзе выпускалі гузікі, заўсёды прыносіла яму з бібліятэкі цікавыя кніжкі, хадзіла з ім у кіно і на канцэрты прыезджых артыстаў. Некалькі разоў яны ездзілі ў горад юнацтва Ленінград, дзе жыў яе брат, падчас вайны франтавы карэспандэнт, што дапамагло яму пераправіць яе, ледзь жывую ад голаду, праз Ладагу на Вялікую зямлю.

Бацька ж, франтавы разведчык, прыйшоў з вайны без рукі, працаваў на тым жа заводзіку вартаўніком, часта браў чарку, але сына любіў фанатычна, і вельмі перажываў, што хлопец не цікавіцца ягонай даваеннай прафесіяй печніка.

Ён не надта радаваўся, калі сын перабраўся ў Мінск, і застаўшыся без жонкі, Андрэевай мамы, якая ціха пайшла на той свет, чакаў у госці сына з унукамі, і гэта была яго адзіная радасць.

Бацька пражыў амаль дзевяноста гадоў, так і не пабываўшы ў гасцях у сына, хоць Андрэй яго не раз запрашаў…

Калона, прадэфіліраваўшы па праспекце, вярнулася на плошчу, дзе ўжо былі расстаўлены крэслы для ганаровых гасцей перад вялікай сцэнай.

Вядучыя бадзёра павялі рэй, і пачалася ўрачыстасць.

Дождж даўно прайшоў, сонца прыпякала і хацелася спаць. Андрэй не надта ўслухоўваўся ў прамовы, не сачыў, як на сцэну выходзілі адзін за адным кіраўнікі прадпрыемстваў, рабочыя — пераможцы перадсвяточнай вахты.

Затым пачаўся канцэрт. Мясцовыя выканаўцы старанна капіравалі папулярных зорак, і гэта выклікала ў Андрэя іранічную ўсмешку.

Але зусім ён ажывіўся, калі на сцэну выйшаў ганаровы госць, вядомы кампазітар, аўтар некалі папулярных шлягераў. Маленькі, лысы, ён доўга гаварыў пра сумесныя праекты з Алай Пугачовай і Філіпам Кірковым, пра сяброўства з Іосіфам Кабзонам…

«А цяпер я выканую для вас сваю новую песню “Ніндзя”», — з гонарам аб’явіў кампазітар.

«Самы раз у Полацку — “Ніндзя”, — ледзь не засмяяўся ўголас Андрэй. — Ну не разумее маэстра, дзе ён і для чаго».

Завяршаўся канцэрт масавай дзіцячай танцавальнай кампазіцыяй. Дзеткі самых розных узростаў, ад самых маленькіх да падлеткаў, па задуме рэжысёра павінны былі адлюстроўваць шчаслівае дзяцінства і светлую будучыню.

«Толькі будучыня чамусьці пад Майкла Джэксана танцуе, — зноў з сумнай іроніяй зазначыў для сябе Андрэй, услухваючыся ў англійскія словы, якія нясліся з дынамікаў. — Цікава было б уявіць, як недзе ў Каліфорніі дзятва танцавала б пад песняроўскія “Касіў Ясь канюшыну”».

Канцэрт закончыўся. Народ пачаў патроху разыходзіцца. Праз пару гадзін па праграме павінен быў быць фуршэт, і Андрэй рашыў пакуль прайсціся да Сафійкі. Па дарозе падышоў да латка, якіх на плошчы было шмат. Пахла дымам і шашлыкамі, нібы на грузінскім пляжы. Андрэй папрасіў бутэрброд з чырвонай рыбай і шклянку чаю. Сустракацца пакуль ні з кім не хацелася. Крыху перакусіўшы, ён адправіўся па сваім дзіцячым маршруце — уверх, праз бальнічны гарадок, мінуючы справа Вал Івана Грознага і Стралецкі завулак. Месца гэта звалася Верхні замак.

Вулку гэтую Андрэй вельмі любіў. Тут перш, чым падняцца да Бальнічнага гарадка, злева былі карпусы былога Кадэцкага корпуса, а раней —

Езуіцкай акадэміі. У іх да нядаўняга часу быў шпіталь, але пасля доўгага змагання з ваенным ведамствам карпусы перадалі ўніверсітэту і карціннай галерэі.

Андрэй ішоў нетаропка, углядаючыся ў змены на знаёмай вулцы, і нават не адразу пачуў жаночы голас.

Ён азірнуўся. Аклікала яго сярэдніх гадоў жанчына, з тварам, які выдаваў былую прыгажосць, апранутая крыху архаічна, але з густам.

Усмешка жанчыны падалася знаёмай, але адразу Андрэй не змог узгадаць, хто перад ім.

— Не пазнаеш? — па-беларуску спытала жанчына.

— Валя? Валянціна? — крыху няўпэўнена запытаў Андрэй. — Яшчэ як пазнаю!

— Так, менавіта на гэтым месцы, — засмяялася Валянціна, — амаль на Стралецкім завулку. Памятаеш?

Як жа было Андрэю не памятаць гэты завулак? Там, за Валам Івана Грознага была драўляная хата Валянцінінай цёткі. А насупраць, у невялікай прыбудове, жыла яна сама. Андрэй не раз бываў у дзявочым пакойчыку, заставаўся там да позняй ночы, мог нават застацца назаўсёды…

Ён не ведаў, як працягваць далей размову, бо з папярэдняй, якую Андрэй не любіў успамінаць, прайшло больш за дваццаць пяць гадоў.

Валянціна пачала першай.

— Я вось толькі што прыляцела з Іркуцка, — зноў па-беларуску загаварыла яна, — да роднай хаты пацягнула. Цёця Броня памерла, Ванда ў Наваполацку жыве, а тут жылі кватаранты ў маёй былой прыбудове, ды з’ехалі, і пустая цётчына хата…

Як працягваць далей размову, Андрэй не ведаў, і машынальна перапытаў:

— З Іркуцка?

— Так, з Іркуцка, — роўным голасам адгукнулася жанчына. — Там муж служыў, адтуль у Афган трапіў і не вярнуўся. Там кватэра, там і жыву.

Валянціна заўсёды любіла афіцэраў. Бацька яе таксама быў афіцэр і на той час, калі яны пазнаёміліся, служыў у ГДР. А лёс іх звёў пасля таго, як Валянціна разышлася з жаніхом-афіцэрам.

Іх першае, мімалётнае знаёмства, здавалася, не павінна было мець такі працяг. Неяк на танцпляцоўцы, куды выпадкова завіталі Андрэй з нязменным сябруком па мянушцы Джэксан, яны ад нечага рабіць пачалі лёгкі флірт з дзяўчатамі, адна з якіх і была Валянціна, і нават праводзілі іх дадому.

Праз пэўны час Валянціна знайшла яго сама.

— Ці можам мы сустрэцца? — спыталася тады, патэлефанаваўшы раптам увечары.

Андрэй тады пасля размовы з Фацімой, якая чарговы раз знайшла прычыну, каб не прыйсці на спатканне, быў крыху раззлаваны і грубавата адказаў:

— А навошта?

— Я табе ўсё растлумачу. У мяне непрыемнасці, мне дужа адзінока, і вельмі хацелася б тваёй дапамогі.

Голас у яе быў сапраўды расстроены, здавалася — вось-вось заплача, што Андрэй дужа не любіў.

— А чым я магу дапамагчы?

— Прыходзь да мяне.

Яна назвала адрас, менавіта той, на завулку Стралецкім.

— Мне здрадзіў жаніх, паступіў са мной подла. Аказаўся самым сапраўдным мярзотнікам. Мне зараз так цяжка, што жыць не хочацца. Ты не думай,

я ад цябе нічога патрабаваць не буду. Толькі пабудзь побач. Будзем проста сябрамі.

Гэта гучала неяк ужо надта дзіўна, нават крыху тэатральна. «Але хто ведае, — падумаў тады Андрэй. — Мне таксама не соладка».

Потым яны пілі чай у яе бакавушцы, крыху паглядзелі тэлевізар, і Андрэй рушыў дадому.

Назаўтра Валянціна патэлефанавала зранку.

— Ты ведаеш, учора я не рашылася папрасіць… Сёння я запрошана ў рэстаран. Сяброўка адзначае заручыны. Сустрэча намечана яшчэ месяц назад. Мне няёмка ісці адной. Калі ласка, складзі кампанію, за ўсё ўжо заплачана, ад цябе патрэбна толькі прысутнасць.

Яна выпаліла гэта хутка, быццам баючыся, што Андрэй перарве размову. І толькі пад канец выдыхнула:

— Прыйдзеш?

Яны сядзелі за столікам учатырох. Сяброўка аказалася той самай дзяўчынай, якая была з Валянцінай на танцпляцоўцы. Яна раз-пораз з непрыхаванай цікавасцю паглядала на Андрэя. Хлопец жа відавочна быў не ў курсе справы, успрымаў Андрэя як Валянцініната жаніха і свяціўся лагодай і прыязнасцю.

Вярталіся па праспекце пешшу. Сыпаўся мяккі сняжок, лёгкі марозік прыемна пашчыпваў шчокі. Валянціна здавалася вясёлай і жыццярадаснай. Яны кідаліся снежкамі, жартавалі. Андрэй паслізнуўся, стварылася куча-мала, і раптам ён адчуў пад расхінутай футрай гарачыню Валянцінінага цела. Яго нібы абдало магутнай хваляй жарсці, бо з Фацімой было ўсё не так — цнатліва і захоплена.

З Валянцінай яны цяпер сустракаліся амаль штодня. Хадзілі ў кіно, гулялі па горадзе, вярталіся ў яе бакоўку…

Яна была сапраўды прыгожая, вабная, і Андрэй проста трымцеў ад нясцерпнага жадання.

Валянціна нібы забылася на тое, што яны меліся проста сябраваць, ды і сяброўствам іх адносіны ўжо назваць было цяжка. Між тым, сэрца Андрэя па-ранейшаму займала Фаціма, і хоць з Валянцінай яму было добра, але ён увесь час думаў толькі пра Фаціму.

Андрэю было сорамна, што ён нібы дае нейкую надзею Валянціне, і ўвесь час хацеў пагаварыць з дзяўчынай, расставіць усе кропкі над «і», і такая нагода знайшлася.

Неяк, вяртаючыся з гасцей ад яе сяброў, яна, асабліва пяшчотна прыціснуўшыся плечуком, сказала:

— Слухай, а давай з’едзем у Брэст! Там бацькоўская кватэра пустая стаіць, аж тры пакоі.

Андрэй быў тады на падпітку, што дадало яму смеласці.

— А больш ты нічога не хочаш? Мы ж толькі сябры.

— Ах, сябры? — раптам узвілася Валянціна. — І ў маім ложку таксама былі сябрамі? Усе вы такія! Што? Паматросіў і кінуў?

Гэты раптам бабскі базарны тон, гэты крык у Андрэя выклікаў раздражненне і абурэнне. Ён нагаварыў нешта злоснае, непрыгожае, пра што было сорамна ўзгадваць потым, і пайшоў прэч.

Болей на тэлефонныя званкі ён не адказваў і сам не тэлефанаваў.

Неяк прыблізна праз паўгода Валянцініна суседка, сустрэўшы яго на вуліцы, сказала, што тая выйшла замуж за афіцэра і з’ехала з ім некуды ў Расію.

І вось цяпер яна стаяла перад ім, пастарэлая, але ўсё ж вабная сталай жаночай прыгажосцю.

— Давай зойдзем да мяне, — раптам прапанавала Валянціна. — Не бойся, заляцацца не буду. Проста пагаворым. Ёсць пра што расказаць.

Нечакана для сябе Андрэй згадзіўся. Гэта яе новае аблічча, гэтая беларуская мова зацікавілі яго. Ды і сапраўды, дзяліць цяпер не было чаго.

Пакойчык аказаўся амаль той жа самы, і мэбля амаль не памянялася.

— Цяпер тут ніхто не жыве. Спачатку цётка трымала кватарантаў, а потым пляменнікі ад іх адмовіліся.

Яна працягвала далей:

— Пачыналі мы жыццё ў самым аддаленым гарнізоне, аж амаль на Новай Зямлі. Потым мужа накіравалі ў акадэмію, даслужыўся да палкоўніка, камандаваў дэсантнай брыгадай. А гэта ж у той час — Афган. Я дома з двума дзецьмі, нібыта супакойвалася, бо вайна заканчвалася. А загінуў ён, як ужо войскі выводзілі.

А хлопец убіў у галаву, што будзе, як бацька, афіцэрам. Паступіў у ваеннае вучылішча. Я плакала, прасіла яго кінуць гэтую вучобу, нават фіктыўныя даведкі збірала, каб «адкасіць» яго ад войска. А ён, ну ні ў якую! І бяда не прымусіла чакаць. Пачалася першая чачэнская. Дзевятнаццаць гадоў яму было…

Яна паднесла да вачэй насоўку.

— А вось дачка знайшла сабе хлопца-беларуса з перасяленцаў у нас, у Іркуцку. Яго дзяды па сталыпінскай рэформе туды прыехалі.

А яна хадзіла ў беларускае таварыства ў нас. Там яго, дарэчы, узначальвае былы афіцэр, родам з Полацка, Алег. Яна і мяне туды зацягнула. Спяваем песні, выступаем з канцэртамі, збіраем фальклор. Я крыху і адтала, вось Радзіму прыгадала. У Полацку па-беларуску не гаварыла, а ў Іркуцку прабіла на родную мову.

Андрэй слухаў і здзіўляўся. Валянціна, якую ён лічыў недалёкай, заклапочанай сабой і пошукам лёгкага жыцця, паўставала перад ім зусім іншай: мудрай, мужнай.

І ўжо зусім нечаканым было яе стаўленне да мовы, роднай культуры. Зрэшты, ён не раз пераконваўся ў тым, што калі чалавек адарвецца ад Радзімы, пачынае разумець сваю прыналежасць да сваіх каранёў, вяртаецца да спрадвечных высноў патрыятызму. Гэта як у славутай песні: «Каб любіць Беларусь нашу мілую, трэба ў розных краях пабываць…»

Яму было сорамна і за ранейшае стаўленне да Валянціны, за яго грубыя словы, сказаныя даўно, і за тое, што ён у параўнанні з ёй не мае такіх клопатаў, не перажыў такой страшнай трагедыі.

Відаць, зразумеўшы гэта яго разгубленае маўчанне, Валянціна прамовіла:

— А ведаеш, я ні пра што не шкадую. І тое, што ў нас не склалася, значыць, так павінна было быць, хоць мне вельмі хацелася быць з табой. Замуж выйшла з адчаю, са злосці, але прыцярпелася, прывыкла, чалавек ён быў харошы. А потым дзеці як узнагарода… Але, відаць, Богу было заўгодна, каб прайсці такія выпрабаванні, каб зразумела многае.

І, пераводзячы размову на другую тэму, дадала:

— Вельмі хацелася вярнуцца дадому, да роднай Дзвіны, да Сафійкі, да гэтага Стралецкага завулка. Але ж там дачка, кватэра, там падрастае ўнучка, там ужо мой дом… Вось пабуду яшчэ тыдзень і паеду.

Гарбата ўжо даўно астыла, званы фуршэт, куды збіраўся Андрэй, відаць, пачаўся, і Андрэй не ведаў, што рабіць. Хацелася і сказаць нешта цёплае, ласкавае, нават прытуліць Валянціну да сябе, але нешта перашкаджала.

Урэшце ён падняўся з-за стала, паднёс Валянціміны тонкія пальцы да вуснаў і на момант затрымаў у пацалунку.

Яна сумна ўсміхнулася, памкнулася было бліжэй, але спынілася і, адняўшы руку, сказала:

— Бывай, дарагі. Я ж і не спыталася, як у цябе, ці ўсё добра, ці маеш сям'ю?

— Так, усё ў парадку. Жонка, дачка, сын…

— Ну дык хай будзе ўсё добра. Хай Бог ратуе.

Андрэй выйшаў са знаёмага двара і падаўся да Сафійкі. Хацелася пабыць аднаму. На душы было даволі пагана. Хто мог падумаць тады, у іх юнацтве, што будуць войны, што на іх будуць гінуць людзі, што не стане краіны, якой прысягалі і тыя ж чэчэнцы, і ўзбекі, і грузіны… Што тая ж самая Валянціна, якая марыла пра шчаслівае сямейнае жыццё, замест гэтага перанясе столькі гора, страціўшы адразу двух самых блізкіх і дарагіх людзей.

А колькі беларускіх хлопцаў палегла ў далёкіх афганскіх гарах, у іншых «гарачых кропках»!.. А нехта ў гэты ж самы час жыраваў, піў, гуляў, а цынкавыя труны даставлялі мацяркам маладзенькія салдаты з усіх куткоў Савецкага Саюза.

Каля Сафійкі было людна. «Відаць, чарговая экскурсія», — падумаў Андрэй. Ён узгадаў, як у дзяцінстве ляжаў у бальніцы, чырвоны корпус якой быў у некалькіх дзясятках метраў ад Сафійкі. Быў канец мая, час, калі буяла зеляніна, цвіў бэз.

Хворыя ў шэрых халатах сядзелі проста на першай траве над дзвінскай стромай, гулялі вакол храма, у якім тады быў нейкі склад. Андрэй доўга стаяў, гледзячы на ваду, на месца, дзе вузкая змейка Палаты ўлівалася ў шырокую плынь Дзвіны. Яму ўяўляліся магутныя стругі, на якіх купцы везлі ў Рыгу тавары, напоўнены людзьмі пляц каля Сафійскага сабора, пабудаванага славутым Усяславам Чарадзеем. Ён тады не мог уявіць, што гэты пляц будзе запоўнены экскурсантамі, што ў Сафійцы будзе канцэртная зала з арганам…

Незнаёмыя людзі фатаграфаліся каля Барысавага каменя. Раней яго тут не было. Гэты чырвоны валун з надпісам «Божа, памажы рабу свайму Барысу» ляжаў на дзвінскім дне і быў такі не адзін, бо некалі слабы на здароўе полацкі князь Барыс загадаў размясціць некалькі такіх валуноў па цячэнні ракі, каб Бог пачуў яго просьбу і падараваў яму здароўе. Гэты ж, бадай, адзін з найвялікшых камянёў, выцягнулі з ракі аквалангісты, бо ён мог назаўсёды знікнуць пад вадой, таму што мелася будавацца магутная ГЭС у Латвіі, і тады гэты раён мог стаць шырокім і глыбокім вадасховішчам.

ГЭС, дзякуй Богу, між тым, не пабудавалі, але камень заняў сваё месца побач з Сафійкай, нібы там яму было быць наканавана.

Пайшла пагалоска, што калі дакранешся да ягонай шурпатай паверхні, то будзе шчасце і спраўдзіцца любое загаданае жаданне. І цяпер шматлікія экскурсанты нібы адпаліравалі яго сваімі далонямі.

Андрэй, хоць ставіўся да гэтага іранічна, таксама падышоў да валуна, дакрануўся рукой да яго цёплай шурпатай паверхні. Нечакана ў далонь, нібы ветрыкам, падзьмула цяплом, подыхам такой пяшчоты, што ў Андрэя нават дыханне заняло.

Нібыта тая далёкая пара юнацтва, і нядаўняя гутарка з Валянцінай, і гэтае паветра роднага горада спляліся ў нейкі чароўны клубок. Андрэй амаль фізічна адчуў гэты парыў пяшчоты, трапяткі і высокі, што да вачэй падступілі слёзы. Ён нават падзівіўся самому сабе, гэтаму адчуванню, бо, здаецца, ніколі не быў надта сентыментальны.

Андрэй адарваў руку ад каменя і рушыў да знаёмай выспы. Як заўсёды, унізе, ля самага вусця, было некалькі вудароў. Яны стаялі па калена ў вадзе, чакаючы, што затрапеча на канцы пластмасавага вудзільна спрытная плотка або хітры шчупак і нават палатоўскі мянтуз, які памкнецца ў чыстую дзвінскую плынь. Адрэй успомніў, як ягоны мінскі вучоны настаўнік, а таксама і полацкі зямляк распавядаў, як у гады яго яшчэ даваеннай маладосці яны з бацькам лавілі на Палаце самоў і ментузоў, як на вузкім чоўне заплывалі на шырокую плынь дзвінскай вады.

Высокі вісячы масток праз Палату вёў у Запалоцце, былую вёску, а яшчэ раней — старадаўняе полацкае гарадзішча, адкуль, прынамсі, і пачынаўся старажытны Полацак.

Андрэй спусціўся па крутых прыступках і, не заходзячы ў само Запалоцце, пайшоў уздоўж берага, зарослага густымі хмызамі і вербалозам, па вузкай сцяжынцы, за якой адкрываўся вялізны луг, дзе летам заўсёды цвілі прыгожыя кветкі, дзе пасвіліся козы з блізкіх запалоцкіх падвор'яў. Далей сцяжына выводзіла на невялікі завулак, які прытуліўся на высокім беразе.

Некалі Андрэй тут бываў ледзь не кожны дзень. У невялікай хацінцы тут з маці і сястрой жыў яго аднакласнік і сябра. Высокі, мажны, загарэлы да чарнаты, ён лёгка адгукаўся на мянушку «Дзядька Том», бо інакш, як хіжына, гэтую драўляную нізенькую хатку ўсяго на два пакоі назваць не выпадала.

Выдатны спартсмен, таленавіты мастак, ён яшчэ пісаў вершы, быў майстар на ўсе рукі. Здавалася, што ў хлопца ўсё зладзіцца ў жыцці, але…

Дзядзька Том камплексаваў з-за вялікага шрама на шчацэ, апаленай скуры на твары, хаця Андрэй не раз спрабаваў яму давесці, што гэта ніяк не кідаецца ў вочы, а нават упрыгожвае сапраўднага мужыка.

Маці яго працавала прыбіральшчыцай, была малапісьменная, і Дзядзька Том з-за гэтага таксама пакутаваў, бо ў яго сябрукоў, у тым ліку і ў Андрэя, бацькі мелі іншы сацыяльны статус. І хоць вакол усе цвердзілі, што савецкія людзі ўсе роўныя, на справе гэта было не так.

Як да Андрэя, то права лідарства ён быў гатовы аддаць сябруку, і часта пераконваў яго ў тым, што той даб'ецца поспехаў у жыцці.

Але з гадамі Том станавіўся ўсё большым дзіваком. Сустрэў прыгожую добрую дзяўчыну, але не паверыў у яе каханне, пакутаваў сам і прымушаў пакутаваць і яе. Ён нават стаў раўнаваць іх трэцяга сябра, падазраючы, што той за яго спінай падтрымлівае адносіны з яго каханай.

Паступаючы ў інстытут, ён пайшоў здаваць экзамен за суседа па інтэрнаце, быў выкрыты і, нягледзячы на высокія ўласныя ацэнкі, яго не дапусцілі да далейшых іспытаў.

Больш паступаць не захацеў, пайшоў працаваць мастаком у райспажыўсаюз, захапіўся рознымі халтуркамі…

А там, дзе лёгкія грошы, там і чарка… Андрэй да апошняга спадзяваўся, што ўсё гэта пройдзе, некалькі разоў спрабаваў памагчы сябруку, зводзіў яго са знаёмымі мастакамі, якія хвалілі талент полацкага самавука, але далей сумесных п'янак справа так і не ішла…

Потым памерла маці, выпадкова згарэла хаціна, і жыццё Дзядькі Тома пакацілася пад адхон.

Пра яго смерць Андрэй даведаўся амаль праз паўгода, і доўга перажываў, што нават не праводзіў сябрука ў апошні шлях.

І цяпер, стоячы на месцы былой хаты старога сябра, Андрэй узгадаў іх апошнюю сустрэчу ў Мінску. Быў Вялікдзень, Дзядзька Том паспеў пабываць

у царкве і прынёс да Андрэя свечкі на ўсю сям'ю. Яны ўдвох сядзелі да самай раніцы за прыбраным сталом, было хораша, як у юнацтве.

Дзядзька Том, пастарэлы, але яшчэ мажны і маладжавы, гаварыў, што хацеў бы купіць сабе хату пад Мінскам, заняцца сапраўднай творчасцю… Але гэта ўжо Андрэй чуў з дзясятак гадоў і слаба верыў, што такое здзейсніцца, бо, мяркуючы па ўсім, у сябрука на здзяйсненне такіх планаў ужо не было ні сіл, ні грошай.

…Андрэй рушыў далей да Чырвонага моста праз Палату і пайшоў да цэнтра ўздоўж Вала Івана Грознага, зрабіўшы такім чынам круг, нібы акальцоўваючы старажытную частку горада. Цяпер да вала вялі прыступкі, бо з той унутранай часткі насыпу, скарыстаўшы яго рэльеф, зрабілі лаўкі гарадскога стадыёна з футбольным полем. Увогуле, гарадскія ўлады раней дужа любілі прыстасоўваць гістарычныя мясціны пад новыя патрэбы: другі стадыён быў на месцы старажытных яўрэйскіх могілак, пад склады былі прыстасаваны Сафійка і Багаяўленскі сабор, а ў келлях Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра зрабілі камуналку. А ўсім жыхарам было вядома, як у сярэдзіне шасцідзясятых мінулага стагоддзя расчышчалі цэнральную плошчу ад Мікалаеўскага сабора, які вянчаў карпусы Кадэцкага корпуса.

Андрэй быў зусім малы, яны з мамай сядзелі на дзіцячым сеансе ў кінатэатры «Радзіма», калі ў зале раптам пагасла святло, а потым зноў уключылася, і выйшаў да экрана пажылы сівы мужчына і сказаў:

— Дзеці, не хвалюйцеся, гэта ўзарвалі Кадэцкі корпус.

Цяперашні мэр быў ужо зусім іншы. Ён хадзіў на набажэнствы ў манастыр, сябраваў з уладыкам, пры ім у горадзе было пастаўлена некалькі помнікаў, адноўлены карпусы Езуіцкага калегіума, ён вітаў у горадзе гісторыкаў, творчых людзей, сам пісаў вершы.

…На плошчы было людна. На сцэне шчыравалі нейкія хлопцы з гітарамі. Імітавалі цяжкі рок. З дынаміка несліся іх хрыпатыя галасы.

Андрэй усміхнуўся сам сабе, бо хлопцам відавочна здавалася, што яны спяваюць па-англійску. Андрэй крыху ведаў мову, часта бываў на семінарах за мяжой, дзе англійская мова была рабочай, таму яго забаўляла, як музыкі бязбожна скажаюць англійскія словы.

«Не каб на сваёй роднай, дык не — туды ж, як Дунька ў Еўропу, — звыкла падумаў Андрэй. — І "Песняры" для іх не прыклад. Добра, хоць Цімаці не падражаюць». Яго заўсёды дзівіла гэтае запабяганне сваіх артыстаў перад усім нянаскім, абы толькі не па-беларуску.

Са школьных гадоў ён памятаў, як стараліся некаторыя яго аднакласнікі пазбавіцца ад вывучэння беларускай мовы: даставалі фіктыўныя даведкі, прыкідваліся страшна хворымі, і іх падтрымлівалі бацькі — у асноўным былыя вяскоўцы, якія самі размаўлялі на трасянцы і пазаканчвалі ў свой час беларускія школы.

«Дзярэўня» — называлі яны адзін аднаго, і так хацелася ім стаць гарадскімі, што вытраўлівалі ва ўласных дзетак сваю мову.

Андрэевы бацькі свайго хлопца ад мовы не вызвалялі, хоць бацька яго меў дзеля гэтага знаёмствы.

— Жывём у Беларусі, — значыць і мову сваю павінны ведаць, — казаў ён.

Хіба мог ён тады ўявіць, што сын стане вядомым гісторыкам, якія ўсе свае артыкулы і навуковыя працы будзе пісаць па-беларуску?

— Андрэй! — раптам паклікаў яго мужчынскі голас.

Ён азірнуўся. Гэта быў Сашка Зуёнак, раздабрэлы, важны, у дарагім гарнітуры, але з ранейшай знаёмай усмешкай.

— Прывітанне! Даўно цябе не бачыў!

— Прывітанне. І я. Што ты, хто ты цяпер?

— Ну ты ж чуў? Быў намеснікам мэра. Цяпер вось ПМК узначальваю. У меліяратары падаўся, па першай спецыяльнасці.

З Сашкам Андрэй вучыўся ў адной школе, у паралельным класе. Той на вучобу не дужа налягаў, але добра гуляў у футбол, выступаў на сцэне, быў камсамольскім актывістам.

Так і пайшоў спачатку па камсамольскай, потым па партыйнай лініі.

— Які ж з цябе меліяратар? Ты ж завочна вучыўся, і ні дня на вытворчасці не працаваў, — не вытрымаў Андрэй.

— А, — засмяяўся Зуёнак, — галоўнае агульнае кіраўніцтва ажыццяўляць. А гэта я ўмею.

— Ты ведаеш, — тым часам працягваў Сашка, — памянялі кіраўніка і нас, з яго старой каманды, папрасілі. Мне яшчэ пашанцавала, а на таго-сяго і крымінальныя справы павесілі.

— І было за што? — пацікавіўся Андрэй.

— А, — Сашка махнуў рукой, — на нашага брата, калі захацець, заўсёды нешта павесіць можна. Там не тую паперу падмахнуў, там тэндар не так правялі… А што было, калі давілі розныя начальнічкі, асабліва тыя, хто бізнес крышаваў!.. Дзякуй богу, цяпер больш-менш парадак навялі, а тое, што было ў дзевяностых, страшна ўспомніць.

Андрэй добра памятаў, што было ў дзевяностых. Былыя функцыянеры станавіліся бізнесменамі, на паслугах у іх апынуліся злодзеі ў законе. Нават яго, гісторыка, далёкага ад усялякіх гешэфтаў, спрабавалі ўцягнуць у нейкую аферу, звязаную не то з поліэтыленам, не то з бензінам.

А Сашка між тым працягваў:

— Кажуць, што і гэты ненадоўга. Дзякуй богу, я сваю ПМК знайшоў, адсяджуся да пенсіі.

Андрэю не хацелася працягваць размову. Не любіў ён гэтыя плёткі, гэтыя жарсці барацьбы за крэслы і пасады. Нават калі яго абіралі загадчыкам кафедры, не было такога ўнутранага трымцення, радасці, што будзе кіраваць сваімі былымі настаўнікамі, аднагодкамі, якія не менш за яго зрабілі ў навуцы.

— А ты чаго не быў на фуршэце? — запытаўся Зуёнак. — Няўжо не запрасілі?

— Запрасілі, запрасілі. Проста старую знаёмую сустрэў.

— Знаёмую? — хітра заўсміхаўся Сашка, — Ці не Людмілу?

Людміла была ў іх школе першай прыгажуняй, выдатніцай. Усе хлопцы, пачынаючы з дзявятага класа, былі таемна закаханыя ў тоненькую стройную дзяўчыну з вялізнымі блакітнымі вачамі, ільнянымі косамі, якія абрамлялі яе мілавідны тварык.

Людміла нікому не дарыла знакаў увагі, і ўсе проста ахнулі, калі яна з'явілася пасля канікулаў з вялізным жыватом.

Тым не менш, экзамены яна паспела здаць і нават атрымаць медаль, хаця некаторыя маралісткі-настаўніцы былі катэгарычна супраць.

Полацк горад невялікі, і неўзабаве яшчэ больш папрыгажэлую Людмілу сталі часта бачыць у вясёлых кампаніях. Яна, скончыўшы завочна інстытут, працавала бібліятэкарам. Злыя языкі сярод аднакласнікаў сцвярджалі, што з Людмілай, калі пастарацца, можна завесці раманчык, але Андрэй у гэта не надта верыў. Тым не менш, слава такая да маладой жанчыны прыстала не на жарт, і, здавалася, Людміла сама змірылася з ёй і не надта старалася абвергнуць розныя плёткі вакол сябе.

— Не, не Людмілу, — суха адказаў Андрэй, даючы зразумець, што не вельмі хоча працягваць размову.

— Ну, Людміла — ужо заляжалы тавар, — не сунімаўся былы школьны прыяцель. — Можна нешта больш маладзейшае знайсці. У мяне на Суі запаветнае месцейка ёсць, саўна, шашлычкі. Дзяўчатак прыхопім, мая благаверная з дачкой у Егіпце па пуцёўцы, так што магу скласці кампанію.

Возера Суя было традыцыйным месцам адпачынку палачан, і Андрэй бываў там не раз. Але кампанія Сашкі з дзяўчатамі яго зусім не натхняла, таму ён ветліва, але цвёрда адмовіўся.

Ён відавочна стаміўся. Ад сустрэч. Ад успамінаў.

«Навошта гэта мне ўсё, — дакараў у думках сябе ён. — Вярнуцца ў былое немагчыма. Я ўжо зусім іншы і людзі таксама іншыя, хоць і былі мы некалі па жыцці разам».

Ён бачыў, што і на горад свой глядзіць крыху па-іншаму. Той хоць і папрыгажэў, стаў чысцейшы і больш утульны, але знакі правінцыйнасці Андрэй бачыў на кожным кроку.

Яму было сорамна за такія свае думкі, за тое, што ў душы радаваўся, што не застаўся тут назаўсёды. Было крыху вусцішна, бо вобраз роднага горада пастаянна грэў яго думкі ва ўсіх яго блізкіх і далёкіх падарожжах. Родны горад ён часта сніў і ў сваёй мінскай кватэры і ў гатэлях, дзе спыняўся падчас вандровак.

Здавалася, гэта надавала яму сіл, бо ведаў, што недзе ёсць родны кут, адкуль пайшоў у свет, вулкі і дрэвы, якія памятаюць яго малога, яго бацькоў.

Але сёння Андрэй разумеў, што яго горад усё больш становіцца для яго віртуальным, бо яго дом, яго гняздо ўжо ў шумным сталічным двары, дзе выраслі яго дзеці, дзе ёсць любімая праца, дзе побач сябры, аднадумцы, калегі.

Ад гэтага ўсведамлення на сэрца накатвалася туга, бо нібыта незваротна страчвалася нешта такое ўзвышанае і цнатлівае, такое трапяткое, бы першае каханне, якога ўжо не вернеш.

Але трэба яшчэ было перажыць вечаровы банкет у рэстаране, у той самай «Дзвіне», куды Андрэй з сябрамі часам забягаў, калі адзначалі чый-небудзь дзень народзінаў. У той час гэта быў адзіны рэстаран у горадзе, не лічачы чыгуначнага на вакзале, і для іх, юнакоў, быў сімвалам раскошы.

…На банкеце было тлумна і горача. Нудныя прамовы-тосты мясцовых начальнікаў і гасцей разбаўляліся канцэртнымі нумарамі — рэстараннай папсой пра белага лебедзя «на пруду» і левы бераг Дона ў выкананні салістаў мясцовага Дома культуры.

— Вы не можаце ў вас, у Мінску, пасадзейнічаць, каб на радыё запісацца? — гулліва пыталася салістка на высачэзных абцасах, зверху ўніз паглядваючы на Андрэя. — Там жа наш зямляк працуе нават нейкім начальнікам.

— А што запісаць? Левы бераг Дона? — Андрэй крыху падпіў і адчуваў, што яго заносіць.

— Чаму? У нас ёсць і іншы рэпертуар. Наш кіраўнік Славік напісаў песню на свае словы «Твои губы пахнут вишнями»…

Раптам Андрэй пачуў сваё прозвішча. Яму давалі слова для тоста.

— Дарагія сябры, — пачаў ён, калі яму перадалі мікрафон, — хутка прыгожае народнае свята Купалле. Па Дзвіне паплывуць вянкі, на берагах запалаюць вогнішчы. Юнакі і дзяўчаты будуць разам шукаць папараць-кветку. Тут гучала столькі песень, а не было сваёй, нашай. Давайце ж разам паспяваем.

І нечакана для сябе самога зацягнуў:

— Купалінка, Купалінка, цёмная ночка…

У зале спачатку запанавала цішыня. Не бразгалі відэльцы, сціхлі п’яныя размовы.

Андрэй чуў свой хрыплаваты голас і думаў: «Толькі б не расплакацца!»

І раптам пачуў, як спачатку падключыўся да яго спеву адзін жаночы голас, потым да яго далучыўся мужчынскі барытон. Потым яшчэ…

І над залай паплыло:

Твая дочка у садочку
Ружу-кветку поліць.
Ружу-кветку поліць,
Белы ручкі koліць…

Менавіта «поліць і коліць», як гавораць у іх на Полаччыне, а не так, як патрабуюць літаратурныя нормы.

— Слухай, забываемся мы на свае песні, сваю мову, — гаварыў потым яму ў час перакуру мажны лысы дзяцюк, — а я ж у беларускай школе вучыўся.

Андрэй не стаў працягваць размову, бо ён не любіў уголас гаварыць пра таемнае і глыбокае, бо мову ён бярог у сабе, як каштоўны і дарагі здабытак, як сваё апошняе і ўсеабдымнае каханне.

…І наступіла раніца. Другая ў родным горадзе, у дарагім гасцінічным нумары.

Галава крыху пабольвала, у роце сушыла.

«Нешта я ўчора захапіўся!» — папракнуў сябе Андрэй. Было крыху ніякавата, як кожны раз пасля дужа бурнага застолля.

За акном уставала сонца. Плошча, чыста вымытая ўчарашнім дожджыкам, весела блішчэла пад ранішнімі праменнямі, і, здавалася, нават бронзавы Скарына крыху павесялеў.

Андрэя зноў пацягнула на бераг Дзвіны. Некалькі рыбакоў з вудамі ўжо былі тут.

Андрэй убачыў са свайго высокага берага, як да вады спускалася жанчына. Яна павольна распраналася і ўрэшце засталася ў ярка-чырвоным купальніку. «Купацца яшчэ нібыта ранавата, — падумаў Андрэй, — бач, якая смелая!»

Жанчына ўвайшла ў ваду. Ад усёй яе постаці, такой па-жаночы вабнай, веяла ранішняй свежасцю і прахалодай, нейкай спрадвечнай прыгажосцю і цнотай.

Крыху пастаяўшы, яна паплыла. Рыбакі таксама адарваліся ад сваіх вудаў і праводзілі яе позіркамі.

Андрэй зноў, ужо ў другі раз адчуў у сабе магутны подых пяшчоты, цёплы і салодкі, нібыта мама прытуліла яго да сваіх грудзей.

Шырокая Дзвіна, знаёмы з дзяцінства сілуэт Сафійкі, былі, ён урэшце зразумеў, тым адзіным, чыстым і светлым, без чаго, здаецца, немагчыма жыць. Андрэй шукаў у сабе тыя словы, якія б растлумачылі яму гэтае пачуццё, але словы не прыходзілі, а быў толькі прыліў удзячнасці за гэты міг, за гэты подых, за тое, што ў яго ёсць гэты куток зямлі, яго пачатак, яго выток.

Гэты подых пяшчоты ён яшчэ доўга адчуваў у сабе, пакуль маршрутка імчала па дарозе на Мінск.



Марыя ДЗЮБАК

# «СВЯТЛО ЗАЎСЁДЫ ЁСЦЬ...»

* * *

Мілы край, мой абраны, мой ціхі,
Што парэцкай заву стараной!
Ты не зведай больш гора і ліха.
Ты іх зведаў без меры вайной.

А за борам там сонца начуе.
І да хат падступае разліў.
Там душэўныя раны лячу я
Сярод сцежак тых, пожняў і ніў.

Як жыццё, землякі-парачане?
Як ты дуж, край буйных журавін?
Ты вясны маёй светлае ранне.
І адзін ты на свеце, адзін.

## СВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ ЭДУАРДА ЗУБРЫЦКАГА

«Азораны дасвеццем і бяссмерцем»,
Ён — Чалавек ад неба, ад зары,
Святло душы, як майскія суквецці,
Працягвае і сёння нам дарыць.

---

*__Дзюбак Марыя Браніславаўна__ нарадзілася 24 лютага 1955 года ў вёсцы Парэчча Докшыцкага раёна Віцебскай вобласці. Скончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1977). Працавала настаўніцай, а потым дырэктарам Лісавіцкай базавай школы, намеснікам дырэктара па выхаваўчай рабоце Сітцаўскай сярэдняй школы.*

*Аўтар кнігі вершаў «Светлыя ростані» (2004).*

Святло не хоча перайсці ў сутонне.
Так фарбаў многа, птушак пераздвон!
Цячэ праз маладосць рачулка Поня,
Ды бор вячысты кліча ў свой палон.

Зямлёю роднай, мовай прычасціцца,
«Паспавядацца хлебу на стале…»
Яшчэ так многае павінна збыцца,
Так многае, ды лёс сказаў: «Але…»

Але не стала на зямлі Паэта.
У бессмяротнасці яго душа.
Мінае восень, і зіма, і лета,
Сумуе без яго лясны абшар.

І змоўкла птушка з водсветам заранкі,
Асірацеў прыроды дзіўны свет.
Пяе журботна Поня на світанку:
— Калі ж ты прыйдзеш да мяне, Паэт?

Ды заблукалі дзесьці пуцявіны…
Ў бясконцы, невядомы нам Сусвет
Узнёс імя сваёй адзінай — Ніны —
Самотны і загадкавы Паэт.

І толькі памяць, зоркавая памяць
Вякамі будзе ў небе палымнець…
Азораны бяссмерцем, сёння з намі,
Ён вучыць нас душой не ачарсцвець.

* * *

У нашым часе мітуслівым
Спыніся. Памаўчы.
Зірні на жыта пералівы,
На зорку уначы.

Адна-адзіная іскрыцца
Над дубам векавым.
То зорка шчасця, Мілавіца,
Агнём сваім жывым

Запаліць сэрцы маладыя,
Спашле ім прыгажосць,
Прашэпча словы ім святыя:
— Каханне, людзі, ёсць!..

* * *

Хочацца музыкі ціха чаруючай,
Што адрывае цябе ад зямлі,
Музыкі — сілы гаючай, ратуючай...
Гукі нібыта з нябёс прыплылі.

Думак ніякіх, адны толькі гукі.
Зачараваная імі зямля …
І няма здрады, бяздушша, разлукі —
Толькі гармонія гукаў і я.

## ВЕЧАРАМ

Вечарам водар
Хвалююча-яркі
Ў начной фіялкі.

Вечарам вабіць
Сваёй асалодай
Нас прахалода.

Вечарам вецер —
Маг легкакрылы —
Дорыць нам сілу.

Вечарам думкі
Сягаюць і мары
Да неба абшараў.

Вечар са мной
Раздзяляе ахвотна
Сваю адзіноту.

* * *

Успамінам даўняга, нясмелага,
Першага юначага кахання
У кружэнні танца белым-белага
Маладосць далёкая прагляне.

Светлякі гараць зеленаватыя
Каля грэблі ў сакавітых травах.
Месяц усміхаецца над хатамі,
І п’яніць-чаруе пах атавы.

І абдымкі так нязграбна-шчырыя,
І нясмелы першы пацалунак
Сталі песняй, сталі чуйнай ліраю.
І звіняць, звіняць кахання струны.

* * *

Вось яно, наша лета.
Пах даспелых суніц.
Як жа помніцца светла
Гэта ўсё да драбніц!

Нечаканасць спатканняў,
Ружаў свежых дурман.
І далёкае ранне.
І бязважкі туман.

І вачэй захапленне…
Як мне свецяць яны!
Свята лепшых імгненняў,
Як прыходзіш ты ў сны.

Ты — мой сон, маё шчасце.
Ты — няўтольны мой боль.
Да граніту прыпасці
У журбе мне дазволь.

Тады побач мы, блізка.
І далёка зіма.
Лета — сноў маіх нізка,
Маіх мараў размах.

І не будзе расстання,
І не будзе зімы.
Толькі нашае ранне,
Дзе шчаслівыя мы.

* * *

А мне без цябе не сонечна.
А мне без цябе не росна.
А мне без цябе не бязвоблачны
Час сенакосны.

А мне без цябе шчасліваю
Быць, мусіць, і не выпадае.
А песня мая тужлівая
Між зорак вітае.

І сад з негустою квеценню
Не лечыць душэўныя раны.
Ды толькі жалобна свецяцца
Свечкі каштанаў.

* * *

Я заручана з лесам,
З вершам і з лістападам.
Лес даўно маёй песняй,
Зніклай за даляглядам.

Лес даўно маёй хатай
З дарагіх успамінаў.
Хіба ж я вінавата,
Што так рана пакінуў

Той, хто быў маім лёсам,
Маім шчасцем, натхненнем?
Я прашу вас, нябёсы,
Падарыце хоць цені,

Цені радасці светлай
І жаданых спатканняў…
Хай з душой уваскрэслай
Уваскрэсне каханне.

* * *

Верш табе прысвячу —
На душы пасвятлее.
Заірдзее ўваччу
Лістапад ліставейны.

І жывы напамін,
І жывое каханне.
Ты адзіны, адзін.
Толькі зор нашых ззянне.

Толькі сум. Толькі боль.
Ды скавыш апантаны.
Пустата. Шэрасць. Золь.
Мне баляць твае раны.

* * *

Ёсць у самоце восеньскай узвышанасць
І ёсць святло, нягледзячы на боль.

А на душы так вечарова-сцішана.
О Божа моцны! Слабай быць дазволь.

Ёсць гэты вечар. Цішыня. Гармонія.
І ёсць жаданне моцнае — тварыць.
І тым, што маю, ганаруся сёння я.
Няхай мой захад восеньскі гарыць…

* * *

Нічога ў свеце быццам не змянілася:
Світанне. Вечар. Сцюжа ды мароз.
Любоў са здрадай ваяваць стамілася.
Так проста. І не трэба горкіх слёз .

Званкоў не трэба. І сустрэч не трэба.
Усё закрэсліць, выстудзіць зіма.
І непрыветна пазірае неба,
Што на зямлі гармоніі няма.

* * *

Даражу я свабодаю.
Я сабою валодаю.
Мне б мацней стаць хоць кропельку,
Не лічыць свет утопіяй,

Не ўзлятаць разам з марамі,
А пад лёсу ударамі
Не зламацца, не згорбіцца,
Незалежнай стаць, гордаю.

Паласу б прайсці чорную…

* * *

Так часова ўсё, так няпэўна
На святой і грэшнай зямлі.
Не згубіць толькі б повязі крэўнай,
У пашане каб продкі былі.

Каб прыходзілі мы да магілак
У журліва-прасветлыя дні.
Бог жа ведае, колькі нам сілы
Заўтра хопіць. А можа, ані?..

Каб запомнілі нашыя дзеці
Запавет мудры й просты такі:

Покуль памяць продкаў нам свеціць,
Наш народ жывы на вякі.

* * *

Не забывай ніколі пра святло.
Жыццё малюй у колер, варты неба,
Бо ў ім, жыцці, якое б ні было,
Святло заўсёды ёсць. Яно патрэбна.

Святло усмешкі і святло вачэй,
Святло душы, яе жывая існасць,
Святло ўзыходу і святло начэй,
Святло вады, ад сонца прамяністай.

Святло пралесак і святло бяроз,
Што зноў вясною светла ажываюць.
Святло шчаслівых нечаканых слёз
Ад слова вечна светлага «кахаю»…

## МАХТУМКУЛІ
**(Каля 1733—1780-я гг.)**

### ДВАНАЦЦАЦЬ ПАРАД

Гарачае сэрца ад гора згарыць,
Калі раз’яднана з радзімай яно.
З разумным не грэшна парой і згубіць,
Дабром яно потым вяртаецца зноў.

Ніколі нявіннага ты не віні.
Як маніць табе хто — ты сам не мані.
І слова сваё, як і камень, грані,
Каб ззяла ў радку самацветам яно.

На суфіяў лепей зусім не глядзі.
Куды не паклікалі — лепш не хадзі.
Бяда, калі муж у жыцці заблудзіў.
А ў гэтым Карун, вам вядомы, віной.

З галодным, як з братам сваім, гавары.
Што трус прапануе, таго не бяры.
Нясі бедаку, не багатым, дары! —
Аддзячыць бядак той табе ўсё адно.

Няхай баязліўцы абступяць сцяной,
Яны нават ценю баяцца даўно.
Зайздроснікаў бойся, яшчэ ілгуноў —
Нутро ў іх і джалы заўсёды адно.

Разумнікі тут, а разумныя дзе?
Плытоў не ганяй па шалёнай вадзе.
Цурайся віна. П’яны вечна ў бядзе.
Няславіць і чэснага мужа віно.

Сябры, не шанцуе зноў Махтумкулі:
І сілы, і грошы кудысь уцяклі.
За подаццю людзі якіясь прыйшлі —
Ты ім не плаці ні капейкі адной.

## НЕ ВІДАЦЬ

Ты ўстань, а я спытаю ў Джэбраіла,
Дзе прыгажуню мне маю шукаць,
Што ўчора ля дзвярэй маіх хадзіла,—
Яе нідзе сягоння не відаць.

Лёс гэтак жорны раскруціў ліхія.
Старэе моладзь, маладзей — старыя.
Душа ад ран старых баліць і ные —
Пагас мой зніч — і дыму не відаць.

Малітвы сціхлі, і маўчаць мячэці.
Зайздроснікі… Як многа іх на свеце!
Нічога мне ўжо лепшага не свеціць.
Нічога, апроч Бога, не відаць.

Махтумкулі, ты сам сабе не рады.
Ніхто тваёй не слухае парады.
Прыйшлі не з неба і бяда, і здрада.
Іх след зямны — мне добра так відаць…

## ЗВЫЧАЙНАСЦЬ

Дабро хай злоснікі клянуць.
Што зробіш — гэткая парода.
Вачам сапраўдную цану
Сляпыя ведалі заўсёды.

На свеце шмат намераў злых,
Ліюцца рэкі слоў пустых.
Чаго сапраўдны варты слых,
Глухія ведаюць заўсёды.

Ці малады ты ці святы,
Будзь да людзей спагадным ты.
Святой не бойся прастаты —
Яна наіўная заўсёды.

Шануе чалавек радню,
Дзіця, каня і дабрыню.
Марудны шлях, далечыню
Вярблюд бярэ сабе заўсёды.

Махтумкулі, час хутка бег,
То ў весялосці, то ў журбе.
Што на душы было ў цябе —
Каханне ведала заўсёды.

## ЛЕБЕДЗІ

Гэй, вандроўцы, не хачу вам зла!
Вам не шанцавала ўсё ж як быццам,
Матылькі, любоўнікі святла, —
Хто з вас да раскошы не імчыцца?

На зямлі нямала гор і рэк.
Існуюць пяшчота, сум і здзек.
Ды хіба ёсць гэткі чалавек,
Што вясной не хоча наталіцца?

Вецер, ты куляўся па гарах,
Пеў у дрэвах, у маіх вушах.
Дзе на свеце ёсць сумленны шах?
Дзе яго шчаслівая сталіца?

Лебедзі, я зноў вас прычакаў,
Дудачкай чаротавай гукаў.
Птушкі вы мае! Ад ястрабка
Хіба дзе схаваецца сініца?

Рыбай ты гуляеш у вірах,
Ты лябёдкі родная сястра.
Вось ідзём ізноў да алтара,
Каб вясне і сонцу памаліцца.

Свет — зайздроснік, знаю цябе ў твар.
Забіраеш зноў свой звыклы дар.
Ды ці ёсць дзе на зямлі базар,
Дзе гандляр на шчасце не скупіцца?

Але ўсё ж красуня ёсць адна.
Тварам — нібы месячык яна.
Як лябёдка, лебедзя жадна.
Вам такая, можа, і не сніцца.

На зямлі мая Менглі жыла,
Апаліла сэрца і пайшла.
У грудзях маіх яе страла.
Дзе яна? Якой зямлі царыца?

Дзе агонь, які з-пад броў імкне?
У якой згубіўся ён вясне?
Дзе яна? Дай толькі вестку мне —
Сэрца да яе само памчыцца.

За гадамі прамільгнуць гады.
Новыя узнікнуць гарады.

Хто мне скажа — будзе хоць тады
На Каране чалавек маліцца?

Будзе свет маладзіком аззян,
Будзе светлы месяц Рамазан.
Будзе срэбнай зоркаю сляза
Па шчацэ задумлівай каціцца.

Лебедзямі дні мае плылі
І ляцелі аж на край зямлі.
І на твары месячным Менглі
Зноў зарой усмешка разгарыцца.

Мала слоў казаў Махтумкулі.
Вочы яго сумнымі былі.
Лебедзі айчыннае зямлі,
Цяжка будзе вам угаманіцца.

## ШТО ЗА ЧАС?

Свет усюды сетак панаставіў,
Ловіць памяркоўных ён і злых.
З бедакоў даўно сабраў ён войска,
У гарах і стэпах ловіць іх.

Не ўцячэш ад свету — ён дагоніць.
У яго з шаленцам дзікім коні.
Вунь яго імклівая пагоня
Даганяе мёртвых і жывых.

Што гэта за час? І што ён хоча?
Ён і самы светлы дзень азмрочыў.
Даганяе ён і днём і ноччу,
А дагоніць — глумна б'е пад дых.

Ты, Махтумкулі, аслеп, здаецца.
Ты не бачыш, калі здзек смяецца,
Цень пагоні ўсё бліжэй кладзецца —
Забірае свет усіх жывых.

## ТАМ — РАЙ

Праляжа шлях праз вёсны і гады.
Там цешаць вока горы і даліны.
Там кветнікі і дзіўныя сады
Вас прывітаюць спевам салаўіным.

Там, дзе ніколі сумна не было,
Дзе ўсё заліта веснавым святлом,
Там горы ў кветках, з птушкай, і пчалой,
І з паляваннем даўнім сакаліным.

Там гронкамі спявае вінаград
І млее ад цяжкога плода сад.
Там анідзе не крыўдзіць брата брат,
Усе жывуць нібы сям'ёй адзінай.

Джыгіты там, няўрымслівы народ,
Здзіўляюць спрытам родны люд штогод.
Там крэпасць ёсць, а ў ёй — таемны ход,
І ён вядзе дамоў — не на чужыну.

Пяе Махтумкулі… Чаму ж не пець?!
Ніхто яго не страшыць, толькі смерць.
І ты, хто прыўстае на ногі ледзь,
Ідзі ў той край. Там рай для нас адзіны!

## НЕ СТАНЕ

Колькі б твой розум чаго ні тварыў,
Згадваць усё твой нашчадак не стане.
Але твары, не адчайвайся ўсё ж:
Потым і гэтага шчасця не стане.

Добрае — полымя, злое — ёсць дым.
Ты у разумных вучыся заўжды.
Тое, што скончыцца шлях,— не бяды,
Вы былі б толькі, а нас хай не стане!

Шустры джыгіт, калі дваццаць яму, —
Хочацца ўсюды паспець аднаму.
Але вятры нечакана падзьмуць —
І маладосці ў джыгіта не стане.

Што ж, покуль сам маладзён ты і зух,
Смела гарцуй, каб займала аж дух,
І не цурайся красунь-маладух!..
Рухне твой храм — і малітвы не стане!

Махтумкулі, маладосць не прайшла.
Госці зайшлі. Кліч хутчэй да стала.
Выпіта з верхам віна піяла,
Але віна, можа, заўтра не стане.

## ЛЯНОТЫ ЛОЖАК

Ляноты ложак ты сабе зноў сцелеш,
П’еш сумна бесклапотнасці віно,
А птушка дзікая, душа, сумуе ў целе,
І біцца ёй аб клетку трэба зноў.

Жыццё прабегла, пашкадуеш потым.
З хлусні быў дом, пасцель была з чароту.
Усё, што ты рабіў, задумаў што ты,
Забылася, згубілася яно.

Урокі мудрасці засвойвай пастаянна.
Спяшайся: ты адстаў ад каравана.
Не стань ахвярай злоснага шайтана,—
Ты жарсці хмель спазнаў ужо даўно.

А зманлівы напой усё празрысцей.
Бяжыш ты недзе, пагуканы кімсьці.
А смерці леў свае ўжо вострыць кіпці.
Ён замахнецца імі ўсё адно.

Махтумкулі, забудзь свой сон, прачніся,
Яшчэ раз на былое азірніся.
Свет — вір, дзе плыні розныя зліліся,
Ну а ў глыбі яго ўжо бачна дно.

***Пераклад з туркменскай***
***Казіміра КАМЕЙШЫ.***

## ПАРАНЕНЫ

Парэзанае гострым колам часу,
Слязьмі з крывёю сёння сэрца плача.
Раней вось так не плакала ні разу,
Што ранена цяпер, ніхто не ўбачыць.

Па горных сцежках, нібы па вуголлі,
Выгнаннік валачэцца і скуголіць.
Спыніўшыся ля возера, пытае:
«Чаму мне Бог ісці не памагае?»

Ніхто не дапаможа — час такі,
Нікому не патрэбны бедакі,
Што, нібы трутні, на зямлі жывуць
І іншым жыць па-людску не даюць.

Іду далей, хоць шлях не добра бачу,
Крывёй параненае сэрца плача.
Але прыйду туды, куды мне трэба,
Са мной зямля мая, над ёю неба.

## АВЕЗГЕЛЬДЫ

Браты мае, у нас вялікая бяда.
З крыніц адвечных знікла чыстая вада,
І сцены нашых замкаў, як трыснёг, апалі,
Пра гэта сёння сонца з месяцам сказалі.

І ўжо з самоты звар'яцеў гарачы акіян,
Галосіць мой Сеід, гаруе мой Тархан,
Наш ураджай па свеце раскідаў буран,
І з нашых рук багацце адышло — сказалі.

Авезгельды пакінуў нас. Халодны змрок прыйшоў,
Ні песень светлых больш, ні радасных размоў,
Туркменская зямля гаруе сёння зноў,
У чорнае апранута яна — сказалі.

Меў хуткага каня і гостру зброю меў,
Брыльянты, перліны, скаціны поўны хлеў,
І шчодрым быў, і бедных добра разумеў,
Арда магутная распылена — сказалі.

Зусім не страшна адзінота без сяброў,
Ды горш за ўсё ў жыцці, калі няма сыноў.
Няма дзяцей, нібы пасля цябе слядоў,
Няма краіны, караван сышоў — сказалі.

Махтумкулі, гаспадаром ён Туркестана
Заўсёды быў, і быў ён родам з веліканаў
І аніколі не баяўся ў бітвах ранаў,
Абняў ён родную зямлю — сказалі.

## УСЯМУ ЁСЦЬ ПАРА

Салаўі заліваюцца ў белых садах,
Салаўі адлятуць — усяму ёсць пара.
І мінуцца дажджы і туманы ў гарах,
Сыдзе з гор камняпад — усяму ёсць пара.

Чалавек малады, як крыніца святла,
Асвятляе свой шлях — усяму ёсць пара.
Маладосць, як світанне, прыйшла і сышла,
Дні вясны адыдуць — усяму ёсць пара.

Смелым будзь, калі сіла кіпіць у руках,
Ты сябе пакажы — усяму ёсць пара.
Адпачыць ты паспееш на цёплых пясках
Каля мора зімой — усяму ёсць пара.

Аплялі гэты свет бегатня, шум і тлум,
Ды не вечны яны — усяму ёсць пара.
І не бойся, што сёння з табой шэры сум,
Заўтра будзеш спяваць — усяму ёсць пара.

Пачасцей, калі кліча ў застолле радня,
Трэба ў госці хадзіць — усяму ёсць пара.
Але толькі свайго не забудзься каня,
Каб вярнуцца дамоў — усяму ёсць пара.

А як прыйдзе твой дзень гэты свет пакідаць,
Пацямнее наўкол — усяму ёсць пара.
Не трасіся, як ліст, што не хоча злятаць
На сырую зямлю — усяму ёсць пара.

Зразумей, што нічога не вечна ў жыцці,
Нават памяць людзей — усяму ёсць пара.
І таму не спяшайся свой шлях ты прайсці,
Сёння праўду скажы — усяму ёсць пара.

## ХТО ТЫ?

Ніколі я цябе не бачыў, мілая мая!
Хто ты цяпер? Галубка, салавей? Скажы мне, хто ты?
Душы самотнай, што я ведаю цябе, салгаў я.
Ты ружа белая каля вады? Скажы мне, хто ты?

Скажы мне, хто ты? Бедная ці багацей за ўсіх?
Ты вінакур ці ты віно ў сасудах залатых?
Ты дзень ці ноч, ты год ці вечнасці адзіны міг?
Ты маладзік ці промень залаты? Скажы мне, хто ты?

Ты дым над свечкай ці туман, які, нібыта дым, плыве?
Ты кола лёсу, ці пятля, ці росы на траве?
Ты кропля ў акіяне ці агонь, які жыве
У кроплі кожнай весняе вады? Скажы мне, хто ты?

Хто ты? Вялікі злітак залаты?
Ці божы Храм, ці трон султана, ці клубочак нітак?
Ты велічны палац, ці райскі сад, ці куча світак?
Ты перліна ў пярсцёнку залатым? Скажы мне, хто ты?

Махтумкулі! Не думай пра такую прыгажосць,
Якой няма, здаецца, ды якая, пэўна, ёсць,
Як гэты свет стары, як наша маладосць!
Ты хто? Вар'ят? Ці летуценнік ты? Скажы мне, хто ты?

## АПОМНІСЯ, СЭРЦА!

Апомніся, сэрца! Наўкол паглядзі!
Хвалюешся ты, закіпаеш ізноў.
Гарачых такіх паспрабуй жа знайдзі.
Гаворыш ты смела для ўсіх пра любоў.

Падобных, як ты, больш на свеце няма.
А знойдзеш — глядзіш, памыляешся ты.
Любоў не астудзіць ніколі зіма,
Любоў, нібы кропля святое вады.

Калі ты ў пустэльні, як камень, ляжыш
І песня твая прырасла да цябе,
То дзівяцца людзі, чаму ты маўчыш,
Глядзяць на цябе ў невыказнай журбе,

Бо знаюць, што вечнасці век не спазнаць
Табе, хоць ты сілы й агонь парастраць,
Што зараз кіпяць у табе, маладым,
Усё, як над полем, дзе ветрана, дым.

Махтумкулі, вызнач, куды ўжо ісці.
Нямала дарог ты прайшоў у жыцці.
Чым ты ганарышся? Што здолеў знайсці?
Што чуеш сягоння ты ў сэрцабіцці?

## ЦІ НЕ МАЎЧАЦЬ?

Жыццю не веру я, адны трывогі
Мяне перапаўняюць, слабнуць ногі,
Чакаючы нязведанай дарогі.
Ці не прасіць у Бога дапамогі?

Ды як, сябры, да Бога мне звяртацца?
Як прад сабой сабе цяпер прызнацца,
Што адзінокі я і я — прычына?
Ці можа век маўклівым быць мужчына?

Іду праз свет, пустэльня пад нагамі,
Сад смерці паліваю я слязамі;
Я чую голас — хтось схавацца кліча.
Ці для звяроў стаць лёгкаю здабычай?

Мне б змыць з сябе, нібыта пыл, нягоды,
Знайсці б з малітваю мне шлях да шчасця!

Ці птушкаю ляцець праз перашкоды
Або падстрэленым стралою ўпасці?

Без крылаў птушка ў неба не ўзлятае,
І цела без душы жыццё губляе,
Не будзе слоў, не будзе пачуцця…
Без мовы на зямлі няма жыцця…

## ПАТУХНУЦЬ ВОЧЫ

Навошта, свет, бяздушнаму спрыяеш?
Ён сыты, і шчаслівы, і герой.
Дзе розум твой? Ты добрага знішчаеш.
Ён бедны, ды з вялікаю душой.

У гулях, дзе віно цячэ ракою,
Душа твая саспее для пакут.
І лёгка ты расстанешся з душою,
І пра цябе забудзе родны кут.

Чыя душа табою, свет, сагрэта?
Калі няма душы — няма паэта,
Герой ці здрайца — ты не зважыш гэта,
Галоўнае — шчэ песня не дапета

Пра гэты свет, дзе ўсё невыпадкова,
Дзе часам вырашае толькі слова
Адно, якое сказана са злом.
Ноч праміне, і стане светла днём.

Ды ў гэты дзень наш свет ці падабрэе?
Ці кожнага бяздомнага сагрэе?
І свет, цалуючы, усіх кусае,
А часам кроў да кроплі выпівае.

Жыць гэты свет не можа без падману,
І часта ўсё ж спрыяе свет тырану,
Ды не зайздросці ты цяпер нікому,
Усе памром, бы вернемся дадому,

Дзе нас спытае Бог за кожны крок,
Жыццёвы не паўторыцца урок,
Бо выбар быў, людзям дабро тварыць
Ты мог учора. Трэба сёння жыць…

## ЗРОБЯЦЦА ПЯСКОМ

Дзе снег у гарах на высокіх вяршынях жыве,
Адыдзе туман, і затопяцца горы святлом.
І сад малады, дзе натхнёна спяваў салавей,
Апаліць віхура, і зробяцца кветкі пяском.

Хто вып’е віна, у якім ёсць дурнота і сон,
Той заўтра адразу забудзе, адкуль прыйшоў ён,
І будзе спяваць свае песні на мове чужой,
І бекам хоць будзе, ды будзе самотным слугой.

Атруту сваю разліваючы ў нашыя жылы,
Паважная старасць вядзе нас усіх да магілы.
І тое, што ўчора нас цешыла, пойдзе на злом,
Растопчацца намі і зробіцца ціхім пяском.

І хай жа багаты ўсё цягне і цягне дахаты,
Магчыма, не ён, а ты ў нас тут самы багаты,
Бо ты маеш сэрца, якое баліць за свой дом,
Любоў застанецца, і зробяцца грошы пяском.

Хай вершы, як белыя Храмы, стварае паэт.
На Храмах і вершах таксама трымаецца свет,
Які напаўняецца нашым душэўным святлом.
А душы святыя ніколі не будуць пяском.

*Пераклад з туркменскай*
*Віктара ШНІПА.*

**Іван АФАНАСЬЕЎ**

# МЫСЛЯР З БЕЛАРУСКАЙ ДУШОЙ (Юры Бораў і эстэтыка гісторыі)

Калі наш знакаміты сучаснік — навукоўца з сусветным імем, філосаф, эстэтык, пісьменнік, літаратуразнаўца, доктар філалагічных навук, акадэмік Акадэміі мастацтваў Расіі, прэзідэнт Грамадскай акадэміі эстэтыкі і вольных мастацтваў, шчыры сябра Беларусі прафесар Юры Бораў выказаў вялікае жаданне надрукаваць адну са сваіх тэарэтычных прац на беларускай мове, яго намер, здаецца, можна было б патлумачыць досыць проста — беларускімі каранямі сваякоў, што, між іншым, вельмі прыемна і сардэчна кранае. Ягоны бацька, Барыс Сямёнавіч Бораў, нарадзіўся ў Мінску і прайшоў вялікі і складаны жыццёвы шлях, на якім былі служба ў Чырвонай Арміі ў грамадзянскую вайну, адказныя пасады падчас мірнага будаўніцтва новага жыцця: загадчык кафедры філасофіі («чырвоны прафесар») Харкаўскага ўніверсітэта, галоўны рэдактар Украінскага Партвыдата ў 1930-я гады. Цесць Ю. Борава, Іван Лукіч Туркель, паводле ўспамінаў Юрыя Барысавіча, у канцы 1940—пачатку 1950-х гадоў жыў у Мінску, з’яўляўся камандуючым авіяцыяй Беларускай ваеннай акругі. Першую публікацыю вершаў Ю. Борава зрабіў Максім Танк у мінскім часопісе «Советская Отчизна» (цяперашні «Нёман»). Дарэчы, для чалавека, які свой зямны лёс адлічвае з мая 1925 года, суразмоўцай становіцца сама эпоха, а кола знаёмстваў, асабістых дачыненняў уключае імёны, што ў свядомасці больш (і значна) маладзейшых спадкаемцаў цалкам належаць сферы легендарнай, гістарычнай і часам апакрыфічнай, быццам сцвярджаючы факт зямнога быцця тых, хто здаўна вызначае вышыні мастацтва і літаратуры: да Максіма Танка дададзім імёны Міхаіла Рома, Андрэя Таркоўскага, Ігара Ільінскага, Расула Гамзатава і шмат каго яшчэ з сузор’я савецкай культуры.

Аднак гэты пачэсны пантэон вымушае спыніцца і задумацца пра невыпадковасць і гэтай повязі Ю. Борава з Беларуссю, і настойлівага імкнення асобы яго маштабу да вонкавай, дзейснай прысутнасці ў беларускай духоўнай прасторы і ўвогуле ў найноўшай беларускай гісторыі. Мабыць, цяпер ужо сама Беларусь абірае ў суразмоўцы філосафа і літаратуразнаўцу такога ўніверсальнага светагляду, бо яскрава пазначае тое еўрапейскае і сусветнае раздарожжа гісторыі, на якім беларускай думцы і роздуму расійскага энцыклапедыста наканавана паразумецца…

Цягам апошніх гадоў у літаратурна-філасофскіх і культуралагічных працах Ю. Борава, дарэчы, перакладзеных больш чым на 30 моў, выразна акрэсліўся галоўны накірунак, канцэптуальны стрыжань, што стаўся важкім набыткам праз патрабавальны запыт сусветнай гісторыі: ці вартая сучасная культура выкліку эпохі, ці адчувае, разумее яго, ці здольная адшукаць і прапанаваць свае адказы альбо хаця б засведчыць уласную чуйнасць да грымотаў стагоддзя ў новых пытаннях і праблемах, якія мусіць самастойна ўзняць і прапанаваць калі не адказы на іх (а хутчэй за ўсё — менавіта «не-адказы»), дык прыдатнае рэчышча пошукаў? Без такой самаідэнтыфікацыі ў сучасным свеце культура і літаратура губляюць сваю незаменную ролю, саступаючы імітацыі, правакацыйнай гульні, прафанацыі, што не абцяжарваюць сябе аніякім гуманітарным зместам, акрамя нязменнай колькасці літар у тым ці іншым нацыянальным алфавіце.

Вядома, у аснове такога ўзаемадзеяння «гісторыя (падзея) — культура (сэнс)» павінна палягаць менавіта падзея, якая ў разумовай сферы не можа не шукаць сваю эстэтычную адпаведнасць.

Беларуская літаратурная традыцыя заўсёды была на ўзроўні гэткай запатрабаванасці. Здараецца, яе называюць «культурай пакуты», абагульняючы ў прапанаваным паняцці асаблівасці нацыянальнага досведу, якія, напэўна, выглядалі б досыць супярэчліва для кожнай сталай культуры, калі б не цяжар глабальных гістарычных здарэнняў, што нават паасобку прыдатныя вызначыць непазбежную залежнасць ад іх. Для другой паловы беларускага XX стагоддзя гэта, зразумела, Вялікая Айчынная вайна і Чарнобыль. Самаўсведамленне беларускай літаратуры і культуры, сфармаванае вопытам гэтых найцяжэйшых выпрабаванняў, патрабавала такіх светапоглядных і мастацкіх высілкаў, плёнам якіх павінен быў стаць, так бы мовіць, «выхад» з падзеі, сымбалічнае ці, дакладней, метафізічнае пераадоленне яе. Наданне новага сэнсу гістарычнай рэальнасці, якая сведчыць сябе ў мастацкім слове, памнажэнне магчымасцей нацыянальнага пісьменства абумовілі ўрэшце галоўныя рысы беларускага літаратурацэнтрызму і вылучылі асобы, здольныя здзейсніць яго наканаванне.

Згадайма няўрымслівага Алеся Адамовіча і яго смелы, палемічны заклік да пісьменнікаў «Рабіце “звышлітаратуру” (калі звычайнай — недастаткова)!», які на зломе 1980-х з вяршыняў беларускай «ваеннай» прозы сягаў у далечыню новай невядомасці, што пагражала атамным апакаліпсісам усяму чалавецтву. Новая адказнасць творцаў выспявала пад ціскам нечуванай бяды, аднак грунтавалася на гуманістычных здабытках літаратуры аб Вялікай Айчыннай вайне, якія выразна пераўзыходзілі гістарычныя межы падзеі і адкрывалі шлях з мінуўшчыны ў будучыню. Трэба аддаць належнае і выдатнаму беларускаму гуманітарыю, акадэміку Віктару Каваленку, які абгрунтаваў фундаментальную, наватарскую тэорыю аб паскораным развіцці беларускай літаратуры. Яно непазбежна пераўтварала назапашаны стагоддзямі мастацкі вопыт у злабадзённы факт сучаснасці і вызваляла яго з палону гістарычнага часу пры адмысловай адпаведнасці беларускаму «тут і цяпер». Для Ю. Борава такі сустрэчны рух эпох — тая рызыка, на якую культура мусіць ісці свядома, каб увогуле не згубіць гістарычны шанц і выканаць сваю адвечную місію: «упарадкаваць» гісторыю і ўладкаваць чалавека ў ёй. У мастацкім свеце слыннага рускага вучонага гэтыя эпохі аднойчы ўжо выправіліся насустрач адна адной і сустрэліся ў пункце, які стаў паваротным для самога Ю. Борава, вызначыўшы галоўныя накірункі яго навуковай і творчай дзейнасці да сённяшняга дня.

У 1959 годзе Ю. Бораў скончыў кінасцэнар гістарычнай хронікі-прытчы «Уваскрэслы з жывых», створаны на аўтабіяграфічным матэрыяле. Галоўны герой хронікі, дырэктар буйнога металургічнага камбіната, у нечым істотным паўтарыў лёс бацькі аўтара, вымушанага ратавацца ад непазбежнай пагібелі ў 1930-я гады ўцёкамі з Харкава, дзе яго пазбавілі пасады загадчыка кафедры па абвінавачванні ў «расійскім шавінізме» (чытаў лекцыі на рускай мове), хоць ягоных калег адначасова вінавацілі ў «нацыяналізме ўкраінскім» (за лекцыі на ўкраінскай мове). І герой будучага фільма, і яго прататып пачыналі жыццё нанова, талент ізноў усё вышэй і вышэй узнімаў іх па прафесійнай лесвіцы, чаму яны не надта радаваліся, бо непазбежна траплялі пад пільнае вока тых, хто ў кожнае імгненне мог трагічна вырашыць іх лёс. Маральнай і эстэтычнай кульмінацыяй фільма павінен быў стаць эпізод выпадковай сустрэчы дзвюх калон: вязняў ГУЛАГа, якіх вядуць па этапе, далей ад фронту, і батальёна, які рушыць на перадавую. Байцы Чырвонай Арміі (і сярод іх — герой фільма, зніклы паміж жывымі) пачынаюць спяваць «Свяшчэнную вайну». Арыштанты, а потым і канваіры падхопліваюць песню, і яна ў нейкім дзіўным суладдзі, неабходным для сваіх і «чужынцаў», лунае над калонамі, гучыць, пакуль яны не разыходзяцца назаўсёды, паяднаныя не толькі гэтай вялікай песняй (якую кожны ўносіць з сабой), а чымсьці большым, ледзь не адчуваннем неверагоднага людскога адзінства насуперак жорсткаму прымусу гісторыі.

На жаль, фільм паводле сцэнара Ю. Борава так і не быў зняты, нягледзячы на першапачатковую афіцыйную дамоўленасць з «Масфільмам» (рэжысёрам мог стаць Андрэй Таркоўскі, якому зрабіць гэта перашкодзіла праца над «Рублёвым»). Аднак свой павучальны лёс ён займеў. І не толькі таму, што два славутыя савецкія рэжысёры-класікі М. Ром і Ю. Райзман назвалі цэнтральны эпізод «лепшай сцэнай сусветнага кінематографа» [1, с. 17], а значна пазней гісторыкі кіно параўналі яе з «лесвіцай» С. Эйзенштэйна і атакай капелеўцаў у «Чапаеве». І нават не з той прычыны, што на падставе менавіта гэтай творчай працы Ю. Бораў быў прыняты ў Саюз кінематаграфістаў. Нязздзейсненае жыццё фільма, сцэнар якога, між іншым, жыў у самвыдаце і выклікáў зацікаўленыя водгукі з розных бакоў, рабіла ўчынкам тое, што… не адбылося як прыналежнасць існай гісторыі мастацтва, і пераўтварала каментар да неўвасобленай задумы ў самастойны сюжэт, дзе ролю персанажаў выконвалі самі ідэі. Працы Ю. Борава, прысвечаныя іх пакручастаму, часам непрадказальнаму лёсу ў XX стагоддзі, уражваюць энцыклапедызмам аўтара і яго здольнасцю эстэтычна бездакорна пазначыць далягляд сусветнай літаратуры і мастацтва як самых галоўных, неабвержных сведкаў усіх паваротных здарэнняў Вялікай Гісторыі. Нагадаю толькі некаторыя з больш як 30 кніг, якія адразу сталі хрэстаматыйнымі даведнікамі для адукаванага чытача: «Эстэтыка» (у 2-х тамах), «Эстэтыка. Тэорыя літаратуры: Энцыклапедычны слоўнік тэрмінаў», «Сталініяда» (збор інтэлігенцкага фальклору, сапраўдны скарб жывых часцінак гісторыі, якія часам не заўважаем, а то і неахайна страчваем назаўжды), «Сацыялістычны рэалізм: погляд сучасніка і сучасны погляд», «Луначарскі» (у класічнай серыі «Жыццё знакамітых людзей»), а таксама найноўшая шматтомная «Тэорыя літаратуры», падрыхтаваная ў Інстытуце сусветнай літаратуры імя А. М. Горкага Расійскай акадэміі навук пад кіраўніцтвам Ю. Борава і пры яго непасрэдным удзеле ў якасці аўтара многіх раздзелаў і артыкулаў выдання.

Цікава, што Ю. Бораў, захапляючы сучаснікаў гіганцкімі абсягамі сусветнай культуры, нязменна засяроджваецца менавіта на савецкім вопыце, у прыватнасці — духоўных здабытках сацыялістычнага рэалізму. Ён не зважае, мякка кажучы, на «непапулярнасць» тэрмінаў, але дзіўным чынам набывае тую метапазіцыю даследчыка («погляд сучасніка і сучасны погляд»), якая дазваляе адначасна заставацца ўнутры працэсу і па-за ім, бачыць драму супрацьлеглых памкненняў у агульнай прасторы гісторыі і сцвярджаць іх непазбежную ўзаемазалежнасць, асвечаную святой песняй змагання супраць гітлераўскага фашызму. Злыя языкі адразу спашлюцца на «беларускі» след у гэткай увазе Ю. Борава да савецкай творчай спадчыны, бо толькі гультаяваты апанент не назваў Беларусь «апошнім савецкім запаведнікам». Больш вытанчаная публіка адшукае іншыя пераканаўчыя прыкметы роднасці душ расійскага эстэта і Радзімы яго сваякоў: адна з апошніх кніг Ю. Борава ў нейкім сэнсе працягнула справу вядомага беларускага літаратуразнаўцы, прафесара І. Кахно — аўтара грунтоўнага даследавання жыцця і ідэй Луначарскага. Мы ж, не абвяргаючы да пары першага меркавання і з разуменнем ставячыся да другога, усё ж зазначым, што найперш Ю. Бораў кранае адвечны і балючы нерв расійскай гісторыі, на скрыжаванні якой «горад Пятра» не адмаўляў «горада Леніна» нават для непахіснага гуманіста Прышвіна, здольнага не толькі існаваць па-за раз’юшаным часам і ствараць непараўнальныя па смеласці і шчырасці дзённікі ў самыя пагібельныя гады рэвалюцый, грамадзянскай вайны і тэрору, але і шукаць маральнага апраўдання «пятроўскай дубіне» ў рамане «Гаспадарава дарога» (пра будаўніцтва Беламорканала).

У разважаннях М. Прышвіна ў небяспечным суседстве прысутнічаюць лагер і фронт, няма ілюзій наконт жорсткасці Сталіна, аднак тое, што ў Ю. Борава ўвасобілася ў супрацьлеглым руху арыштантаў і ваяроў, толькі набліжае іх да нейкага метафізічнага памежжа, якое вызначае непазбежнасць зла, прымусу ў творчым узрушэнні гісторыі: «…гэта барацьба са злом, але менавіта не барацьба як адмаўленне, а барацьба як пераключэнне накірунку дзейснай сілы зла, у выніку чаго зло пераўтвараецца ў дабро» [2, с. 188]. Наканаванасць дзяржаўнага гвалту (будаўніцтва канала, паводле Прышвіна, — будаўніцтва дзяржавы: і ў часы савецкай улады,

і ў эпоху Пятра, які першым займеў гэтую ідэю, аднак не здолеў ажыццявіць, хоць паспяхова здзейсніў адпаведны намер, пабудаваўшы Пецярбург) для рускага класіка ма́е ў падмурку ўсю гуманістычную традыцыю, дзе Хамякоў, Дастаеўскі і Талстой прывячаюць Крапоткіна і Леніна, бо разбурэнне сучаснасці ёсць скачок у будучыню [2, с. 189—190], «Хрыстова справа» праз пакуту. Бязвінны пакутнік у лагеры, даводзіць сваю думку Прышвін, замест «сляпой пакуты, якой царкоўныя ашуканцы падмяняюць творчую пакуту Хрыста» [2, с. 179], абуджае ў сабе тую Боскую прыроду, калі чыстымі, невінаватымі вачыма простага мужыка можна без жаху глядзець у твар смерці (назіранне Льва Талстога) [2, с. 185], увасабляючы стваральную моц Божай волі. Інакш кажучы, той, хто страціў усё, болей нічога не баіцца. Ці той, хто яшчэ ніколі ніякіх страт не спазнаў? Герой «Гаспадаравай дарогі» — маленькі хлопчык, які «не ведае зла» [2, с. 189], — спрыяе імкненню Прышвіна-мастака і Прышвіна-мысляра зусім «агаліць чалавека», пазбавіўшы яго «ўсіх покрываў — рэлігійных, этычных і рамантычных» [2, с. 180], бо «дзеці са сваёй гульнёй і радасцю жыцця вырастаюць з забыцця» [2, с. 186]. Менавіта дзецям у іх шчаслівым няведанні ўласціва тое, што ў канцы чалавечай гісторыі, на думку М. Прышвіна, павінна здзейсніцца як «знішчэнне часу», якое апраўдае пераможцу, болей не падуладнага маральнаму суду: знікне час, згінуць мінулае, пярэдадзень і Боскі Суд стане «ўсёдараваннем» [2, с. 186].

У новай кнізе-эсэ Данііла Граніна «Чалавек не адсюль» (ізноў — метапазіцыя, парушэнне мяжы падзеі?) сустракаем цікавую і глыбокую жыццёвую замалёўку «У дзіцячым садку»: «Сядзіць дзяўчынка, штосьці засяроджана малюе. Падыходзіць выхавацельніца: — Ты што малюеш? — Я? Бога, — упэўнена адказвае яна. — Дык яго ніхто не бачыў. — Зараз убачаць» [3, с. 185]. Да разумення ідэалогіі і эстэтыкі савецай літаратуры і мастацтва Ю. Бораў рушыць праз усведамленне першапачатковай, «дзіцячай» (у гістарычным сэнсе) прыроды гэтага пераўтварэння свету сродкамі культуры. Нават, на першы погляд, дагматычная, відавочна артадаксальная катэгорыя партыйнасці атрымлівае ў яго нейкае новае змястоўнае жыццё, ідэйны бацька якога — не толькі Ленін з ягоным класічным маніфестам «Партыйная арганізацыя і партыйная літаратура» (з пункту гледжання ўжывання самога паняцця ленінскі артыкул яшчэ ў 1902 годзе быў папярэджаны зусім не бальшавіцкім альманахам «Паўночныя кветкі» [гл.: 4, с. 47]), а ўвогуле накіраванасць свядомасці, «інтэнцыянальнасць» (паводле фенаменалагічнай школы Гусэрля), якая адкрывае свет, каб авалодаць ім. Набыткі такой культуры — агульначалавечага гатунку, што прынцыпова пярэчыць легкадумным спробам атаясаміць савецкае мастацтва з самымі радыкальнымі формамі таталітарызму ў культуры, ажно да фашысцкіх, заснаваных на ідэях расавай перавагі, а не сацыяльнай справядлівасці, якую на розных мовах і ў розныя эпохі вітала сусветнае мастацтва, узбагачаючы тэарэтычны лексікон. Ю. Бораў слушна нагадвае пра яго: «ангажаванасць» (у тым ліку ў значэнні мастацтва, якое «бярэ абавязак»); «завербаванасць» (Сартр), «карысць народа» (Г. Ібсеэн); «“абавязак” пісьменніка» (А. Блок); «сацыяльная накіраванасць» (руская крытыка пачатку XX ст.); «тэндэнцыйнасць» (К. Маркс); «сацыяльная замова» (РАПП); «патранат», «заступніцтва» з боку ўлад, часам спрыяльныя для з’яўлення артыстычных індывідуальнасцей (эстэтык з Кембрыджа Дж. Холуэй) [4, с. 53]. Невыпадкова сам сацыялістычны рэалізм, на думку Ю. Борава, становіцца сапраўдным доўгажыхаром (існуе на працягу амаль 80 гадоў), распаўсюджвае сябе далёка за межы савецкай Атлантыды і, вызваліўшыся з уласна гістарычнай падзеі, у значнай ступені абумоўлівае сістэму «шмат’ярусных апазіцый» у культуры XX—XXI стагоддзяў: «Так, ідэі будаўніцтва шчаслівай будучыні чалавецтва з дапамогай рэвалюцыйнага гвалту (сацыялістычны рэалізм) супрацьстаіць ідэя панавання арыйскай расы над іншымі народамі (фашызм); а гэтым дзвюм пазіцыям супрацьстаіць ідэя шчасця асобнага чалавека (заходні рэалізм XX ст.), чаму, у сваю чаргу, супрацьпастаўлена ідэя абсурднасці быцця асобы (Ф. Кафка), абсурднасці быцця ўвогуле (А. Камю) і нават ідэя хаатычнасці і абсурднасці сусвету (пастмадэрнізм). Ідэалагізацыя і ўмяшанне дзяржавы ў мастацкі працэс (ленінскі прынцып

партыйнасці, сацыялістычны рэалізм) знаходзіцца ў апазіцыі да сустрэчнага працэсу — дэідэалагізацыі (напрыклад, у поп-арце)» [4, с. 397].

Пачуцці нованароджанай эпохі, абуджаныя на гэткім раздарожжы, наўрад ці прагнулі маралі. І ўвогуле: ці ведалі яе? Знішчаны пярэдадзень-час, мроі пра новы залаты век глухія да маральных парад і забаронаў. Забыццё тут мяжуе з уседараваннем, якога можна выракацца, але, на жаль, не дзеля таго, каб выставіць маральны рахунак самой гісторыі. «…Няма дрэннай ці добрай гісторыі, няма, гэта глупства, — перакананы Д. Гранін, не баючыся быць «чалавекам не адсюль», нават імкнучыся да гэтага, каб выйсці ў вялікі час, надаць патрэбнае вымярэнне нашаму досведу. — Ёсць гісторыя краіны. З яе памылкамі, з яе хараством, — якую трэба асэнсаваць, <…> …тое, што мы жывём сёння, адмовіўшыся ад гісторыі сямідзесяці гадоў, гэта сорам і ганьба. Мы хочам пражыць без гісторыі. Гэта ніхто не здолеў, ніколі» [3, с. 310—311]. Маральная ацэнка пачынаецца там, дзе з'яўляецца асоба, падуладная ёй. Гісторыя як факт біяграфіі чалавека скіроўвае ўвагу Ю. Борава на постаць Луначарскага — Наркама асветы ва ўрадзе бальшавікоў, тэарэтыка і практыка будаўніцтва новай культуры і новага жыцця (тоеснасць гэтых мэт у рускай традыцыі вядомая з прац Мікалая Бярдзяева і на дзіва дакладна выяўляе беларускі нацыянальны шлях у XX стагоддзі). Яго асоба прыцягальная для Ю. Борава, каб зразумець асабістыя межы дабра і зла, ледзь прыкметныя на абшарах вялікай гісторыі. Сістэма навігацыі для падарожжа ў невядомую будучыню рэвалюцыі, немагчымая без традыцыйнага маральнага апірышча, у прасторы гісторыі набывае адмысловую дынаміку і рухавасць і нездарма падаецца Ю. Боравым у выглядзе даўняй палемічнай гутаркі з сынам. Аргументы малодшага Борава запазычаны з лекцыі Льва Гумілёва, прачытанай у пачатку 1970-х гадоў на псіхалагічным факультэце Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта, і грунтуюцца на класіфікацыі таго ці іншага тыпу этнасу (і асобы) у залежнасці ад іх зносін з часам.

Першы тып арыентаваны на мінулае, традыцыю, культуру і ўзбагачае набыткі. Другі тып этнасу і асобы належыць сучаснасці і не столькі назапашвае здабыткі культуры, колькі спажывае, выкарыстоўвае іх у дзеянні. Трэці тып — жыве будучыняй, змагаецца за яе, хоць і пакідае пасля гэтага змагання замест пяцідзесяці мільёнаў жыхароў у сярэднявечным Кітаі толькі сем з паловай. Нарэшце, чацвёрты тып этнасу жыве наогул па-за часам, мае на ўвазе суцэльнае чалавецтва і па прыкладзе Б. Пастарнака наўпрост можа пацікавіцца, якое цяпер тысячагоддзе на дварэ [5, с. 290—291]. Маштаб рэвалюцыйнага дзеяча кшталту Луначарскага, на думку Ю. Борава, вызначаюць нават не якасці асобы, а ступень адпаведнасці запатрабаванням эпохі. Падзеі Кастрычніцкай рэвалюцыі абумоўліваюць тое самае «спажыванне» сучаснасці, якому абраннік Ю. Борава наважваўся запярэчыць будучыняй, убачыць яе ў марах рускай і сусветнай класікі, якая ва ўсе часы заўзята выкрывала буржуазны лад, хоць далёка не заўсёды быў здольны прадухіліць бойку паміж «сёння» і «заўтра», улагодзіць гэты знішчальны канфлікт. Калі ж надараліся «ўцёкі» з гістарычнай падзеі ў вечнасць несмяротнага мастацтва, яны канчаткова пазбаўлялі сучаснасць маральнага абгрунтавання, бо прымушалі «знішчыць час» (як пазней занатуе ў дзённіку М. Прышвін) альбо спыніць яго.

Гадзіннік беларускай гісторыі ў XX стагоддзі спыняўся двойчы. Фашысцкая навала прынесла беларусам пакуты, нечуваныя для гістарычнай памяці чалавецтва. Чарнобыльская катастрофа скасавала сам час у балючай і крыўднай бясконцасці паўраспаду. Аднак з гэтай разгубленасці гісторыі нарадзілася вялікая літаратура, у якой чалавек выпакутаваў святое права на размову не толькі з зямлёй, але і з небам. З цягам часу гэтае адчуванне толькі ўзмацняецца. Невыпадкова да 70-годдзя вызвалення Ленінграда ад фашысцкай блакады ў Санкт-Пецярбургу падрыхтавана новае выданне сусветна вядомай «Блакаднай кнігі» А. Адамовіча і Д. Граніна, якое дапоўнілі запісныя кніжкі беларускага пісьменніка, ініцыятара стварэння гэтага класічнага помніка ахвярам вайны. Пісьменніца Наталля Сакалоўская, рэдактар піцерскага выдання, асабліва была ўражана адным радком у дзённіку А. Адамовіча: «Чалавек ёсць тое, колькі праўды ён можа панесці пра

сябе». Напэўна, тое, што Н. Сакалоўская вылучае для сябе, падзяляе кожны чытач «Блакаднай кнігі»: «Абодва аўтары разумелі, што яны распавядаюць гісторыю звядзення чалавека да самога дна, да жывёльнага становішча — гэтым жудасным голадам, ад якога людзі часам гублялі розум, гэтым бясконцым холадам… І раптам уключаўся нейкі іншы механізм, калі чалавек нечакана ўсведамляў пагружэнне ў бездань, жахаўся гэтага і з апошніх сіл пачынаў расці ўгару. У ім пачынала гаварыць Боская прырода, гаварыць вельмі гучна! У гэтым сэнсе “Блакадная кніга” — інструмент самапазнання для чалавецтва» [6].

Малеча з «Гаспадаравай дарогі» М. Прышвіна, дзяўчынка, якая малюе партрэт Бога, пакутнікі ГУЛАГа і блакады, што вызнаюць Хрыстову справу ў знішчаным часе, — усе яны насельнікі гістарычнай эпохі і закладнікі вечнасці. Разам з імі нясуць праўду пра сябе героі Васіля Быкава, здабываюць яе праз канфлікт этыкі асобы і этыкі соцыуму (пазначаны А. Швейцарам у ягонай працы «Культура і этыка») і ў рэшце рэшт сцвярджаюць на гуманітарнай глебе дзейснасць фізічнага «прынцыпу антропнасці», паводле якога кожны чалавек ёсць зарука Сусвету (у манаграфіі «Хто ўзыходзіць на Галгофу? Антываенная ідэя ў творчасці Васіля Быкава» аўтару гэтых радкоў даводзілася даследаваць творчасць пісьменніка-франтавіка менавіта з такога пункту гледжання, да якога сам Васіль Уладзіміравіч паставіўся з разуменнем). Да іх далучаюцца чарнобыльскія выгнаннікі з адвечным болем «раскіданых гнёздаў», жыхары зоны, дзе паводле нейкай жахлівай завядзёнкі чалавек нанова пагружаецца ў пекла бяды, якое нішчыць даброты і падман цывілізацыі і пакідае небараку сам-насам з цяжарам праўды, што ізноў трэба панесці самому.

Уцекачы ад Чарнобыля нават пасля скону Савецкага Саюза знаходзяць прытулак у савецкім пярэдадні. Вядома, гэта можа быць спынены час у зоне адсялення (адзін з распаўсюджаных матываў «чарнобыльскай» літаратуры). Аднак хіба не акрэсліваецца яго выява ў нашых жыццёвых спадзяваннях, не сілкуе грамадскае летуценне, якое наўрад ці заслугоўвае тых кпінаў, што нярэдка агулам цэляць у савецкае мінулае?

Юрый Бораў прызнаваўся, што ў яго кнізе пра такога выбітнага і супярэчлівага дзеяча савецкага часу, як Луначарскі, гаворка, па сутнасці, ідзе пра жыццё «двух-трох пакаленняў, якія жылі пад знакам гэтай ідэі і аддалі сваё жыццё за яе здзяйсненне» [5, с. 297]. Яму не сорамна сцвердзіць: «…можна любіць альбо ненавідзець Кастрычнік, лічыць яго панацэяй ці праклёнам, але немагчыма сумнявацца ў тым, што гэта была рэвалюцыя. Бо рэвалюцыя — гэта якасная змена грамадства» [5, с. 296]. Гуманіст Д. Гранін на золку новага тысячагоддзя параўноўвае Кастрычніцкую рэвалюцыю з Вялікай французскай (якая, зазначым, для еўрапейца ёсць неабвержны і неабходны факт яго культурна-гістарычнай памяці) і падкрэслівае «велічэзную ролю» нашай рэвалюцыі ў гісторыі Еўропы і ўсяго свету, дагэтуль не асэнсаваную намі [3, с. 310—311]. Ва ўлонні рэвалюцыйнага працэсу, які Ю. Бораў па-майстэрску адлюстроўвае ў праявах эстэтыкі, выспявала новае рэчыва гісторыі. Яно нібыта «вылузнулася» з абалонкі канкрэтнай гістарычнай падзеі і пераадолела яе, у той ці іншай ступені прыдбанае ўсім астатнім светам. У беларускім лёсе пасля Чарнобыля савецкі пярэдадзень стаў не толькі ўцёкамі ад атамнай прышласці, але і спадзевам на такое існаванне ў гісторыі, якое дае шанц перамагчы яе няўмольнасць. Менавіта так «ваенная» і «чарнобыльская» літаратура Беларусі вядзе рэй з усім светам, адпавядае яго запыту тым, што А. Адамовіч калісьці назваў «пачуццём асабістай гістарычнай адказнасці», якая назаўжды выключае ўсялякую розніцу паміж «забі чалавека» і «забі чалавецтва» і патрабуе абсалютнага маральнага імператыву: ратуй чалавека — выратуеш свет.

Спадчына цыклапічнага веку рэвалюцый, войнаў і катастроф жорстка ставіць пытанне: ці скончыўся ён? Ці нарадзіліся літаратура, культура, здольныя быць нароўні з выклікам эпохі? Захаванне маштабу адказнасці культуры — заўсёдны клопат Ю. Борава ў апошні час. Дзеля гэтага ў 2006 годзе ён распачаў дыскусію «Парадыгма эпохі: гістарычныя ідэалы і сэнсы быцця чалавека і чалавецтва, якія

фармулюе культура». У дыскусіі прынялі ўдзел знаныя гуманітарыі з розных краін свету, яна мела шырокі міжнародны розгалас. На старонках «Полымя» ўпершыню на беларускай мове друкуецца артыкул Ю. Борава, у якім сцісла і змястоўна выкладзены асноўныя погляды расійскага вучонага на ролю і прызначэнне культуры ў сучасным свеце.

Аднойчы ў віхуры стыхій Медны коннік імперыі ўжо сыходзіў з п'едэстала. Што чакае яго на беларускіх пуцявінах?..

## Спіс літаратуры:

1. Борев, Ю. Б. Воскресший из живых: киносценарий. Война и антимир: пьеса / Ю. Б. Борев. — М., 2005. — 120 с.

2. …Из русской думы. Портреты отечественных мыслителей с письмами, статьями и просто раздумьями, сложенные Юрием Селиверстовым в книгу: в 2 т. / Сост., авт. портретов и текста «От сложителя» худож. Ю. Селиверстов; вступ. ст. В. Н. Ганичева и В. Г. Распутина. — М.: Роман-газета, 1995. — Т. 2. — 256 с.

3. Гранин, Д. Человек не отсюда / Д. Гранин. — СПб.: Издательская группа «Лениздат», «Команда А», 2014. — 320 с.

4. Борев, Ю. Б. Социалистический реализм: взгляд современника и современный взгляд / Ю. Б. Борев. — М.: АСТ: Олимп, 2008. — 478 с.

5. Борев, Ю. Б. Луначарский / Ю. Б. Борев. — М.: Молодая гвардия, 2010. — 303 с. — (Жизнь замечательных людей: сер. биогр.; вып. 1225).

6. Вечтомова, Софья. «Авторам "Блокадной книги" нужно поставить памятник»: Петербургская писательница Наталия Соколовская — о том, как трудно писалась и издавалась знаменитая летопись Ленинградской блокады / Софья Вечтомова // Смена : электрон. версия газ. — 2014. — 13 января. — URL: http://www.smena.ru/news/2014/01/20/22929 — Дата доступа: 14.01.2014.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 31 студзеня 2014 года.

**Іван АФАНАСЬЕЎ**

## Мысляр з беларускай душой (Юры Бораў і эстэтыка гісторыі)

### Рэзюмэ

У артыкуле на падставе тэарэтычных прац Юрыя Борава даследуюцца асаблівасці мастацкай свядомасці ў эпоху катастроф. Адзначаецца феномен засваення і пераадолення гістарычнай падзеі ў беларускай літаратуры аб Вялікай Айчыннай вайне і Чарнобылі.

**Ivan AFANASYEU**

## The Thinker with a Belarusian Soul (Ury Borau and the Aesthetics of History)

### Summary

The peculiarities of the artistic consciousness in the age of disasters based on the theoretical studies of Yury Borau are examined in the article. The phenomenon of the absorption and overcoming of the historical event in Belarusian literature about the Great Patriotic War and Chernobyl is distinguished here.

**Юры БОРАЎ**

# МЭТЫ І СЭНСЫ БЫЦЦЯ ЧАЛАВЕКА І ЧАЛАВЕЦТВА

Культура заўсёды спрабавала асэнсаваць ідэалы, сэнсы і мэты развіцця чалавецтва. Гегель меў важны адказ на гэтае пытанне. Для яго сэнс быцця чалавецтва ў тым, што яно ажыццяўляе самапазнанне прыроды. Руская культура дала больш глыбокі адказ, маючы на ўвазе больш актыўную, больш дзейсную ролю чалавецтва. Блок пісаў:

О, я хочу безумно жить
Все сущее увековечить,
Безликое вочеловечить,
Несбывшееся воплотить!

Паводле Блока, мэты чалавецтва — ачалавечванне свету. Гэта вялікая і ўнікальная, эндэмічная ідэя. Нічога падобнага ў такіх маштабах няма ў арсенале ніводнай культуры свету. А ў Расіі гэтая метафізічная ідэя ўласцівая многім. Так лічыць неабходным ачалавечыць дзяржаву Пушкін, ачалавечыць чалавека — Горкі; ачалавечыць Космас — Цыялкоўскі; ачалавечыць свет памерлых — Фёдараў; ачалавечыць прастору — Лабачэўскі; ачалавечыць інтэлектуальна-духоўнае жыццё людзей, наасферу — Вярнадскі; ачалавечыць тэатр, каб напоўніць сцэну псіхалогіяй і зрабіць яго тэатрам перажыванняў, — Станіслаўскі; ачалавечыць свет побытавых рэчаў і сферу вытворчасці дызайнам — ВХУТЭМАС (з рускай: «Высшие художественно-технические мастерские»); ачалавечыць кіно, дадаўшы яму чалавечае кінавока, — Дзіга Вертаў — і мантаж — Эйзенштэйн; ачалавечыць грамадства — Салжаніцын. Руская культура сфармулявала метафізічную мэту чалавецтва: ачалавечыць сусвет.

Для Пушкіна важныя ідэалы і сэнсы жыцця людзей. А калі іх няма, дык наша жыццё «ніщто, сон нібы той, насмешка неба над зямлёй» [1, с. 338][1]. Увасабленнем гэтага гістарычна-філасофскага роздуму паэта стаў «Медны коннік». У гэтай паэме размова ідзе пра ідэал узаемаадносін асобы і дзяржавы. Пушкін гэтую праблему вырашае праз супастаўленне сэнсаў жыццёвых праграм двух галоўных герояў паэмы.

Дзве праграмы, дзве мэты, два сэнсы жыцця.

1) Праграма «будоўніка цудатворнага» Пятра І [1, с. 343]:

Адсюль гразіць мы будзем шведу,
Тут стане горад з бегам дзён
Назло пышліваму суседу.
Прыродай суджана даўно
Ў Еўропу высеч тут акно,
Нагою цвёрдай стаць пры моры.
Сюды праз новыя шляхі
Ўсе ў госці прыплывуць сцягі,
І забалюем на прасторы [1, с. 333].

[1] Паэма А. С. Пушкіна «Медны коннік» цытуецца ў перакладзе Янкі Купалы.

Праграма Пятра мае высокія дзяржаўныя, слушныя знешнепалітычныя і перспектыўныя эканамічныя мэты. Аднак гэтая праграма цалкам пазбаўлена выхадаў да праблемы асобы.

2) Праграма маленькага чалавека Яўгенія:

Заснуць жа доўга ён не мог
У бегу розных летуценняў.
А думаў у час бяссонны той,
Што бедны ён і што цяжкой
Ён працай мусіў здабываці
Пашану, незалежны лёс,
Што мог бы Бог яму дадаці
І грошы, й розуму. Бо ёсць
Такія летуны-шчасліўцы,
Слабыя розумам, ляніўцы,
Якім ідзе жыццё злягка [1, с. 336].

Для гуманіста Пушкіна праграмы маленькага чалавека і «будоўніка цудатворнага» роўнавялікія! І толькі іх спалучэнне дае ўстойлівую дзяржаўнасць і шчасце асобы. Іх канфлікт — трагедыя і для дзяржавы, і для асобы.

Найвялікшае майстэрства Пушкіна пацвярджаецца тым, што ён сусветнагістарычную ідэю аб ідэальнай пабудове грамадства, аб неабходнасці гармоніі дзяржаўнага і асабістага перадае не толькі праз семантыку твора, але і праз яго стыль. Стыль «Меднага конніка» канцэптуальна нагружаны.

Стыль — адхіленне ад «нормы», ад нулявога ўзроўню пісьма, ад «школьнай мовы» (Р. Барт).

На беразе пустынных вод
Стаяў Ён, буйных дум палёт
Лунаў удаль [1, с. 333].

Паводле «школьнага» трэба было б сказаць: «На беразе пустынных вод стаяў Пётр. Ён думаў».

А ў Пушкіна адхіленне ад школьнай мовы… У які бок? У бок оды. Але ў одзе (на рускай мове) патрэбна б сказаць «на брегу», а не «на берегу». А ў Пушкіна «па мшыстых, топкіх берагах…» Гэтае спалучэнне адычнага і звычайнага праходзіць праз усю паэму. Вось канцоўка (ізноў звернемся да мовы арыгінала):

…У порога
Нашли безумца моего,
И тут же хладный труп его
Похоронили ради бога [2, с. 260].

Стыль паэмы — спалучэнне адычнага і звычайнага.

Адычнае ў стылі спрыяе стварэнню вобраза Пятра. Звычайнае — Яўгенія. Іх гарманічнае яднанне надае стыль і прыгажосць паэме, а ў рэальнасці можа даць устойлівую і шчаслівую дзяржаўнасць.

Парушаючы гармонію ў гранічнай форме, Медны ідал гоніцца за Яўгеніем, каб яму адпомсціць за пагрозу «Папомніш ты!» [1, с. 343].

Медны коннік — вобраз супярэчлівы, які адлюстроўвае супярэчлівасць Пятра і рускай дзяржаўнасці. Медзь у мове Пушкіна мае эстэтычна адмоўную афарбоўку («О колькі ілбоў шырока медных…»).

Медны — гэта адмоўная характарыстыка. Але не вершнік, не верхавы, а коннік — г.зн. рыцар. Пра Мікалая І Пушкін адгукнуўся: «Цар — не рыцар», але Пётр для Пушкіна — рыцар.

Фальканетава скульптура — з бронзы, а пушкінскі коннік адначасова медны, бронзавы і жалезны. Коннік медны, але й бронзавы («кумір на бронзавым кані» [1, с. 342]). Мы чуем «цяжкое, звонкае скаканне па бруку ў цішыні начной» [1, с. 343]. Бронза — звонкі, высакародны метал. Аднак Медны коннік адначасова

жалезны («О валадар судзьбін людскіх… вуздой жалезнай з беспрасоння падняў Расію на дыбкі» [1, с. 342]). Гэта характарыстыка волі і стваральнай моцы Пятра. Пушкін услаўляе рускую дзяржаўнасць. Пры ўсіх яе заганах яна забяспечыла незалежнасць і цэласнасць Расіі. У гэтым пункце Пушкін разыходзіцца з Міцкевічам («Помнік Пятру Вялікаму»), для якога Медны коннік — увасабленне рускай дзяржаўнасці, што зруйнавала незалежнасць Польшчы. Але Пушкін не хоча, каб Расія паўтарыла лёс Польшчы. Адсюль адычная хвала рускай ваеннай моцы:

Люблю рухавасць ваяўнічу
Пацешных Марсавых палёў,
Пяхотных войскаў і канёў
Так аднастайнае вялічча,
Ў іх зыбкім маршавым страі
Шматкі сцягоў, сцягоў пабедных,
Зіянне шапак гэтых медных,
Наскрозь прабітых у баі [1, с. 334].

Пушкін лічыць, што ніякая дзяржаўнасць не можа паспяхова існаваць за кошт асобы. Будаўніцтва моцнай дзяржавы не можа адбывацца за кошт асобы і насуперак ёй, а толькі праз і ў імя яе. Гісторыя павінна рухацца праз рэчышча асобы. Поспехі і дасягненні дзяржавы беспадстаўныя, калі асоба ў дзяржаве пазбаўлена магчымасці набыць радасць у асабістым жыцці і ў сферы грамадскага служэння.

Прарыў у канцы першай траціны XIX стагоддзя да такога грунтоўнага вырашэння праблемы ўзнімае мастацкую канцэпцыю «Меднага конніка» на найвышэйшы гістарычны п’едэстал.

Дзяржава неабходная, але яна развівалася ў супрацьчалавечым накірунку і павінна быць ачалавечанай. Бунт адлюстраваны Пушкіным як гістарычна не плённае дзеянне, але непазбежнае пры існуючым руху гісторыі.

Мастацкая культура ўдзельнічае ў гістарычным працэсе шляхам стварэння парадыгм (ідэалаў, мэт і сэнсаў быцця) эпохі. Гісторыя чалавецтва — змена парадыгм. Чалавек, зразумеўшы, што жыве паводле застарэлых ідэалаў, выпрацоўвае новую парадыгму і прарываецца ў новую эпоху. Жыццё ўскладняецца, насычаецца дабротамі. Але выяўляюцца хібы парадыгмы, паўстае крызіс. Новая эпоха мае новую парадыгму. Яна спрыяе развіццю грамадства, але хутка таксама зазнае крызіс.

Кароткая гісторыя парадыгм.

Найстаражытная эпоха: чалавек — трывалы барацьбіт з пагібельнымі ўмовамі жыцця, скіраваны на выжыванне і працяг чалавечага роду (наскальны жывапіс — сцэны палявання, «неалітавая Венера»).

Антычнасць: чалавек — герой, абаронца Айчыны («Іліяда»).

Сярэднявечча: чалавек грэшны, але ў ідэале — святы, арыентаваны на жыццё нябеснае (Кёльнскі сабор), здольны ахвяраваць дабротамі жыцця на зямлі ў імя жыцця пасля жыцця.

Адраджэнне: чалавек — тытан, прынцып якога: «Рабі, што хочаш!» (Рабле). Крызіс гэтай парадыгмы ўсвядоміў Шэкспір: **Я**га губіць Атэла без вонкавых прычын, кіруючыся прынцыпам «рабі, што хочаш».

Класіцызм: чалавек — рацыяналістычны, яго дзеянні рэгламентаваныя, васал караля, функцыя дзяржавы (Карнэль, «Сід»).

Асветніцтва: «асабісты і асобны», цвярозага розуму чалавек. Яго веліч адносная. Ён — волат паміж ліліпутамі, ліліпут паміж волатамі (Свіфт).

Сентыменталізм: чалавек — асоба, што жыве сэрцам, якое разумнейшае за розум (Русо).

Рамантызм: дэманічны індывідуаліст, неўтаймоўны бунтар супроць усеагульнай неўладкаванасці свету; зло несмяротнае, барацьба з ім вечная і стварае аазісы ў пустэльні чалавечага грамадства (Байран).

Рэалізм: чалавек — цэлы сусвет; ён адолее зло, змяняючы сябе шляхам самаўдасканалення і несупраціву злу гвалтам (Талстой); дамагаючыся гармоніі паміж дзяржавай і асобай (Пушкін).

Сацыялістычны рэалізм: чалавек — пераўтваральнік; рэвалюцыйны гвалт вызваляе свет ад зла; «свет пераафарбоўваецца ў іншы колер толькі крывёй» (Горкі).

Мадэрнізм: чалавек — прынцыпова адзінокі, жыве ў варожым (Кафка) і абсурдным (Камю) свеце, не прымаючы сацыяльнай арганізацыі (Сартр).

Усходняя мадэль: унутры нерухомага жыцця віруе гісторыя. Парадыгма ўсходняй культуры: не ідэалы, а дао (шлях).

Свет, які прайшоў праз сусветныя войны, застаецца небяспечным. Новая эпоха, што распачалася пасля халоднай вайны, упершыню ў гісторыі чалавецтва не мае новых мэт, ідэалаў і сэнсаў быцця. Утварылася светапоглядная чорная дзірка. Гэта адбіваецца на розных сферах жыцця: палітыкі называюць сябе прагматыкамі, а яны павінны быць стратэгамі (але ж якая стратэгія без ведання мэты!). Альбо: у літаратуры і ў мастацтвах шмат таленавітых, але вось ужо 30—40 гадоў няма вялікіх твораў (яны без ідэалаў немагчымыя!)

Парадыгма XXI стагоддзя — новы тып глабалізацыі. Глабалізацыі дамагаліся: мячом (Македонскі), крыжам і мячом (Карл Вялікі), новым ладам жыцця і штыхамі (Напалеон), ідэалогіяй, новым ладам жыцця і штыхамі (Ленін), эканомікай і авіяносцамі (ЗША).

Парадыгма XXI стагоддзя: глабалізацыя на грунце агульначалавечай культуры; росквіт і яднаннне чалавецтва як роду пры захаванні разнастайнасці нацыянальных і дзяржаўных форм быцця і сцвярджэнні каштоўнасці асобы. Гэтая стратэгічная мэта патрабуе прыярытэту гуманітарных навук у адносінах да прыродазнаўчых і нават да нанатэхналогій. Бо выжыванне і росквіт чалавецтва залежаць не столькі ад новых тэхналагічных дасягненняў, колькі ад таго, ці здзейсніцца пушкінскі запавет і народы, «забыўшыся пра сваркі, у адзіную сям'ю злучацца», ці спраўдзіцца мара Т. Шаўчэнкі пра адзіную сям'ю народаў, ці ажыццявіцца ідэя Канта аб вечным міры, ці ўвасобіцца насамрэч заклік Шылера і Бетховена: «Абдымiцеся, мільёны!»

***З рускай пераклаў Іван АФАНАСЬЕЎ.***

## Спіс літаратуры:

1. Пушкін, А. С. Медны коннік / А. С. Пушкін // Выбраныя творы: Вершы, паэмы: Пер. з рус. / Рэдкал.: Марчук Г. (гал. рэд.) і інш.; Уклад. М. Мятліцкі; Прадм. Я. Сіпакова. — Мн.: Маст. літ., 1999. — С. 333—344.

2. Пушкин, А. С. Медный всадник / А. С. Пушкин // Сочинения: в 3 т. — М.: Худож. лит., 1974. — Т. 2: Поэмы. Драматические произведения. — С. 248—260.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 31 студзеня 2014 года.

## Юры БОРАЎ

## Мэты і сэнсы быцця чалавека і чалавецтва

## Рэзюмэ

У артыкуле даследуецца гістарычны і культурфіласофскі змест паэмы А. С. Пушкіна «Медны коннік». Абгрунтоўваецца класіфікацыя парадыгм эпох, якія вызначаюць розныя тыпы культуры.

## Yury BORAU

## Goals and Values of the Human and the Humanity

## Summary

The historical, cultural and philosophical content of the poem «The Bronze Horseman» by Pushkin is explored in the article. The classification of epoch paradigms that define different cultural types is substantiated here.

Валерый МАКСІМОВІЧ

# БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА ПАЧАТКУ XX СТАГОДДЗЯ: ЕЎРАПЕЙСКІ КАНТЭКСТ

Беларуская літаратура пачатку XX стагоддзя развівалася ў адпаведнасці з найноўшымі тэндэнцыямі і кірункамі, якія ў роўнай ступені захапілі ўвесь сусветны літаратурны абсяг. Характар гэтага працэсу непасрэдна быў звязаны з істотнымі зрухамі ў грамадскай свядомасці, перастуктураваннем мастацкага мыслення, з пашырэннем і абагачэннем новых эстэтычных падыходаў і прынцыпаў, якія актывізавалі літаратурны працэс, станоўча паўплывалі на інтэлектуальнае сталенне літаратуры, скіравалі яе на шлях пошуку іншых, мадэрнісцкіх форм мастацкага спасціжэння духоўных актуалій жыцця.

Прызнаючы разнастайнасць і шматвектарнасць літаратурнага працэсу пачатку XX ст., пры стварэнні новай канцэпцыі развіцця літаратуры мы ўсё ж адштурхоўваліся (а часам і працягваем адштурхоўвацца) ад ранейшых, у многім дагматычных уяўленняў і ўстановак. У той жа сістэме адносін «рэалізм — мадэрнізм» нязменна падкрэслівалася і вылучалася іх іманентна-канфрантацыйная, непрымірэнчая сутнасць, да чаго скіроўваў штучна створаны і беспадстаўна культываваны міф-рэцэдыў савецкага літаратуразнаўства, згодна з якім мадэрнізм лічыўся ўвасабленнем крызісных з'яў буржуазнай культуры. Зайздросная жывучасць гэтага відавочна надуманага і сацыялагічна прамалінейнага міфа абумоўлена, як падаецца, яго сацыяльна-дэтэрмінісцкай прыродай, дактрынёрскім трактаваннем гісторыі развіцця літаратуры — як працэсу змагання прагрэсіўнага (сацыялістычнага, партыйнага) з рэакцыйна-буржуазным, перадавога — з адсталым, кансерватыўным. Прытрымліваючыся ўтылітарнага падыходу да літаратуры, яе прамалінейнай залежнасці ад грамадства, вульгарны матэрыялізм не мог прымірыцца з думкай пра аўтаномнае, самадастатковае функцыянаванне мастацкай сістэмы мадэрнізму згодна з яе ўнутранымі законамі станаўлення і развіцця. Увогуле ігнараваўся той факт, што развіццё літаратуры як адмысловай эстэтычнай сістэмы залежыць перадусім ад структурных пераўтварэнняў у ёй самой, хаця, безумоўна, і апасродкаваных агульнагістарычнымі і сацыякультурнымі прычынамі. Да таго ж агульнапрынятым, бясспрэчным лічылася тое, што ўсе звязаныя з мадэрнізмам літаратурныя напрамкі, будучы спараджэннем крызісна-ўпадніцкіх з'яў у мастацтве, супрацьстаяць рэалістычнаму метаду ў адлюстраванні рэчаіснасці. У прыведзеным кантэксце слова «супрацьстаяць» сапраўды ўтрымлівала канатацыю адкрытай варожасці, агрэсіўнасці, канфліктнасці.

Гэтае не проста спрошчанае, але папраўдзе дагматычнае ўяўленне надоўга замацавала за мадэрнізмам рэпутацыю непаўнавартаснага кірунку, які нібыта падрывае асновы класічнага, высокага мастацтва. Вось чаму цяпер, пры выбудоўванні абноўленай канцэпцыі літаратурнага развіцця, па словах вядомага расійскага даследчыка У. Келдыша, «уяўляецца першаступенна важнай задачай канчатковая адмова ад ўспрымання літаратурнага руху канца XIX—пачатку XX ст. толькі ў катэгорыях канфрантацыі і ўзаемаадчужанасці — як стан вайны паміж рэалізмам і мадэрнізмам» [9, 15].

Сёння погляды на мадэрнізм карэнным чынам перагледжаны. Мадэрнізм успрымаецца найперш як феномен культурны, эстэтычны, які нароўні з іншымі

мастацкімі сістэмамі паспрыяў фарміраванню самасвядомасці літаратуры, уваходжанню яе ў шырокі сусветны кантэкст праз далучанасць да ўсяго багацця агульначалавечай культуры. Па словах аўтараў кнігі «Беларуская літаратура і свет: ад эпохі рамантызму да нашых дзён», мадэрнізм стаў мастацкай класікай, часткай культурнай гісторыі цывілізацыі [3, 152—153]. Якой бы ўпадніцкай, дэкадэнцкай ні называлі літаратуру пачатку ХХ стагоддзя, наяве аказалася, што гэта быў яе зорны час: па значнасці, прэзентабельнасці створаных мастацкіх шэдэўраў, па іх эстэтычнай ёмістасці і ўніверсальнасці ахопу рэчаіснасці, па маштабнасці зробленых адкрыццяў, па крэатыўнасці творчай пазіцыі мастака гэтая эпоха не мае сабе роўных. Яе варта было б назваць своеасаблівай «літаратурнай Меккай», калі мець на ўвазе беспрэцэдэнтную спробу стварыць новую мастацкую «карціну свету» праз культываванне «вечных», «быційных» каштоўнасцей жыцця, дзе самыя разнастайныя гісторыка-культурныя феномены выяўлялі сваё гарманічнае адзінства і высокую ступень эстэтычнай дасканаласці.

Мы часта — і ў большай ступені па традыцыі ці прынятым каноне — гаворым пра мадэрнізм як пра мастацтва пратэстуючае, бунтоўнае, радыкальнае, якое непрымірыма і варожа ставіцца да існуючых (кансерватыўных, састарэлых) форм і праяў жыцця. Але пры ўсім сваім бунтоўным характары мадэрнізм, у аснове сваёй, быў запраграмаваны на гарманічны, зладжаны, упарадкаваны, а галоўнае, жыццесцвярджальны пачатак. Ён меў прынцыповую ўстаноўку на культываванне суверэннага і самакаштоўнага зямнога быцця. Ужо ў наш час даследчыкі ўсё больш схіляюцца да трактоўкі апазіцыі «рэалізм — мадэрнізм» як цесна звязанай апазіцыі адзінага цэлага. Рэалізм і мадэрнізм адносяць да апаніруючых і адначасна дыялагізуючых сістэм, а не спрэс варожых, непрымірымых. Прызнаецца факт іх моцнага ўзаемаўплыву, узаемаўзбагачэння за кошт засваення новай мастацкай тэхнікі, новых сродкаў выразнасці праз прызму новых светапоглядных падыходаў.

Мірнае і плённае суіснаванне самых розных эстэтычных дактрын, кірункаў і стыляў не выключае і моманты дастаткова моцнай палемікі з улікам адрознасцей эстэтычных сістэм і каардынат, якія напрамую ўплывалі на сутнасць пазіцыянуючых літаратурных канцэпцый і падыходаў. Маючы на ўвазе складаную цэльнасць літаратурнага пачатку ХХ ст. увогуле, У. Келдыш у гэтай сувязі заўважае: «Тэзіс аб аднолькавай важнасці прыцягненняў і адштурхоўванняў у функцыянаванні літаратурных напрамкаў часу павінен стаць, як уяўляецца, адным з асноўных пасылаў у даследаванні “сярэбранага веку”» [9, 29]. Заслугоўвае ўвагі той факт, што літаратура гэтага часу, якой бы ўпадніцкай яна ні падавалася ў тагачасных ацэнках яе апанентаў, насамрэч не была такой. Час даказаў адваротнае: з упадніцкай яна перайшла ў разрад класічнай, узорнай — той, якая здолела напоўніцу адлюстраваць сваю эпоху ў яе складанай паўнаце і разнастайнасці. Уражваючая выніковасць, важкасць прыўнесенага ў літаратуру менавіта мадэрнізмам пераконвае ў тым, што да вызначэння, характарыстыкі гэтага паняцця нельга падыходзіць сумарна, агулам.

Мадэрнізм стаў знакавай рэальнасцю ў сусветным літаратурным працэсе памежжа стагоддзяў, да якога былі далучаны ў той або іншай ступені многія выбітныя сусветныя майстры слова. Асабліва калі гэта тычыцца мадэрнізму славянскіх краін (акрамя Расіі) як краін пераважна з паскораным (= запозненым) характарам развіцця, дзе ў межах аднаго сінхранічнага часу сышліся многія літаратурныя плыні і кірункі, уключна з тымі, якія ў больш развітых літаратурах паспелі страціць сваю навізну і актуальнасць (рамантызм, сентыменталізм, класіцызм, барока). Мадэрнісцкая скіраванасць гэтых літаратур станавілася своеасаблівай формай «ужывання ў эпоху», адным са шляхоў спасціжэння і пераасэнсавання яе сімвалаў і знакаў згодна з законамі і прынцыпамі ўласна нацыянальнай, аўтэнтычнай жыццятворчасці. Актуальнай і надзённай для краін славянскага рэгіёна

заставалася праблема нацыянальнай самаідэнтыфікацыі, набыццё і захаванне сваёй самасці, фарміраванне нацыянальнай самасвядомасці, спрычыненасць да еўрапейскіх цывілізацыйных форм дзяржаўнасці і культуры з усім комплексам ідэалагічных структур і інстытутаў.

Неабходна ў гэтай сувязі заўважыць, што культуратворны механізм працэсу набыцця свайго нацыянальнага аблічча ў многім меў падабенства з эвалюцыяй іспанаамерыканскага мадэрнізму. Гэта, хутчэй за ўсё, абумоўлена тыпалагічнымі момантамі гістарычнага развіцця двух цывілізацыйных рэгіёнаў — славянскага і іспанаамерыканскага. Апошнія даследаванні феномена іспанаамерыканскага мадэрнізму ўсё часцей зводзяцца да таго, што «менавіта адчуванне недастатковай самарэалізаванасці, непаўнаты быцця, стыхійная прага кампенсацыі ўласнай «непаўнацэннасці», якая ўспрымалася асабліва востра на фоне заходняй дзяржаўнасці, еўрапейскіх ідэалагічных інстытутаў і традыцый, абумовілі ўзнікненне магутнага агульнакантынентальнага духоўнага руху, своеасаблівасць якога дала падставу для самых супярэчлівых ацэнак» [5, 152]. Тое ж імкненне самаідэнтыфікавацца і самасцвердзіцца, прага кампенсацыі непаўнаты нацыянальнага быцця ляжаць у аснове беларускага мадэрнізму і мадэрнізму славянскіх краін. Вось чаму мы можам гаварыць пра іх тыпалагічнае адзінства, якое прадыктавана (генерыравана) перадусім складанымі працэсамі нацыянальнага адраджэння, пільнай патрэбай кожнай нацыі ў духоўнай самарэалізацыі, этнакультурнай самаідэнтыфікацыі.

Еўрапейскі мадэрн гэтага часу ўспрымаецца, хутчэй, як «хвароба росту», напрамую звязаная з праблемай прыватна-асобаснага самасцвярджэння, якое часам межавала з адкрытым манернічаннем, надуманасцю. Адэпты беларускага мадэрнізму, як, дарэчы, і лацінаамерыканскага, наадварот, стараліся не абсалютызаваць момант асобаснага, індывідуальнага — грамадскае, усеагульнае, цесна знітаванае з пошукамі выйсця з гістарычнага дрэйфу, з праблемай нацыянальнай ідэнтычнасці, заўсёды знаходзілася ў цэнтры іх ідэйна-філасофскіх і мастацкіх пошукаў. З гэтай жа прычыны, на што звяртаюць увагу даследчыкі, «крызіснае светаадчуванне Еўропы канца XIX ст. увайшло ў духоўны комплекс іспанаамерыканскага мадэрнізму як адзін з яго пластоў, у знятым выглядзе, стаўшы толькі варыянтам адказу на ўласныя запыты Лацінскай Амерыкі» [5, 153]. Досыць перспектыўнай, на наш погляд, падаецца тая думка, што адбывалася «не простае зняцце злепка, а парафрастычнае абыгрыванне культурнай мадэлі» [5, 153], што было падпарадкавана агульным задачам літаратуры і сутнасна адпавядала гістарычнаму моманту, у многім лёсавырашальнаму.

Пазначаныя моманты пераканаўча сведчаць аб тым, што ў адрозненне ад «крызіснай» еўрапейскай свядомасці, якая знаходзілася як бы ў разладзе з сабой, беларуская (як і славянская ўвогуле) свядомасць была ў пэўным супрацьстаянні не толькі сама з сабой, але і з іншымі спосабамі быцця. Пэўны светапоглядны дысананс відавочна ўзмацняўся не з прычыны ўласнага быційнага крызісу, а з прычыны недастатковай сфармаванасці важных складнікаў нацыянальнай жыццядзейнасці. У гэтым, зрэшты, адна з істотных прычын адрознення беларускага мадэрнізму ад еўрапейскага. Для беларускіх мадэрністаў надзвычай актуальнымі і надзённымі заставаліся пытанні нацыянальнага самавызначэння, ідэі абуджэння высокіх патрыятычных пачуццяў, цесна спалучаных з ідэяй адраджэння дзяржаўнай незалежнасці. З гэтай прычыны іх творы, пры ўсёй стракатасці значэнняў і сэнсаў, нязменна акрэслены высокім грамадзянскім пафасам, прапаведдзю гуманістычных ідэй духоўнай каштоўнасці чалавека. Рашаючым фактарам, які вызначаў ідэйна-светапоглядныя дамінанты беларускіх пісьменнікаў, што аб'ядналіся вакол газеты «Наша ніва», была сітуацыя нацыянальнага і сацыяльнага прыгнёту, адсутнасць умоў плённага развіцця ўсіх сфер грамадска-палітычнага і культурнага жыцця.

Пераадольваючы аджылыя стэрэатыпы і штампы, дзеячы нацыянальнага адраджэння імкнуліся рашуча і сурова ацаніць рэаліі нацыянальнага жыцця, беручы пад увагу багаты і ў многім супярэчлівы спектр яго праяў, наважваючыся стварыць новы вобраз Беларусі і беларуса.

Усё адзначанае прывяло да таго, што за параўнальна кароткі адрэзак часу літаратура нашмат павысіла свой мастацкі ўзровень дзякуючы *ўнутранай адкрытасці*, арганічнай «упісанасці» ў агульнаеўрапейскі культурны кантэкст. Феномен беларускай літаратуры і выявіўся перадусім у яе дэмакратычнай, культурнай інтэграцыйнасці пры адначасным захаванні сваіх сутнасных, архетыпных канстант (г. зв. «геннага коду культуры»). Іншымі словамі, у яе поле зроку трапляюць самыя розныя, часам несумяшчальныя мастацкія навацыі (структуры, формы, фактары), якія асвойваюцца абавязкова з улікам сваёй унутранай, нацыянальнай патрэбы і мэтазгоднасці і ў той ступені, у якой здольныя спрыяць мадэляванню структуры нацыянальнага архетыпу. Пры гэтым уласна асобасны пачатак (ego-самасць творцы), аб’ектыўна захоўваючы сваю аўтаномнасць і першаснасць, на этапе ўключанасці ў сістэму грамадскай камунікацыі ўдала праецыруецца на «матрыцу» эпохі і набывае як бы двайны модус свайго функцыянавання. Гэта асабліва заўважна ў фазе рэцэптыўнага зліцця аб’ектыўнага і суб’ектыўнага, асобаснага і агульнага, унутранага і знешняга. Адсюль бярэ свой выток фундаментальная ідэя *двайнога модусу* (спосабу функцыянавання) беларускай літаратуры, што становіцца яе субстанцыянальнай сутнасцю, генетычнай, унутранай уласцівасцю.

Адным з першых, хто глыбока пранікнуўся жаданнем вывесці нацыянальную літаратуру на новыя эстэтычныя далягляды, далучыць яе да сусветнай мастацкай культуры, быў Максім Багдановіч (1891—1917). Даўно заўважана, што для М. Багдановіча характэрна надзвычай інтэнсіўнае і глыбокае асабістае перажыванне сусветнай культуры ў сукупнасці яе гістарычнага быцця. Гісторыка-літаратурныя алюзіі, рэмінісцэнцыі, эпіграфы, якімі густа аздоблены творы паэта, сведчаць аб свядомай эстэтычнай устаноўцы, арганічнай сувязі (ці, лепш, перагукванні) з мастацкім набыткам чалавецтва. Менавіта спадчыну мінулага, нерукатворныя помнікі даўніны М. Багдановіч разглядаў як неабходны сродак сувязі эпох, захавання пераемнасці і як крэатыўны матэрыял духоўнасці, культурнага прагрэсу.

Па сутнасці, менавіта паэзія М. Багдановіча падспудна справакавала першы літаратурны канфлікт, пачатак якому паклала дыскусія — светапоглядная, культуралагічная — аб сутнасці, змесце і перспектывах развіцця новай беларускай літаратуры (пачатак XX ст.). З гэтага часу літаратура пачынае ўспрымацца не толькі як эстэтычная, але і як цэласная з’ява культуры. Таму дыскусія 1913 года, што адбылася на старонках «Нашай нівы», — ужо не проста літаратурны канфлікт, а канфлікт дзвюх светапоглядных стыхій з усёй сумай палітыка-ідэалагічных, філасофскіх пастулатаў, якія складаюць актыўнае ядро ўласнага мастацкага развіцця. Тыпалагічна яна суадносіцца з палемікай аб шляхах развіцця Беларусі, якая спарадычна ўзнікала на працягу многіх стагоддзяў і станавілася важнейшым «механізмам» культуратварэння, фарміравання ўласнай духоўнай традыцыі (XVI — XVII стст., пач. XIX ст.). Але калі ў папярэдняй палеміцы спрэчка з ідэямі непаўнацэннасці, няспеласці, адсталасці вялася са знешнімі апанентамі, то цяпер канфлікт перамяшчаецца ўсярэдзіну дзякуючы непасрэднаму ўплыву ўласных літаратурных і культурных фактараў. І гэта сведчыць пра прынцыпова новую стадыю ў развіцці беларускай культуры, якая пачынае абапірацца на свае ўнутраныя рэзервы, спакваля набывае ўласную дынаміку развіцця.

Пошукі генератыўнага першапачатку гэтага развіцця нязменна прыводзілі паэта да эстэтызму, панэстэтызму, да культу красы, да ўсеахопнага прынцыпу эстэтычнай аўтакратыі. Эстэтызм сапраўды станавіўся каталізатарам новага

стылю. Паняцце Красы, Прыгажосці набыло гучанне ўсеагульнай, глабальнай катэгорыі, стала прадметам абагаўлення. Эстэтычная аснова творчасці М. Багдановіча непасрэдна звязана з пошукамі гармоніі, якая выяўлялася ў мностве абліччаў. Прынцып «апаланізму» як прынцып адзінства, сінтэзу культур з'яўляецца асноватворным прынцыпам эстэтычнага крэда паэта.

Надзвычайная цікавасць, чуласць Багдановіча да высокіх тварэнняў чалавечага духу была арганічнай часткай яго мастацкай свядомасці. Паэт меў асаблівы піетэт да скарбаў старажытнай духоўнай культуры, да высокай культуры ўвогуле, да шэдэўральных твораў сусветнага мастацтва. Сведчаннем таму — у ліку іншых — могуць служыць яго пераклады з Гарацыя, Авідзія, Поля Верлена, Эміля Верхарна, Фрыдрыха Шылера, Генрыха Гейне, Тараса Шаўчэнкі, Аляксандра Пушкіна і інш. Адсюль і прывязанасць Багдановіча да «цвёрдай» класічнай формы (санет, трыялет, рандэль, рандо, тэрцына, актава — еўрапейская традыцыя; танка — усходняя (японская) традыцыя; элегічнае двухрадкоўе, пентаметр, асклепіядаўскі верш, ода і дыятрыб (пераклады Гарацыя) — антычная традыцыя).

Паэтычны свет Максіма Багдановіча канкрэтны, рэальны, адчувальны. Больш за тое, ён як бы па-сямейнаму асвоены, прыручаны. Сімвалічная невыразнасць, затуманенасць, абстрактная, ускладненая метафорыка — не прэрагатыва Багдановіча. Для паэта важна адчуць матэрыяльную рэчыўнасць свету, дакладнасць і важкасць яго абрысаў і межаў. У шмат якіх вершах паэта можна назіраць нанізванне бездакорна адчаканеных «прадметных» рэалій, дзе над усім пануе ціхая, святляная — простая — радасць жыцця на зямлі, радасць існавання ў свеце:

Цёплы вечар, ціхі вецер, свежы стог,
Улажылі спаць мяне вы на зямлі.
Не ўстае стаўпом пыл светлы ўздоўж дарог,
Ў небе месяца прагляңуў бледны рог,
Ў небе ціха зоркі расцвілі.
[2, 1, 62]

Праецыраванне пачуццяў на рэаліі і аб'екты нежывой прыроды ўзмацняецца да такой ступені, што апошнія здаюцца адухоўленымі, надзеленымі чалавечымі пачуццямі і адчуваннямі. Тут варта выказаць здагадку, што і тая ж захопленасць паэта антычнасцю, і яго наўздзіў абвостраная цікавасць да падрабязнасцей побыту і быцця прадыктаваныя надзвычайнай патрэбай у канкрэтнай людской і, больш за тое, касмічнай цеплыні і нейкай матэрыяльнай, як бы ахоўнай, абалонцы, што засцерагала б жывы сусветны арганізм ад выстуджвання.

Заўважана: у Багдановіча няма багатай палітры святлаколернага спектра — яго слова гранічна дакладнае, выразнае і адначасна агульнае па сэнсе. Гэта «свяшчэнны лес» мастацтва, які мае сваю флору (*бяроза, таполя, асіна, елка, сасна, дуб, груша, каліна, асака, лаза, чарот; кветкі, пух вішняў, васількі, лілеі*), сваю арніталогію (акрамя вобраза *лебедзя — зязюля, белы лунь, чорны кажан, сава*), сваю «гідраніміку» (*вада, мора, рака, возера, хмара, дождж, паводка, навальніца, крыніца, раса, кроплі-слязінкі*), свой ландшафт («*абшары лясоў*», *поле, разлогі, нізіны, ляды, лугі*), сваю «астралогію» (*месяц, зоркі, сонца, агонь*). Перавага прадметнага значэння слоў у вершах М. Багдановіча дазваляе знайсці агульныя пункты судакранання з мастацкай практыкай акмеістаў. У іх творчасці нездарма назіраецца надзвычайны піетэт да зямнога, звычайнага, рэчыўна-матэрыяльнага, закаханасць, гаворачы словамі М. Кузьміна, «в прелесть и пустяки мирного жития». Пры гэтым прадметы, дэталі, выявы, што важна, набываюць ідэязначны сэнс. Рэчыўна-малюнкавы, пластычны свет успрымаецца не проста як фонавы, дэкарацыйны, дапаможны «матэрыял», а набывае шматфункцыянальнае значэнне. Ён выступае ў якасці своеасаблівага карэлята, сімвалічнага адпаведніка лірычнай эмоцыі, пачуцця, настрою. І часам цяжка вызначыць: ці рэчы выступа-

юць выявамі душы, ці душа «прасвятляе» іншую, схаваную ад вачэй, сутнасць рэчаў. Больш за тое, у канкрэтна-рэчавым, матэрыяльным М. Багдановіч заўсёды імкнуўся распазнаць яго духоўную сутнасць, «высокую красу».

Калі ўжо знаходзіць пункты судакранання паэзіі М. Багдановіча з творчымі практыкамі акмеізму, варта ўказаць і на тую немалаважную акалічнасць, як прысутнасць у іх творчасці тэмы «цяпла», «дамашняй утульнасці», «свойскасці». Паўторымся: кожнаму прадмету, самай, здавалася б, нязначнай побытавай праяве, прадмету, рэчы, аксесуару надавалася надзвычайная ўвага. З разраду другасных, дапаможных, як бы пазбаўленых права на іменнасць, асабістую прыручанасць, яны пераходзілі ў разрад ледзь не сакраментальных, свяшчэнных — ачалавечаных, адухоўленых, здольных напоўніць сэнсам і ўнутраным цяплом адзінокае і тужлівае існаванне чалавека на зямлі. Рэчы ў кантэксце паэтычнай стратэгіі прадстаўнікоў і акмеізму, і самога Багдановіча набываюць адзнаку сувязных часу, жывых сведкаў дзён, падзей, людскіх узаемаадносін, з'яўляючыся часткай іх жыццёвай філасофіі, нораваў, густаў, звычак і г.д. Да таго ж гэта — магутны сродак повязі мінулага і сучаснага, сродак запаўнення, урэшце, касмічнай пусткі, безыменнасці, безжыццёвасці матэрыяльнымі тварэннямі прыроды і чалавека, з замілаваннем і любоўю асвоенымі, абжытымі людзьмі ў працэсе іх жыццядзейнасці. Акурат тонкая, філігранная абмалёўка, апісанне рэчаў, прадметаў акаляючага свету збліжае М. Багдановіча з В. Мандэльштамам у ідэі прыўлашчанага ўладкавання жыццёвага побыту на прынцыпах «асабечанай утульнасці», «усясветнага дома», ці, гаворачы словамі В. Мандэльштама, «мировой домашности». І тая ж установка на дэталёвае, скрупулёзнае вымалёўванне, як бы ўнутранае асвойванне кожнай рэчы, дэталі, разам з захаваннем незвычайнай меры, суадпаведнасці ў межах паэтычнага цэлага дазваляе знайсці новы ракурс у Багдановічавым разуменні сутнасці паэзіі як рамяства, карпатлівай працы над кожным словам, радком, формай верша. Існым крэда паэта сталі наступныя радкі з верша «Песняру»:

Трэба з сталі каваць, гартаваць гібкі верш,
Абрабіць яго трэба з цярпеннем.
Як ударыш ты ім, — ён, як звон, зазвініць,
Брызнуць іскры з халодных каменняў.
[2, 1, 126]

Максіму Багдановічу, калі мець на ўвазе спецыфіку разумення ім творчага акта, імпанавала больш паэзія, заснаваная не на звышпачуццёвай інтуіцыі, а на рэальным псіхалагічным вопыце. Паэт свядома прытрымліваўся прынцыпу «"сальерызму" ў мастацтве, калі натхненню і ірацыянальнасці творчага працэсу супрацьпастаўляецца *"мерны, нудны труд"*» [1, 174]:

Сальеры ў творчасці усё хацеў паняць,
Ва ўсім упэўніцца, усё абмеркаваць,
Абдумаць спосабы, і матар'ял, і мэту,
І горача любіў сваю свядомасць гэту.
У творчасці яго раптоўнага няма:
Аснова да яе — спакойная дума.
[2, 1, 263 — 264]

Каштоўнасць і сэнс чалавечага жыцця, па Багдановічу, заключаецца не ў гатоўнасці здзейсніць нейкі геройскі ўчынак, подзвіг, а ў самім штодзённым побыце, у здольнасці знайсці радасць у кожнай драбніцы, у кожнай праяве жыцця. І той жа зварот Багдановіча да класіцысцкіх ідэй і форм мастацтва, да парнаскай традыцыі класічнай сувымернасці, урэшце, да сведчанняў чалавечай гісторыі — гэта свайго роду адчайная спроба вярнуць і захаваць гармонію, суладнасць, паўнату жыцця ў самых разнастайных яго праявах, прыпыніць вечнасць, працягнуць радасць пазнавання і спасціжэння ўніверсальных знакаў культуры.

Наяве ілюзія вяртання «залатога веку» сродкамі мастацтва, фантазіі і напружанай унутранай работы. Адсюль — неспатольныя і неадольныя настальгічныя згадкі пра экзатычны і надзвычай прыцягальны перыяд у чалавечай гісторыі, калі жылі і стваралі Анакрэон, Рафаэль, Парні і інш. Дамінуючым, сэнсаўтваральным фактарам у вершах М. Багдановіча антычнай скіраванасці выступае ідэя вяртання каштоўнасцей еўрапейскай антычнай культуры ў рэальнасць «гістарычнага сягоння» праз сумяшчэнне гістарычнага часу і ахроннай «вечнасці». В. Жырмунскі, запазычваючы выраз Ф. Шлегеля, назваў вершы Мандэльштама «паэзіяй паэзіі» — «паэзіяй, якая мае сваім прадметам не жыццё, непасрэдна ўспрынятае самім паэтам, а чужое мастацкае ўспрыманне жыцця» [6, 123]. Думаецца, гэтыя словы з поўным правам можна аднесці і да М. Багдановіча.

Варта нагадаць, што сама ідэя пошуку ідэалу, узораў высокай эстэтычнай значнасці і самакаштоўнасці з'яўлялася найважнейшым стымулам для свядомасці мадэрністаў. У гэтым сэнсе многае родніць М. Багдановіча з буйнейшым прадстаўніком чэшскага сімвалізму Атакарам Бржэзінам (1868—1929). У паэзіі апошняга даволі яскрава праступае жыццесцвярджальны, віталістычны пачатак, услаўленне вечнай прыроды, хараства існавання на зямлі. Раскрыццё духоўнага свету лірычнага героя, як правіла, адбываецца праз матэрыяльныя вобразы, карціны прыроды. Падобныя неакласіцысцкія (парнасісцкія) тэндэнцыі праявіліся ў творчасці найбольш паслядоўнага прадстаўніка чэшскага дэкадансу Іржы Карасека з Львовіц (1871—1951), у якога, як і ў Багдановіча, заўважаецца зварот да класічных цвёрдых форм верша, да эстэтызацыі неэстэтычнага.

Апалагетам прынцыпаў класіцысцкай паэзіі ў літаратуры «Маладой Польшчы», як вядома, быў Леапольд Стаф. Кнігі «Квітнеючая галінка» (1908) і «Усмешкі часу» (1910), як і наступныя зборнікі, увасобілі ў яго творчай практыцы ідэал паэзіі, звернуты да выдатных твораў антычнай літаратуры, да ідэалаў гармоніі і ўніверсальна ўспрынятай прыгажосці, ідэал паэзіі, скіраваны супраць раздробленасці, дысанансу і трывог сучаснасці.

Ідэя ўсеахопнасці, цэласнасці не проста ўсяго жывога на зямлі, але і сувязі вякоў і эпох пранізвае кнігу М. Багдановіча «Вянок». Прычым пры наяўнасці шматлікіх сувязей і адносін у бязмежнай стракатай карціне свету Багдановіча, як бачна, больш прываблівае не так, можа, сучаснае, жывое, пульсуючае жыццё, колькі *«краскі, свежыя каліcьці»* — засушаныя, захаваныя на паперы, ператвораныя хоць у прыгожы, але ўсё ж мёртвы гербарый. Паэт не стамляецца ім захапляцца: як бы ў статычным, застылым імгненні жыцця можна шматкроць разгледзець кожную асобную выяву і дэталь, адчуць эстэтычную асалоду ад магчымасці працягнуць-затрымаць судакрананне са спыненай у часе і прасторы прыгажосцю, красою. Храналагічны, тэматычны і жанравы дыяпазон вершаў, згрупаваных у адпаведныя нізкі, цыклы, дастаткова шырокі: ад часоў Сярэднявечча, Рэнесансу да дзён сучасных, да перажываемага моманту (вершы «Летапісец», «Перапісчык», «Кніга», «Безнадзейнасць»). Больш дакладна, уласныя рэфлексіі паэта абуджаюцца векапомным Акропалем культуры. Структура «Вянка», размеркаванне нізак і цыклаў, як вядома, добра прадумана паэтам і падначалена задачы рэцэптыўнага — паліфанічнага — пашырэння сэнсавага гарызонту кнігі. Апошняе дасягаецца рознымі сродкамі і прыёмамі: пачынаючы ад манеры спавядальнасці лірычнага героя да вар'іравання тэматычных структураўтваральных блокаў і жанравага дыяпазону. Таму ствараецца дзіўны эфект не проста дэманстрацыі (акумуляцыі) прыгажосці абраных паэтычных форм і жанраў (санет, трыялет, рандо, рытурнель, верлібр, танка, хоку і г. д.), а як бы іх наўмысная акумуляцыя, «музеізацыя», «гербарызацыя», а значыць — увекавечанне з мэтай наступнага перманентнага паўтарэння-вяртання ў вечным кругабегу вершатворчасці і жыццятворчасці.

Па словах Е. Лявонай, М. Багдановіч надзвычай высока цаніў сімвалізм ад рэчаіснасці [10, 119], а не адцягнены, абстрактны. Сваю прыхільнасць да прос-

тасці і немудрагелістасці паэтычнага выказвання паэт дэманстраваў неаднойчы. Так, у невялікай нататцы пра паэзію Р. Тагора чытаем наступнае: «... символика Тагора реалистична, одета живою плотью и кровью, она всегда имеет некоторый реальный, конкретно-житейский смысл; но сквозь него постоянно просвечивает иное содержание с границами, трудно определимыми, а потому без конца влекущими и расширяющими мысль» [2, 2, 359]. Указваючы на канкрэтныя прычыны-стымулы мастацкага поспеху У. Самійленкі, Багдановіч вылучае здольнасць украінскага паэта «смотреть на жизнь как бы со стороны, взором не столько участника событий, сколько их наблюдателя, что давало ему возможность уловить наиболее характерное, в частном обнаружить типичное или даже прямо обратиться к обобщению, так любимому им» [2, 2, 312]. Прыведзеная заўвага яскрава пераклікаецца з акмеістычнай устаноўкай на распрацоўку «апасродкаванага лірычнага сюжэта» (Л. Гінзбург). У сувязі з гэтым да месца прывесці сведчанні ўжо згаданага В. Жырмунскага. У артыкуле «Преодолевшие символизм» (1916) даследчык адзначыў характэрную рысу толькі ўзнікнуўшай школы акмеізму — «точную, мало искаженную субъективным душевным и эстетическим опытом передачу раздельных и отчетливых впечатлений преимущественно внешней жизни, а также и жизни душевной, воспринимаемой с внешней, наиболее раздельной и отчетливой стороны» [6, 131]. «Чароўная яснасць» акмеізму, аплодненая пазітывісцкім духам папярэдніх эпох, самадастатковая каштоўнасць, важкасць свету — прасторы, часу, рэчыва — свету зямнога, а не ўяўнага, выдуманага, — праглядваецца ў многіх вершах самога Багдановіча.

Багдановіч даволі талерантна гаворыць пра сузіральнасць У. Самійленкі, пра «обдуманность и неторопливость» яго вершаў, «тихий прибой лиризма», заўважаючы пры гэтым, што «мысль... у него проста, человечна и культурна», што дазваляе гаварыць аб нечым «более сложном и значительном: о целостном поэтическом мироотношении» [2, 2, 306]. Прыведзенае выказванне можна трактаваць не толькі як тэарэтычнае абгрунтаванне новых прынцыпаў эстэтыкі і паэтыкі, заснаваных на прадуманасці, руплівай шліфоўцы, даводцы кожнага твора, але і як своеасаблівае дэкліараванне крытэрыяў уласнай філасофска-эстэтычнай сістэмы. У аснову гэтай сістэмы клаліся тыя ж прынцыпы «сальерызму» — стараннае давядзенне думкі да лагічнага завяршэння, яе глыбокая прадуманасць, успрыманне літаратурнага твора як эстэтычнага феномена. Для нас прыведзеныя разважанні Багдановіча-крытыка важныя яшчэ і тым, што ў іх аўтар упершыню так зацікаўлена падымае праблему, звязаную з псіхалагічным тыпам творчасці, з псіхалогіяй творчасці ўвогуле.

Заўважым пры гэтым, што ў дадзеным выпадку нельга атаясамліваць псіхалагічны тып творчасці з «эстэтызацыяй» індывідуалізму. Р. Бярозкін у гэтай сувязі заўважае: «Вышэйшая ацэнка, якую Багдановіч дае ўкраінскаму паэту Самійленку: «Ён не выключны». Гэту «невыключнасць» Самійленкі Багдановіч ставіць у цесную залежнасць ад яго маральна-эстэтычнай пазіцыі. <...> Адчуваецца, што гэта тая пазіцыя, той стыль чалавечых і творчых паводзін, якіх трымаецца сам Багдановіч: індывідуалізаваная, вылучаная асоба, якая стараецца ўнікнуць усякай выключнасці і таму арыентуе сваю лірычную думку на матэрыялізаваны ў шматвяковых мастацкіх традыцыях вопыт «шэрагу пакаленняў» [4, 524—525]. Вось чаму каштоўнасць чалавека (лірычнага героя У. Самійленкі), паводле Багдановіча, вымяраецца яго сувяззю з прыродай, з рэчаіснасцю, яго далучанасцю да «широкого культурного пути». Нездарма ў артыкуле так шырока закранута пытанне літаратурных уплываў як аднаго з найважнейшых, дзейсных фактараў фарміравання творчай індывідуальнасці Самійленкі. Гэта, паводле Багдановіча-крытыка, з'яўляецца адным з важных складнікаў псіхалагічнай арыентацыі творцы. Сляды гэтых уплываў бачацца аўтарам, з аднаго боку, у рэальным уздзеянні «великорусской», з другога — «древнегреческой и романских литератур»

[2, 2, 307]. «В благородной простоте его писательской манеры, в изяществе стиха, выдержанного и законченного, во всем строе его мысли, — падкрэсліваў Багдановіч, — везде чувствуете вы, что это возникало и вырабатывалось в атмосфере влияния многих и многих культурных миров» [2, 2, 309].

Пры адчувальным уплыве розных мастацкіх стыляў і школ, кірункаў і плыняў, эстэтык і форм паэзія самога Багдановіча выглядае даволі стройнай, адмыслова структураванай сістэмай, дзе ёсць свая мастацкая логіка, апраўданасць, завершанасць, дзе самыя разнастайныя гісторыка-культурныя феномены злучаюцца ў гарманічнае адзінства, у высокую эстэтычную дасканаласць. Багдановіч з'яўляецца сапраўдным спалучальнікам супрацьлегласцей. У асобе беларускага апалагета красы шчасліва спалучыўся экуменістычны і ўніверсалісцкі дух. Праявай экуменістычных памкненняў бачыцца і спроба пошуку аб'яднальнага пачатку ў сферы пачуцця, ідэалу, нават калі гэты ідэал знаходзіцца ў рэтраспектыве. Гэты аб'яднальны пачатак Багдановіч бачыў не ў рэлігійным, боскім, а ў адкрытай культурнай секулярызацыі «Боскай святасці», у набыцці ёю канкрэтнага, «цялеснага», блізкага — адчувальнага сэнсу, які ствараецца дзякуючы сапраўднай, жывой, а не эфемернай агульнасцю пачуццяў. Духоўнае прасвятленне магчымае праз любоў і красу, дадзеных чалавеку ў пачуццях. Багдановічаўская *«высокая краса»*, *«жывы абраз ядыны»*, *«выгляд мацеры ды з воблікам дзяўчыны»* не маюць нічога агульнага з якімі б там ні было догмамі або афіцыйнымі прадпісаннямі, з «іманентнай трансцэндэнтнасцю». Паэту блізкі, усцешны свет быццёвай, зямной гармоніі, матэрыяльна існуючага «тут і цяпер», хай сабе і ў далёка не дасканалым выглядзе, але адчувальна зазнаны, перажыты ў рэальным жыцці ідэал, дзякуючы якому адбываецца пераўтварэнне, перайначванне духоўнага свету. Багдановічаўская «краса і сіла» нараджаецца з непахіснай і радаснай жыццесцвярджальнай надзеі на вечнае сузіранне зямной, а не іншабыццёвай чароўнасці, — чароўнасці ў межах звычайнага штодзённага — *пачуццёвага* — жыцця, без нагнятання штучнага аскетычнага напружання.

Сваю ўласную філасофска-эстэтычную сістэму часу напісання «Вянка» паэт імкнуўся стварыць на аснове засваення здабыткаў сусветнай культуры і пераварэння знешніх імпульсаў, сярод якіх значнае месца займае сацыякультурная сітуацыя памежжа стагоддзяў. Істотны ўплыў на паэта аказала руская мастацка-эстэтычная і філасофская думка, тыя наватарскія тэндэнцыі, якія шырока захапілі і рускую паэзію «сярэбранага веку». Апошнія дасягненні багдановічазнаўства пераканаўча засведчылі факт арганічнай уключанасці творчасці М. Багдановіча ў жывы літаратурны працэс пачатку XX ст., творчага выкарыстання набытку «прадстаўнікоў самых розных плыняў — ад пралетарскіх пісьменнікаў да мадэрністаў...» [8, 401]. У ліку тых, хто так або інакш аказваў уплыў на фарміраванне ўласнай філасофска-эстэтычнай сістэмы М. Багдановіча, можна назваць імёны А. Пушкіна, А. Фета, А. Блока, І. Буніна, В. Брусава, К. Бальманта, М. Кузьміна, М. Гумілёва, С. Гарадзецкага.

Пэўным застаецца адно: светапогляд М. Багдановіча фарміраваўся пад уплывам розных прычын і фактараў, што знаходзіліся не толькі ў цеснай узаемаабумоўленасці, але часам і ў кантрасце. Асновасутнасным момантам у творчай эвалюцыі паэта можна лічыць своеасаблівы светапоглядны сінкрэтызм, які заключаўся ў псіхалагічнай адаптацыі культурнага вопыту чалавецтва на новай жыццёвай аснове, — сінкрэтызм, які ахапіў самыя розныя кірункі яго духоўных і эстэтычных пошукаў.

Зразумець прыроду эстэтычнага ў філасофскай сістэме Багдановіча немагчыма без разгляду сутнасных, фундаментальных пытанняў эстэтыкі творчасці, без высвятлення ўзаемаадносін эстэтычнага і маральнага, мастацтва і творчай дзейнасці мастака. Паэтычная спадчына Багдановіча пераконвае ў тым, што цэнтр цяжару ўсёй эстэтычнай праблематыкі ён перанёс з аб'ектыўнай сферы ў суб'ек-

тыўную, скіраваўшы сваю ўвагу на характар суб'ектыўнай дзейнасці мастака, на здольнасць чалавечай душы культываваць пачуццё прыгожага, імкненне «к трогательному и прочувствованному», у чым, несумненна, па-свойму выявіўся імператыў маральнай ацэнкі. Адпраўным пунктам філасофска-эстэтычнай сістэмы Багдановіча ёсць прызнанне дыялектыкі думкі і пачуцця, рацыянальнага і эмацыянальнага, пачуццёвага не толькі ў мастацтве, але і ў межах эстэтычнага ўспрымання мастацкага твора. Эстэтычныя і тэарэтыка-метадалагічныя погляды Багдановіча сыходзяцца менавіта на патрэбе гарманічнай суладнасці рацыянальнага і пачуццёвага. Важна пры гэтым не выпусціць з поля зроку адзін момант: «тое, што паэт у сваіх праграмных вершах падкрэсліваў неабходнасць «спакойнай думы», а таксама і напружанай працы, абумоўлена больш палемічным запалам, чым рацыяналізмам яго паэтычнага мыслення» [7, 131]. Доказам таму можа служыць і адна красамоўная заўвага ў рэцэнзіі на кнігу Тэафіля Гацье «Эмалі і камеі»: «...Разбираемая книга, — адзначаў Багдановіч, — имеет один убийственный недостаток: то, что в ней искусно, в то же время и весьма искусственно. В ней очень много мастерства и очень мало поэзии. В ее тщательно отточенных стихах не чувствуется «веяния духу живого», все они красивы, но холодны» [2, 2, 360], што дало падставу крытыку назваць кнігу ахвярай на алтар бяздушнай прыгажосці.

Сама формула «мастацтва для мастацтва» была яму адначасова блізкай і чужой — чужой з-за сваёй адарванасці ад жыцця. Эстэтычнае вымярэнне літаратуры не было для Багдановіча самадастатковым, а з неабходнасцю звязаным з нейкім ідэальным варыянтам грамадскага жыцця. Тая ж краса для яго выступала сінонімам духоўнасці, высокага этычнага, адухоўленага ідэалу. Больш за тое, у сістэме каштоўнасных арыентацый Багдановіча-крытыка краса, прыгожае ў мастацтве ўсвядомлены як катэгорыі, непасрэдна суаднесеныя з выяўленнем «проснувшегося национального сознания», з ідэяй слугавання грамадскім інтарэсам, г. зн. у канечным выглядзе як катэгорыі пазнавальныя і этычныя. Але гэта акурат той момант, дзе эстэтычная канцэпцыя самога Багдановіча ўступае ў супярэчнасць з ідэяй грамадскага абавязку, што можна вытлумачыць не супярэчнасцямі светапогляднага парадку, а эпохай і сфарміраваным ёй разуменнем маральнай нормы. Паводле Багдановіча, нацыянальнае пачуццё таксама ёсць спецыфічная форма праяўлення прыгожага ў мастацтве, бо і пры гэтым мастацтва заключае ў сабе маральную ідэю, цесна звязаную з эстэтычнай прыродай мастацтва. Усё станавілася на месца: чым больш дасканалы, г. зн. прыгожы, твор мастацтва, тым вышэй яго маральны і эстэтычны патэнцыял.

Зробленыя агульныя назіранні над спецыфікай і некаторымі асаблівасцямі беларускага мадэрнізму, найбольш яркім прадстаўніком якога быў М. Багдановіч, дазваляюць яшчэ раз засведчыць вялікія патэнцыйныя магчымасці, закладзеныя ў літаратуры памежжа стагоддзяў. Працэс уваходжання беларускага пісьменства ў шырокі кантэкст культур меў глыбінныя, сутнасныя падасновы, абумоўленыя аб'ектыўнымі законамі гісторыка-культурнага, духоўнага развіцця, светапогляднымі фактарамі, новым мастацкім мысленнем эпохі. Магутным рухавіком станавіўся сам пошук уласнай нацыянальнай сутнасці, што, у сваю чаргу, паскарала працэс духоўнага і эстэтычнага фарміравання многіх еўрапейскіх літаратур, прызнання самакаштоўнасці нацыянальных культур, літаратур, мовы як галоўных складнікаў культурна-духоўнай адметнасці. Адбываецца першаснае мадэляванне нацыянальнага вобраза свету на аснове стабільных формаў культуры і з актыўным падключэннем імпульсаў больш развітых літаратур. У дачыненні менавіта да тагачаснага гістарычнага моманту ўяўляецца магчымым весці гаворку пра раўнапраўны, хоць і напружаны, «дыялог культур», пра іх перагукванне з розных часавых адлегласцей. Важкай падставай для такіх розначасавых, «рознаўзроставых» узаемін станавіўся сам дух, сама атмасфера часу, што міжволі схіляла да творчага

засваення культурнай традыцыі, здабыткаў папярэднікаў, перакадзіроўкі культурных знакаў, вобразаў, сімвалаў дзеля надання ім большай ёмістасці і глыбіні. Агульнакультурны фон у розных сваіх праявах станавіўся знакам своеасаблівага праецыравання канкрэтнай і духоўнай рэальнасці, спосабам выяўлення індывідуальнага і нацыянальнага светаадчування.

## Літаратура:

1. Багдановіч, І. Авангард і традыцыя: Беларуская паэзія на хвалі нацыянальнага адраджэння. — Мінск, 2001.

2. Багдановіч, М. Поўн. зб. тв.: У 3 т. Т. 1. Вершы, паэмы, пераклады, наследаванні, чарнавыя накіды. — Мінск, 1992.

3. Баршчэўскі, Л. П., Васючэнка, П. В., Тычына, М. А. Беларуская літаратура і свет: ад эпохі рамантызму да нашых дзён. — Мінск, 2006.

4. Бярозкін, Р. Свет Купалы. Звенні. — Мінск, 1981.

5. Вопрошание как форма культуры (Об испаноамериканском модернизме) // Iberica Americans. Механизмы культурообразования в Латинской Америке. — Москва, 1994.

6. Жирмунский, В. Теория литературы. Поэтика. Стилистика. — Л., 1977.

7. Кабаковіч, А. Паэзія Максіма Багдановіча (Дыялектыка рацыянальнага і эмацыянальнага). — Мінск, 1977.

8. Каваленка, В. В. Максім Багдановіч // Нарысы па гісторыі беларуска-рускіх літаратурных сувязей: У 4 кн. Кн. 2: Пачатак XX ст. 1900 — 1917. — Мінск, 1994.

9. Келдыш, В. А. Русская литература «серебряного века» как сложная целостность // Русская литература рубежа веков (1890-е — начало 1920-х годов). Кни-га 1. — Москва, 2001.

10. Лявонава, Е. А. Сімвалізм ў літаратурна-крытычнай рэцэпцыі М. Багдановіча // Матэр. Міжн. нав.-паракт. канф. «Максім Багдановіч і іншанацыянальныя літаратуры». — Мінск, 2003.

**Эмануіл ІОФЕ**

# ЯГО НАЗЫВАЛІ «БЕЛАРУСКІМ АНДЭРСЕНАМ»

Мала каму з прадстаўнікоў сярэдняга і маладога пакалення нашай краіны вядома, што аднаго з заснавальнікаў і класіка беларускай дзіцячай літаратуры, заслужанага дзеяча культуры Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР Алеся Якімовіча пры жыцці называлі «беларускім Андэрсенам» і параўноўвалі з сусветна вядомым дацкім казачнікам. Творы А. Якімовіча перакладзены на англійскую, армянскую, грузінскую, казахскую, кіргізскую, латышскую, літоўскую, малдаўскую, польскую, украінскую, эстонскую, яўрэйскую мовы, не кажучы ўжо аб рускай. «Немагчыма сабе ўявіць нашу ўсесаюзную дзіцячую і юнацкую літаратуру без кніг... беларуса Алеся Якімовіча», — сказаў аб ім Сяргей Міхалкоў.

Менавіта такой вышыні дасягнуў хлопчык з вёскі Чурылава Ігуменскага павета (цяпер Уздзенскага раёна).

...Малому Алесю яшчэ не споўнілася і сямі год, як пачаў сваё працоўнае жыццё: дапамагаў бацькам — бедным сялянам — па гаспадарцы. Хоць радасцей у маленстве Алесь бачыў мала, яму ўсё-такі пашанцавала.

У «Аўтабіяграфіі» Алесь Іванавіч прыгадваў:

«Першую ў гісторыі вёскі школу будавалі, калі мне было гадоў восем...

У той год я быў самы пастушок. Ды і дома — памочнік. Але нам, малым, вельмі цікава было гуляць каля школы. Там былі кучы трэсак, стружак, горы бярвення, дошак. У высокім падмурку былі прадушыны для вентыляцыі. Калі наслалі падлогу, мы лазілі ў гэтыя прадушыны, хаваліся.

Увосень прыехаў настаўнік, і я пайшоў у школу.

Вучыўся я, відаць, нядрэнна. Настаўнік рэдка калі біў мяне лапаю або ставіў на палях на жарству, што зараблялі дурасліўцы траха не кожны дзень. Праз гадоў два я ўжо лепш чытаў і пісаў за бацьку. І гэта яго вельмі дзівіла. Ён хваліўся мною дзе толькі мог: «Мой Алесь, — казаў, — піша так шыбка, як Скварцоў». Скварцоў — гэта валасны пісар. Настаўнік раіў бацьку аддаць мяне ў настаўніцкую семінарыю, як скончу сваю земскую школу, а поп — настаўнік Закона Божага — матаў галавой: «Не, толькі ў духоўную семінарыю...» Бацьку ж хацелася, каб я стаў пісарам, бо вучыць у семінарыях — грошы патрэбны...

Сталася так, як нам хацелася: у кастрычніку (1917 года. — **Э. І.**) перамаглі бальшавікі. Мы скінулі з пасады сельскага старасту і выбралі сваю савецкую ўладу. Новую ўладу ўзначаліў дзядзька Сцяпан — непісьменны бядняк. Я пачаў яму памагаць, хоць мне ішоў толькі чатырнаццаты год. Фактычна я вёў сакратарскія справы...»

Калі Ігуменшчыну акупіравалі польскія войскі, Алесь вучыўся ў Вышэйшым пачатковым вучылішчы ва Уздзе, пасля заканчэння якога ў 1921 годзе пайшоў на двухмесячныя настаўніцкія курсы.

У ягоных успамінах ёсць такія радкі:

«Разам са мною вучыліся Паўлюк Трус і Пятро Глебка. Апрача патрэбных прадметаў вучылі нямецкую і польскую мовы. Толькі пра сваю беларускую ніхто нічога нам не казаў...

Улетку я наймаўся пасвіць свіней. Гэта быў дагавор з бацькам. Ён не хацеў, каб я вучыўся. Пры акупацыях за навучанне мы плацілі. Ды і карміць мяне трэба было. Я паабяцаў, што буду сам на сябе зарабляць. І зарабляў. Усё лета харчаваўся ў людзей па чарзе. А ўвосень збіраў ссыпшчыну: гарцы збожжа за работу. Нудная гэта была работа для падлетка. Дзень здаваўся годам. Сто разоў, бывала, мераеш цень, пакуль дачакаешся вечара. Ні ў кога, мусіць, не бывае такіх доўгіх дзён, як у свінапаса!

Улетку 1921 года пры вучылішчы былі арганізаваны двухмесячныя настаўніцкія курсы. Я пакінуў свіней і паступіў на курсы. Выкладалі на іх беларускія настаўнікі з Мінска. З гарачым сэрцам рабілі яны сваю справу. Іхні энтузіязм і запал захапілі і мяне. Я адчуў сябе новым чалавекам. А колькі цярпеў я і мае сябры па школе — пачатковай і вышэйпачатковай — за «дзеравеншчыну». Значыць, не дзеравеншчына жыла ў нас так моцна, а родная мова і свае нацыянальныя звычкі! Настаўнік па беларускай літаратуры Мялешка так хораша і цікава расказваў нам пра Францішка Багушэвіча, Янку Купалу, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, так артыстычна чытаў іх творы, што мы толькі раты разяўлялі, дзівячыся.

Такія цудоўныя скарбы мае наша літаратура, а іх ад нас хавалі...»

У 1921—1926 гадах А. Якімовіч вучыўся ў Беларускім педагагічным тэхнікуме. Менавіта ў той час фарміраваўся яго светапогляд і адбывалася станаўленне таленту. Разам з ім займаліся Паўлюк Трус, Пятро Глебка, Андрэй Александровіч, а методыку беларускай мовы выкладаў сам Якуб Колас, які вельмі клапатліва ставіўся да пісьменнікаў-пачаткоўцаў.

«Колас — мой настаўнік... Менавіта дзякуючы яму я стаў паэтам, а потым празаікам», — успамінаў Алесь Іванавіч.

У 1923 годзе А. Якімовіч стаў членам літаратурнай арганізацыі «Маладняк».

Сёння такое цяжка ўявіць! Праз год гэтага ініцыятыўнага, здольнага паэтамаладнякоўца, студэнта III курса Белпедтэхнікума прызначылі адказным сакратаром новага часопіса для школьнікаў «Беларускі піянер», які якраз тады ствараўся па ініцыятыве ЦК ЛКСМБ і Народнага камісарыята асветы БССР. Рэдактарам яго прызначылі выпускніка Вышэйшага літаратурна-мастацкага інстытута імя В. Брусава Уладзіміра Дубоўку. Пасля выхаду ў канцы снежня 1924 года першага нумара ён быў адкліканы ў Маскву на пасаду адказнага сакратара пастпрэдства БССР пры Урадзе СССР, і 20-гадовы А. Якімовіч стаў рэдактарам гэтага часопіса. Было вельмі цяжка, таму што не хапала вопыту і ведаў. І тады юнаку-рэдактару, апрача вучобы, прыйшлося заняцца і самаадукацыяй.

Дарэчы, у справе выдання «Беларускага піянера» Алесю Іванавічу вельмі дапамог Якуб Колас:

«Я часта гаварыў з ім пра дзіцячы часопіс, раіўся, ён прыносіў мне свае творы для дзяцей. У Коласа я вучыўся пісаць проста, даходліва, без мудрагельства». Дый падтрымку адчуваў ад Я. Купалы, З. Бядулі, Я. Журбы, К. Буйло. У «Беларускім піянеры» актыўна друкаваліся таленавітыя паэты-маладнякоўцы М. Чарот, П. Трус, А. Александровіч, П. Глебка, В. Маракоў, Ю. Таўбін, С. Шушкевіч. Мала каму вядома, што, шукаючы аўтараў, А. Якімовіч адкрыў талент будучага класіка беларускай дзіцячай літаратуры Янкі Маўра.

Дый сам А. Якімовіч паспяхова ўваходзіў у літаратуру. Першы свой твор — верш «Вясна» ён надрукаваў у 1923 годзе ў першым нумары часопіса «Маладняк», а першае апавяданне для дзяцей — праз год у першым нумары «Беларускага піянера». А першая ягоная кніга «Вершы» выйшла ў 1925 годзе. У ёй услаўлялася шчаслівае жыццё савецкай дзетвары, пафасна апяваўся піянерскі рух. Асабліва мажорная інтанацыя гучала ў вершах «Шагай жа дружна, піянер», «Песня піянераў», «Лагерная», «Мы». Праўда, у пераважнай большасці твораў было яшчэ шмат абстрактнага, дэкларацыйнага. У тым жа 1925 годзе з’явілася і першая кніжка А. Якімовіча для дзяцей «Гул бубна».

У 1927 годзе, а не ў 1926-м, як памылкова адзначаецца ў шэрагу выданняў, ён быў залічаны на другі курс завочнага аддзялення літаратурна-лінгвістычнага

аддзялення Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Дарэчы, з 1929 года «Беларускі піянер» стаў называцца «Іскрамі Ільіча».

Некаторых чытачоў цікавіць, а чым займаўся Алесь Якімовіч у 1930-я гады? Хто выхоўваў яго літаратурныя густы? Паспрабуем адказаць словамі самога Алеся Іванавіча: «Я так прывык да нагрузак, што пасля ўніверсітэта (ён закончыў БДУ 1930 годзе. — **Э. І.**) нейкі час сумяшчаў аж тры пасады: рэдактара часопіса «Іскры Ільіча», сакратара педагагічнага часопіса «Асвета» і выкладчыка беларускай мовы і літаратуры ў вячэрнім тэхнікуме агнятрывалага будаўніцтва. Мяне цікавіла педагагічная праца, і я нават ледзь не быў «з’агітаваны» стаць выкладчыкам універсітэта. Тады, вядома, мне прыйшлося б пакінуць рэдакцыйную работу, якая для мяне стала асноўнай, прывычнай. Сувязей з педагогікай я ўсё ж не страціў і да апошняга часу: з 1932 года перавыдаецца складзены мною падручнік для 2 класа «Роднае слова».

У дадатак да пералічаных нагрузак я напісаў аповесць «Перамога», якая на закрытым рэспубліканскім конкурсе атрымала другую прэмію. Членам журы быў Якуб Колас. Ён вельмі добразычліва адгукнуўся аб маёй першай аповесці. Яго рэцэнзію, напісанную ад рукі (журы перадало мне на памяць), я хаваў да самай вайны. Коласа я паважаў, як і ўсе мы, маладзейшыя...

Выхоўвалі мае літаратурныя густы і іншыя старэйшыя пісьменнікі, асабліва Янка Купала. Помню, трапіўшы ў горад, дзе ўсё было не так, як дома, я не мог без хвалявання чытаць яго верш «Я ад вас далёка». Вершы і паэмы Янкі Купалы пра старую вёску зрабілі на мяне незвычайнае ўражанне. Я ж сам добра ведаў жыццё, якое з такой сілаю апісаў Янка Купала...

Са Змітраком Бядулем адносіны ў нас былі чыста сяброўскія. Яго прастата, шчырасць ва ўсім падабалася нам, і ўжо з першай ці другой сустрэчы мы гаварылі з ім, як роўны з роўным. Бядуля надрукаваў у газеце «Савецкая Беларусь» першае маё апавяданне...

Найбольш блізка з самага першага знаёмства я сышоўся з Янкам Маўрам. Хоць гады ў нас былі не роўныя (Маўр быў старэйшы за Якімовіча на 21 год. — **Э. І.**), але справы агульныя. Добры ўплыў на маладых пісьменнікаў рабілі Кандрат Крапіва, Кузьма Чорны, Міхась Лынькоў. Таленавітыя мастакі слова, яны былі для нас узорам чэсных людзей, шчырых сяброў».

Многія крытыкі і літаратуразнаўцы лічаць А. Якімовіча майстрам апавядання. Нельга не згадзіцца з наступнай думкай літаратуразнаўца Івана Разанава: «Алесь Якімовіч заўсёды канкрэтны ў сваіх апавяданнях. Вось таму юныя чытачы знаходзяць у персанажах яго твораў знаёмыя ім рысы, а ў паводзінах і ўчынках герояў свае паводзіны і ўчынкі. Пісьменнік умее знайсці такія сітуацыі, у якіх найбольш поўна праяўляецца характар персанажа. У цэнтры апавядання «Санька» юны ўдзельнік рэвалюцыйных падзей. Аўтар дакладна падае падзеі ў гэтым творы, дае трапныя партрэтныя характарыстыкі персанажаў...

У цэнтры апавядання «Васількі» — эпізод з жыцця школьніка Віці. За гэтым знешне буднічным празаічным эпізодам ідзе паэтычны расказ хлопчыка пра сваё летняе падарожжа ў вёску, пра дапамогу дарослым у працы.

Асноўным творчым прыёмам А. Якімовіча з’яўляецца імкненне паставіць героя ў больш ці менш складаныя абставіны, што дае магчымасць глыбей раскрыць рысы характару персанажа, паказаць яго ўнутраны свет».

Шмат цікавых твораў стварыў Алесь Іванавіч у 30-я гады. Сярод іх аповесць «Незвычайны мядзведзь», напісаная ў 1934 годзе. Галоўны герой яе дзесяцігадовы школьнік Алёша Шабуневіч. Ніхто не здзіўляўся, калі сустракаў яго ў бары ці ў кустах на сенажаці. Алёша быў нястомным даследчыкам ваколіц, таму што яго можна было напаткаць і сярод піянераў, якія дапамагаюць калгасу збіраць ураджай на калгасным полі, і ў кампаніі баязлівага і наіўнага сябра Грышкі.

Цікава паказваючы дзіцячыя гульні і забавы, А. Якімовіч акцэнтуе ўвагу юнага чытача на тым, што хлопчыкаў вельмі вабіць да сябе прыгожы зялёны бор, які шуміць і спявае на розныя галасы. Героі «Незвычайнага мядзведзя» сустракаюць тут шмат цікавага: рыжую клапатлівую вавёрку, касавокага зайца, даўгахвостых дзятлаў, розных птушак, якія пырхаюць сярод галін. У той жа час пісьменнік умела паказвае, што ў гэтых прыгожых мясцінах рабіліся зусім непрывабныя справы, выкрыць якія і дапамог Алёша. Ляснік Вышынскі, у мінулым белы афіцэр, затаіўся ў глухамані бору і арганізаваў банду з тых, хто супраць новага жыцця. Бандыты шкодзілі калгасу, забівалі актывістаў, такіх, як бацька Алёшы, запалохвалі, выкарыстоўваючы для гэтага нават чучала мядзведзя.

Заслугоўвае ўвагі думка вядомага крытыка і літаратуразнаўцы Марыны Барсток, што аўтар аповесці з любоўю малюе вобраз Алёшы, імкнецца псіхалагічна абгрунтаваць яго паводзіны і ўчынкі, паказаць сур'ёзнае і дзіцячае ў яго характары.

Значны след у памяці А. Якімовіча на ўсё жыццё пакінула Вялікая Айчынная вайна. У эвакуацыі Алесь Іванавіч спачатку настаўнічаў у адной з сярэдніх школ горада Чыстопаля (Татарская АССР), а потым працаваў адказным сакратаром раённай газеты ў сяле Шаманаіха Казахскай ССР. Менавіта адтуль у кастрычніку 1942 года яго накіравалі на курсы малодшых лейтэнантаў у г. Андыжан, а затым — у Туркменію, дзе фарміравалася стралковая брыгада. Спачатку А. Якімовіча прызначылі камандзірам стралковага ўзвода, а потым — роты.

23 жніўня 1943 года ў баях за Харкаў ён быў цяжка паранены. Каля паўгода лячыўся. Выйшаў са шпіталя з абмежаванай годнасцю, і больш на фронт не трапіў.

У 1943—1944 гадах Алесь Іванавіч жыў у Маскве, дзе яго прызначылі старшым рэдактарам педагагічнай і дзіцячай літаратуры Дзяржаўнага выдавецтва БССР, а ў сорак пятым яго прызначылі рэдактарам часопіса «Бярозка». Наладзіўшы яго выданне, у 1948 годзе вярнуўся на рэдакцыйную працу ў Дзяржаўнае выдавецтва БССР (1948—1954). Аднак сувязі з часопісам не губляў, да апошняга актыўна супрацоўнічаў з ім, уваходзячы ў склад рэдакцыйнай калегіі. З 1955 па 1960 гады Алесь Якімовіч працаваў літаратурным кансультантам Саюза пісьменнікаў Беларусі, доўгі час узначальваў секцыю дзіцячай літаратуры Саюза пісьменнікаў БССР.

У 1954 годзе ў 15-гадовым узросце аўтар гэтых радкоў стаў актыўным краязнаўцам. Менавіта тады я прачытаў аповесць А. Якімовіча «Базылёў курган», якая мяне захапіла, узрушыла. З тых часоў прайшло амаль 60 гадоў, а я і цяпер памятаю эпіграф да яе з паэмы Янкі Купалы «Курган»: «Курганы шмат чаго нам говораць». Між іншым, гэты эпіграф раскрываецца ўсім зместам аповесці. У цэнтры твора — юныя краязнаўцы, якія даведваюцца пра цікавую гісторыю старадаўняга кургана. Старанне і настойлівасць вясковых піянераў прынеслі свае вынікі. Ім удалося ўстанавіць, што гэты курган — магіла маленькага прыгоннага хлопчыка Базылька, якога загубіла злая пані. Марына Барсток трапна адзначыла: «У аповесці "Базылёў курган" створаны цікавыя вобразы вучняў, якія захапляюцца літаратурай, ведаюць на памяць шмат вершаў любімых паэтаў, цікавяцца гісторыяй і вядуць вялікую краязнаўчую работу. У творы няма нічога надуманага, штучнага. З сімпатыяй малюе пісьменнік вобраз настаўніка беларускай літаратуры Віктара Сяргеевіча, які выступае заадно са сваімі выхаванцамі ва ўсіх добрых і карысных справах, падтрымлівае любы цікавы пачын. Аўтар падкрэслівае такія рысы свайго героя, як інтэлігентнасць, тактоўнасць у адносінах да дзяцей і дарослых. Аповесць «Базылёў курган» узнікла на нацыянальнай глебе, мае цесную сувязь з пазнавальнымі творамі».

Мне становіцца непрыемна, калі чытаю спіс пісьменнікаў, якія пішуць на гістарычныя тэмы, і не бачу ў гэтым спісе. А. Якімовіча. У ягонай «Аўтабіяграфіі» ёсць такія радкі: «Даўно мяне вабіць гісторыя. Яшчэ ў дзіцячыя гады я чуў ад старога селяніна Міхася — хадатая па судовых справах з князем Радзівілам:

«Нам сервітут не разведзены!» Што такое сервітут і як ён можа быць заведзены ці разведзены, я не ведаў. Затое добра ведаў скарбовыя, як у нас казалі, паплавы — Корбушыху і Абадзец, якія межаваліся са слабаджаньскімі землямі. Нашы коні ці каровы часта заходзілі на гэтыя паплавы. Панскія стражнікі, як коршуны, налятaлі ў такі час, займалі жывёлу і гналі ў двор. А нам дралі тры скуры за патраву. Некалі ж, як даводзіў стары Міхась, паплавы гэтыя былі сёлавым вабішчам. Сяляне мелі на іх такое ж права, як і князь. Потым, пасля скасавання прыгону, (саміх магнатаў радзівілаўскага роду ў нас, здаецца, ніхто і не бачыў) нешта перакруцілі ў зямельных планах і адабралі паплавы ў сялян. Пачалася зацятая барацьба за гэтыя паплавы — і судовая, і фізічная. І цягнулася яна аж да самага Кастрычніка.

Я пачаў пісаць аповесць «Канец сервітуту». Але вытокі канфлікту аповесці павялі мяне далей у гісторыю. Вывучаючы эпоху прыгоннага права, у мяне ўзнікла задума асобнай аповесці аб прыгонным хлопчыку. Я адсунуў да часу сервітутныя справы і напісаў задуманую аповесць. Назваў яе «Адкуль ліха на свеце»...

Эпоха, пра якую мне хочацца рассказаць сваім юным чытачам, вельмі драматычная. Толькі Кастрычніцкая рэвалюцыя развязала нарэшце векавыя канфлікты паміж сялянамі і панамі, знішчыла ўсялякія сервітуты і закончыла крывавую гісторыю Корбушыхі і Абадца...

Цяжэй было мне пісаць аповесць «Кастусь Каліноўскі». Вобраз славутага Кастуся цікавіў мяне даўно. Хацелася глыбей пазнаць яго і расказаць пра тое, што я пазнаю сам, юным чытачам. Але ж перада мною была гара матэрыялаў — і архіўных, і гісторыка-літаратурных. І спрэчных, і бясспрэчных. Як да іх прыступіцца?

...І хоць аповесць напісана на строга дакументальнай аснове, у яе разам з Язэпам (Валовічам. — **Э. І.**) трапілі і некаторыя аўтарскія персанажы з папярэдняй аповесці «Адкуль ліха на свеце».

Аднойчы на сустрэчы з настаўнікамі А. Якімовіч прызнаўся, што хацеў бы расказаць цяперашнім школьнікам пра жыццё іх аднагодкаў і жыццё беларускага народа ў далёкія часы, у далёкім мінулым. За тры гады да сваёй смерці ён ажыццявіў гэтую задуму — выйшла тэтралогія «Адкуль ліха на свеце» (1963), «Канец сервітуту» (1968), «Кастусь Каліноўскі» (1971), «Цяжкі год» (1975). Яна — маштабная мастацкая хроніка жыцця беларускай вёскі ад 50-х гадоў XIX стагоддзя па 1918 год. Дарэчы, некаторыя літаратуразнаўцы называюць тэтралогію яшчэ «Галынаўскай хронікай», таму што некаторыя падзеі і лёс асобных персанажаў, у прыватнасці Язэпа Валовіча і яго ўнука Петруся, звязаны з вёскай Галынаўкай.

У першай аповесці апавядаецца пра лёс 10-гадовага Язэпкі з Галынаўкі, якога цівун Дракула сілком забірае ад бацькоў і прыводзіць у маёнтак пана Ясінскага.

Лепшыя старонкі тыя, дзе пісьменнік перадае перажыванні хлапчука, калі той назірае, як пан і яго найміты здзекуюцца з дваровых работнікаў і сялян. Адарваны ад бацькоў і сяброў, Язэпка пачынае раздумваць над убачаным, пачутым, разумеючы, што адбываецца несправядлівасць. У адчаі ён уцякае з маёнтка і аказваецца ў лагеры паўстанцаў.

Заслуга А. Якімовіча перш за ўсё ў тым, што ён глыбока раскрыў унутраны свет юнага героя, паказаў працэс фарміравання ягонага светапогляду і жыццёвай пазіцыі. Усё адлюстравана на шырокім эпічным фоне, удумліва даследаваны характар рэформы 1861 года. Запамінаюцца вобразы работніцы Аўдолі, якая памацярынску ставіцца да Язэпкі, і пастуха, дзеда Міхаля, які адкрывае яму вочы на навакольныя з’явы, знаёміць з паданнямі пра адважных і смелых змагароў за шчасце і волю. Праўдзіва паказана бяспраўе сялян, выспяванне іх пратэсту супраць прыгнятальнікаў.

Высокую ацэнку гэтаму твору дала літаратуразнаўца Маргарыта Яфімава:

«А. Якімовіч выявіў багатую творчую фантазію, здольнасць дакладна ўявіць, нібы ўбачыць падзеі мінулага, узнавіць іх у запамінальных эпізодах праз шмат-

лікія людскія лёсы. А. Якімовіч абапіраецца на фактычны матэрыял, прыводзіць урыўкі з гістарычных дакументаў, хронік, дае канкрэтныя назвы, даты. Галоўнае для яго — па-мастацку раскрыць душу народа, не растаптананую жахлівымі здзекамі і прыгнётам, душу жывую, акрыленую пошукамі справядлівасці, праўды.

Храналагічны ахоп падзей, адлюстраваных у тэтралогіі, надзвычай шырокі (1857—1918). Пісьменнік пазбягае апісальніцтва; тыпізуючы матэрыял, ён спыняецца на найбольш істотным, вызначальным, што характарызуе свядомасць і паводзіны народных мас на пэўным гістарычным этапе...

Незадаволеныя царскім маніфестам сяляне бунтуюць, іх не палохаюць станавы прыстаў са стражнікамі і нават салдаты на чале з самім генералам, якіх прыслалі ў Галынаўку для падаўлення сялянскага паўстання. Масавыя эпізоды ў аповесці «Адкуль ліха на свеце» атрымаліся пераканаўчымі. А. Якімовіч трапна ўключае ў іх пытанні, рэплікі, спрэчкі, ажыўленыя дыялогі. Для большай каларытнасці масавых сцэн аўтар выкарыстоўвае прыёмы тэатралізацыі падзей. Раздзелы аповесці «Адкуль ліха на свеце», у якіх апісаны сялянскія сходкі, адкрытыя выступленні і бунты, вельмі цікавыя багаццем беларускай гутарковай мовы».

Другой часткай тэтралогіі з’яўляецца (па змесце, а не па часе выхаду ў свет) аповесць «Кастусь Каліноўскі».

У творы праўдзіва асэнсавана эпоха, што папярэднічала паўстанню, і падзеі самога паўстання. Канечне, А. Якімовічу было няпроста, бо існавалі розныя думкі і меркаванні гісторыкаў наконт гэтай гістарычнай падзеі. Але, зрабіўшы аналіз таго складанага і драматычнага часу, ён грунтоўна разабраўся ў характары паўстання.

Аповесць «Кастусь Каліноўскі» займае цэнтральнае месца ў тэтралогіі. А. Якімовіч, наколькі гэта магчыма і блізка да ісціны, аб’ектыўна ўзнаўляе складаную гістарычную абстаноўку таго часу, паказвае ўзаемаадносіны прадстаўнікоў розных груп і накірункаў, падае вобразы многіх гістарычных асоб, раскрывае іх ролю ў паўстанні. Безумоўна, галоўная ўвага аддаецца галоўнаму герою, які паказаны ў апошнія гады свайго жыцця — ад пачатку выдання газеты «Мужыцкая праўда» да трагічнай смерці ў сакавіку 1864 года. Кастусь Каліноўскі, як і адзначае пераважная большасць гістарычных крыніц, заўсёды ў гушчы паўстанцаў як іх арганізатар і кіраўнік, як добры і надзейны паплечнік, як абаронца мужыка, як гарачы патрыёт сваёй Бацькаўшчыны. Побач з ім змагаюцца яго паплечнікі і сябры: Валерый Урублеўскі, Зыгмунт Серакоўскі, Браніслаў Шварц, Уладзіслаў Малахоўскі, Людвіг Звяждоўскі і іншыя. Асобай перадавых поглядаў паказаны ў творы і брат Кастуся — Віктар Каліноўскі.

Марына Барсток аргументавана звярнула ўвагу на тое, што ў гэтай аповесці бунтары-адзіночкі, трапіўшы ў войска Кастуся Каліноўскага, становяцца на шлях арганізаванай рэвалюцыйнай барацьбы. Гэта ляснік Саўка, дзядзька Рыгор, дзядзька Максім, юнакі Пятрок і Язэп. Аднак пісьменнік не ідэалізуе рэвалюцыйнасць сялянства і правільна адзначае, што для асноўнай масы паўстанцаў была характэрна нізкая палітычная свядомасць. Менавіта таму царскаму самадзяржаўю і ўдалося ўвесці іх у зман і з дапамогай рэгулярнага войска падавіць паўстанне 1863—1864 гадоў.

Пра лёс Язэпа Валовіча, які быў сасланы ў Сібір, гаворыцца і ў аповесці «Канец сервітуту», якая заканчваецца падзеямі 1917 года. Паказаны перыпетыі Першай сусветнай вайны, Лютаўскай і Кастрычніцкай рэвалюцый. Галоўны герой гэтага твора — унук Язэпа Валовіча Пятрусь, які ўдзельнічае ў падзеях, што адбываюцца ў вёсцы Галынаўка.

Яшчэ да выхаду гэтага твора ў «Аўтабіяграфіі» А. Якімовіч прызнаваўся: «Асноўны герой аповесці «Канец сервітуту» — хлопчык Пятрусь. Ад яго імя і вядзецца расказ. Будзе ў гэтым расказе і крыху маёй біяграфіі, бо як ні выдумляй, як ні абагульняй, а перад вачыма на першым плане ўсё ж паўстаюць жывыя факты і малюнкі». Між іншым, у аповесці адсутнічае апісанне гістарычных падзей. Яны

паказаны своеасабліва: праз размовы галынаўцаў, газетныя паведамленні, расказы пакалечаных на вайне людзей, праз іх клопаты і нягоды.

У 1974 годзе за першыя тры кнігі гэтага гістарычнага цыкла — аповесці «Адкуль ліха на свеце», «Канец сервітуту» і «Кастусь Каліноўскі» А. Якімовічу была прысуджана Дзяржаўная прэмія БССР імя Якуба Коласа.

Школьнікі на сустрэчах пыталіся ў пісьменніка, ці будзе працяг гісторыі з Петрусём. Алесь Іванавіч адказваў: «Мне і самому хацелася, каб такая сустрэча адбылася. Я доўга думаў. Як і дзе наладзіць яе. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі я паступіў у Вышэйшае пачатковае вучылішча. А чаму ж не мог зрабіць гэтага і мой герой Пятрусь Валовіч? I я паслаў свайго Петруся ў мястэчка на вучобу. Вышка, з якой цяпер ён глядзіць на свет, стала вышэйшай. А мне, як яго мастацкаму біёграфу, лягчэй было з гэтай вышкі маляваць яго вобраз. Так пісалася новая мая аповесць «Цяжкі год».

Цяжкім названы 1918 год, бо гэта быў складаны час станаўлення ў Беларусі савецкай улады; першы год, які праходзіў ва ўмовах нялёгкага змагання супраць нямецкіх акупантаў. Аповесць выйшла праз год пасля атрымання А. Якімовічам Дзяржаўнай прэміі і за чатыры гады да яго смерці — у 1975 годзе.

Шмат месца ў гэтым творы адведзена дзейнасці партызан, падпольшчыкаў, патрыётаў, якія распаўсюджваюць лістоўкі, адозвы, арганізуюць барацьбу за савецкую ўладу. Пятрусь Валовіч намаляваны ў дзеянні. Глыбока паказаны працэс яго сталення, псіхалагічна матываваны ўчынкі. А. Якімовіч імкнецца глядзець на падзеі Кастрычніцкай рэвалюцыі вачыма свайго героя.

Аднак вельмі значныя набыткі А. Якімовіча і ў жанры казкі. Нездарма пісьменнік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, адзін з землякоў Алеся Іванавіча Васіль Шырко свой нарыс-успамін пра яго назваў вельмі лаканічна — «Казачнік»: «У Чурылаве нарадзіўся казачнік. А як вядома, казачнікі нараджаюцца не кожны дзень і, само сабой, не ў кожнай вёсцы...

Каб запісаць усе казкі і гісторыі, якія ведае дзядзька Паўлюк, шмат часу трэба. Лепш, напэўна пайсці ў бібліятэку, заказаць кнігі Алеся Якімовіча «Бацькаў дар» (гераічныя і фантастычныя казкі). «Каток-залаты лабок (казкі пра жывёл), «Людзей слухай, а свой розум май» (бытавыя казкі). У гэтых кнігах можна прачытаць многае з таго, аб чым бае дзядзька. I не дзіўна, яны з Алесем Якімовічам аднагодкі, разам пасвілі кароў, аралі, касілі, хадзілі на вячоркі, слухалі ад дзядоў, бабулек, цыганоў, якія ставілі побач з вёскай свае буданы, адны і тыя ж казкі. I малапісьменны дзядька Паўлюк (ён толькі адну зіму хадзіў у школу), і Алесь Якімовіч кожны па-свойму пераказвалі тыя казкі, дабаўляючы тое-сёе ад сябе».

Успамінаючы сваё дзяцінства і юнацтва, сам А. Якімовіч прызнаўся:

«Помню, трапіла мне «Бава-каралевіч», вершаваная казка. О, гэта была кніжка! Яе можна было чытаць і перачытваць хоць кожны дзень...

Першы свой твор я паслаў у газету «Савецкая Беларусь». Гэта была вершаваная казка пра тое, як у адной вёсцы папа выбіралі: цягнулі лапаць з абораю... Казка была доўгая, напісана, відаць, не гладка і ў друк не трапіла».

Талент Алеся Іванавіча як пісьменніка-казачніка асабліва раскрыўся ў 1920—1930 гады. Малады пісьменнік услед за сваім настаўнікам Якубам Коласам пачаў апрацоўваць беларускія народныя казкі, якія змяшчаліся ў часопісе «Беларускі піянер». Ён не ўяўляў сваёй творчасці, усяго свайго жыцця без народных казак, якія ўвесь час цікавілі і хвалявалі яго. I пісьменнік не скрываў сваіх думак: «Даўно я зацікавіўся народнымі казкамі. Не раз чытаў іх, перачытваў. Шмат чуў казак некалі ў роднай вёсцы, асабліва ад цыганоў, якія пасля летніх вандровак спыняліся ў нашай вёсцы на зімоўку. У 1929 годзе я зрабіў другую ў гэтым жанры спробу — напісаў вершаваную казку па народных матывах — «Каваль Вярнідуб». Панёс у выдавецтва. Рэдактар Цвікевіч пацiснуў плячыма: «Казка? Хто гэта цяпер друкуе казкі?» Прыйшлося чакаць, пакуль з казак знялі забарону: за казку засту-

піліся Н. К. Крупская і Максім Горкі. Потым я закінуў гэты жанр. Вярнуўся да яго ізноў толькі пасля вайны... Казка — творчасць калектыўная. Кожны здольны казачнік узбагачаў казку, уносіў у яе і сваю долю...

Народныя казкі, якія я апрацаваў для дзяцей, склалі тры зборнікі: «Каток-залаты лабок» (казкі пра жывёл), «Бацькаў дар» (гераічныя і фантастычныя казкі) і «Людзей слухай, а свой розум май» (бытавыя казкі). Для гэтых зборнікаў мною выбраны з багатай культурнай спадчыны нашых дзядоў і прадзедаў найбольш цікавыя і дасканалыя варыянты. Адны з іх дапоўнены іншымі варыянтамі і апрацаваны літаратурна, іншыя — пераказаны мною. Я такім чынам станавіўся ў некаторай ступені як бы сааўтарам невядомых нам казачнікаў з народа. Казкі гэтыя шырока друкуюцца і ў нас у рэспубліцы, і перакладаюцца на іншыя мовы. Яны — залаты фонд нашай народнай класікі».

Добра вядомая казка ў вершах Алеся Якімовіча «Каваль Вярнідуб» асобным выданнем выйшла ў 1936 годзе, хоць была напісана ў 1929-м, тады ж друкавалася ў часопісе «Беларускі піянер». Пасля яе выхаду юныя чытачы пачалі ўспрымаць яе аўтара як пісьменніка-казачніка.

Я прачытаў яе, будучы вучнем чацвёртага класа. Памятаю, тады мяне ўзрушыла дзіўнае выратаванне каваля Вярнідуба ў маленстве ад цара-людаеда, пераўтварэнне яго ў змагара за лепшую долю, смеласць, якая праявілася ў барацьбе з самаўладствам. Надоўга запомніўся адказ Вярнідуба на прапанову пакарыцца сіле і ўладзе.

У М. Барсток былі ўсе падставы для такой высновы:

«Паводле жанру гэта хутчэй вершаваная аповесць для дзяцей, бо ў ёй вельмі моцны апавядальны элемент. Гэтая казка сацыяльная па змесце, востра канфліктная. У ёй паказана барацьба народнага героя супраць прыгнёту і здзекаў над простымі людзьмі. Творча выкарыстаўшы матывы і сюжэты многіх беларускіх казак і ў першую чаргу казкі «Каваль» з вядомага зборніка А. Сержпутоўскага, аўтар сцвярджае сілу, мудрасць і чалавечнасць народных заступнікаў — волатаў-асілкаў, актыўных змагароў супраць паноў і цара.

Асноўны персанаж твора каваль Вярнідуб — тыповы герой беларускіх народных казак аб асілках...

Герой здзяйсняе шмат добрых спраў: забівае Салаўя-разбойніка, выратоўвае працавітую пчолку ад павука-крывасмока і нарэшце перамагае ў няроўнай бітве царскае войска, знішчае цара і яго світу...

Твор напісаны тым жа лёгкім вершам і памерам, што казка «Канёк-гарбунок» П. Яршова».

Высока ацэньвае гэты твор і беларускі літаратуразнаўца М. Яфімава, якая падкрэслівае, што «Каваль Вярнідуб» — першая літаратурная казка А. Якімовіча; у яе сюжэце выкарыстаны матывы некалькіх беларускіх чарадзейных казак: пра волатаў-асілкаў — заступнікаў прыгнечаных, пакрыўджаных. Кантамінуючы гэтыя матывы, шчодра ўзбагачаючы казку новымі эпізодамі, дэталямі, А. Якімовіч з майстэрствам захаваў асноўныя асаблівасці, галоўныя кампаненты беларускай народнай чарадзейнай казкі: тут таксама рэзка размежаваны сацыяльна процілеглыя, непрымірымыя станы дабра і зла. У барацьбе паміж імі, як заўсёды ў казках, перамагаюць дабро, справядлівасць.

...Таму так добразычліва, светла і нярэдка ўзвышана прадстаўлены спагады высакародства, самаадданасці, і прадстаўлены ён найперш вобразамі асілка, народнага заступніка Вярнідуба і яго маці....

У вобразе Вярнідуба спалучана казачнае і рэальнае, мы пераконваемся ў тым, як добра ён выхаваны, як умее прывеціць, падтрымаць чалавека, пакланіцца добрым людзям, аднак ніколі нікому не дазволіў Вярнідуб прынізіць сябе, ніштo не магло яго запалохаць, ён заўсёды быў гатовы ўступіць у барацьбу са злом...

Казка «Каваль Вярнідуб» пацвердзіла, што А. Якімовіч ведае глыбінныя пласты народнай мовы, тонка адчувае характэрную рытміку фальклорных твораў.

Тут шмат не толькі афарыстычна адточаных, трапных, запамінальных народных прыказак і прымавак, а і аўтарскіх выслоўяў, параўнанняў: «Няма сілы такой, каб скарыўся я ёй»; «Нібы востраю касою, стаў касіць каваль мятлою»; «Атрымаўшы перамогу, зноў збіраецца ў дарогу»; «Проста воч не зводзіць маці з дарагога ёй дзіцяці»; «Цераз месяц, як грыбы, выварочваў ён дубы» і інш.

Казка «Каваль Вярнідуб» адкрывае дзецям прыгажосць народных вобразаў, далучае іх да скарбаў роднага слова, актывізуе ў юных чытачоў дух актыўнасці, выхоўвае ў іх высокамаральнае разуменне ідэалаў дабрыні, прыгажосці, чалавечнасці, адданасці свайму народу».

Другім выдатным творам з'яўляецца «Казка пра смелага Вожыка» (1937), напісаная прозай, аднак у ёй ёсць непадробная паэзія:

«Сядзіць Зайка Шарачок пад зялёнай ёлачкай і горка плача. Лапкамі буйныя слёзы выціпае. А слёзы так і сыплюцца, як град, так і сыплюцца. Моцна, відаць, ужаліўся Зайка».

Фабула казкі даволі простая. Зайка жаліўся на сваё жыццё і вырашыў скончыць самагубствам — утапіцца. Крыўда ў тым, што Вожык пакачаўся на канюшыне, якой ласаваўся Заяц. Лісіца вырашыла дапамагчы Зайку і правучыць Вожыка. Але, нягледзячы на сваю маленькую сілу, Вожык аказаўся разумным, спрытным і падрыхтаваным да абароны. З ім нічога не змаглі зрабіць не толькі Лісіца, Воўк. Але нават і Мядзведзь. Нарэшце ўсе звяры згуртаваліся і хацелі разам перамагчы яго. Падышоўшы да палянкі, яны ўбачылі незвычайны выпадак: Вожык душыў страшэнную атрутную змяю. Гэты ўчынак Вожыка зрабіў моцнае ўражанне на звяроў і канчаткова замацаваў за ім славу смелага і дужага ваякі.

Апошні абзац казкі носіць элемент інтрыгі:

«З таго часу ўсе яны баяцца Вожыка і не чапаюць яго. Толькі адна Лісіца Хітрыца прыдумала спосаб, каб Вожыка перамагчы, але нікому пра яго не сказала. Ды і самой ёй не заўсёды гэты спосаб удаецца».

Цікава, што гэты вобраз створаны на аснове багатай фантазіі аўтара, выдумкі, не супрацьстаіць жыццёвай праўдзе. Пераможцам можа быць не толькі той, хто дужэйшы фізічна, а той, хто мае больш розуму, багаты інтэлект, разважлівасць і кемлівасць. Прычым народ станоўча ацэньвае спалучэне інтэлекту і фізічнай сілы, аднак аддае перавагу інтэлекту. Менавіта такая думка і знаходзіць сваё ажыццяўленне ў «Казцы пра смелага Вожыка».

Беларускім школьнікам, асабліва малодшага ўзросту, даўно палюбіліся казкі А. Якімовіча «Першае яечка», «Браты Лазоўскія», «Лянота», «Байка пра казла», «Мудры асілак», «Казка-Праўда», «Чырвоная зорка»...

У размове з настаўніцай беларускай літаратуры адной з вясковых школ аб творчасці А. Якімовіча, я спытаў: «У чым, на ваш погляд, сакрэт папулярнасці ў дзяцей вершаваных казак Алеся Іванавіча «Вераб'ёвы госці», «Байка пра казла», а таксама празаічных — «Першае яечка», «Браты Лазоўскія», «Лянота» і іншых?» Яна адказала так: «Па-першае, у тым, што яны напісаны на традыцыйных фальклорных матывах. Па другое, напісаны простай, папулярнай, добра зразумелай дзецям мовай. Па-трэцяе, у іх шмат жыццёвай праўды і творчай фантазіі».

Аўтары прац аб жыцці і творчасці А. Якімовіча, на жаль, забываюць адзначыць, што ён быў і ўдумлівым, таленавітым літаратуразнаўцам. Аб гэтым сведчаць яго артыкулы па пытаннях тэорыі і практыкі беларускай літаратуры: «Праблемы сучаснай дзіцячай літаратуры» (1931), «Становішча беларускай дзіцячай літаратуры» (1934), «Больш увагі літаратуры для дзяцей» (1950) , «Белорусская детская литература» (М.-Л., 1953), «Дзіцячай літаратуры — зялёную вуліцу» і «Абавязак нашых пісьменнікаў» (1954), «Размова пра дзіцячую літаратуру» (1956), «Маладая літаратура» (1958), «Галоўная праблема — якасць» (1965), «Суровая праўда і крылатая фантазія»(1973,1975).

Пра сувязі А. Якімовіча і беларускай педагогікі вельмі добра напісала М. Яфімава: «Цікавілі А. Якімовіча праблемы школы, школьнага навучання і

выхавання. Усе гады сваёй дзейнасці ён меў непасрэднае дачыненне да педагогікі, часта сустракаўся з настаўнікамі і вучнямі; на пісьменніцкіх з'ездах, пленумах, настаўніцкіх канферэнцыях гаварыў пра школу, узнімаў праблему якасці школьных падручнікаў, хрэстаматый. Быў аўтарам падручніка для другога класа «Роднае слова», які выйшаў з друку ў 1932 г. і выдаваўся потым на працягу 30 гадоў, прыняў А. Якімовіч удзел у складанні хрэстаматыі для 2-га класа. У 1948 г. напісаў першую ў Беларусі займальную вершаваную азбуку «Слухай — запамінай» (у афіцыйных выданнях, у тым ліку ў энцыклапедыях гэта азбука называецца так: «Слухай — запамінай. Азбука ў вершах і малюнках». — **Э. І.**), разлічаную на тое, каб выклікаць у дзяцей цікавасць да вывучэння беларускай мовы, дапамагчы ім адчуць яе мілагучнасць, вобразнасць. Уключаныя ў гэтую азбуку элементы гульні дапамагаюць дзецям лепш запомніць алфавіт, спрыяюць развіццю ў іх навыкаў дыкцыйнай выразнасці, эмацыйнага ўспрыняцця тэкстаў».

Асобая тэма творчасці А. Якімовіча — ягоная перакладчыцкая праца. У ягоных перакладах беларускае слова зайграла і закрасавала, пацвярджаючы свае вялікія магчымасці. Менавіта з імем Алеся Іванавіча звязаны пераклады казак Х.-К. Андэрсена, А. Пушкіна, казкі П. Яршова «Канёк-гарбунок», Дз. Маміна-Сібірака, баек І. Крылова, твораў для дзяцей Л. Талстога, А. Чэхава, І. Тургенева, У. Маякоўскага, К. Чукоўскага, С. Маршака, С. Міхалкова, В. Біянкі, А. Гайдара, Л. Касіля, А. Барто, М. Носава, асобных твораў Дж. Лондана, Гі дэ Мапасана, М. Някрасава, М. Горкага, І. Франка, М. Рыльскага, П. Тычыны, М. Забіла, Л. Квітко, В. Саянава, А. Пракоф'ева.

Беларускія кампазітары А. Багатыроў і Н. Сакалоўскі напісалі песні на вершы А. Якімовіча.

Алеся Якімовіча не стала 15 студзеня 1979 года. Роўна два дні ён не дажыў да свайго 75-годдзя. Пісьменнік пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках.

Вядомы беларускі празаік, заслужаны дзеяч культуры Беларусі, былы рэдактар часопіса «Вожык», былы галоўны рэдактар часопіса «Полымя» Павел Кавалёў у жалобную гадзіну развітання з Алесем Іванавічам сказаў:

«Алесь Якімовіч, як і незабыўны Янка Маўр — гэта люстра нашай дзіцячай літаратуры, шматтомная бібліятэка твораў, у якіх багатая гісторыя і цудоўная сучаснасць нашага жыцця. Алесь Якімовіч пісаў па-мастацку і праўдзіва, проста і даходліва, так, як гэта ўмеў ён».

Васіль Вітка ў размове з М. Яфімавай аб жыцці і дзейнасці А. Якімовіча адзначыў: «Хораша прайшоў ён свой шлях у жыцці і літаратуры, знешне нідзе нічым не выдзяляючыся, гвалтам не лезучы напаверх. Сціпла і непрыкметна рабіў ён сваю справу заўсёды і ўсюды па высокім абавяку свайго прызвання».

Імем пісьменніка названа Зенькавіцкая сярэдняя школа Уздзенскага раёна Мінскай вобласці.

Пераважная большасць твораў А. Якімовіча вытрымала выпрабаванне часам. Яго кнігі не старэюць з гадамі. Разумны і шчыры сябар дзяцей, як называлі яго настаўнікі і работнікі бібліятэк, знайшоў шлях да іх сэрцаў, а яго творы былі і застаюцца настольнымі для многіх беларускіх школьнікаў.

Таму нельга не згадзіцца з М. Яфімавай:

«Чым больш заглыбляешся ў творчую спадчыну А. Якімовіча, тым выразней адчуваеш, як многа зрабіў гэты натхнёны мастак слова не толькі для беларускай дзіцячай літаратуры, а і для ўсёй нашай нацыянальнай культуры, асветы. Ён актыўна спрыяў і спрыяе таму, каб новыя пакаленні дзяцей Беларусі раслі гуманістамі, прыхільнікамі міру і справядлівасці ў свеце, каб яны не адрываліся ад духоўнага вопыту, традыцый і звычаяў свайго народа, даражылі Бацькаўшчынай, ведалі яе гісторыю, любілі і ганарыліся роднай мовай».

**Пётр НІКІЦЕНКА,**
**акадэмік НАН Беларусі**

# ІНАВАЦЫЙНАЯ ТВОРЧАЯ МАДЭЛЬ КІРАВАННЯ ЖЫЦЦЯДЗЕЙНАСЦЮ*

«Грамадства не можа існаваць без цэласнага зводу ідэй, каштоўнасцей і норм, што аб'ядноўваюць усіх грамадзян».

А. Р. Лукашэнка

«Мы перажываем не крызіс, які непакоіць слабыя душы, а найвялікшы пералом чалавечага мыслення, які адбываецца толькі адзін раз у некалькі тысячагоддзяў…»

Ул. І. Вернадскі

«Наасферны светапогляд, ідэалогія і адэкватная эканоміка — аснова стваральнай жыццядзейнасці людзей».

П. Г. Нікіценка

«Шмат якія рэчы мы не разумеем не таму, што паняцці нашы слабыя, але таму, што гэтыя рэчы не ўваходзяць у кола нашых паняццяў».

Казьма Пятровіч Пруткоў

Прыведзены абгрунтаванне і распрацоўка асноў тэорыі, метадалогіі і эканоміка-матэматычнай мадэлі станаўлення і развіцця наасфернай эканомікі, грамадскага ўзнаўлення і наасфернага грамадства ў якасці новай светапогляднай канцэптуальнай парадыгмы жыццядзейнасці чалавека на планеце.

Ключавыя словы: улада, навука, адукацыя, рэлігія, культура, дзяржава, рэгіянальныя тэрыторыі, прадпрыемствы, тэндэнцыі, шляхі ўзаемадзеяння, мадэль, розум, веды, светапогляд, мысленне, ісціна, мана, чалавек, прырода, грамадства, наасфера, космас, канцэптуальная ўлада, натоўп, народ, наасферная эканоміка, грамадскае ўзнаўленне, наасфернае грамадства, капітал, капіталакратыя, капіталацэнтрызм, пазыковы працэнт, крызісы, інавацыйная жыццядзейнасць, фонды, улік, кантроль, цывілізацыйнае развіццё, закон часу, логіка сацыяльна-эканамічных паводзін, інстытуцыянальныя прыярытэты ўладнага кіравання, мнагавектарная палітыка, глабалізацыя, інтэграцыя, даларызацыя і кітаезацыя сусветнай эканомікі.

«Хто пачынае вырашаць прыватныя пытанні без папярэдняга вырашэння агульных, той абавязкова будзе на кожным кроку натыкацца на гэтыя агульныя пытанні, не ўсведамляючы гэтага, і асуджаць сваю палітыку на хістанні і беспрынцыповасць».

Ул. І. Ленін

«Больш ведаў, больш навукі, больш паняццяў — рэшта дадасца».

Піцірым Сарокін

«Каб быць годным чалавекам, прызнай годнасць іншых людзей».

І. В. Гётэ

Дынаміка засялення людзьмі планеты Зямля:

8000 г. да н. э. — 5 млн. чал.

500 г. да н. э. — 100 млн. чал. (праз 7500 гадоў!)

---

* Работа выконвалася па даручэнні Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі НАН Беларусі і Ураду на сустрэчы з членамі агульнага сходу НАН Беларусі 24.01.2003 г.

600—700 г. — 200 млн. чал. (праз 1150 гадоў!)
1250 г. — 400 млн. чал. (праз 600 гадоў!)
1805 г. — 1 млрд. чал. (праз 555 гадоў!)
1927 г. — 2 млрд. чал. (праз 122 гады!)
1959 г. — 3 млрд. чал. (праз 32 гады!)
1974 г. — 4 млрд. чал. (праз 15 гадоў!)
1987 г. 11 ліпеня — 5 млрд. чал. (праз 13 гадоў!)
1999 г. 12 кастрычніка — 6 млрд. чал. (праз 12 гадоў!)
2011 г. 31 кастрычніка — 7 млрд. чал. (праз 12 гадоў!)
Прагноз: прыбаўленне чарговага мільярда людзей на планеце Зямля.
Праз кожныя 11—12 гадоў, і перыяд будзе памяншацца да 10, 9, 8 гадоў.

Ад пачатку XX стагоддзя і да XXI стагоддзя, калі колькасць людзей на планеце дасягнула сямі мільярдаў, на Зямлі адбываюцца сусветныя ўзрушэнні (рэвалюцыі, сусветныя і лакальныя войны і г. д.) і сістэмныя пераломы векавых тэндэнцый у цыклічнай дынаміцы сусветнай эканомікі і грамадства.

Сусветная супольнасць увайшла ў складаны перыяд XXI стагоддзя, які патрабуе ў адпаведнасці з Законам часу змены логікі сацыяльна-эканамічных паводзін на планеце Зямля і змены дзеяння закону капіталістычнага накаплення (*П. Н.*). Гэты перыяд характарызуецца працяглымі сацыяльна-эканамічнымі ўзрушэннямі, рукатворнымі тэхнагеннымі і прыроднымі катастрофамі, валютна-фінансавымі ўзрушэннямі, якія сведчаць пра пераход ад двухсотгадовай капіталацэнтрычнай, тэхнагеннай, індустрыяльнай да гуманістычна-наасфернай цывілізацыі, ад пяцісотгадовага пятага пакалення лакальных цывілізацый (калі дамінаваў Захад Еўропы і ЗША) да больш дыферэнцаванага пятага пакалення са зрухам творчай актыўнасці на Усход, што прадказвалі П. Сарокін і А. Тойнбі.

Абапіраючыся на распрацоўкі навукоўцаў-гуманітарыяў і прыродазнаўцаў, што маюць творчае мысленне, аўтар гэтага матэрыялу распрацаваў мадэль станаўлення наасфернай эканомікі, наасфернага грамадскага ўзнаўлення як новай светапогляднай канцэптуальнай парадыгмы, і арганізацыйна-кіраўнічай уладнай мадэлі жыццядзейнасці на кожнай тэрыторыі, у рэгіёне, дзяржаве планеты «Зямля» — дзеля захавання і духоўна-маральнай гармоніі развіцця самога Чалавека, Прыроды і Грамадства ва ўзаемадзеянні з Космасам.

Непасрэдна чалавека аўтар разглядае як разумнага косма-прыроднага, духоўна-маральнага, энерга-магнетычнага, нанатэхналагічнага біякластара, які складаецца з вады, атамаў, бактэрый, мікробаў, вірусаў, нейрасетак, здатнага да разумовай жыццядзейнасці, самаўдасканалення, самаўзнаўлення і пераходу, трансферту (рэінкарнацыі) у іншыя энерга-магнетычныя формы і віды існавання. Розум, дух, слова, мова, свядомасць, веды, страх, гвалт, зайздрасць, інстынкт самазахавання, інтуіцыя, любоў, вера, надзея і іншыя паняцці адлюстроўваюць назвы адпаведнай энерга-магнетычнай матэрыяльнасці атамаў, малекул, бактэрый, вірусаў і іншых нанаэлементаў ($10^{-9м}$) і фемтаэлементаў ($10^{-15м}$).

Паняцце «эканоміка» як такое трактуецца ў першапачатковым старажытнагрэчаскім сэнсе: «οἶκος — ойкас» — гаспадарка (дом, жытло) і «νόμος — номас» — правіла, закон. Наасферная эканоміка — сусветная стваральная гаспадарка. Эканоміка як натуральны гаспадарчы закон устойлівай жыццядзейнасці людзей дзейнічае ва ўзаемасувязі і ўзаемаабумоўленасці з іншымі натуральнымі косма-прыроднымі і грамадскімі законамі: захавання матэрыі, энергіі і магнетызму, адмаўлення адмаўлення, адзінства і ўзаемапранікнення процілегласцей, пераходу колькасці ў якасць, адпаведнасці попыту і прапанавання, павелічэння патрабаванняў людзей і г. д.

Улічваючы значэнне развіцця разумовых здольнасцей чалавека, яго інтэлектуальных, культурных і духоўных якасцей, трэба мець на ўвазе, што гэтыя якасці як катэгорыя прадукту нематэрыяльнай вытворчасці ў параўнанні з матэрыяльнай культурай не толькі адвечныя, але і паслядоўна назапашваюцца і з’яўляюцца

сінергетычнай, тонкай, звышзначнай (тонкай) матэрыяльнай асновай, на якой магчымы новы якасны рост матэрыяльнай і нематэрыяльнай вытворчасці. Гэту акалічнасць класікі капіталацэнтрычнага светапогляду падчас абмеркавання найважнейшых складнікаў рукатворнага і прыроднага тэрытарыяльнага багацця па сутнасці пакінулі па-за ўвагай, не робячы вартаснай ацэнкі.

Неаспрэчная і ўсё ўзрастаючая відавочнасць і «адчувальнасць» сацыяльнай (тонкай, звышпачуццёвай матэрыяльнай) дзейнасці, асабліва яе ядра — сферы Розуму (наасферы) як невычарпальнага планетарнага рэсурсу навуковай дзейнасці і рухаючай сілы ўстойлівага сацыяльна-эканамічнага развіцця, што ўвесь час ўзнаўляецца, абумоўлівае неабходнасць выкарыстання ў сістэме катэгарыяльнага апарату грамадскага ўзнаўлення спецыяльнага тэрміна «наасферная эканоміка».

Наасферную эканоміку аўтар трактуе як разумны, духоўна-маральны спосаб грамадскага ўзнаўлення чалавека, тавараў, работ і паслуг на аснове ўдасканальвання сістэмы карпаратыўных вартасных (эканамічных) планетарных вытворчых адносін і пераважна постіндустрыяльных прадукцыйных сіл з адпаведнымі паказчыкамі эфектыўнасці: крэатыўным развіццём асобы чалавека, максімальнай занятасцю працаздольнага насельніцтва краіны, захаваннем прыроды для будучых пакаленняў, якасным структурным узнаўленнем УВП (даходу) і яго разумным у адпаведнасці з формулай залатога сячэння размеркаваннем паміж членамі грамадства ў залежнасці ад эфектыўнасці іх працы.

Адметнай асаблівасцю наасфернай эканомікі з'яўляецца рост навукаёмістасці УВП і рэалізацыя ў якасці прыярытэтнай патрэбы чалавека ў бесперапыннай адукацыі на аснове росту яе навукаёмістасці. Бесперапыннасць адукацыі на аснове павышэння яе навукаёмістасці забяспечвае рост прафесіяналізму і якасці працоўных рэсурсаў і магчымасць перспектыўнага росту арганічнай структуры вытворчасці, і, такім чынам, павышэння яе інтэнсіфікацыі, прафесіяналізму і эфектыўнасці на аснове НТП. Узнаўленне ва ўзаемасувязі навуковых ведаў і навуковай адукацыі як тавару з'яўляецца прыярытэтным працэсам цывілізацыйнага развіцця.

Характэрнай асаблівасцю наасфернай эканомікі з'яўляецца прызнанне таго, што разам са стварэннем новага тавару — ведаў — узрастае роля дыфузіі трансферту космаса-планетарнага розуму, ведаў. Гэта прадугледжвае ўзмацненне ўвагі да духоўна-маральных размеркавальных адносін «сусветнага назапашвання ведаў» (сферы розуму) і «нацыянальных інавацыйных сістэм», якія выступаюць выканаўчымі інструментамі і структурамі выкарыстання духоўна-маральнага розуму-ведаў у эканоміцы як тавару.

Улічваючы ўсе гэтыя складнікі і мэтавыя функцыі наасфернай эканомікі, робіцца відавочным, што баланс і ўзаемастасункі грамадскага ўзнаўлення ў ёй пажадана ажыццяўляць у адзінстве не па двух падраздзяленнях (I, II), як сёння агульнапрынята ў схеме К. Маркса, а па трох сукупных падраздзяленнях, улічваючы чалавека і прыроду, як мы і прапануем:

$$\begin{array}{l} I\ C_1 + V_1 + M_1 = П_1; \\ II\ C_2 + V_2 + M_2 = П_2; \\ III\ C_3 + V_3 + M_3 = П_3; \\ \hline \sum C + V + M = П, \end{array}$$

дзе I — узнаўленне сродкаў вытворчасці, у тым ліку і прыродных рэсурсаў;

II — узнаўленне прадметаў спажывання, у тым ліку дароў прыроды;

III — узнаўленне чалавека як біясацыяльнага прадукту (розум, веды, навука, адукацыя, культура, паслугі); C,V, M, П — узнаўленне адпаведна пастаянных фондаў, пераменных фондаў, прыбавачнага прадукту і валавога нацыянальнага прадукту (нацыянальнага багацця).

Сёння выдаткі на чалавека па I і па II контуры ўключаюць у расходы. Чым менш выдаткаў на чалавека, тым больш эфектыўным лічыцца кіраванне эканомі-

кай. Парадокс. Стымулюецца паразітызм і эксплуатацыя чалавека-творцы, вынікаў яго вытворчай працы. Таму ў грамадстве павялічваецца колькасць людзей, занятых у невытворчай сферы, мае месца паразітызм, бюракратызм, карупцыя, рэйдарства (крадзеж). Для законатворцы арыенцірам яго дзейнасці з’яўляецца наступнае кітайскае выказванне: «Калі ў краіне многа забаронных законаў, народ робіцца няшчасным. Калі павялічваецца колькасць законаў і загадаў, павялічваецца колькасць злодзеяў і разбойнікаў». (Лао-цзы. «Дао Дэ Цзын’ю. VI—V стст. да н. э.)

Галоўнай жа прадукцыйнай дзейнасцю ў наасфернай эканоміцы і грамадскім узнаўленні з’яўляецца трэцяе падраздзяленне, якое стымулюе свядомую дзейнасць чалавека, фарміруе веды ў галіне прыродазахавання, узнаўлення і выхавання самога чалавека, яго розуму, здароўя і даўгалецця, дынамікі ўстойлівага развіцця як самога сябе, так і першых двух падраздзяленняў.

Гэта схема грамадскага ўзнаўлення прадугледжвае эканамічную ацэнку (улік, акцыяніраванне) усяго прыроднага і рукатворнага нацыянальнага багацця (фондаў), далучэнне яго да ліквіднасці нацыянальнай банкаўскай сістэмы. Эмісійны балансавы разлік грашовай масы ажыццяўляецца ў адпаведнасці з формулай:

$$МД=Д^*П/W^*Ц,$$

дзе МД — грашовая маса;

Д — узнаўленне валавога нацыянальнага прадукту (тавараў, работ і паслуг);

П — за перыяд часу;

W — хуткасць абарачэння грошай;

Ц — узровень цэн айчынных і імпартных тавараў, работ і паслуг.

Зыходзячы з узаемаабумоўленасці і ўзаемадзеяння трох падраздзяленняў, закону міжнароднага падзелу і спецыялізацыі працы, планетарнай інтэграцыі, метадалогія балансавага грашовага разліку і нарматываў сацыяльна-эканамічнай справядлівасці размеркавання наноў створанай рынкавай вартасці валавога нацыянальнага прадукту (прыбытку) выпрацоўваецца на аснове правіла залатога сячэння згодна з формулай:

УВП(Д) = 1/3 падаткі +2/3 заработная плата, прыбытак, амартызацыя фондаў.

Паколькі ў аснове стварэння УВП знаходзіцца энергія, дык грошы як сродак плацяжу і разліку падзеленага і спецыялізаванага відаў працы кожнага чалавека, прадпрыемства, рэгіёна, кожнай краіны, дзяржавы, мэтазгодна метадалагічна фіксаваць у міжнароднай палаце мер і вагаў праз інфармацыйныя энерга-грошы (кВт-гадзіна на адзінку выдаткаў вытворчасці і рэалізацыю тавараў, працы і паслуг).

Дз. І. Мендзялееў (1834—1907, выдатны рускі навуковец, хімік, мысляр), «…навука пачынаецца там, дзе пачынаюць вымяраць праявы сутнасці з’явы, калі асноўныя палажэнні адзінства колькасці і якасці атрымліваюць матэматычную фармулёўку…»

Суадносіны курсаў усіх нацыянальных валют у сусветнай гандлёва-эканамічнай прасторы павінны адбывацца на гэтай адзінай вымяральнай сутнаснай аснове — 1\1. Грашова-крэдытнае і цэнавае забеспячэнне ўстойлівага развіцця эканомік усіх краін, прадпрыемстваў, рэгіёнаў, суб’ектаў гаспадарання павінна строга засноўвацца на нулявым пазыковым працэнце, з дзяржаўным матэматычным вырашэннем міжгаліновага балансу трох падраздзяленняў. Банкаўскі інстытут павінен быць дзяржаўным, падзяляць даход і рызыку яго атрымання з заказчыкам.

Фактычна, працэнты на крэдытны доўг — гэта «ракавае» захворванне фінансава-эканамічнай сістэмы. Кожны цыкл развіцця эканомікі літаральна не можа не завяршацца фінансавай ці ваеннай катастрофай. Працягласць гэтых цыклаў пераразмеркавання багацця, пад’ёму ў інфляцыйны рост эканомікі вызначаецца велічынёй пазыковага працэнта. Практычна незалежна ад адкрытай ці закрытай

эканомікі час, неабходны для першага, самага працяглага перыяду ліхвярскага падваення сумы абарачальных грошай, пры спагнанні 3 % гадавых — 24 гады, пры 6 % — 12 гадоў, пры 12 % — 6 гадоў. З гэтымі інтэрваламі і стасуюцца перыяды інфляцыйна-дэвальвацыйнага існавання чалавецтва і перыядычнасць непазбежных фінансавых крызісаў у кожнай краіне і ў сусветнай эканоміцы.

Біблія. Стары запавет. Другі закон Ісайі.

(Светапоглядная канцэпцыя кіравання пазыковым працэнтам ад нараджэння Хрыстова).

«Не аддавай у ліхву брату твайму ні серабра, ні хлеба, ні чаго іншага, што можна аддаваць у ліхву, іншаземцу (г.зн. не іудзею) аддавай у ліхву, а брату твайму не аддавай у ліхву… каб Бог твой блаславіўляў цябе ва ўсім, што робіцца рукамі тваімі, на зямлі, у якую ты ідзеш, каб авалодаць ёю» (23:19, 20).

«…і будзеш даваць у пазыку розным народам, а сам не будзеш браць у пазыку, і будзеш панаваць над шматлікімі народамі, а яны над табою не будуць панаваць» (28:12).

«Тады сыны іншаземцаў будуць будаваць сцены твае, і цары іх — служыць табе… народ і царства, якія не пажадаюць служыць табе — загінуць, і такія народы цалкам павынішчаюцца» (60:10—12).

Каран (карова) Сура 2 Аят 275

(Альтэрнатыўная светапоглядная канцэпцыя кіравання без пазыковага працэнта).

«Тыя, якія бяруць ліхву, паўстануць (у Судны дзень), як паўстане той, каго шайтан сваім дотыкамператварыў у вар'ята. Гэта ім пакаранне за тое, што яны казалі: «Сапраўды, гандаль — тое самае, што і ліхва». Але гандаль Алах дазволіў, а ліхву забараніў. Калі да каго (з ліхвяроў) дойдзе павучанне ад Алаха і калі ён зробіць згодна з гэтым павучаннем, дык яму даруюцца яго былыя грахі. Яго справы належаць Алаху. А тыя, хто пачнуць зноў (даваць у ліхву), — застануцца ў пякельным полымі на векі вечныя».

Аят 276 «Алах выкараняе ліхву і заахвочвае міласціну. Алах не любіць нікога з няўдзячных грэшнікаў» (пераклад Асманава).

Джон Адамс (другі прэзідэнт ЗША, 1797—1801). «Ёсць два шляхі заваёвы і занявольвання нацыі. Першы — мячом. Другі — доўгам».

Маер Ротшыльд (1743—1812, заснавальнік легендарнай дынастыі банкіраў). «Дазвольце мне кіраваць грашыма краіны, і мне няма справы, хто будзе ўсталёўваць там законы».

Марынэр Эклз — Старшыня і Кіраўнік Савета дырэктараў Федэральнай рэзервовай сістэмы ЗША (1934—1948). «Такая наша грашовая сістэма, калі б не было даўгоў у гэтай сістэме, дык не было б і грошай». Верасень 30, 1941.

Сэр Джэзай Стэмп (1880—1941, дырэктар Банка Англіі з 1928 па 1941 гг.). «Калі вы хочаце заставацца рабамі банкаў, працягвайце аплачваць сваё ўласнае рабства, дазвольце ім і надалей ствараць грошы і кантраляваць даўгі дзяржавы… Адбярыце ад іх гэту вялікую ўладу і ўсё вялікае багацце, як і маё, знікне, а яно павінна знікнуць, каб гэты свет зрабіўся лепшым і шчаслівейшым».

Фонды — усеагульная сацыяльна-эканамічная катэгорыя наасфернай эканомікі. Яе фондаэфектыўны механізм гаспадарання. (Вопыт Касыгінскай рэформы ў СССР, 1965 г.).

Грунтуючыся на цэласнай прыродзе вышэйпамянёнай трохсектарнай сістэмы наасфернай эканомікі і грамадскага ўзнаўлення, можна зрабіць выснову аб архіважнасці вызначэння адэкватнай усеагульнай сацыяльна-эканамічнай формы іх прымнажэння і функцыянавання. Тым больш што, па сутнасці, у дачыненні да разглядаемага тыпу новай (наасфернай) эканомікі такой навукова выпрацаванай усеагульнай функцыянальнай сацыяльна-эканамічнай формы пакуль не знойдзена.

Пры разглядзе іх сутнасных аспектаў абгрунтоўваецца магчымасць крэатыўнага выкарыстання такой катэгорыі, як «фонды». Паняційная трактоўка фондаў,

на нашу думку, можа быць дадзена, калі да яе падысці па аналогіі з паняційнай трактоўкай капіталу. Усеагульнымі матэрыяльнымі носьбітамі кожнага спосабу вытворчасці і тыпу накаплення могуць быць толькі космаса-прыродныя рэсурсы, сродкі вытворчасці і людзі.

Фонды, на нашу думку, паводле свайго рэчыўнага складу павінны адрозніваццa ад капіталу якасна. Адрозненне павінна быць не ў тым, каб не ўключаць у свой склад працоўную сілу, што адбываецца зараз, а ў тым, каб гэта катэгорыя, наадварот, уключала разам з матэрыяльнымі фактарамі не толькі працоўную сілу, але і самога працаўніка як яе працоўнага рэсурснага носьбіта.

Акрамя таго, у склад фондаў, улічваючы разгледжаную намі сутнасць накаплення, мэтазгодна ўключаць не толькі працоўныя рэсурсы і сродкі вытворчасці, але і космаса-прыродныя рэсурсы, рукатворна прымножаную матэрыяльную маёмасць, фінансы, інтэлектуальную ўласнасць, іншае нацыянальнае багацце.

На аснове такой трактоўкі сацыяльна-эканамічнай катэгорыі «фонды» магчымым зрабілася крэатыўнае выкарыстанне вопыту распрацоўкі і функцыянавання ў 1965—1980 гг. фондаэфектыўнага механізму гаспадарання ў СССР (Касыгінская эканамічная рэформа 1965 г.).

Месца саюзных рэспублік у залежнасці ад назапашанага сацыяльна-эканамічнага патэнцыялу і яго эфектыўнасці ў складзе СССР у разліку на душу насельніцтва і км тэрыторыі, 1987 г.

| Рэспубліка | **Месца рэспублікі ў адпаведнасці з:** | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | **усім назапашаным патэнцыялам і яго эфектыўнасцю** | **усім назапашаным патэнцыялам** | **новымі формамі эканамічнай дзейнасці** | **народна-гаспадарчымі (абагульняючымі) паказчыкамі эфектыўнасці** | **дастаткам насельніцтва** | **працяглаcцю жыцця насельніцтва** |
| **РСФСР** | 5 | **1** | 8 | 5 | **3** | 10—11 |
| **Украіна** | 6 | **2** | 10 | 6 | **6** | 5—6 |
| **Беларусь** | 4 | **4—5** | 7 | 4 | **5** | 4 |
| **Узбекістан** | 13 | **13** | 9 | 12 | **13** | 12—13 |
| **Казахстан** | 10 | **8** | 11 | 10 | **7** | 8 |
| **Грузія** | 7 | **9** | 5 | 8—9 | **9** | 3 |
| **Азербайджан** | 12 | **12** | 12 | 14 | **14** | 9 |
| **Літва** | 3 | **7** | 4 | 3 | **4** | 2 |
| **Малдавія** | 8 | **4—5** | 6 | 7 | **8** | 14 |
| **Латвія** | 2 | **6** | 3 | 2 | **2** | 7 |
| **Кіргізія** | 14 | **14** | 13 | 11 | **11** | 12—13 |
| **Таджыкістан** | 15 | **15** | 15 | 15 | **12** | 10—11 |
| **Арменія** | 9 | **10** | 2 | 8—9 | **10** | |
| **Туркменія** | 11 | **11** | 14 | 13 | **15** | 15 |
| **Эстонія** | 1 | **3** | 1 | 1 | **1** | 5—6 |
| **Адносіны максімуму да мінімуму** | 2,8:1 | 7,5:1 | 2,9:1 | 3,3:1 | 1,<br>1:1 | |
| **Суадносіны максімуму і мінімуму** | 0,7:1<br>1,7:1 | 0,3:1<br>2,5:1 | 0,7:1<br>3,2:1 | 0,7:1<br>1,5:1 | 0,<br>95:1<br>1,1:1 | |

| Рэспубліка | Месца рэспублікі ў адпаведнасі з паказчыкамі эфектыўнасці галіны: | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | сельскай гаспадаркі | прамысловасці і будаўніцтва | транспарту і сувязі | гандлю, грамадскага харчавання і сферы паслуг | народнай адукацыі | культуры, мастацтва, навукі | аховы здароўя |
| **РСФСР** | 9 | **5** | 9 | 5—6 | 2 | **5** | 3 |
| **Украіна** | 5 | **7** | 7 | 5—6 | 7 | **9** | 6 |
| **Беларусь** | 3 | **1—2** | 4 | 4 | 4 | **7** | 8 |
| **Узбекістан** | 12 | **15** | 14 | 14 | 11 | **13** | 13 |
| **Казахстан** | 15 | **9** | 6 | 10 | 6 | **12** | 7 |
| **Грузія** | 7 | **10** | 5 | 7 | 10 | **4** | 1 |
| **Азербайджан** | 11 | **12** | 12 | 13 | 14 | **10** | 12 |
| **Літва** | 1 | **1—2** | 3 | 3 | 1 | **3** | 2 |
| **Малдавія** | 4 | **6** | 11 | 8 | 8 | **8** | 9 |
| **Латвія** | 6 | **4** | 2 | 2 | 3 | **2** | 5 |
| **Кіргізія** | 8 | **11** | 13 | 11 | 12 | **11** | 11 |
| **Таджыкістан** | 14 | **13** | 15 | 15 | 15 | **15** | 15 |
| **Арменія** | 13 | **8** | 8 | 9 | 9 | **6** | 10 |
| **Туркменія** | 10 | **14** | 10 | 12 | 13 | **14** | 14 |
| **Эстонія** | 2 | **3** | 1 | 1 | 5 | **1** | 4 |
| **Суадносіны максімуму і мінімуму** | 5,5:1 | 3,8:1 | 3,6:1 | 2,7:1 | 2,1:1 | 6,6:1 | 2,2:1 |
| **Дачыненне БССР да максімуму, да мінімуму** | 0,9:1 3,2:1 | 1:1 3,8:1 | 0,6:1 2,1:1 | 0,8:1 2,2:1 | 0, 8:1 1,6:1 | 0,3:1 1,2:1 | 0,7:1 1,5:1 |

Адмаўленне ў 1980 годзе ад Касыгінскай рэформы ўліку і кантралявання нетраў, рэсурсаў і сістэмы гаспадарання мела вынікам распад СССР, крадзеж і паразітызм.

Падчас фарміравання фондаэфектыўнага механізма фарміравання новай (наасфернай) эканомікі важным з’яўляецца засваенне навуковымі і кіраўнічымі кадрамі наступных усеагульных пастулатаў:

Узаемадзеянне розуму, часу і сацыяльна-эканамічных паводзін.

Уінстан Чэрчыль (1874—1965, прэм’ер-міністр Вялікабрытаніі ў 1940—1945 і ў 1951—1955 гг.). «Імперыі будучыні будуць імперыямі розуму».

Рэалізуючы прапанаваную мадэль наасфернай эканомікі і грамадскага ўзнаўлення, трэба ўлічваць узрастаючы ўплыў Касмічнага Розуму і Закону Часу, які абумоўлівае разам з рэзананснай з’явай аб’ектыўную змену логікі сацыяльна-эканамічных паводзін людзей на планеце Зямля дзеля яе існавання і захавання самога чалавека.

Графік рэзанансу (супадзенні частотаў, жоўты колер, — дзве сусветныя вайны праз 25 гадоў, рэвалюцыі ў Расіі, Германіі, Мексіцы, Кітаі, Індыі і г. д.) біялагічнай і сацыяльнай жыццядзейнасці чалавека:

1. Біялагічная частата (Змена пакаленняў — 25 гадоў + —5 гадоў).

2. Сацыяльная частата (Змена тэхналогій — 5 гадоў + —2 гады).

3. Змена канцэптуальнай улады светапогляду і логікі сацыяльна-эканамічных паводзін. Закона сацыялістычнага накаплення.

Інстытуцыянальныя арганізацыйна-кіраўнічыя жыццядзейнасныя падсістэмы (прыярытэты).

Планетарная арганізацыйна-кіраўнічая і рэгіянальна-тэрытарыяльная ўладная практычная дзейнасць людзей у наасфернай эканоміцы і грамадскім узнаўленні прадугледжвае сістэмнае выкарыстанне сямі інстытуцыянальных жыццядзейсных кіраўнічых падсістэм (прыярытэтаў):

1. Светапоглядны.
2. Гісторыка-генетычны.
3. Інфармацыйна-энергетычны.
4. Крэдытна-фінансавы.
5. Алкагольна-наркатычны.
6. Культурна-маральны (музычна-колерны).
7. Сілавы (ваенны, адміністрацыйны, уладны).

Аўтабіясінхранізацыя — асноўны інструмент кіравання натоўпам…

Вісарыён Рыгоравіч Бялінскі (1811—1848, рускі мысляр, пісьменнік, літаратурны крытык, публіцыст, філосаф).

«Натоўп — гэта суполка людзей, якія жывуць згодна з паданнем і разважаюць згодна з аўтарытэтам правадыра, падання ці святога пісання».

Джэральд Мэсі (1828—1907), англійскі паэт, егіптолаг).

«Ім будзе складана, тым, хто абапіраецца на ісціну аўтарытэту, замест таго, каб абапірацца на аўтарытэт ісціны».

І. В. Гётэ (1749—1832), нямецкі паэт, мысляр і даследчык прыроды).

«Няма больш безнадзейнага рабства, чым рабства тых рабоў, якія думаюць, што яны вольныя ад ланцугоў…»

Гістарычны матэрыял да разумнага аналізу і разважання (з дактрыны халоднай вайны ЗША).

Напісана ў 1945 годзе. Ален Далес, пазней шэф ЦРУ ЗША.

«Закончыцца вайна (Другая сусветная. — *П. Н.*), усё неяк наладзіцца, і мы кінем усё, што маем, усё золата, усю матэрыяльную сілу на абалваньванне і на абдурванне людзей. Чалавечы мозг (разум. — *П. Н.*), свядомасць людзей, здатныя да зменаў. Утвараючы там хаос, мы непрыкметна зробім падмену іх каштоўнасцей на фальшывыя і прымусім у іх верыць. Як? Мы знойдзем сваіх аднадумцаў, сваіх памочнікаў і паплечнікаў у самой Расіі.

Эпізод за эпізодам будзе разыгрывацца грандыёзная паводле свайго маштабу трагедыя пагібелі самага непакорнага на зямлі народа, канчатковага, незваротнага згасання яго самасвядомасці (розуму. — *П. Н.*). Літаратура, тэатр, кіно — усё будзе адлюстроўваць і ўслаўляць ганебныя пачуцці. Мы будзем усяляк падтрымліваць тых, хто пачне ўкараняць у чалавечай свядомасці культ сексу, гвалту (зайздрасці. — *П. Н.*), садызму, здрады, адным словам, усялякую амаральнасць.

У кіраўніцтве дзяржавай мы створым блытаніну. Мы будзем непрыкметна, але актыўна спрыяць самадурству чыноўнікаў, хабарнікаў, беспрынцыповасці. Шчырасць і прыстойнасць будуць абсмейвацца і зробяцца нікому не патрэбнымі, ператворацца ў перажытак мінулага. Хамства і нахабства, ману і падман, п’янства і наркаманію, недавер (зайздрасць. — *П. Н.*), страх, здрадніцтва, варажнечу народаў, нянавісць да рускіх — усё гэта мы будзем настойліва культываваць.

І толькі мала хто, зусім мала хто будзе здагадвацца, што адбываецца. Але такіх людзей мы будзем ставіць у бездапаможны стан, ператворым у пасмешышча, знойдзем спосаб іх абылгаць і назваць адкідамі грамадства. Будзем выкарчоўваць духоўныя карані, апашляць і знішчаць асновы народнай маралі.

Мы будзем такім чынам аслабляць пакаленне за пакаленнем, мы будзем няве-

чыць людзей з маленства і юнацтва, мы заўсёды будзем рабіць галоўную стаўку на моладзь, разбэшчваючы, раздурваючы і распускаючы яе».

Вынік рэалізацыі Дактрыны — распад СССР, праблемы інтэграцыі культур і гуманітарнай бяспекі дзяржаў-удзельніц СНД, набліжэнне чарговага планетарнага фінансава-эканамічнага крызісу. Альтэрнатыва антыкрызіснага развіцця — фарміраванне новага (наасфернага) светапогляду і структуры эканомікі пад кіраўніцтвам дзяржаўных лідараў Беларусі (А. Р. Лукашэнкі), Казахстана (Н. А. Назарбаева), Расіі (Ул. Ул. Пуціна) і інш.

## Рэзюмэ

«Наасферная мадэль стваральнага ўстойлівага інавацыйнага развіцця хатніх гаспадарак, прадпрыемстваў, рэгіёнаў, краін і планетарнай супольнасці ў XXI стагоддзі»:

1. Аўтарская мадэль з’яўляецца альтэрнатывай існуючым сацыяльна-эканамічным мадэлям чалавечай жыццядзейнасці на планеце Зямля.

2. Калі ў існуючых мадэлях, асабліва Марксісцкай, галоўнымі светапогляднымі і дзейснымі механізмамі, пастулатамі, паказчыкамі эфектыўнасці вытворчасці з’яўляюцца: таварная вытворчасць, закон капіталістычнага накаплення і рост фіктыўнага (паразітычнага) капіталу (даларызацыя); атрыманне максімальнага прыбытку пры самых малых выдатках капіталу; ацэнка кошту таварных выдаткаў на ўзнаўленне толькі працоўнай сілы чалавека, а не яго самога як асобы; далучэнне таварных выдаткаў на ўзнаўленне працоўнай сілы чалавека да выдаткаў (сабекошту) яе ўзнаўлення і тавараў; ацэнка эфектыўнасці работы чалавека вытворчай працы (рэнтабельнасць) разлічваецца шляхам далучэння прыбытку да заработнай платы. Чым меншая заработная плата — тым вышэйшы прыбытак, рэнтабельнасць, падаткі і эфектыўнасць вытворчасці: парадокс!

Адсутнасць вартаснай (эканамічнай) ацэнкі прыродных рэсурсаў, самога чалавека, навукі, адукацыі;

развіццё таварнай вытворчасці ажыццяўляецца ў адпаведнасці з эканоміка-матэматычнай 2-х контурнай балансавай мадэллю К. Маркса:

1. Вытворчасць сродкаў вытворчасці (C + V + M = П).

2. Вытворчасць прадметаў спажывання (C + V + M = П).

Гэта мадэль не ўлічвае кошт (цану, аплату, выдаткі) узнаўлення прыроды і галоўнай прадукцыйнай сілы — самога чалавека як творчай асобы, яго сям’і, устойлівага развіцця. Адсюль дзейнасць людзей, занятых у сацыяльнай сферы (навука, адукацыя, ахова здароўя, спорт, культура, літаратура, мастацтва і інш., паслугі, накіраваныя на развіццё непасрэдна чалавека, яго розуму, інтэлекту, духоўнасці, маральнасці і г. д.) выступаюць як выдаткі і непрадукцыйныя грамадскія страты. Парадокс! Людзі, занятыя ў гэтых сферах, неабгрунтавана залічваюцца да паразітуючых элементаў і эканамічных выдаткаў (страт).

3. Сусветная крэдытна-грашовая сістэма, створаная паводле Марксавай тэорыі фіктыўнага капіталу (даларызацыя) згодна з яго формулай: $Д—Д^{1}—Д^{11}… Д^{n \to \infty}$ і заснаваная на біблейскай даўгавой дактрыне пазыковага працэнта, з’яўляецца асновай інфляцыі, росту паразітызму і эксплуатацыі людзей прадукцыйнай працы, існавання і паглыблення галечы, беднасці, узмацнення сацыяльнай напружанасці і крызісаў, наяўнасці войнаў, катастроф і г. д.

У аснову аўтарскай мадэлі (*П. Н.*) устойлівага развіцця пакладзены наступныя светапоглядныя пастулаты, прынцыпы, механізмы:

1. Выбар Розуму і Закона захавання Энергіі (Матэрыі), Закона Часу ў якасці светапоглядных фундаментальных (наасферных) асноў планетарнай эканамічнай жыццядзейнасці людзей у адпаведасці з вучэннем Ул. І. Вернадскага «Пра наасферу».

2. У якасці рухаючай сінергетычнай сілы ўстойлівай сацыяльна-эканамічнай сістэмы прапануецца мадэль фарміравання постіндустрыяльнай (наасфернай) эканомікі згодна з трохконтурнай балансавай эканоміка-матэматычнай мадэллю:

$$\begin{aligned} &I\ C_1 + V_1 + M_1 = П_1; \\ &II\ C_2 + V_2 + M_2 = П_2; \\ &III\ C_3 + V_3 + M_3 = П_3; \\ \hline &\sum C + V + M = П, \end{aligned}$$

дзе I — узнаўленне сродкаў вытворчасці, у тым ліку прыродных рэсурсаў;

II — узнаўленне прадметаў спажывання, у тым ліку дароў прыроды;

III — узнаўленне чалавека як біясацыяльнага прадукту (розум, веды, навука, адукацыя, культура, літаратура, паслугі); C, V, M, П — узнаўленне адпаведна пастаянных фондаў, пераменных фондаў, прыбавачнага прадукту і валавога нацыянальнага прадукту (нацыянальнага багацця).

Галоўнай жа прадукцыйнай дзейнасцю ў наасфернай эканоміцы, хатняй гаспадарцы і грамадскім узнаўленні з’яўляецца трэцяе падраздзяленне, якое стымулюе стваральную дзейнасць чалавека, фарміруе веды ў галіне прыродазахавання, дынамікі ўстойлівага развіцця як самога сябе, так і першых двух падраздзяленняў. Матэрыяльнай базай вытворчых адносін выступаюць ФОНДЫ.

Гэта схема грамадскага ўзнаўлення прадугледжвае эканамічную ацэнку (улік, акцыяніраванне) чалавека, усяго прыроднага і рукатворнага нацыянальнага багацця (фондаў), увядзенне яго ў ліквіднасць нацыянальнай банкаўскай сістэмы. Эмісійны балансавы разлік грашовай масы ажыццяўляецца згодна з формулай:

МД=Д*П (W*Ц)

дзе МД — грашовая масса; Д — узнаўленне валавога нацыянальнага прадукту (тавараў, работ і паслуг); П — за перыяд часу; W — хуткасць абарачэння грошай; Ц — узровень цэн айчынных і імпартных тавараў, работ і паслуг.

Улічваючы ўзаемаабумоўленасць і ўзаемадзеянне трох падраздзяленняў, метадалогія балансавага грашовага разліку ажыццяўляецца па формуле:

УВП (Д) = 1/3 падаткі + 2/3 заработная плата з фонду накаплення (развіцця). Паколькі ў аснове стварэння УВП ляжыць энергія, дык грошы як сродак плацяжу і разліку падзеленага і спецыялізаванага відаў працы кожнага чалавека, прадпрыемства, рэгіёна, кожнай краіны, дзяржавы мэтазгодна метралагічна фіксаваць у міжнароднай палаце мер і вагаў праз інфармацыйныя энерга-грошы (кВт-гадзіна на адзінку выдаткаў вытворчасці і рэалізацыі тавараў, работ і паслуг).

Сам чалавек аўтарам разглядаецца як разумны косма-прыродны, духоўна-маральны, энерга-магнетычны, нанатэхналагічны біякластар, які складаецца з вады, атамаў, бактэрый, мікробаў, вірусаў, нейрасетак, здатны да разумовай жыццядзейнасці, самаўдасканалення, самаўзнаўлення і пераходу, трансферту (рэінкарнацыі) у іншыя энерга-магнетычныя формы і віды існавання. Розум, дух, слова, мова, свядомасць, веды, страх, улада, гвалт, зайздрасць, інстынкт замазахавання, інтуіцыя, каханне, вера, надзея і іншыя паняцці адлюстроўваюць назвы адпаведнай энерга-магнетычнай матэрыяльнасці атамаў, малекул, бактэрый, вірусаў і іншых нанаэлементаў ($10^{-9}$м) і фемтаэлементаў ($10^{-15}$м), на вывучэнне і выкарыстанне якіх павінна быць скіравана інтэлектуальная дзейнасць чалавека дзеля ўстойлівага развіцця.

Наасферную эканоміку аўтар разглядае ў першапачатковым старажытнагрэчаскім разуменні «οἶκος — ойкас» — гаспадарка (дом, жытло) і «νόμος — номас» — правіла, закон як планетарную творчую гаспадарку, разумны, духоўна-маральны спосаб грамадскага ўзнаўлення чалавека, тавараў, працы і паслуг на аснове ўдасканальвання сістэмы карпаратыўных вартасных (эканамічных) планетарных вытворчых адносін і пераважна постіндустрыяльных прадукцыйных сіл

з адпаведнымі паказчыкамі эфектыўнасці: крэатыўным развіццём розуму і асобы чалавека, максімальнай занятасцю працаздольнага насельніцтва краіны, захаваннем прыроды для наступных пакаленняў, якасным структурным узнаўленнем УВП (прыбытку) і яго разумным згодна з формулай залатога сячэння размеркаваннем паміж членамі грамадства ў залежнасці ад эфектыўнасці іх працы.

Наасферныя інстытуцыянальныя арганізацыйна-кіраўнічыя падсістэмы ўстойлівага развіцця планетарнай жыццядзейнасці людзей (прыярытэты):

1. Светапоглядны.
2. Гісторыка-генетычны.
3. Інфармацыйна-энергетычны.
4. Крэдытна-фінансавы.
5. Алкагольна-наркатычны.
6. Культурна-маральны (музычна-колерны).
7. Сілавы (ваенны, адміністрацыйны, уладны).

## Літаратура:

1. Андреев, И. Л., Никитенко, П. Г. Цивилизационный процесс под углом ноосферного зрения, в 3 кн. — Минск, Право и экономика, 2002.

2. Андреев, И. Л., Никитенко, П. Г. Беларусь, Россия, СНГ, Африка и Европа: Аспекты геополитики ноосферной жизнедеятельности. — Минск: Право и экономика, 2010.

3. Бжезинский, З. Великая шахматная доска. М.: МО, 1998.

4. Вернадский, В. И. Философские мысли натуралиста. — М., 1988.

5. Вернадский, В. И. Научная мысль, как планетарное явление. Москва, Наука, 1991.

6. Вернадский, В. И. и ноосферная парадигма развития общества, науки, культуры, образования и экономики в XXI веке: коллективная монография / под науч. ред. А. И. Субетто и В. А. Шамахова: в 3 т. Т. 1. — СПб.: Астерион, 2013. — 574 с.

7. Глазьев, С. Ю. Теория долгосрочного технико-экономического развития. Москва. ВлаДар, 1993.

8. Глазьев, С. Ю. Стратегия опережающего развития в условиях глобального кризиса. Москва. Экономика, 2010.

9. Зазнобин, В. М., Ефимов, В. А., Петров, К. П., Грейвз К. (http://kobtv.narod.ru/lector/zaznobin-list.html http://eatx.narod.ru/efimov.html — интернет).

10. Кузык, Б. Н. Цивилизация: теория, история, диалог, будущее / Б. Н. Кузык, Ю. В. Яковец: в 6 т. — М., 2006—2010.

11. Маркс, К., Энгельс, Ф. Соч. — Т. 25, ч. 2. — М., 1962.

12. Моисеев, Н. Н. Судьба цивилизации, путь разума. — М., 1998.

13. Никитенко, П. Г. Ноосферная экономика и социальная политика: стратегия инновационного развития. — Минск, 2006.

14. Никитенко, П. Г. [и др.]; Философия и идеология жизнедеятельности Беларуси: теоретические основы антикризисной модели и механизмы ее реализации / Нац. акад. наук Беларуси, Институт экономики. — Минск, 2009.

15. Никитенко, П. Г. Формирование ноосферного мышления и мировоззрения — императив науки Беларуси в XXI веке // Беларуская думка. — 2001. — № 9. — С. 57—66.

16. Никитенко, П. Г. Социалистическое накопление и общественное воспроизводство: (неусвоенные уроки «краха СССР» и «социализма»). — Минск, 2011.

17. Ноосферная этико-экологическая конституция человечества, (Ноо—Конституция), Гордина Л. С., Лимонад М. Ю., Казначеев В. П., Никитенко П. Г., Субетто А. И., и др.; Саммит ООН по устойчивому развитию Рио+20 <ноосфера

XXI века на всемирном саммите ООН по устойчивому развитию рио+20> Бразилия, Рио-де-Жанейро,13—23 июня 2012 г.

18. Шапошникова, Л. В. Философия космической реальности. Е. И. и Н. К. Рерих (учение живой этики). Книга 1. Листы сада Мории. (1924 г.) Международный Центр Рерихов. Мастер-Банк. Москва. 2003 г. 400 с. Книга 2. «Озарение» Листы сада Мории (1925 г.). Международный Центр Рерихов. Мастер-Банк. Москва. 2003 г. 325 с.

19. Яковец, Ю. В. Циклы. Кризисы. Прогнозы. — М., 1999.

20. Яковец, Ю. В. Глобальные экономические трансформации XXI века. — М., 2011.

21. Карл Поппер. Открытое общество и его враги: в 2-х томах. Один из известнейших современных философов анализирует роль Платона, Гегеля и Маркса в формировании идейной и социально-экономической, феодально-крепостной, капиталистической базы тоталитаризма. . http://ay.by/lot/popper-k-otkrytoe-obschestvo-i-ego-vragi-v-2-h-tomah-508400329.html http://www.torrentino.com/torrents/49529 —интернет.

22. Указ Путина В. В. от 21.08.2012_№ 1206 о праздновании 150-летия со дня рождения Владимира Ивановича Вернадского. (http://base.consultant.ru/cons/cgi/online.cgi?req=doc;base=EXP;n=537957).

23. Сын белорусского народа Пётр Машеров. К 95-летию со дня рождения: Воспоминания и статьи. М. Изд. НО «Ассоциация» «Лига содействия оборонным предприятиям», 2013. — 464 с.

24. Политическая экономия: прошлое, настоящее, будущее. Монография. Под редакцией В. М. Гейца, В. Н. Тарасевича. «ЦУЛ» Киев — 2014.

Ссылка в интернете на фильм П. Г. Никитенко по Ноосферному мировозрению — 94.3мб.

http://dl.dropbox.com/u/101849935/ %D0 %97 %D0 %B5 %D0 %BC %D0 %BB % D1 %8F— %D0 %9B %D1 %8E %D0 %B4 %D0 %B8_K.avi Скачивайте, и приятного просмотра…

Ссылка в интернете на фильм «Закон Времени»

http://www.zakonvremeni.ru/law-of-time.html В. А. Ефимов (2013.06.21)’Россия перед лицом глобализации’, «Зелёная экономика» http://eatx.narod.ru/efimov.html.

Ссылки в интернете на выступления Никитенко П. Г. по БТ ТВ 2009—2013гг.

http://www.tvr.by/rus/news.asp?id=2971&cid=15

http://www.tvr.by/rus/society.asp?id=85208

http://www.tvr.by/rus/economics.asp?id=70748

http://www.tvr.by/rus/society.asp?id=8252

http://www.tvr.by/rus/society.asp?id=797376

***Пераклад на беларускую***
***Ірыны КАЧАТКОВАЙ.***

# Мікалай ЯРОМЕНКА: «Я НЕ ЎМЕЮ ЖЫЦЬ ДЛЯ СЯБЕ...»

Не помню ўжо, дзе і калі мы пазнаёміліся. Можа, у той час, калі я працаваў памочнікам сакратара ЦК КПБ і Мікалай Мікалаевіч як старшыня праўлення Беларускага тэатральнага аб'яднання зрэдчас прыходзіў на прыём да Кузьміна (ён курыраваў ідэалогію, культуру), каб вырашыць узнікшую праблему, узгадніць якое-небудзь пытанне ці проста параіцца па той ці іншай жыццёвай сітуацыі. І, магчыма, у адзін з такіх візітаў ён зазірнуў, пакуль давялося чакаць аўдыенцыі ў сакратара, і ў мой кабінет, які меў агульную прыёмную.

А можа, знаёмства адбылося крыху пазней, калі Мікалай Мікалаевіч ужо ўзначальваў Саюз тэатральных дзеячаў і мне як намесніку загадчыка ідэалагічнага аддзела ЦК давялося прысутнічаць на адным з вельмі вострых пленумаў гэтага саюза. Абмяркоўваўся важны перабудовачны дакумент — «Асноўныя напрамкі развіцця тэатральнага мастацтва...» Большасць аўдыторыі ўхвальна паставілася да тых прапаноў, якія былі выкладзены ў дакуменце. Аднак пэўная частка «дзеячаў» катэгарычна выступала супраць усялякай рэгламентацыі, патрабуючы для тэатра абсалютнай свабоды, поўнай незалежнасці. І кіраўніку саюза (як цяпер бачу яго перад вачыма) давялося не раз, і не два страсна, эмацыянальна выступаць у спрэчках, каб у рэшце рэшт разварушаную, як вулей, аўдыторыю пераканаць зацвердзіць прапанаваны дакумент.

Несумненна, і ў першым, і ў другім выпадках мы не толькі бачыліся, але, канечне ж, і перакінуліся колькімі словамі. Але я не лічу гэтыя фармальна-казённыя сустрэчы сапраўдным знаёмствам. Невыпадкова яны ў маёй памяці не зафіксаваліся нічым цікавым, адметным.

Больш блізка з Мікалаем Яроменкам мы сышліся тады, калі я працаваў ужо ў газеце «Советская Белоруссия». І адбылося гэта вось як. Я паехаў на тыдзень у пісьменніцкі Дом творчасці «Іслач», каб крыху перадыхнуць, а калі паспрыяюць абставіны, то, можа, што-небудзь і напісаць. І вось у адзін з тых дзён у маім нумары зазвінеў настойлівы тэлефонны званок.

— Прабачце, магчыма, адрываю вас ад працы, — пачуў я ў трубцы добра знаёмы барытон. — Гэта турбуе Мікалай Мікалаевіч Яроменка. У мяне ёсць пільная патрэба сустрэцца з вамі. Калі мне можна прыехаць?

Дамовіліся сустрэцца заўтра. Мікалай Мікалаевіч зайшоў прыкметна ўстурбаваны:

— Бяда! Тэатр гіне. Трэба біць ва ўсе званы. Ваша газета — той звон, які пачуюць усе...

Мы прагаварылі добрых паўдня. І не толькі пра тэатр — пра жыццё наогул. З прыемнасцю высветлілі, што стаім на адных ідэйных пазіцыях, падзяляем адны і тыя ж духоўныя і маральныя каштоўнасці. Знайшоўшы ў маёй асобе свайго аднадумца, Мікалай Мікалаевіч з болем загаварыў пра незразумелыя зігзагі перабудовы, пра здрадніцкую пазіцыю Гарбачова...

А калі наша інтэрв'ю было надрукавана, Яроменка патэлефанаваў, падзякаваў і сказаў не без задавальнення ў голасе:

— Рэакцыя бурная! Мне, канечне, дастанецца на арэхі. Але хай, абы справе памагло.

Пасля гэтага мы сустракаліся яшчэ шмат разоў — у розных сітуацыях, з розным настроем, але заўсёды шчыра і адкрыта. І кожным разам Мікалай Мікалаевіч адкрываўся мне ўсё больш глыбока, усё больш цікава. І як мастак, і як чалавек. Галоўная якасць яго характару — вернасць сваім прынцыпам, тэатру, мастацтву. Ён жыў ва ўнісон з лёсам сваёй краіны, і ўсе яе беды, праблемы перажываў як асабістыя. І калі трэба было, прабіваў любыя чыноўніцкія сцены, не думаючы, якімі гэта можа абярнуцца для яго непрыемнасцямі. У яго была ўнікальная, зайздросная здольнасць: імгненна ўключаць субяседніка ў сферу сваіх клопатаў і трывог — не сваіх асабістых, а заўсёды альбо тэатральных, альбо грамадскіх, агульнанародных.

Спашлюся на два паказальныя прыклады.

Кінарэжысёр Вячаслаў Нікіфараў прыгадвае, як аднойчы Мікалаю Яроменку давялося выступаць у нашым парламенце. Справа ў тым, што ў тыя, першыя перабудовачныя гады творчыя аб'яднанні абавязалі плаціць падаткі, як і камерцыйным структурам. Гэтая ноша для работнікаў мастацтва была непасільная, і ўсё ішло да таго, што творчыя саюзы маглі перастаць існаваць. Чыноўнікі выдатна разумелі, што сродкі, сабраныя ад гэтых падаткаў, мізэрныя. Але баяліся стварыць прэцэдэнт. Вырашыць праблему мог толькі парламент. І вось Мікалай Мікалаевіч на трыбуне, выступае як старшыня канфедэрацыі творчых саюзаў. Выступае ярка, эмацыянальна, пераканаўча. Ніякіх скаргаў, ніякіх нараканняў. Усё расклаў па палічках: так было, так ёсць, а вось так будзе, калі нічога не зменіцца. І тады ўжо творчыя саюзы ратаваць не давядзецца... Скончыў і пайшоў да свайго месца. У зале мёртвая цішыня, а пасля — шквал апладысментаў. Як у тэатры пасля прэм'еры. Перамога! І трэба было бачыць у гэтыя хвіліны твар Яроменкі, які літаральна праменіўся ад радасці.

І другі выпадак, пра які расказаў журналіст Леанід Екель. Сустрэча дзеячаў культуры з Кіраўніком дзяржавы. Першым выступае Мікалай Яроменка. Абмаляваў становішча творчых саюзаў, расказаў аб справах дзяржаўнай важнасці, перайшоў да праблем, якія па віне чыноўнікаў не вырашаюцца гадамі. І ў заключэнне прапанаваў аказваць дзяржаўную падтрымку маштабным праектам творчых саюзаў. Такім, як міжнародныя форумы, фестывалі, семінары з удзелам замежных краін...

І тут у зале нечакана для ўсіх нехта голасна сказаў: «А мы не намераны карміць вашых чыноўнікаў...»

Твар Мікалая Мікалаевіча прыкметна паблядneў, на ім выразна выступілі жаўлакі, і можна было толькі здагадвацца, якая хваля эмоцый яго захліснула, але ён стрымаў сябе, адказаў амаль спакойна: «Гэта мы — чыноўнікі?! Мы — прафесіяналы самага высокага класа. І нас на гэтыя пасады выбралі такія ж прафесіяналы. Ды мы сваім сумленнем прыкаваны да гэтых саюзаў. Мы адказваем за іх лёс. І мы не кінем, не здрадзім ім, хоць кожны з нас сваё жыццё мог бы уладкаваць матэрыяльна куды лепш. У саюзах мы атрымоўваем капейкі, а часам — зусім нічога не атрымоўваем. Але мы не на зарплаты просім грошай. Падтрымайце праекты, якія працуюць на прэстыж дзяржавы. На культуру і маральнасць...»

Пройдзе колькі часу — і дзяржава выдзеліць сродкі для падтрымкі найбольш значных праектаў творчых саюзаў. А варта было прамаўчаць — і нічога не было б...

Гэтае немаўчанне дорага абыходзілася Мікалаю Яроменку: тры інфаркты перажыў ён за сваё жыццё, тры рубцы засталіся на ягоным сэрцы, апошні з якіх аказаўся смяртэльным.

Не трэба, аднак, думаць, што Мікалай Мікалаевіч быў заўсёды такі — напорысты, яршысты, бескампрамісны. Яго блізкія сябры сцвярджаюць, што ніколі, ні разу ніхто з іх не адчуў у адносінах з ім якой-небудзь нязручнасці, дыскамфорту. У яго паводзінах не было і намёку на нейкую выключнасць, нейкую веліч. Наадварот, здзіўляла незвычайная прастата і даступнасць, шчырасць і адкрытасць.

І гэта пры тым, што Яроменка як акцёр меў неверагодную папулярнасць. Ужо з першай сваёй буйной ролі ў кінафільме «Людзі і звяры» ён набыў усесаюзную вядомасць. Пасля былі фільмы «Масква—Генуя», «Іван Макаравіч», «Крушэнне імперыі», «Атланты і карыятыды», «Распісанне на паслязаўтра», «Вечный зов» — усяго звыш пяцідзесяці кінастужак, у якіх Мікалай Мікалаевіч сыграў хай сабе і не галоўныя, але надзвычай цікавыя, каларытныя, запамінальныя ролі. У кожнай з іх акцёрскі дар Яроменкі праявіўся з усёй сілай.

І нарэшце «Сын за бацьку» — фільм этапны, лёсавызначальны, рэжысёрам і акцёрам у якім выступіў Мікалай Яроменка-малодшы. Чаму лёсавызначальны? Таму што трэба было мець немалую мужнасць, каб у тыя скрушныя гады перабудовы зрабіць такі светлы, такі шчыры фільм. Для многіх і многіх гледачоў ён стаў духоўным апірышчам, маральным арыенцірам у атмасферы ўсеагульнага разладу. У тым ліку і для самога Мікалая Мікалаевіча, які перажываў тады не лепшыя часы. Фільм вярнуў яго да жыцця, да паўнацэннай творчасці.

А вось акцёрскі лёс Яроменкі ў Купалаўскім тэатры складваўся цяжка, складана. Прычына — рэжысёрскі дыктат. Артыстаў у тэатры бачылі толькі як сродак выразнасці, прыраўноўвалі ледзь не да светлавых эфектаў. Канечне, Мікалая Мікалаевіча такія адносіны абуралі, ён публічна выказваў сваю нязгоду і… аказваўся без роляў, гадамі знаходзіўся ў прастоі.

І тым не менш цяпер, падсумоўваючы зробленае Яроменкам у тэатры, нельга не здзіўляцца і не захапляцца: колькі выдатных роляў сыграў ён за сваё тэатральнае жыццё! Гэта — і Канстанцін Заслонаў у аднайменным спектаклі, і Міканор («Людзі на балоце»), і Чубар («Плач перапёлкі»), і сакратар парткама Самохін («Пратакол аднаго пасяджэння»), і міністр узгадненняў Вяршыла («Мудрамер»), і пісьменнік Нікіцін («Бераг»), і адна з вяршынных па акцёрскім майстэрстве і псіхалагічнай напоўненасці роля сэра Джона са спектакля «Касцюмер».

Асобна варта сказаць пра спектакль «Мілы лгун». Спектакль, які па ініцыятыве Мікалая Яроменкі быў пастаўлены на сцэне Тэатра-студыі кінаакцёра, таму што ў Купалаўскім тэатры ні яму, ні яго жонцы Галіне Арловай роляў не знайшлося. Гэта быў не толькі своеасаблівы выклік рэжысёру-крыўдзіцелю, але і высакародны ўчынак мужа, сапраўднага мужчыны. Мікалаю Мікалаевічу не трэба было пацвярджаць сваю славу. Ён арганізаваў спектакль дзеля пацвярджэння таленту жонкі. Ён рабіў усё для яе. Праз лёс актрысы Патрык Кемпбэл, якую іграла Арлова, павінен быў убачыцца і яе асабісты лёс. А шчаслівая гісторыя ўзаемаадносін двух выдатных людзей свайго часу — драматурга Бернарда Шоу (Мікалай Яроменка) і Кемпбэл у нечым паўтарала гісторыю сямейнай пары акцёраў Яроменкі і Арловай, якія ў згодзе і каханні пражылі вялікае жыццё.

Кранальная мелодыя абарвалася на высокай ноце… На апошнім спектаклі «Мілы лгун» было нешта незвычайнае: поўны аншлаг, людзі стаялі ў праходах, выклікалі артыстаў на паклон яшчэ і яшчэ. А праз тры дні Мікалая Яроменкі не стала.

Сэр Джон вуснамі Яроменкі прамаўляў калісьці са сцэны пранізлівыя словы: «Расказвайце пра мяне хоць зрэдку і памінайце мяне дабром. Артысты жывуць толькі ў людской памяці…» Мне здаецца, што гэта — пасланне-запавет нам і самога Яроменкі.

Але хто лепш раскажа пра чалавека, як не ён сам? У мяне было некалькі гутарак-сустрэч з Мікалаем Мікалаевічам. У розны час, пры розных абставінах. Але заўсёды безаглядна шчырых, адкрытых, гранічна эмацыянальных. Безумоўна, не спадзеючыся на памяць, я кожны раз стараўся рабіць пэўныя запісы — што пад дыктафон, а што ад рукі. Нешта з гэтага ўжо апублікавана, а нешта гаварылася не для друку. Цяпер жа, сабраныя разам, гэтыя запісы мне падаліся вартыя ўвагі шырокага чытача, бо яны не толькі перадаюць атмасферу таго часу, але і малююць партрэт Вялікага мастака і Вялікага чалавека, даюць выразнае ўяўленне аб тым, якія пачуцці і эмоцыі ён перажываў, што яго трывожыла, хвалявала, радавала. Паслухаем жа.

## Без адраджэння культуры перабудова немагчыма

***Гутарка, якая адбылася на пачатку 1991 года***

**— Мікалай Мікалаевіч, што адбываецца з нашым тэатрам? Мы ж добра помнім, які вялікі грамадскі інтарэс выклікала тэатральнае мастацтва ў так званыя застойныя часы. Ды і ў першыя гады перабудовы было пастаўлена нямала яркіх, востраактуальных спектакляў, якія бударажылі душу і сэрца. Чаму ж сёння, падчас галоснасці і дэмакратыі, тэатр маўчыць?**

— Так, як гэта ні крыўдна і горка для мяне, чалавека, які амаль усё сваё жыццё прысвяціў мастацтву Мельпамены, вымушаны прызнаць справядлівасць вашага пытання. З тэатрам сапраўды адбываецца нешта дзіўнае і трывожнае. Здавалася б, вось яна, доўгачаканая і жаданая свабода, — твары, выдумляй, спрабуй! Тэатру дадзена практычна поўная самастойнасць — у выбары рэпертуару, у фарміраванні трупы, у вырашэнні фінансавых пытанняў, а мастацкіх адкрыццяў, ды што там — хоць бы буйных, неардынарных работ, якія, як вы кажаце, бударажылі б чалавечыя сэрцы, няма. Па гэтай прычыне і падзенне цікавасці да тэатра, устойлівая тэндэнцыя да зніжэння яго наведвання.

Дзеля справядлівасці адзначу, што такое становішча склалася не толькі ў нас у рэспубліцы, але і ў цэлым па краіне, нават у такіх тэатральных гарадах, як Масква і Ленінград. Нядаўна я атрымаў пісьмо ад вядомага нашага акцёра, старшыні Саюза тэатральных дзеячаў РСФСР Міхаіла Ульянава. У ім — той жа боль, які не дае спакою і мне. «...Тэатр сёння жыве вельмі цяжка, — піша Міхаіл Аляксандравіч. — Мы бясконца рады ўсталяванню новых тэатральных адносін, зняццю цэнзуры. Аднак магчымасць сказаць свету ўсё, што мы пра яго думаем, абярнулася маўчаннем...»

**— У чым жа ўсё-такі прычына такога трывожнага становішча?**

— Напэўна, тут ёсць прычына агульнага парадку. Тэатр жа не жыве ў вакууме. Ён тысячамі ніцяў звязаны з грамадска-палітычным жыццём, гэта абсалютна натуральна, і ўсе працэсы — складаныя, супярэчлівыя, драматычныя, якія кіпяць сёння ў нашым грамадстве, не могуць абысці бокам і тэатр. У яго тыя ж праблемы...

Але ёсць у нас і свае, чыста прафесіянальныя праблемы. Вось кажуць: тэатр маўчыць таму, што маўчыць драматург. Так, з гэтым меркаваннем цяжка не пагадзіцца. Сапраўды, сучасных, востраактуальных п'ес у нас практычна няма. Перыяд асэнсавання ўрокаў гісторыі нешта занадта зацягнуўся. Канечне, асэнсаванне неабходна, карысна, але жыццё ж не стаіць на месцы, яно патрабуе руху наперад. З чым мы туды пойдзем — з праўдай пра мінулае, але без веры ў будучыню?

Зрэшты, маўчаць не толькі драматургі-сучаснікі, але і класікі. З іх вечнымі, я б нават сказаў, з вечна надзённымі праблемамі — пра каханне і каварства, пра вернасць і здраду, пра дабро і зло, пра жыццё і смерць... Пасля «Макбета» У. Шэкспіра, пастаўленага Барысам Луцэнкам у 1974 годзе, ніводная пастаноўка не стала бясспрэчнай, значнай падзеяй у тэатральным жыцці рэспублікі.

**— Значыць...**

— ...значыць, справа ўжо не толькі ў драматургіі. Некалькі гадоў таму мне выпала шчасце ў адной з замежных паездках быць побач з Георгіем Таўстаногавым. Мы многа гаварылі пра тэатр, і калі я запытаў у яго, чым можна растлумачыць нашы сённяшнія беды, ён, не задумваючыся, адказаў: «Крызісам рэжысуры».

Падкрэсліваю: гэта было сказана некалькі гадоў таму. Сёння, на мой погляд, гэты крызіс стаў яшчэ больш глыбокі. У многіх нашых тэатрах пануе сапраўдная рэжысёрская чахарда. Дайшло да таго, што некаторыя тэатральныя калектывы наогул апынуліся без галоўных рэжысёраў. Хіба гэта нармальна? Таму заканамерны і вынік. З больш чым пяцідзесяці прэм'ер мінулага года толькі два-тры спектаклі можна лічыць удалымі, яшчэ чатыры-пяць — зробленымі на сярэднім узроўні. Пра астатнія не хочацца нават гаварыць...

Крызіс рэжысуры — гэта адсутнасць свежых тэатральных ідэй, нізкая культура, прафесійная бездапаможнасць. А калі яшчэ мець на ўвазе яе бескантрольнае ўсеўладдзе, то няцяжка сабе ўявіць, да чаго гэта прыводзіць на практыцы. «Тэатр — гэта я!» — думаюць многія рэжысёры, не жадаючы разумець, што прынцып калектыўнасці ляжыць у прыродзе тэатра, вызначае яго жыццёвасць, яго будучыню.

**— Мікалай Мікалаевіч, а ці не драматызуем мы сітуацыю, ці не згушчаем, як кажуць, фарбы?**

— Драматызаваць не даводзіцца, бо становішча ў цяперашнім тэатры і без таго драматычнае. Я назваў вам дзве нашыя праблемы. Ёсць і трэцяя — не менш вострая, не менш балючая… Адсутнасць сапраўднай драматургіі, крызісны стан рэжысуры не маглі не адбіцца самым негатыўным чынам на лёсе акцёраў. Прыгледзьцеся ўважліва да многіх тэатральных калектываў — колькі таленавітых акцёраў гадамі сядзяць без работы, пазбаўлены магчымасці раскрыць свой творчы патэнцыял. І гэта ў дзяржаўных тэатрах, на якія, трэба меркаваць, распаўсюджваецца асноўнае палажэнне Канстытуцыі — права на працу.

Магчыма, гэта не надта патрыятычна, але я ў пацвярджэнне сваёй думкі спашлюся на факты са свайго роднага Купалаўскага тэатра. На сённяшні дзень тут няма адзінага творчага калектыву. Добрая палова артыстаў — чэсных, шчырых, таленавітых, але не жадаючых ламаць сябе — застаецца без справы. Як, напрыклад, Валянцін Белахвосцік, Мацвей Федароўскі, Уладзімір Рагаўцоў… А гэта ж усе — заслужаныя артысты рэспублікі!

Зрэшты, сама па сабе занятасць яшчэ ні аб чым не гаворыць. Куды больш важна — ці адпавядае даручаная роля інтарэсам і магчымасцям артыста, ці садзейнічае яна яго творчаму росту. З гэтага пункту гледжання лічу, што ў нашым тэатры далёка не па-гаспадарску распараджаюцца патэнцыялам таленавітых акцёраў.

Скажыце, хіба можна так абыходзіцца з талентамі? Хіба гэта па-дзяржаўнаму? Паверце, ува мне гаворыць не якаясьці асабістая крыўда. Гэта — боль за калег па прафесіі, чыім лёсам я заклапочаны і як чалавек, і як кіраўнік творчага саюза.

**— Вы ўпамянулі пра асабістую крыўду… Але ж вам, вядомаму, папулярнаму ў краіне артысту, крыўдзіцца, напэўна, няма на што. Акрамя тэатра, вы пастаянна занятыя ў кіно…**

— У кіно — так, дзякуй, не забываюць, патроху здымаюся. А вось у тэатры… Я практычна па-за рэпертуарам! Засталася адна адзіная роля ў спектаклі «Мудрамер» і то мы яе іграем па чарзе з Мілаванавым. Такое ж становішча ў нашым тэатры і ў Галіны Арловай. Кажу пра гэта не таму, што яна мая жонка, а таму, што нельга ж таленавітую актрысу трымаць на галодным пайку. За пяць гадоў — ніводнай новай ролі! Інакш як здзекам гэткае не назавеш…

**— А што ж Саюз тэатральных дзеячаў? Ён жа як арганізацыя і ствараўся перш за ўсё для абароны інтарэсаў акцёра…**

— Увесь парадокс цяперашняй сітуацыі заключаецца ў тым, што тая дэмакратызацыя мастацкага жыцця, за якую мы так страсна змагаліся, абярнулася для нас форменнай дэмакратурай, а калі гаварыць прасцей — дыктатам рэжысёра, а свабода творчасці — свабодай несумленнасці. Па гэтай прычыне ў многіх тэатрах аказаліся разбуранымі элементарныя этычныя прынцыпы. Эстэтыка ж без этыкі — рэч немагчымая. Калі ж такое становіцца магчымым, то пры гэтым кіруюцца не мастацкімі крытэрыямі, а групавымі, кланавымі інтарэсамі, і такая эстэтыка робіцца ўжо грамадска небяспечнай.

Я вось з сумам лаўлю сябе іншы раз на думцы: з якой смеласцю, страснасцю, размашыстасцю крытыкуем мы партыю, грамадства, чалавецтва! Мы непрымірымыя нават да самых нязначных недахопаў. Але калі размова заходзіць пра ўласныя недахопы, пра сваю асабістую працу, дзе гэтулькі браку, недобрасумленнасці — тут ні прынцыповасці, ні патрабавальнасці. Куды ўсё знікае?!

Характэрны штрых. Нейкі час таму ў часопісе «Мастацтва Беларусі» ў двух нумарах быў змешчаны артыкул вядомага нашага тэатразнаўцы Анатоля Саба-

леўскага пра апошнія спектаклі купалаўцаў. Аўтар выказаў нямала істотных заўваг, аргументаваных папярэджанняў. Здавалася б, артыкул павінен быў стаць прадметам сур'ёзнай унутрыкалектыўнай размовы. Нічога падобнага! Зрабілі выгляд, што непрыемнай публікацыі зусім не існуе ў прыродзе. Больш за тое, неўзабаве ў газеце «Літаратура і мастацтва» з'яўляецца артыкул памочніка галоўнага рэжысёра па літаратурнай частцы, у якім адназначна сцвярджаецца, што тэатр імя Я. Купалы сёння, бадай што, самы лепшы ў краіне сярод нацыянальных тэатраў.

Некрытычная ацэнка сваёй работы, неўспрыманне голасу грамадскасці могуць адбіцца на нашай тэатральнай справе самым згубным чынам. У атмасферы самаўсхвалення, самазадаволенасці гіне ўсё жывое, творчае, таленавітае.

**— Але няўжо ўсяго гэтага не бачаць спецыялісты з Міністэрства культуры? Якая ж іх роля ў тым, каб спыніць развіццё гэтых негатыўных, трывожных працэсаў?**

— Вы ведаеце, у мяне складваецца ўражанне, што сёй-той у міністэрстве назірае за гэтымі працэсамі нават з пэўнай ступенню злараднасці: маўляў, дабіваліся абсалютнай свабоды, ну дык і спажывайце яе цяпер поўнай мерай. Няма на каго скардзіцца — мы ў вашыя справы не ўмешваемся…

Калі мае ўражанні маюць пад сабою хоць нейкія падставы, то такі падыход цяжка назваць разумным. Бо артысты, як і іншыя прадстаўнікі мастацтва, пратэставалі не супроць кіраўніцтва наогул, а толькі супроць грубага, адміністрацыйна-каманднага ўмяшальніцтва ў тую сферу грамадскай дзейнасці, якая больш за ўсё патрабуе кампетэнтнасці, чуйнасці і ўважлівасці. Мастацтва ж заўсёды мела патрэбу ў добрым і мудрым апекаванні, асабліва роду мецэнацтве. На вялікі жаль, мы сёння па сутнасці засталіся сам-насам са сваімі праблемамі.

Так, мы нарэшце вольныя ад дыктату ўладных структур. Але нешта я не бачу вялікага захаплення і бурнай радасці з нагоды нашага новага становішча. Да здабытай свабоды мы аказаліся ні маральна, ні духоўна не падрыхтаванымі. Тэатральныя калектывы па-ранейшаму раздзіраюць вострыя канфлікты, складаныя, цяжкавырашальныя праблемы. З пераходам да рынкавых адносін гэтых праблем становіцца ўсё больш і больш. І я не выключаю такой сітуацыі, калі значная частка маіх калег можа наогул аказацца без работы.

**— Змрачнаватая карціна атрымоўваецца… Ці значыць гэта, што вы як кіраўнік Саюза тэатральных дзеячаў адчуваеце пачуццё безвыходнасці?**

— Ні ў якім разе! Гэта наогул не адпавядае майму характару. А калі я сёння і гавару пра набалелыя нашы праблемы, то толькі таму, што цвёрда веру — у рэшце рэшт яны будуць вырашаны. Гэтая вера мая грунтуецца на нашых канкрэтных дзеяннях і дакладных, рэальных планах. Хоць я і выдатна разумею: абнаўленне тэатральнай справы, як і ўсяго нашага жыцця, не будзе простым і хуткім, таму што, акрамя рашэння арганізацыйных, эканамічных, прававых і іншых праблем, надзвычай востра, аб чым мы ўжо гаварылі, стаяць пытанні творчага і асабістага характару.

Аздараўленне становішча ў нашым асяроддзі, яго кардынальная перабудова немагчымы без перспектыўнай канцэпцыі далейшага развіцця. Гэта падштурхнула нас, Саюз тэатральных дзеячаў і Міністэрства культуры рэспублікі, да распрацоўкі вельмі важнага з нашага пункту гледжання дакумента — асноўных напрамкаў развіцця тэатральнай культуры ў Беларусі. У ім прадугледжаны меры па далейшай дэмакратызацыі ўпраўленчых прынцыпаў, фарміраванні новых мадэляў сацыяльнага функцыянавання тэатра, намечаны крокі па развіцці сеткі прафесійнага і іншых форм тэатра, па ўдасканаленні падрыхтоўкі маладых спецыялістаў, па павышэнні мастацкага ўзроўню спектакляў і прафесійнага выканальніцкага майстэрства, пастаўлены іншыя творчыя, эканамічныя, сацыяльныя задачы.

Пра некаторыя з іх хацелася б сказаць крыху падрабязней. Адна з цэнтральных задач — развіццё беларускага нацыянальнага тэатра. Гэтаму пытанню быў прысвечаны спецыяльны пленум нашага творчага саюза. У дакладзе, з якім

выступіў сакратар праўлення драматург Аляксей Дудараў, была завострана ўвага на недапушчальна малой колькасці беларускамоўных калектываў у агульнай масе прафесійных тэатраў, што з'явілася вынікам амаль поўнага забыцця роднай мовы і нацыянальных традыцый.

Праграма дзеянняў, намечаная пленумам, увайшла ў памянёныя «Напрамкі…» і разлічана на некалькі этапаў. Сёе-тое з намечанага ўжо рэалізавана. Так, у Слоніме і Мазыры народныя тэатры пераўтвораны ў прафесійныя. Адкрыты фальклорны тэатр «Жалейка» (на базе мясцовай філармоніі) у Гомелі, тэатр лялек у Маладзечне. Для стварэння рэпертуару на беларускай мове ў Гродзенскім і Брэсцкім абласных тэатрах пашыраны акцёрскія трупы. Завяршаецца рэарганізацыя ў Мінску Тэатра беларускай драматургіі.

Радыкальныя перамены чакаюць нашу тэатральную школу. Галоўная яе бяда — слабасць педагагічных кадраў. Маё глыбокае перакананне — права на выхаванне можа мець толькі высокамаральная, значная асоба, надзеленая рэдкім дарам настаўніцтва. Ёсць у нас добрыя педагогі, але іх вельмі мала для таго, каб памагчы айчыннаму тэатру набыць новае дыханне, адрадзіцца. Пакуль мы не будзем ведаць, хто вучыць, як вучыць і чаму вучыць — у інстытут, а, значыць, пасля і ў тэатр будуць прыходзіць выпадковыя, кепска адукаваныя і кепска выхаваныя людзі. Таму трэба думаць пра селекцыю талентаў, пра сур'ёзную і разумную сістэму іх падрыхтоўкі. Раней нямала адоранай моладзі прыходзіла з мастацкай самадзейнасці, з народных тэатраў. Сёння гэтая крыніца чамусьці перакрыта. Так што, як бачыце, кадравая праблема стаіць вельмі востра, і на яе вырашэнне ў бліжэйшыя гады мы засяродзім свае асноўныя намаганні.

Ну і, канечне, у «Напрамках…» не маглі быць абыдзены пытанні матэрыяльна-тэхнічнай базы. Славуты астаткавы прынцып фінансавання культуры, які доўгія гады пераважаў у нашай эканоміцы, паставіў тэатр у надзвычай цяжкае становішча. Узяць хоць бы зарплату. Калі ў сярэднім па рэспубліцы яна складае прыкладна 220 рублёў, то да нядаўняга часу у артыстаў Беларускага акадэмічнага тэатра імя Я. Коласа — 180, Рускага тэатра імя М. Горкага —162, Брэсцкага абласнога драмтэатра — усяго 130 рублёў. І гэта клопат пра людзей, якія заклікаюы адраджаць маральнасць, духоўнасць народа?

Я ўжо не гавару пра тэхнічную аснашчанасць нашых тэатраў. Мы тут такая Зулусія! Нават у трэціх краінах даўно ўсюды электроніка, аўтаматыка, а ў нас усё тыя ж дапатопныя рубільнікі, выключальнікі, тумблеры… Памяшканні некаторых тэатраў даўно патрабуюць капітальнага рамонту, а там, дзе гэты рамонт пачаўся, расцягнуўся на гады.

Каб палепшыць сітуацыю, мы намецілі канкрэтныя меры. І, думаю, што яны — рэальныя. Добрай падтрымкай у рэалізацыі выпрацаваных намі «Напрамкаў…» павінен стаць нядаўна прыняты парламентам рэспублікі Закон аб культуры.

**— Мікалай Мікалаевіч, а вас не турбуе той факт, што неабходных, вельмі важных дакументаў, прынятых на розных узроўнях, існуе ўжо вялікая колькасць. Але ўсе яны практычна не дзейнічаюць. Ці не спасцігне такі ж лёс і Закон аб культуры?**

— Я прытрымліваюся такога пункту гледжання. Паступова мы разбуралі культуру, паступова прыйдзецца яе і адраджаць. Таму, калі мы сёння і не бачым хуткіх, істотных вынікаў, не трэба думаць, што закон не дзейнічае. Праблемы адраджэння маральнасці, духоўнасці, культуры, навукі раптам, загадам, валявым націскам вырашыць нельга. Тут існуе небяспека: усялякае насілле над людзьмі, якія не могуць так хутка перабудавацца, можа выклікаць у іх толькі пачуццё пратэсту і прывядзе да адваротнага эфекту — затармозіць працэс адраджэння. Каб пазбегнуць гэтага, і ў нашай тэатральнай праграме, і ў Законе аб культуры вызначаны дакладныя, рэальна абгрунтаваныя тэрміны. Іх нельга фарсіраваць, паскараць. Тут павінны быць пачуццё меры, цярпенне, а намечаную праграму ажыццяўляць спакойна, без канфрантацыі, без экстрэмізму.

**— Цяжка з вамі не пагадзіцца. Аднак пагадзіцеся і вы: перспектыва перспектывай, але людзі павінны адчуць пэўныя змены да лепшага ўжо сёння, ну хоць бы заўтра.**

— Думаю, што такія змены абавязкова будуць. Па-першае, законам прадугледжана павышэнне зарплаты для работнікаў культуры. Па-другое, творчым саюзам мяркуецца ўстанавіць льготны падатак. Па-трэцяе, вызначаны меры па абароне аўтарскіх правоў і інтэлектуальнай уласнасці. У цэлым дакумент павінен істотна змяніць сітуацыю ў нашай сферы. Культура з гэтага часу становіцца ў шэраг прыярытэтных напрамкаў у жыцці грамадства. Дасягнута разуменне, што без адраджэння маральнасці, духоўнасці народа перабудова неажыццявіма. І ў гэтым, мажа, самае галоўнае.

## Блуканні ў поцемках

***Пра гэта ішла гаворка вясною 1992 года***

**— Мікалай Мікалаевіч, пасля нашай апошняй сустрэчы прайшло, здавалася б, не так багата часу — крыху больш за год. Але якія кардынальныя змены адбыліся ў грамадстве: не стала Камуністычнай партыі, якой мы з вамі верай і праўдай служылі не адзін год; не стала самой краіны — Савецкага Саюза, у якім мы нарадзіліся, атрымалі пуцёўку ў жыццё, мелі шчасце займацца любімай справай. Як такое магло здарыцца? Грамадства нагадвае разварушаны вулей. Людзі не могуць зразумець, што да чаго. Адны ў роспачы, праклінаюць тых, хто наклікаў на іх гэту бяду. Другія кажуць, што адбыліся змены да лепшага — мы набылі незалежнасць, самастойнасць, пра якую марылі вякамі. А што думаеце на гэты конт вы, чалавек багатага жыццёвага і творчага вопыту? Распад СССР — гэта дабро ці зло?**

— Тое, што з намі адбылося, — не проста зло, а жахлівая катастрофа! Кучка палітыканаў, дзеля задавальнення сваіх уладных, карыслівых інстынктаў, разбурыла, паламала ўсё. Знішчыла самае лепшае. Нібыта выступалі супраць утопіі камуністычнай, а на самай справе акунулі нас у непараўнальна горшую ўтопію — капіталістычную. І што ж? Сядзім ля разбітага карыта. Шчодрыя цацанкі-абяцанкі абярнуліся вялізнай дуляй з макам: ніхто нас «за бугром» не чакае, нікому мы там не патрэбны.

Была вялікая і магутная краіна — Савецкі Саюз. І была ўнікальная супольнасць людзей — савецкі народ. Хто мы цяпер? Згубіўшы Айчыну, мы згубілі свой твар. На нас паслужліва нацягнулі маску. Спачатку — пакутніка камуністычнага ярма. А пасля — хто ведае? — могуць надзець і маску блазна, пудзіла гарохавага. І будзе пацяшацца над намі ўвесь свет. І будуць даваць нам выспятка, пляваца ў наш бок, як аплёўваем мы сёння сваё мінулае…

Вы паглядзіце, што адбываецца. Тыя, хто яшчэ ўчора былі побач з намі, хто білі сябе ў грудзі і кляліся ў вернасці Радзіме, сёння перакінуліся ў лагер разбуральнікаў, публічна адракаюцца ад усяго савецкага. І колькасць такіх пярэваратняў, на жаль, аказалася занадта вялікай. Па радыё, тэлебачанні, са сцэны тэатраў, з кінаэкранаў з дня на дзень абліваецца гразёю наша мінулае, навязваюцца чужыя нам духоўныя і маральныя каштоўнасці. А дарагія, святыя для нас паняцці дружбы, сумлення, патрыятызму пераватрылі ў насмешку, у абразу. Балюча і горка бачыць, як забіваюць душы людскія. Наступіла эпоха не адраджэння, а выраджэння.

**— Магчыма, вы занадта ўжо эмацыйна ўсё ўспрымаеце…**

— А я не магу інакш!

**— І ўсё ж давайце паразважаем, як кажуць, цвяроза, узважана. Крушэнне Савецкага Саюза — гэта нейкі выпадковы кульбіт гісторыі ці непазбежнасць, заканамернасць?**

— Ведаеце, філасофія нас вучыць, што ў гісторыі нічога не бывае выпадковага. За кожнай з'явай стаяць глыбокія, аб'ектыўныя прычыны. Безумоўна, такімі прычынамі абумоўлена і тое, што адбылося ў нас. У апошнія гады савецкая эканоміка перажывала не лепшыя часы. Жыццёвы ўзровень народа быў небяспечна нізкі. Назіраўся духоўны застой, апатыя насельніцтва. Гэта пагражала перарасці ў сацыяльна-палітычныя патрасенні. І не заставалася нічога іншага, як перайсці да сур'ёзных рэформаў. Да перабудовы. Яна павінна была прывесці да сацыялістычнай рэфармацыі, стварэння новай мадэлі дэмакратычнага, народнага сацыялізму. І людзі горача падтрымалі гэтыя ідэі, спадзеючыся, што іх ажыццяўленне прывядзе да лепшага, больш заможнага жыцця. А што атрымалася? Людзей жорстка падманулі, кінулі ў жабрацтва, выбілі глебу з-пад ног.

Цяпер ідэолагі лібералізму лезуць са скуры, каб даказаць, што, маўляў, Савецкі Саюз і сацыялізм нельга было рэфармаваць, а толькі — ліквідаваць. І з дапамогай рознай казуістыкі спрабуюць унушыць гэта народу. Аднак нават некаторыя амерыканскія вучоныя, як, напрыклад, палітолаг Стывен Коэн у сваіх публікацыях разглядае рэфармаванне СССР і сацыялістычнай сістэмы не толькі магчымым, але і неабходным.

**— Дык чаму ж гэта не было зроблена? Што за прычыны абумовілі нашу катастрофу?**

— Прычына адна: а ніхто і не збіраўся нічога рэфармаваць. Перабудова была абвешчана для адводу вачэй. А з самага пачатку гэта быў добра прадуманы, старанна спланаваны праект па мэтанакіраваным, паслядоўным развале вялікай краіны, якая косткай стаяла ў горле капіталістычнага свету.

**— Мікалай Мікалаевіч, але ж вы самі сказалі, што нічога не бывае выпадковага…**

— А ён, гэты праект, і не быў выпадковы. За ім стаяць глабальныя інтарэсы вельмі багатых людзей свету. Але я разумею падтэкст вашага пытання. Так, ніякія знешнія сілы нічога не змаглі б з намі зрабіць, калі б у нас не было сваіх, унутраных прычын.

Што гэта за прычыны? Давайце паспрабуем разабрацца. Што трэба для таго, каб пачаць рэформу, перабудову? Дакладная, навукова абгрунтаваная праграма дзеянняў. Такой праграмы ў савецкага кіраўніцтва не было. А былі выпадковыя, разрозненыя ідэі, нейкія невыразныя, агульныя тэзісы, лозунгі, заклікі тыпу «Так жыць нельга!», «Больш сацыялізму, больш дэмакратыі!» і г. д. Адным словам, той дагматызм, які меў месца ў нашай марксісцка-ленінскай тэорыі, не дазволіў нам своечасова, гнутка зрэагаваць на выклікі сённяшняга дня, рэалізавацца смелым, разумным ідэям. Прыкладам, даць волю прыватнаму бізнесу, асабліва ў сферы абслугоўвання. Гэта зняло б нямала вострых праблем у нашым паўсядзённым жыцці. Не, мы працягвалі ўпарта чапляцца за старое, аджылае…

Але не толькі гэта сталася прычынай катастрофы. Не спрыяла аздараўленню сацыяльна-палітычнай атмасферы і манапольнае становішча КПСС. Гэтым самым парушаўся адзін з галоўных законаў развіцця грамадства — закон адзінства і барацьбы супрацьлегласцей. Усё часцей ініцыятыва, прапановы, крытыка радавых камуністаў ігнараваліся, не прымаліся да ўвагі, што нараджала ў партыйных арганізацыях абыякавасць і пасіўнасць. Такой сітуацыяй імгненна скарысталіся розныя палітычныя прахадзімцы, кар'ерысты. Яны спакваля, але няўмольна размывалі грунт, на якім трымалася партыя, ідэйна і маральна падточвалі яе знутры.

Наогул я лічу: разбурэнне КПСС — галоўны фактар краху СССР. Партыя аб'ядноўвала, трымала вялікую дзяржаву, распараджалася лёсам 260 мільёнаў чалавек. Пасля XXVIII з'езда партыі летам 1990 года Палітбюро, якое прымала рашэнні, абавязковыя для ўсёй краіны, перастала існаваць як інструмент цвёрдай дзяржаўнай улады. У краіне пачаліся кепска кіруемыя працэсы, наступіў, прабачце за рэзкасць, самы сапраўдны бардак.

Становішча ўзмацнілася яшчэ і тым, што за апошнія гады неяк незаўважна адбылася маральная і прафесійная дэградацыя партыйнай і дзяржаўнай эліты.

Адсутнасць кадравага амалажэння прывяла да відавочнага застою ў многіх сферах нашага жыцця. Асабліва выродлівыя формы гэта набыло пры праўленні кланаў Брэжнева і Чарненкі. З'явіліся ўмовы для ўзнікнення антысацыяльных, варожых сацыялізму з'яў — карупцыі, імкненню да абагачэння, забыцця нормаў сацыялістычнай маралі, здрады камуністычным ідэалам і народным інтарэсам. Гэта дало магчымасць праравацца да вяршыняў улады палітычным прайдзісветам.

І вось глядзіце, што адбылося. Партыя сваё кіруючае становішча страціла, а Саветы яго не набылі. З дэкларатыўных органаў улады яны пачалі ператварацца ў нейкія дыскусійныя клубы. Жывая двухбаковая сувязь з масамі была канчаткова страчана.

Згубнай аказалася і заганная, абсалютна непатрэбная месіянская палітыка савецкага кіраўніцтва, імкненне навязаць сілай іншым дзяржавам свае каштоўнасці і сістэму кіравання. Гэта палітыка забірала немалую долю матэрыяльных і духоўных рэсурсаў, не дазваляла засяродзіцца на павышэнні дабрабыту нашых людзей.

**— Цяжка з гэтым не пагадзіцца. Праўда, мне даводзілася чуць і крыху іншую думку — што галоўная бяда Савецкага Саюза заключалася ў няправільным вырашэнні нацыянальнага пытання. Што пункт, які быў запісаны ў першай Савецкай Канстытуцыі аб праве кожнай рэспубліцы на самавызначэнне аж да выхаду з СССР, аказаўся мінай замаруджанага дзеяння.**

— Хлусня! Я гэтым пытаннем займаўся даволі сур'ёзна і магу з усёй адказнасцю сказаць: ніякай міны ў створаным СССР не было. Усё было зроблена прадумана, узважана, разумна.

А гісторыя гэтага пытання такая. Адразу пасля заваявання ўлады перад бальшавікамі на першы план выйшла праблема нацыянальнай перабудовы. Дарэчы, фармуліроўку «права нацый на самавызначэнне аж да да аддзялення» не бальшавікі прыдумалі. Яны запазычылі яе ў аўстрыйскіх сацыял-дэмакратаў. Пасля яе паўтарыў амерыканскі прэзідэнт Вільсан у сваіх «21 пунктах». І толькі пазней гэту ідэю падхапілі Ленін, Троцкі, Зіноўеў, Каменеў.

Сталін напачатку быў супраць федэралізму. Сцвярджаў, што краіна на працягу трох стагоддзяў склалася ў сваіх межах невыпадкова, што вызначыліся пэўныя эканамічныя раёны, якія цесна звязаны. І парываць гэту сувязь неразумна і небяспечна. Таму пры распрацоўцы праекта Канстытуцыі Сталін настойваў на тым, каб Расія складвалася з абласных аб'яднанняў. Узамен дзялення па нацыянальных кватэрах прапаноўваў дзяленне іншае — эканамічнае. Ён публічна, у газетных артыкулах адстойваў свае погляды: адзіная краіна, унітарная дзяржава. І ніякіх размоў!

Аднак план аўтанамізацыі быў паўсюдна сустрэты з вялікім незадавальненнем. Мясцовыя лідары да апошняга змагаліся, каб быць кіраўнікамі незалежных суверэнных краін. Сталіна ж, Арджанікідзе, Дзяржынскага, якія стаялі за гэтым планам, яны называлі вялікарускімі шавіністамі, якія хочуць аднавіць «вялікую і недзялімую». Такой пазіцыі прытрымліваліся рэспублікі Закаўказзя, Украіна, а таксама Беларусь. Аднак Палітбюро тым не менш ухваліла план Сталіна.

**— Але ж мы ведаем…**

— Так, мы ведаем, што перамогу атрымаў зусім іншы план, ленінскі. А як атрымалася? 6 кастрычніка сабраўся пленум ЦК, які павінен быў адобрыць план Сталіна. А праз месяц-другі планавалася сабраць з'езд Саветаў, на якім канчаткова будзе абвешчана аб уваходжанні Украіны, Беларусі і Закаўказскай Федэрацыі ў склад Расійскай Федэрацыі. І раптам на пленуме выступае Каменеў і гаворыць: таварыш Ленін (ён адсутнічаў, ужо цяжка хварэў) патрабуе стварыць Савецкі Саюз. А дакладней — канфедэрацыю. І патрабуе, каб у Канстытуцыі новай дзяржавы абавязкова быў пункт аб тым, што ўсе рэспублікі, якія стварылі СССР, маюць права ў любы момант выйсці з яго. І ўдзельнікі пленума прагаласавалі за прапанову Леніна.

**— А што ж Сталін?**

— Яму давялося падпарадкавацца партыйнай дысцыпліне. Пазней Сталін публічна прызнаў сваю памылку. Што ж адбылося? Адбыўся імклівы рост нацыянальных рухаў. Вылучыліся тры асноўныя накірункі — цэнтралісты, аддзяленцы і федэралісты. Бальшавікі аддалі перавагу федэралістам. Перш за ўсё таму, што яны складалі большасць, выказвалі настроі нацыянальных ускраін. І гэтым самым залучылі на свой бок значную частку нацыяналаў.

Цяпер кажуць, што пасля прыняцця Канстытуцыі 1924 года ў СССР пачаўся разгул нацыяналізму. Гэта не так. Развіццё нацыянальных культур і нацыянальнай адукацыі — не нацыяналізм, а нармальныя чалавечыя патрэбы. У рэшце рэшт, Савецкі Саюз вытрымаў самае цяжкое, самае суровае выпрабаванне — вайной. Гітлер, напаўшы на СССР, разлічваў, што савецкія рэспублікі сустрэнуць яго як вызваліцеля. І жорстка пралічыўся: нашы народы яшчэ больш цесна згуртаваліся ў барацьбе з агульным ворагам.

На жаль, тое, што не ўдалося Гітлеру, удалося вашынгтонскім стратэгам. Іх міна, якую яны на працягу многіх гадоў закладвалі ў падмурак Савецкага Саюза, у рэшце рэшт спрацавала…

**— А дзе ж была наша хвалёная інтэлігенцыя — інжынеры чалавечых душ, сумленне нацыі, тонкі і чуйны індыкатар сацыяльна-палітычнага жыцця?**

— Ды кіньце вы! Якія інжынеры? Якое сумленне? Менавіта інтэлігенцыя і сыграла самую ракавую ролю ў тым, што з намі адбылося. Колькі сярод нас аказалася здраднікаў, пярэваратняў! Спашлюся на адзін прыклад. Нядаўна прачытаў інтэрв'ю майго былога калегі, акцёра таленавітага, абласканага лёсам і ўладай. Я ведаю яго не адзін дзясятак гадоў. Хлопец з беларускай глыбінкі пацягнуўся ў свет па веды і культуру. Савецкая ўлада дала яму магчымасць атрымаць тэатральную адукацыю. Сцвердзіць сябе на беларускай тэатральнай сцэне і ў беларускім кінематографе. Сцвердзіць ярка, таленавіта. Званні, узнагароды, прэміі, кватэра ў цэнтры сталіцы, дача, машына. І раптам з інтэрв'ю дазнаюся, што ён стаў шчаслівым і свабодным толькі пасля таго, як разбурылі Берлінскую сцяну. Дачытваю інтэрв'ю да канца і са здзіўленнем не знаходжу ані слова пра тое, аб чым мы не раз вялі гаворку, сведкам і ўдзельнікам чаго ён з'яўляецца. Здавалася, мы былі з ім аднадумцы. Што ж з чалавекам здарылася? Адказ вельмі просты: кан'юнктурнасць, прыстасаванства, угодлівасць замянілі яму сумленне і гонар.

Я вельмі крытычна адношуся да большай часткі нашай інтэлігенцыі. І перш за ўсё — творчай. Як вядома, усе рэвалюцыі пачыналіся з удзелам інтэлігенцыі, але і ўсе контррэвалюцыі таксама не абыходзіліся без яе. Як не абышлося і цяпер. На вялікі жаль.

Канечне, ітэлігенцыя вельмі розная. Ёсць здраднікі, пярэваратні, якія нацягваюць на сябе тую ці іншую маску ў залежнасці ад умоў, ад кан'юнктуры. А ёсць інтэлігенты сапраўдныя — па сутнасці, па духу, па ладу дзеянняў. Вось, напрыклад, інтэлігент самай высокай пробы — Мікалай Аляксандравіч Барысевіч. Выдатны вучоны. Цудоўны чалавек. Паслядоўны. Здольны адстойваць свае перакананні, захоўваць ім вернасць. Ён столькі сіл аддае, каб зберагчы нашы традыцыі, памяць аб мінулым…

**— Дарэчы, чэсных, сумленных людзей не так ужо і мала. І яны, між іншым, не маўчалі, дзе толькі можна было — у друку, на тэлебачанні, на з'ездах народных дэпутатаў, на пленумах ЦК партыі — выступалі, білі трывогу, папярэджвалі, што краіна коціцца ў прорву, у бездань. Не прыслухаліся…**

— Вы закранулі самае балючае пытанне — здрадніцкія паводзіны ўладных вярхоў.

**— Вы маеце на ўвазе Гарбачова?**

— І Гарбачова, і крыху пазней — Ельцына. Пры ўсёй іх рознасці, несумяшчальніцтве, яны падобныя ў адным — у несакрушальным імкненні да ўлады. Гарбачоў пры гэтым круціўся, як уюн — лавіраваў, крывадушнічаў, гаварыў адно, а рабіў зусім іншае. Хаця часам прагаворваўся. Я на ўласныя вушы чуў, як ён аднойчы публічна заявіў, што яго галоўнай мэтай было ліквідаваць партыю, раз-

мыць Палітбюро. Яму не патрэбен быў калектыўны кантралёр. Дык чаго добрага можна было чакаць ад такога кіраўніка?

Ельцын жа — чалавек бульдозернага тыпу. Церабіў прасеку да ўлады цераз лес без агляркі. Пры ўсёй блытанасці гэтага шляху ён, між іншым, ні разу не заікнуўся, што будзе развальваць СССР. Альбо што адмаўляецца ад сацыялізму. Наадварот, пафасна заяўляў: «Трэба больш сацыялізму!» Гаварыў аб умацаванні Савецкага Саюза, важнай ролі Узброеных Сіл. Можна было падумаць, што ён — дзяржаўнік. А на самай справе аказаўся здраднікам. Менавіта ён — ініцыятар і арганізатар Белавежскай змовы, якая прывяла да ліквідацыі СССР і якая з такім захапленнем сустрэта на Захадзе.

**— Пра Захад... Вось вы сказалі (і пра гэта кажуць многія), што заходнія спецслужбы, пачынаючы з Далеса, мелі канкрэтны, добра прадуманы план па развале Савецкага Саюза. Наколькі сур'ёзная гэта версія? І ці сапраўды наша апазіцыя дзейнічала не толькі ва ўгоду, але і ў змове з Захадам?**

— Мажа, мы ў нечым і перабольшваем уплыў, але тое, што без іх не абышлося — гэта бясспрэчны факт. Недахопы і слабыя месцы савецкага ладу ўмела выкарыстала кіруючая эліта ЗША. Вось дзесьці зусім нядаўна прамільгнула ў друку прызнанне аднаго з вельмі высокіх амерыканскіх чыноўнікаў, што яны на халодную вайну з Савецкім Саюзам патрацілі дзясяткі мільярдаў долараў і выказваў вялікую радасць, што ў гэтай вайне атрымалі перамогу.

Бяда не ў тым, што мы мелі шмат слабасцей, а ў тым, што ў нашы абсалютна ўнутраныя працэсы ўмяшаліся знешнія чорныя сілы. Вакол нас аказалася гэтулькі злых «добразычліўцаў». У рэшце рэшт гэта зразумела: барацьба за перадзел свету ідзе ў глабальным маштабе. І СССР у гэтай барацьбе быў на першым плане. Занадта вялікая была спакуса расправіцца з ім раз і назаўсёды. І расправіліся!

Калі гаварыць пра асобы, то галоўнымі праваднікамі заходніх рэцэптаў былі Аляксандр Якаўлеў і Эдуард Шаварднадзе. Гэта не мая асабістая думка. Гэта — меркаванне аўтарытэтных, кампетэнтных людзей, якіх я надзвычай паважаю і абсалютна давяраю. Дык вось яны сцвярджаюць, што Якаўлеў стаў ворагам савецкай улады на падставе асабістай крыўды, якая звязана з раскулачваннем бацькі. Акрамя таго, ён надзвычай пакрыўджаны тым, што яго адхілілі ад работы ў ЦК КПСС і накіравалі ў 1973 годзе паслом у Канаду, месца, па сутнасці, ссыльнае, дзе ён і адбыў дзесяць гадоў.

У Канадзе Якаўлеў паддаўся моцнаму ўплыву прэм'ера Трудо. Разам яны правялі шмат часу, парушаючы ўсялякія дыпламатычныя нормы. Напрыклад, пры адсутнасці больш як двух сутак пасол абавязаны прызначыць часовага паверанага ў справах. А Якаўлеў мог з'ехаць у памесце да Трудо на цэлы тыдзень і нікому нічога не сказаць. І тады ў пасольстве не было каму падпісаць нават фінансавыя дакументы.

Менавіта там, у Канадзе, Якаўлева «заразілі» так званымі сацыял-дэмакратычнымі, а па сутнасці антысацыялістычнымі, антысавецкімі ідэямі. Можна меркаваць, што пасля гэтыя ідэі «пераліваліся» ў галаву Гарбачова. А той па вялікім рахунку быў чалавекам малаадукаваным, цвёрдых, дакладных поглядаў не меў. Выпрацаваць сур'ёзную праграму перабудовы не паклапаціўся і дзейнічаў, як сцвярджаюць, спантанна, з чужой падказкі. Хаця я думаю, тут яго асабістыя жаданні, памкненні супадалі з гэтымі падказкамі.

**— А роля Шэварднадзе?**

— О, князь цемры таксама аказаў істотны ўплыў на ход падзей. Некаторыя перакананы, што ён быў прамым агентам ЗША. Асабліва, калі стаў міністрам замежных спраў. Менавіта па яго ініцыятыве кіраўніцтвам краіны, а часцей за ўсё асабіста Гарбачовым прымаліся няўзважаныя, неразумныя рашэнні. У прыватнасці, па раззбраенні. Без кансультацый з кім-небудзь генсек пагадзіўся на ліквідацыю найноўшага ракетнага комплексу «Ака», хоць ён не падыходзіў пад катэгорыю ракет меншай і сярэдняй дальнасці, якія планавалі знішчыць.

**— У чым яшчэ заключаўся негатыўны ўплыў Захаду на падзеі, што адбываліся ў СССР?**

— Ну, я ж у гэтым не спецыяліст — даць вычарпальны адказ мне складана. Зноў-такі спашлюся на тое, што чытаў у кампетэнтных крыніцах, што чуў ад дасведчаных людзей. Дык вось, аналізуючы ўсю гэту інфармацыю, я прыйшоў да высновы, што чорныя сілы дзейнічалі хітра, каварна, па-іезуіцку. Так, напрыклад, выступаючы за раззбраенне і дамагаючыся, каб мы знішчылі сваю ядзерную зброю, яны ў той жа час, палохаючы «зорнымі войнамі», вымушалі нас весці гонку іншых, яшчэ больш затратных узбраенняў і гэтым самым абяскроўлівалі нашу эканоміку.

А вы думаеце, што той востры дэфіцыт прадуктаў і тавараў, якія раптам стварыўся у нашай краіне, узнік сам па сабе, без усялякага замежнага ўплыву? Як бы не так! Успомніце, што адбылося на знешнім рынку незадоўга да развалу Савецкага Саюза? Рэзкі абвал цэн на нафту. Удар быў разлічаны тонка і дакладна: істотнае скарачэнне прыбытку паставіла краіну ў вельмі складанае становішча, выклікала высокую сацыяльна-палітычную напружанасць.

Кіруючая эліта ЗША баялася паспяховага рэфармавання сацыялістычнага ладу, яго дэмакратызацыі і пераўтварэння ў прывабную сілу. Таму прымала ўсе-магчымыя меры, каб гэтага не дапусціць. Іх вынаходлівасці можна толькі здзіўляцца. Памятаеце падзеі ў Чэхаславакіі ў 1968 годзе? Колькі было пасля гэтага на Захадзе ляманту і гвалту наконт таго, што Савецкі Саюз сваімі танкамі раздушыў маладыя парасткі свабоды і дэмакратыі ў суверэннай дзяржаве. А што адбывалася на самай справе? Пражская вясна, якая была абвешчана ў гэтай краіне, у выпадку поспеху рэфармацыі магла аказаць вялікі ўплыў на заходнія краіны і таму выклікала моцную трывогу ў кіруючых колах ЗША. Асабіста прэзідэнт Джонсан (і гэта не выдумка, а рэальны факт) спрабаваў унушыць савецкаму кіраўніцтву, што Усходняя Еўропа разглядаецца ў Вашынгтоне як сфера савецкіх інтарэсаў, і, калі Крэмль прыме рашэнне ўвесці войскі ў Прагу, каб навесці парадак, Амерыка не стане ўмешвацца. Фактычна Джонсан справакаваў Брэжнева на непапулярныя дзеянні. Тым самым Амерыка, як кажуць, забіла двух зайцоў: спыніла працэс рэфармацыі ў ЧССР і нанесла мацнейшы ўдар па сацыялізме, у тым ліку і па карэнным інтарэсам Савецкага Саюза.

Іх, гэтых сродкаў, спосабаў, каналаў заходняга ўплыву, было мноства. Усяго мы, напэўна, не ведаем і не ўведаем. Але ёсць яшчэ адзін напрамак такога ўплыву, які відавочны і які, на маю думку, не менш важны і эфектыўны. Гэта — маніпуляцыя свядомасцю савецкіх людзей, што надзвычай актыўна і масіравана праводзілася ў апошнія гады, ды што там казаць — праводзіцца і цяпер. Да дэструктыўнай ідэалагічнай апрацоўкі падключаны фактычна ўсе сродкі масавай інфармацыі, усе віды мастацтва, вельмі многія аўтарытэтныя, уплывовыя людзі. Нам унушалі, літаральна ўбівалі ў галовы фальшывыя ісціны: што СССР — гэта калос на гліняных нагах, што ў ім усё кепска, толькі цемра і суцэльны ГУЛАГ, што краіна асуджана, нежыццядзейная, не паддаецца рэфармаванню, што яе распад толькі пытанне часу. І можа, менавіта таму народ так маўкліва, так абыякава ўспрыняў прыгавор краіне, вынесены ў Віскулях. Людзі, адлучаныя ад улады, замарочаныя, замбіраваныя штодзённай, нахабнай хлуснёй і паклёпам, аказаліся безудзельныя перад фактам дзяржаўнага перавароту, здзейсненага камандай Ельцына.

**— Мікалай Мікалаевіч, а ці можна было ўсё ж такі ўратаваць Савецкі Саюз?**

— Можна! Нават пасля таго, як у Белавежы тройка ліквідатараў — Ельцын, Краўчук і Шушкевіч — падпісалі капітуляцыю. Каб арыштаваць змоўшчыкаў, Гарбачову варта было паслаць роту амапаўцаў у Віскулі. Адначасова Гарбачоў як прэзідэнт абавязаны быў звярнуцца да народа з заклікам захаваць Саюз, спаслаўшыся на выніку ўсенароднага рэферэндуму ў сакавіку 1991 года. Чаму гэта не было зроблена, застаецца загадкай. Зрэшты, не такая ўжо і загадка… Хоць мы ўсё яшчэ блукаем у поцемках.

***Гутарку вёў Зіновій ПРЫГОДЗІЧ.***

***Працяг будзе.***

Васіль СТАРЫЧОНАК

# «ЁСЦЬ ТЫ І Я, А ПАМІЖ НАМІ — ЛЁС, І Ў ЛЁСУ ПЕРАМЕНЛІВЫЯ ТВАРЫ»
## (другасныя займеннікавыя намінацыі ў структуры мастацкіх тэкстаў)

У сучаснай беларускай літаратуры (асабліва паэзіі) шырока выкарыстоўваюцца займеннікі, якія выконваюць выключную функцыю ў фарміраванні сэнсавай і кампазіцыйна-інфарматыўнай цэласнасці тэксту. У навуковай традыцыі асабовыя займеннікі разглядаюцца як лексічныя адзінкі, якія ўказваюць на гаворачага ці групу гаворачых (*я, мы*), слухаючага (субяседніка) ці групу асоб, у складзе якой знаходзіцца гаворачы (*ты, вы*), а таксама на асобы (прадметы), пра якія вядзецца размова. Традыцыйна зазначаецца, што значэнне такіх слоў не зусім самадастатковае, пазбаўлена пастаяннай сэнсавай замацаванасці, носіць максімальна абстрагаваны характар, які канкрэтызуецца ў розных кантэкставых сітуацыях і залежыць ад сэнсу тых слоў, на якія ўказваюць ці з якімі суадносяцца займеннікі. Своеасаблівасць семантыкі займеннікаў заключаецца ў дыялектычна супярэчлівай прыродзе яго сэнсавага зместу: з аднаго боку, асабовыя займеннікі (у адрозненне ад назоўнікаў, прыметнікаў і дзеясловаў) не выражаюць дэнататыўна-сігніфікатыўнай суаднесенасці (не суадносяцца з пэўнымі прадметамі і паняццямі), а, з другога боку, у семантыцы такіх слоў змяшчаюцца глабальныя паняцці матэрыяльнага і духоўнага свету, няўлоўныя і абстрагаваныя сувязі залежнасцей і незалежнасцей, уласнасцей і няўласнасцей, сумяшчальнасцей і несумяшчальнасцей, пачатку і завершанасці і інш. Займеннікі, выступаючы ў якасці замяшчальнікаў тых ці іншых лексічных адзінак (часцей — назоўнікаў), не выконваюць іх функцый, а адсылаюць да іх, указваюць, што ў пэўным кантэксце размова вядзецца пра пэўны ідэнтыфікаваны аб’ект. Па гэтай прычыне займеннікі апасродкавана адлюстроўваюць бясконцы і шматгранны свет прадметаў і з’яў, з’яўляюцца важным элементам маўленчай сітуацыі і характарызуюцца дастатковай выразнасцю, стабільнасцю канцэптуальнага зместу, які змяняецца ў розных кантэкставых сітуацыях. Менавіта таму ў апошні час даволі актыўна прапагандуецца думка, што асабовыя займеннікі валодаюць самастойным і сістэмным значэннем асобага кшталту — кантэкстава залежнага і прагматычна абумоўленага.

Спецыфіка займеннікаў звязана з іх знакавым статусам — універсальнасцю і поліфункцыянальнасцю, дваістасцю семантыкі, якая спалучае ўказальную і замяшчальную функцыі. Па прычыне дэйктычнасці і ў пэўнай ступені «семантычнай апустошанасці» яны імкнуцца да пастаяннага кантэкстава-семантычнага эксплііцыравання і выконваюць функцыю замяшчальнікаў (субстытутаў, імплікатараў). Менавіта кантэкст дазваляе выявіць асаблівасці рэалізацыі так званай семантычнай апустошанасці займеннікаў і характар замяшчальнай функцыі (як правіла, функцыі аўтасемантычнага абазначэння асобы). Замяшчэнне — гэта па сутнасці прэдыкат выказвання, раскрыццё зместу займенніка, атаясамліванне аўтара (лірычнага героя) з самымі рознымі з’явамі аб’ектыўнай рэчаіснасці. Гэта асаблівы тып другаснай намінацыі, пры якой першаснае значэнне займенніка не трансфармуецца і не пераасэнсоўваецца, другасныя ЛСВ не развіваюцца па пэўных мадэлях і формулах, а ў пэўных тэкставых акружэннях раскрываюць аўтар-

скі намер, асацыятыўныя сувязі, праламленні і ўвасабленні аўтарскага «я». Такі тып другаснай намінацыі, пры якім раскрываецца змест асабовых займеннікаў, у лінгвістычнай літаратуры называецца супазітыўнай (лац. *suppositio* «падстаноўка, замена»). Самі займеннікі ў пэўных кантэкставых сітуацыях як бы «апрадмечваюцца» і выкарыстоўваюцца ў якасці інфарматыўна-вобразных кодаў, якія па-рознаму інтэрпрэтуюцца ў розных носьбітаў мовы: *Гэта я — лёгкага воблачка водбліск на шэрай сцяне.* (Н. Гальпяровіч); *Я — песня, а во мая ліра.* (Я. Купала); *О, страшна мне! Я — цень ў завеях, Я — здань маўклівая у сне… (П. Трус); Ты — мой трывожны ўспамін, шчыміш і не даеш пакою.* (Р. Барадулін); *Мы — дзеці ўсе аднаго дрэва.* (А. Пісьмянкоў); *Мы — першыя ў свеце Разведчыкі будучыні.* (М. Танк); *Птахі мы — людзі.* (Д. Бічэль).

Асноўным сродкам рэпрэзентацыі займеннікавых другасных намінацый з'яўляецца метафара. Двухпланавасць як адна з яе асаблівасцей дазваляе адначасова ўказваць на асноўны і дапаможны суб'екты і тым самым ствараць своеасаблівую «гульню» прамога і пераноснага значэнняў. Па гэтай прычыне супазітыўныя метафары называюць аўтаметафарамі. У іх закладзены практычна неабмежаваныя рэсурсы семантычных атаясамліванняў, параўнанняў, пераўвасабленняў, якія характарызуюцца суб'ектыўным пачаткам, нечаканасцю, непрадказальнасцю, а ў радзе выпадкаў — пераўвелічэннем, гіпербалічнасцю, свайго роду фантастычнасцю. Такія метафары можна лічыць самаідэнтыфікацыяй аўтара, яго эпізадычным пераўтварэннем.

Семантычная і фармальная (структурна-кампазіцыйная) арганізацыя розных тэкставых фрагментаў, у якія ўключаюцца асабовыя займеннікі, традыцыйна ўкладваецца ў межы двухкампанентных структур. Першы кампанент (левая частка) такіх структур прадстаўлены асабовым займеннікам (звычайна гэта дзейнік, своеасаблівая тэма выказвання), які ў пэўных кантэкставых сітуацыях як бы «апрадмечваецца» і выкарыстоўваецца ў якасці інфарматыўна-вобразнага коду. Другі кампанент (правая частка) — гэта прэдыкатыўны цэнтр (рэма выказвання, ядзерны кампанент сэнсавай структуры), носьбіт найбольш важнай інфармацыі. Правая частка звычайна выражаецца назоўнікам-метафарай (і залежнымі ад яго словамі). У ёй у вобразнай форме раскрываецца змест асабовых займеннікаў, рэалізуюцца яго семантычныя патэнцыі ў выглядзе пэўных замяшчальнікаў.

Цэнтральнае месца ў камунікатыўнай структуры паэтычных тэкстаў выконвае асабовы займеннік «я», які выступае як неабходны і ўніверсальны элемент твора, з'яўляецца сродкам абагульненага паказу лірычнага героя, спрыяе перадачы яго пачуццяў, перажыванняў, адлюстраванню светаўспрымання аўтара твора. У розных аўтараў назіраецца самае рознае разгадванне і інтэрпрэтацыя аўтарскага «я», і па гэтай прычыне метафарычныя «тлумачэнні» займеннікаў носяць разнастайны і даволі стракаты характар. «*У вершах і аднаго, і другога, і трэцяга паэта прысутнічае «я». Аднак якія яны розныя, гэтыя «я»! Для аднаго паэта «я» — яго канкрэтная асоба, для другога — «сцэнічная» роля, для трэцяга — модус мыслення, для чацвёртага паэта «я», як у слынным вершы Анатоля Сербантовіча, — «няма мяне». Чалавек бачыць і разумее не сябе, а «сваё», не сябе, а свае «абалонкі» — тое, што ўжо ад яго адпластавалася, адасобілася, але яшчэ не адчужылася»,* — справядліва заўважае А. Разанаў. У паэтычных творах часцей за ўсё назіраецца метафарычная самаідэнтыфікацыя, свайго роду *alter ego*, разважанні аўтараў аб жыцці і смерці, аб ролі чалавека ў гісторыі, аб уласным прызначэнні, аб адносінах паміж людзьмі ў грамадстве. Аўтарэфлексія, аналіз уласнага псіхічнага стану, адказы на пытанні *хто я ёсць?, хто мой таварыш?* і разважанні «я і магчымыя сусветы», «я і рэальнасць», «я ёсць я», «мая згода ці канфлікт з грамадствам» — найбольш частыя запаўняльнікі дыскурсаў розных жанраў. Як маленькія часцінкі бясконцага ў часе і прасторы сусвету, паэты імкнуцца адказаць на самыя галоўныя пытанні існасці: *Хто ж мы такія? Толькі*

*падарожныя — папутнікі сярод нябёс. Нашто ж на зямлі Сваркі і звадкі, боль і горыч, Калі ўсе мы разам ляцім Да зор?* (М. Багдановіч); *Я — ў кожным пажары, Я — полымя брат, Я — ў кожным удары Жалезных лапат. Я — ў скаргах, я — ў слёзах І сірат і ўдоў. Я — ў шуме бярозаў У гуле вятроў. Я — ў чорных загонах, У скібах цяжкіх, У кос перазвоне Між ніў залатых.* (М. Танк). У гэтых і многіх іншых радках вершаў адчуваюцца пульс і глыбіня складанага чалавечага жыцця, хада вечнага і ў той жа час імгненнага часу, лучнасць усяго жывога і нежывога, непарыўная сувязь з кожнай часцінкай Сусвету, трывога за лёс людзей і планеты: *Я — грамнічная свечка прад Богам.* (У. Жылка); *Я толькі сведка, мімалётны госць на гэтым свеце, вечным і вялікім.* (Н. Гальпяровіч); *Я — новых дзён пралог.* (У. Клішэвіч); *А я — галіначка адна Між вечных зор і тых, якія З крыніц мігочуць да відна, Упаўшы ў нетры іх жывыя.* (А. Лойка); *Я — космас і пылінка. І між намі — Адзін агонь. Як вечнасці уток.* (В. Зуёнак); *Я толькі кропля ў акіяне.* (М. Сяднёў).

Да ліку аўтаметафарычных адносіцца і верш народнага паэта Азербайджана Расула Рзы «Я — зямля» (пераклад на беларускую мову Міколы Мятліцкага, «Полымя», 2011, № 1). У гэтым вершы, як і ва многіх іншых творах паэтаў Усходу, лірычны герой атаясамлівае сябе з самымі рознымі канстантамі рэчаіснасці: з зямлёй, вясной, ветрам, высокай хмарай, гарачым сэрцам, святлом, ручаём, гранітам і інш.: *«Я — пачатак быцця, я ў дарозе заўжды, я ў дыханні, у мары, і ў вачах, і ў руцэ. Я — зямля, і зашчодра багацці людзям адкрываю. Я — гарачае сэрца, не б'юся, калі паміраю»,* —завяршае сваю споведзь лірычны герой верша.

Як сведчаць шматлікія матэрыялы, у розных аўтараў назіраецца самае рознае разгадванне і інтэрпрэтацыя займенніка «я». Даволі часта ў эпіцэнтры тэкставага фрагмента знаходзіцца малая і вялікая Радзіма чалавека, яго Бацькаўшчына: *Я — Чалавек. І скрозна славіць мне Бацькоўскі кут, рачныя паплавы.* (У. Дзюба); *Я — пасланец рэспублікі.* (П. Панчанка); *Я — сірата без маёй Беларусі.* (П. Панчанка); *А я — твой сын, ад косці тваёй косць, Кроў ад крыві тваёй, мая Айчына.* (С. Дзяргай); *Любоў мая высокая, як неба, Любоў да краю, мілага заўжды: Яна — ад плуга, ад касы і цэпа, Яна — ад чысціні жывой вады, Яна — ад сілы аржанога хлеба.* (М. Маляўка). Лірычныя героі твораў шчыра прызнаюцца ў адданасці і любові да роднага краю: *Беларусь, я — твой воін адданы і сын.* (П. Панчанка); *Я — пясчынка твая. Я — крывінка твая. І ў любві да цябе я не раз буду клясціся.* (Г. Бураўкін); *Бо я — сын верны Маці-Беларусі. І святога Гордага імя Не адракуся.* (Т. Лебяда).

У якасці аўтаметафары са скразной тэмай «Бацькаўшчына» можа выступаць цэлы твор. Прыгадаем верш Анатоля Сыса «Радзіма», у якім некалькі вобразна-метафарычных фрагментаў носяць перапічальны характар і цесна ўзаемадзейнічаюць паміж сабой, перасякаючыся ў некалькіх плоскасцях. Дзякуючы выкарыстанню ў кожным радку даданых азначальных частак ствараецца структурная і сэнсавая сувязь частак верша, яго цэласнасць. Лірычнага героя ахопліваюць розныя пачуцці і суперажыванні, на змену аднаму адчуванню і настрою прыходзяць іншыя, і ў новай часавай і прасторавай сітуацыі нараджаюцца новыя параўнанні і асацыяцыі. Такія параўнанні і атаясамліванні ў вершы — гэта працяглы роздум і разважанне аўтара, якое складаецца з ланцужкоў супярэчлівых і, здавалася б, несумяшчальных сімвалаў і вобразаў, што пранізваюць увесь твор:

*Я — зямля, на якой не растуць дрэвы.*
*Я — дрэва, на якое не садзяцца птахі.*
*Я — птах, якога не сочаць нават паляўнічыя.*
*Я — паляўнічы, у якога вечна галодныя сабакі.*
*Я — сабака, якога не баяцца злодзеі.*
*Я — злодзей, якога не гоняць ад вогнішча.*
*Я — вогнішча, якое не сцеражэцца леяў.*

*Я — лея, якой не шкада вандроўнікаў.*
*Я — вандроўнік, якому ўсё адно, куды вядзе дарога.*
*Я — дарога, якая не сніць ройсты.*
*Я — ройста, на якой валацуга бязмысны.*
*Я — валацуга, які страціў радзіму.*
*Я — радзіма…*
*Я — радзіма? Паляўнічы, сабака, бадзяга, злодзей…*

Высокай ступенню прадуктыўнасці характарызуюцца персаніфікаваныя метафарычныя структуры, якія адносяцца да ліку ўнутранай полісеміі, дзе пераносы ажыццяўляюцца ад займенніка «я» на чалавека: *Я чалавек… Усё людское, благое, добрае — ўва мне.* (Н. Арсеннева); *Я — чалавек, які толькі ўмее З грудкі зямлі дабываць хлеб, З сэрца свайго — песні.* (М. Танк); *Я — чалавек. Я не ў гасцях, Я — дома. Пакуль жыву — не ведаю мяжы.* (Л. Галубовіч); *Мы, людзі, дзіўныя стварэнні, Сярод удач, турбот, абраз Жывём у розных вымярэннях Адначасова ў розны час.* (П. Панчанка).

У паэтычных дыскурсах чалавек можа выяўляцца, канкрэтызавацца па самых розных высновах. Часцей за ўсё актуалізуюцца род яго заняткаў, прафесія, нацыянальнасць, матэрыяльнае становішча і інш.: *Я **мужык-беларус**, — Пан сахі і касы; Цёмен сам, белы вус, Пядзі дзве валасы.* (Я. Купала); *Я — мужыцкі сын, і радаслоўная анідзе не значыцца мая.* (А. Русецкі); *Я — **мужык**, бядак пахілы.* (Я. Колас); *Я **салдат** малады, Я дзяцюк хоць куды.* (Л. Родзевіч); *Я — **калгасніца** Маладая, Жыву весела, Ані дбаю.* (Я. Купала*); Я каралеўскі **батанік і лекар.** І знаю: няма таго зелля, Што хоць на міг ад тугі па Айчыне вылечвае.* (Г. Бураўкін); *Я — **скульптар**. Вы не бойцеся мяне, Я не пакрыўджу і не ашукаю.* (С. Грахоўскі); *Я — **маці**! То ўшчуваю сябе строга, То, адганяючы ад веяў сны, Смяюся.* (Т. Бондар).

Радзей у метафарычным эпіцэнтры аказваюцца рысы тэмпераменту і характару чалавека, яго адносіны да працы: *Я — аптыміст.* (Я. Міклашэўскі); *Я, дзівак, твайго шукаю следу На пачатку кожнае вясны.* (С. Грахоўскі); *А я, дзівак, убіў сабе ў голаў, што знаны я, што я паэт.* (М. Сяднёў); *Я — раб паэзіі. І ўсё ж на дзіва Шчаслівы, што — як вязень ланцугом — Прыкуты сваёй мовай да Радзімы І разам да сусвету усяго.* (Л. Галубовіч). Зрэдку «я» атаясамліваецца з узростам, рэлігійнай перакананасцю, неабмежаванай уладай : *І сам я — хлопчык босы У даўнім чыстым ранні.* (А. Пісьмянкоў); *А я — язычнік да касцей.* (К. Жук); *Я — валадар палёў, лугоў і рэк, І ветракоў старых, людзьмі забытых.* (К. Жук).

Да ліку нетрадыцыйных неабходна аднесці атаясамліванні асабовага «я» з кухарам ночы, наглядачом астрога: *Я — **кухар ночы**. Бяру я коўш Мядзведзіцы Вялікай І чэрпаю з азёр ваду.* (М. Купрэеў); *Я — **наглядач** суровага астрога, Сачу, каб не ўцяклі з мяне самога зайздрасць і злосць, зняве р'е і мана.* (Р. Барадулін). Стварэнне такіх асацыяцый і аналогій залежыць у першую чаргу ад светапогляду і светаўспрымання паэта, яго здольнасці арганічна ўключаць у тканіну тэксту пэўныя словы, дзякуючы кантэкставаму акружэнню мабілізаваць іх павярхоўны і глыбінны патэнцыял і тым самым ствараць яркія, непаўторныя і запамінальныя вобразы.

У апрадмечаным «я» размова можа весціся пра канкрэтных людзей, якія адлюстроўваюцца ў сотнях імёнаў простых людзей і славутых постацей Беларусі: *Гэта мы — русачубы упарты народ — Янкі, Вольгі, Ахрэмы, Хвядоры, Марусі. Зорных сэрцаў святло… Век не сыдзе на звод Сэрца маёй Беларусі.* (М. Мятліцкі); *Я — Драздовіч Язэп, Вы пазналі? Я — нічый, без патрэб…* (А. Жыгуноў); *Я — нікчэмны Афанасій Філіповіч, Берасцейскі гарбарчык, прастак.* (М. Пракаповіч*); Ён сын Лукаша, палачанін, Францішак Скарына.* (Л. Геніюш); *Я — юнак Давыд!* (У. Жылка); *Я ваш сябра — Засім Коля, З-пад Пружанаў.* (М. Засім); *І зноў я — Лёнік Васілёвы У бестрамвайным гарадку.* (Л. Дранько-Майсюк). Дарэчы,

звяртанне да ўласных імёнаў і актуалізацыя іх рознай канататыўнай афарбаванасці — даволі распаўсюджаная з'ява ў дыскурсах розных пісьменнікаў і паэтаў. Параўн.: *Чуеш? Ты — мая Джульета.* (М. Мятліцкі); *Хто гэта? Гэта ён — Даўмонт.* (В. Чаропка); *Ён, Адольф Гітлер, — той самы вампір.* (У. Паўлаў).

Традыцыйнымі лічацца асацыяцыі чалавека з дрэвам, галінамі, раслінамі, травамі: *Я — дрэва з бясплоднымі думкамі тымі.* (А. Камароўскі); *Я, мо, той клён, якому вырасці Жыццё дало да хмар, без старасці.* (М. Клімковіч); *Я тонкая галінка дрэва* (Н. Гальпяровіч); *А я — галіначка адна Між вечных зор і тых, якія З крыніц мігочуць да відна, Упаўшы ў нетры іх жывыя.* (А. Лойка); *Я ў мастацкім агародзе Толькі марная трава. А якая? Смех, дый годзе: Я — пякучка-крапіва.* (К. Крапіва); *Я — акіяну жытняга калоссе, Мільёны лёсаў змешчаны ў маім Яшчэ да дна не вычарпаным лёсе*. (А. Куляшоў).

У якасці супазітыўных метафар з асабовым займеннікам «я» могуць выступаць лексічныя адзінкі, якія называюць зоркі, вецер, вечар, воблака: *Я — **зорка** першай велічыні? Не знаю — можа, і зорка. Знаю толькі, што без любві Зорцы золка і горка.* (А. Вярцінскі); *І сам я такі, быццам вецер у полі. **Я** — **вецер**. А ты не баішся, таполю?* (В. Рагаўцоў); *Я — пасланец, **вецер** буйны, Прыляцеў на суд вас зваць!* (Цётка); *Я — **вечар**. Халодны вечар, дзе цэркаўкі белы лік самотна глядзіць у вечнасць праз кроны яблынь і ліп.* (Н. Гальпяровіч).

У беларускай паэзіі даволі распаўсюджанымі з'яўляюцца супазітыўныя метафары з займеннікамі «*ты*», «*мы*», «*вы*», *«яна»* і інш. Семантызацыя такіх займеннікаў даволі складаная і шматгранная і звязана з неабходнасцю перадачы розных адценняў і нюансаў думак і пачуццяў лірычнага героя. Часта такія думкі звязаны з Бацькаўшчынай, родным краем: ***Ты** — мая доля вячыстая, Маці мая — Беларусь.* (Я. Золак); ***Ты** — наш край. **Ты** — чырвоная груша над дзедаўскім домам, Лістападаўскіх знічак густых фасфарычная раць, **Ты** — наш сцяг, што нікому на свеце, нікому Не дамо абсмяяць, апаганіць, ці мячом зваяваць.* (У. Караткевіч); *Полымя ў бацькавай печы — Чысты і памятны дар. **Ты** — нібы мудрае веча, **Ты** — як свяшчэнны алтар. Светла ці горка і прыкра, Ці непрытульна ў жыцці, **Ты** — і навука, і прыклад, Полымя — вечна святі!* (В. Жуковіч); *Ты наш шлях круты, ты мой боль святы, Беларусь мая, мой алтар.* (Л. Геніюш); ***Ты** [зямля Беларусі] песня сама ад крыніц да заранкі, Ад зорак паўночных да сіняга ранку, **Ты** наша паэма з бурштынавых слоў.* (П. Броўка); *Змагла ж у сэрцы ўся змясціцца **яна**, здабытая ў баях, бясконцая ў сваіх граніцах, — Радзіма мілая мая.* (В. Вітка).

Размова можа весціся і пра канкрэтныя гарады і весі, азёры і рэкі: *Полацк драўляны. Малінавы звон… Хто ты? Ці мроя, ці ява, ці сон?* (А. Разанаў); *І ты — нямога пасяджэння Магутны замак — як жывеш?* (М. Краўцоў); *Ты, Нарач, для мяне, як музыка, Ты, Нарач, для мяне, Як вершы, як смех, як мова беларуская, як спеў, як пацалунак першы.* (Я. Шабан).

У многіх паэтычных творах тэматычна вылучаюцца дыскурсы пра паэзію, яе сутнасць і прызначэнне. Яны ўключаюць у свой склад некалькі вобразнасэнсавых фокусаў у спалучэнні з рознага кшталту семантычнымі распаўсюджвальнікамі: *Я [паэзія] — сонца, вецер, слова. Плыві са мной, я ж — твой маяк. (Я. Чыквін); Я — вязень твой [паэзія], а ты — мая турма, Асуджан я любоўю пажыццёва.* (А. Куляшоў).

У вершы М. Танка «Паэзія» паэтычная творчасць атаясамліваецца з бліскавіцай, вызваленнем з няволі, з вясновай кветкай, пацалункам, дружбай і радасцю, са следам разведчыка, скарынкай чэрствага хлеба, з сокам вінаграда. Але ўсе гэтыя азначэнні, на думку аўтара, не ахопліваюць глыбіні і сутнасці паэзіі, якая для творцы нешта большае: *А **ты** аказалася большым: **Ты** — кроў, што пульсуе па жылах, **Ты** — сонца, якое Прасторы святлом азарыла, І без чаго, як без маці Або без радзімы, Ні нараджацца, ні жыць На зямлі немагчыма!* Займеннік *ты* ў прыведзеным кантэксце паўтараецца тройчы, што дазваляе аўтару пастаянна засяроджваць увагу на аб'екце апісання.

У якасці выразнага прыкладу шырокага і практычна неабмежаванага вызначэння сутнасці паэзіі (розных яе метафарычных тлумачэнняў) можа служыць верш Леаніда Галубовіча «Паэзія». Кожнае чатырохрадкоўе ў ім пачынаецца двума паўтарэннямі займенніка *ты*, які даволі выразна тлумачыцца парнымі назоўнікамі *боль* і *быль*, *рай* і *рой*, *жаль* і *жар*, *сум* і *суд*, *лад* і *сад*, *боль* і *бой,* а таксама ўдакладняецца выразам *ты — праўды непрыступнай вежа.* Сам верш з’яўляецца разнавіднасцю перыяду, які складаецца з пратазісу (у ім паслядоўна пералічваюцца аўтаметафары) і ападазісу (*Я — праведнік і грэшнік твой, Пусці мяне ў сваё бязмежжа!..)* са значэннем высновы, пэўнага заключэння:

*Ты — боль, паэзія. Ты — быль.*
*Твае адвечныя законы*
*Не для забаў, не для гульбы —*
*А пошук ісціны да скону.*

*Ты — рай, паэзія. Ты — рой*
*Адвечных дум, дзе мы згараем.*
*І толькі геніі парой*
*Жылі часова гэтым раем.*

*Ты — жаль, паэзія. Ты — жар.*
*Я па тваім хаджу вуголлі.*
*Чыя не прагнула душа*
*Твайго зняволення і волі.*

*Ты — сум, паэзія. Ты — суд*
*І мрояў нашых і здзяйсненняў.*
*Хай душы шчырыя нясуць*
*Высокі лад тваіх памкненняў.*

*Ты — лад, паэзія. Ты — сад*
*З адзіным яблыкам спакусным.*
*Над ім — каторы год падрад! —*
*Мае збалела смягнуць вусны.*

*Ты — боль, паэзія. Ты — бой.*
*Ты — праўды непрыступнай вежа.*
*Я — праведнік і грэшнік твой,*
*Пусці мяне ў сваё бязмежжа!..*

У шматлікіх паэтычнах радках выказваюцца адносіны да роднай мовы, падкрэсліваецца яе багацце і адметнасць, выключная роля ў жыцці грамадства, паказваецца сувязь мовы з гістарычнай памяццю: *Мова мая! Для мяне ты заўсёды — Сонца вясновага цёплы прамень, Дзіва ляснога поўныя соты, Рэчка, што асвяжае ў сухмень.* (К. Цвірка); *Слова маці! Цябе перадам я сынам. Ты — мой скарб дарагі, Найсвятлейшая спадчына. За цябе, калі трэба, жыццё я аддам. Толькі песня не моўкнула б матчына.* (Я. Крупенька); *Ты — сімвал лёсу і скрыжаль адвечнасці, Ты — дум і мар людскіх выток бясконцы, Ты — найвялікшы гімн чалавечнасці, Красы і веры нашай абаронца!* (Н. Гілевіч). Мова — душа народа, люстэрка духоўнага жыцця і творчасці грамадства, галоўны нацыянальны скарб: *Ты, мова, самы лепшы дар З усіх дароў на свеце.* (М. Шаховіч); *Мова, Пявучая родная мова, Ты — уладарка нявызнаных скарбаў.* (А. Зарыцкі); *Мова — Сонца маё і радасць, Ты — чырвоны агонь крыві.* (А. Емяльянаў); *Ты — вясною аквечаны луг, Шум дубровы магутны, пявучы, Непадайны сталёвы ланцуг, Што нам сэрцы нязломныя лучыць.* (Л. Геніюш).

Аўтаметафары ў сваёй большасці праліваюць пэўны свет на творчую лабараторыю аўтара, дзе лірычны герой хоча зблізіцца з іншымі рэаліямі, растварыцца ў іх, выказаць свае адносіны да іншых людзей. Напаўненне прэдыкатыўнай часткі часцей за ўсё з'яўляецца метафарычнай самаідэнтыфікацыяй, аўтарскім «я», прасякнутым самымі рознымі асацыяцыямі, параўнаннямі, сімваламі і вобразамі. *«Шлях, які мы праходзім,*— піша Алесь Разанаў, *— застаецца не па-за намі, а становіцца намі самімі — адкладваецца і акумулюецца ў нас, нібы ў колцах дрэва пражытыя ім гады, і толькі таму ён пройдзены, і толькі таму мы здольныя і вольныя ісці далей».* І ў многіх вершаваных радках людзі, зямныя жыхары, атаясамліваюцца з палоннікамі неба, астатнікамі Сусвету, хадакамі, ахвярамі лёсу, нотамі ў чалавечым канцэрце: *Мы — палоннікі, неба, твае.* (М. Мятліцкі); *Мы — астатнікі Сусвету — Патанулі ў зорным пыле.* (М. Мятліцкі); *Мы — на дарозе жыцця хадакі.* (Г. Чарказян); *Мы — лёсу нашага ахвяры, Дзе не старэюць з часам мары.* (А. Багамолава); *Мы — ноты, Мы — ноты, Мы — ноты У чалавечым канцэрце…* (П. Макаль).

У філасофскім вершы М. Танка «Ты яшчэ толькі намёк на чалавека» выкарыстоўваюцца вялікія магчымасці градацыі ў спалучэнні з анафарай, што дазваляе аўтару выразна і пераканаўча акрэсліць тэму разважання, перадаць вопыт, мудрасць, скандэнсаванасць думак цэлых пакаленняў людзей:

*Ты яшчэ толькі намёк на чалавека,*
*Калі ва ўсім спадзяешся на моцы;*
*Ты яшчэ — чвэрць чалавека,*
*Калі ва ўсім спадзяешся на дружбу;*
*Ты толькі — паўчалавека,*
*Калі ва ўсім спадзяешся на любоў, —*
*І толькі тады становішся чалавекам,*
*Калі ўсе могуць спадзявацца*
*На цябе.*

У фокусе пэўных ацэнак і меркаванняў даволі часта аказваецца жанчына, каханая дзяўчына, межы і дыяпазоны атаясамліванняў з якой даволі шырокія: *Ты, зорка ясная мая!* (Я. Журба); *Ты — ўзрушлівая гаспадыня яго няўлоўнага настрою* (Р. Барадулін); *Ты — абранніца мая адзіная.* (У. Мазго)*; Ты — асалода, мой зацішак… Усе пачуцці — цераз край!* (Д. Пятровіч); *Ты пасланка дарыць незямную красу.* (В. Гарановіч); *Ты ў жыцці, нібы тайна. Кветка-папараць ў снах; Ты знічка схованкі-сустрэчы, Ільняных косаў вадаспад.* (В. Гарановіч); *Яна харошая ў мяне. Яна — і сонца, і марозы.* (А. Сербантовіч). *Яна адна — тваё выратаванне.* (У. Мароз). М. Танк параўноўвае жанчыну з веснім звонам, промнем святла, рэхам, жывым серабром: *Ты заўсёды няўлоўнай была: То веснім звонам Паміж радасцю і смуткам, То промнем святла Паміж быццём і небыццём, То рэхам Паміж мінулым і будучым, То жывым серабром, Што працякае Праз пальцы рук, Калі цябе абдымаю.* (М. Танк). З. Прыгодзіч атаясамлівае каханую з небам, сонцам і морам: *Ты — маё неба, высокае, чыстае… Ты — маё сонца, пяшчотнае, шчодрае… Ты — маё мора, бурлівае, ціхае.* (З. Прыгодзіч). М. Шабовіч у розных кантэкставых сітуацыях падкрэслівае такія рысы каханай, як загадкавасць, чысціня, атаясамлівае яе з праменьчыкам сонечнага лета, з завірухай, глытком вады і інш.: *Ты — загадка бадай неадгадная; Ты ўвасабленне чысціні, праменьчык сонечнага лета; Ты — высокага неба абранніца; А ты — снягоўна-завіруха, Ты — ачышчэнне ад маны, Чаму ж тады ў паглядзе скруха, Нібы ад нейкае віны?; Ты для мяне — шчаслівых мар палёт, Глыток вады ў засушную спякоту.* (М. Шабовіч).

Даволі часта для наймення каханай выкарыстоўваюцца зоамарфічныя метафары, якія не столькі характарызуюць асобу, колькі ў абагульняючай форме

выражаюць ласку, любоў, сімпатыю, павагу: ***Ластаўка*** *ты легкакрылая, светлы мой сон растрывожыла.* (М. Шушкевіч); *Ах ты, шчасце-**ластаўка**,— Дзве касы! Расгіляту я ласкавай Валасы.* (К. Жук); *Ты — мая **пчолка**, З табою не ведаю скрухі.* (П. Броўка); *Без цябе я — **птушка** без крыла* (Т. Трафімава); *Мы з табой пералётныя **птахі**, якім не вярнуцца назад* (А. Пісьмянкоў).

Займеннік *ты* выступае ў якасці своеасаблівай скрэпы кахання, праз якую розныя аўтары спрабуюць асэнсаваць шырокую і бязмежную палітру значэнняў, адценняў і сугуччаў гэтага вялікага і вечнага пачуцця. Пры займенніках могуць ужывацца самыя розныя прэдыкатывы рэферэнтнай і нерэферэнтнай суаднесенасці: *Ты — пакаленняў новых буйны рост, Напеў нязгаснай чалавечай тэмы, Вясна жыцця і часу маладосць!* (А. Звонак); *Ты ўчора вінаградзінкай была Апошняй над халоднаю альтанкай, А сёння ты высокая маланка — Ахоўніца нябеснага стала.* (Л. Дранько-Майсюк); *О, каханне чыстае, ты — мой кожны ўздых!* (Д. Пятровіч); *Любоў мая, ты скрыпка, і цымбалы, І шаргункі — над грывамі гадоў.* (Я. Янішчыц).

У паэтычным дыскурсе адлюстроўваюцца самыя высокія пачуцці закаханых людзей, сэрцы якіх знітаваны. Гэта злітнасць каханых перадаецца праз узаемапаглынанне «я» і «ты», пэўнае двухадзінства: *Ты — гэта я. Я — гэта ты. Выйшлі абое сюды з любаты, З неразгаданай нікім мілаты.* (С. Законнікаў); *Помняць золак малады Два шчаслівыя лісты — Я і Ты...* (У. Мазго); *Як тады, На цэлым белым свеце — Двое: Ты і я, І я, і ты...* (Г. Бураўкін); *Мы — дзве часцінкі аднаго ядра.* (А. Звонак); *Мы — дзве ракі, напоўненыя шчасцем, Мы — дзве рукі, што мкнуцца ў вышыню.* (М. Федзюковіч); *Мы — дзве яблыка роўныя долькі.* (М. Шабовіч). Такое адзінства і ў той жа час адрозненне часам перадаецца праз сінанімічныя спалучэнні: *Я твой **сум**, а ты мой **боль*** (Л. Пранчак). *Будзь мне **княгіняй** да скону. Я — твой **князь**!* (М. Шабовіч).

Часам закаханыя асобы супастаўляюцца, і ў антытэзным малюнку ўзвышаецца і абагаўляецца тая адзіная і непаўторная. Высокі напал пачуццяў, іх кантрастнасць у такіх выпадках перадаецца праз антанімічныя спалучэнні і контрметафары. Як правіла, супастаўленне ўкладваецца ў традыцыйныя схемы «я» — «ты», «яна» — «ён». Замяшчальнікамі займеннікаў могуць быць людзі, птушкі, нябесныя свяцілы, абстрактныя паняцці: *Мая адзіная любоў, Мая ты боль і асалода... Ты — Сонца, а я — Месяц твой...* (Э. Валасевіч); *Ты — дня майго засмужанага радасць, я — боль твае маланкавай начы.* (М. Федзюковіч); *Я сноў тваіх і летуценняў цень, Ты ж зорка найвялікшае жалобы, Якая мне відна і ў хмарны дзень.* (М. Федзюковіч); *Яна была адзінаю ўладаркаю яго сэрца, і ён — яе жаданым нявольнікам.* (Р. Мурашка). *Жораў ты, а я — сініца, Нас абоіх бура б'е.* (Я. Янішчыц). *Ты [каханая] — варта, я ў вечным палоне тваім.* (Я. Крупенька). У асобных выпадках супастаўленне ажыццяўляецца па лініі радасць — боль, лес без птушак — рака без вады: *Я не магу, каханая, нічым Утаймаваць душэўную палярнасць; Ты — **дня** майго засмужанага **радасць**, Я — **боль** твае маланкавай **начы**.* (М. Федзюковіч); *Твая душа — як **лес** без салаўя. Мая душа — як **рэчышча** сухое.* (Х. Гурыновіч).

Паводле сцвярджэнняў даследчыкаў душ чалавечых, пачуцці закаханых неаднолькавыя па сіле выяўлення: у аднаго яны, як на дакладных шалях, ураўнаважаныя, спакойныя, у другога — больш імпульсіўныя, узбуджана-нервовыя. Той чалавек, у якога напал пачуццяў зашкальвае, як правіла, становіцца ахвярай кахання, вязнем, рабом, заложнікам сваіх пачуццяў. Вось як пра гэта сцвярджаецца ў паэзіі: *Каханне, ты — прывабная быліна, Дзе з двух герояў нехта **вечны раб**.* (Р. Баравікова); *Мая любоў!.. Ужо і мне пад трыццаць — Я ж **раб** тваіх **жаданняў** зноў і зноў.* (У. Ліхіцын); *Ці ж навечна я твой **вязень**? Ці ж мая навечна ты?* (В. Стрыжак); *Ці ж з гэтым, браце, саўладаеш? Ратунку ад яго няма... Як прывід, па зямлі блукаеш, Я — **вязень**, ты — мая **турма**.* (Э. Вала-

севіч); *Я твой **нявольнік**, Твой **прыгонны**, Я вольную ў цябе прашу.* (Р. Барадулін); *Яна была адзінаю **ўладаркаю** яго сэрца, і ён — яе жаданым **нявольнікам*** (Р. Мурашка).

Асабовыя займеннікі могуць служыць сродкам актуалізацыі і канцэнтрацыі ўвагі на змесце, які раскрываецца. Даволі часта яны ўказваюць на чалавека, які характарызуецца з пеяратыўнай (адмоўнай) канатацыяй. У такіх анімістычных метафарах з яркай экспрэсіўнай і эмацыянальнай афарбоўкай найменні асобы параўноўваюцца са словамі наступных тэматычных груп:

а) найменні жывёл: *Я — **казёл** барадаты. Пастрыгуся, пагалюся І прыеду ў сваты.* (В. Вітка); *Я — зацяганы конь-біцюг. На жаль, не малады.* (М. Танк); *Чуеш? Ды я ледзь пазнаў цябе, **мядзведзь ты** гэтакі.* (П. Кавалёў); *Палохаў муж! Спытай у таты, Ды, зрэшты, бачыш наяву: **Ён** быў і ёсць **казёл** рагаты.* (М. Чырык); *«Маўчы **ты**, нікчэмны **трус**, здраднік! — крыкнуў Павел. — Ты род наш зганьбіў!».* (І. Шамякін); *Ён у навуцы — шкодны **клешч**: Сядзіць, упіўшыся, на шыі, Пакуль не лопне ў рэшце рэшт; Я шкадаваць не буду вас — Вас, **павукі**, у кім апошні Праменьчык людскасці пагас. (Н. Гілевіч);Ну хто ты? **Чарвяк ты**, як бачыш.* (К. Камейша); *«Ах **ты, выпаўзень**, — як бы і не злосна загаварыў Асцюк, — красці вучышся?».* (Аркадзь Марціновіч);

б) найменні раслін, вывернутых каранёў дрэў, карчоў: *Чаго **ён**, гэты **чартапалох**, да цябе заўсёды чапляецца?* (М. Машара); *«Як жа гэта **я**, стары **вывараць**, не мог змікіціць?» — гадаў Каўрыжка.* (М. Пянкрат); *Каму патрэбна твая балбатня? Ды хто **ты** такі ёсць, стары **корч**?* (В. Вітка); *Ты дужы, малады, прыгожы. Не тое што я — **камель** парахнявы.* (В. Давыдзенка);

в) найменні розных прадметаў: *«**Матавіла** ты, — плюнуў Асыка і адышоў далей, сеў каля Матвейцава. — Толькі і ўмее мянціць языком».* (В. Хомчанка); *«Ах **ты, труба** выхлапная!» — не стрываў Іван і зноў памкнуўся да Бандарчука.* (А. Капусцін); *Івана суседскага сын у начальніках ходзіць. А ты [Сяргей], што **ты? Гнілы корак** ад пустой бутэлькі.* (М. Лынькоў).

Асабовыя займеннікі могуць уключацца ў метафарычныя кантэксты розных структурна-кампазіцыйных структур. У залежнасці ад колькасці сэнсавых цэнтраў вылучаюцца наступныя віды такіх кантэкстаў:

**Аднакампанентныя** метафарычныя кантэксты: *Мы — мірныя **людзі**.* (П. Панчанка); *Раднёю і мовай не грэбуй, Ты — **колас** паміж каласоў.* (С. Законнікаў); *Ты [вакзал] — прыпынак маіх успамінаў.* (В. Вітка). Сэнсавыя цэнтры могуць распаўсюджвацца за кошт уключэння ў кантэкст дадзеных азначальных частак: *Я — мэта, **што** тоесна перашкодзе.* (А. Разанаў*); Яна [праца] — агністы наш ліхтар, **Што** нам да скону свяціць.* (Л. Дайнека); *Мы з табой пералётныя птахі, **якім** не вярнуцца назад* (А. Пісьмянкоў); *Ён [Янка Купала] — родны бацька песні той, Што ў жар паноў кідала.* (А. Александровіч); *Я — толькі тая кропля цяпла, Што вые, што вочы мае.* (Р. Барадулін). У асобных выпадках у якасці замяшчальніка займенніка выкарыстоўваецца складаназалежны сказ з займеннікам *той* — і злучальным словам *хто*: *Я — **той, каму** пашчасціла спазнаць: Жанчына адыходзіць, як стагоддзе, І я хачу стагоддзе затрымаць.* (Л. Дранько-Майсюк). Змест аднакампанентнага метафарычнага кантэксту можа ўдакладняцца асобным сказам: *Ты [вада] — ток жыцця! З тваіх глыбінь вячыстых Да нас бяжыш струменем урачыстым, Каб напаіць і ў спёку і ў мароз.* (М. Бусько).

**Двухкампанентныя** метафарычныя кантэксты: *Я — **трывога і прадчуванне.*** (В. Русілка); *І самаўпэўнены, што я **верх** дасканаласці і **цар** стварэнняў.* (У. Жылка); *Яна — жыцця **зачын** І **пачатак** песні новай.* (Я. Сіпакоў).

**Трохкампанентныя** метафарычныя кантэксты: *Вы — цудадзейныя **багіні**, **Выратавальніцы** Зямлі. Вы — бессмяротныя **вяргіні**, Што ў ліхалецце расцвілі.* (Л. Дайнека); *Лёсу было неабходна, каб я стаў летапісцам — вашым. І няма высакародней працы, Бо я — **часцінка** ваша, ваш **прыток**, Я — **сын** ваш.* (А. Статкевіч-Чабаганаў).

**Шматкампанентныя** метафарычныя кантэксты: *Я **пенат** твой, дом. Я — твой **слухач**. І **заступнік**. І **ахоўнік** твой. І **замоўнік** ад усіх няўдач.* (К. Жук); *А ён... проста **манюка, хітрэц, фарысей, ашуканец, прыкіда, фальшываманетчык**, бо выдае сябе не за тое, што ён ёсць.* (Я. Колас).

У паэтычным дыскурсе зрэдку ўжываюцца кантэксты, у якіх выкарыстоўваецца прыём сцвярджэння пры дапамозе адмаўлення з часціцай *не*, якая займае прэпазіцыю да сцвярджальнай часткі: *Паэт у жыцці **не** нахлебнік, Ён сейбіт. Змагар І прарок.* (С. Законнікаў); *Я **не** паэт, калі душы маёй малітваў не шэпча ў грозныя часы народ.* (М. Сяднёў*); Яна [песня] не напітак прэсны, а самы моцны хмель.* (Л. Геніюш). У дыскурсе Я. Купалы такі прыём ускладняецца трыма адмаўленнямі, два з якіх ускладнены даданымі азначальнымі часткамі: *Я **не** сокал зоркавокі, **Не** арол адважны, Што так думна за аблокі Ўзносіцца з іх кажны. Нават я **не** салавейка, Што пяе так слаўна, А я толькі верабейка, Ўзрошчаны пад Гайнай.* (Я. Купала).

Дэйктычнасць займеннікаў спрыяе стварэнню не адзіных і гамагенных субстанцый, а статыка-дынамічных, гетэрагенных структур, у якіх ажыццяўляецца разгортванне тэкставых фрагментаў самай рознай працягласці, рознай семантычнай накіраванасці і напоўненасці. Аднаму і таму ж носьбіту могуць прыпісвацца розныя якасці і ўласцівасці. Самі ж метафары ў такіх выпадках носяць разгорнуты характар. Розныя сэнсавыя цэнтры і семантычныя прырашчэнні, нягледзячы на іх варыятыўны і пералічальны характар, спалучаюцца і перасякаюцца ў некалькіх плоскасцях і ўтвараюць адкрытыя ланцужкі, якія забяспечваюць сэнсавае развіццё тэксту і накапленне пэўнай інфармацыі: *Я — **ліра**, што маўчыць без струн, нямы без бліскавіц **пярун**, **Вір** безгалосы рэчкі... Я — мёртвы **лебедзь** белы.* (К. Жук); *Ты [каханне] — **працяг** жыцця зямнога, Ты — **замова** ад праклляцця,.. мая зямная **зорка**, і **шчырасць**, і **спагада**, і **песня**, і **надзея**.* (Х. Гурыновіч); *А ты сама [мова]— **душа** народа, Яго **краса**, яго **прырода**..... Ты **неахопная** — як воля, Ты **неацэнная** — як доля, Ты **неад'емная** — як лёс.* (В. Жуковіч); *Мы — тройчы **дзеці** ў вечным крузе: Мы **дзеці** роднае сям'і, І **дзеці** Маці-Беларусі, І **дзеці** Матухны-Зямлі.* (Н. Гілевіч).

З мэтай выдзялення найбольш важных думак, падкрэслівання іх важнасці і значнасці ў тэкстах могуць ужывацца анафарычныя канструкцыі, якія спрыяюць стварэнню цэласнасці і адзінства структуры тэксту. Даволі часта паўтараюцца займеннікі «я», «ты»: ***Я** — матчын спеў, **я** — матчыны трывогі, **Я** — матчын гнеў, які ўставаў на ногі, Гнаў смерць на Захад...* (А. Куляшоў); ***Ты** са мной, летуценнага шчасця заранка. Я цалую цябе, апякаючы вусны... **Ты** — каханне маё, **ты** — любові маёй паланянка. **Ты** — усмешка маёй неадольнай спакусы.* (Л. Пранчак); ***Ты** — шчасця, свабоды і дружбы вяшчуння, **Ты** — светлая панад зямлёй заранiца, **Ты** — шчырага сэрца крыніца, Крыштальная руская мова.* (М. Танк). У вершы Н. Гальпяровіча «Я — вучань. Птушкі пішуць мне…» тройчы паўтараецца аўтаметафара *я — вучань*, якая канкрэтызуецца і тлумачыцца пасля кожнага паўтору: *Я — вучань. Птушкі пішуць мне У тонкі сшытак даўнія імёны. Я — вучань. Мне настаўнік загадаў Вучыць на памяць рэкі, хмары, дрэвы. Я — вучань. Я імкнуся разгадаць пергаменты нябёсаў, кнігі жыццяў, Валошкі сівізну у спелым жыце І вусны, на якіх вякоў пячаць.* І нельга не прыгадаць вядомы верш Я. Коласа «Мужык», кожнае з пяці чатырохрадкоўяў у якім пачынаецца анафарай «Я — мужык». У пачатку кожнай страфы даецца розная расшыфроўка гэтай анафары: у першым выпадку *«Я — мужык, бядак пахілы»,* у другім — *«Я — мужык, я — сын пакуты»,* у трэцім — *«Я — мужык, я — сын беднаты»*, у чацвёртым — *«Я — мужык, не чую звону»,* у пятым — *«Я — мужык, а гонар маю».*Такая структурная і кампазіцыйная будова верша, безумоўна, спрыяе стварэнню цэласнага і ў той жа час шматмернага вобраза беларускага селяніна.

Семантычны і структурны дыяпазон метафарызаванага кантэксту нярэдка ўключае шматлікія метафарычныя фокусы, мяжа якіх у радзе выпадкаў з'яўляец-

ца даволі пашыранай, адкрытай. Сэнсавая скіраванасць і рэцыпіентны склад такіх кантэкстуальных метафар залежыць ад светабачання пісьменніка, глыбіні ўражанняў і асацыяцый, звязаных з прадметам апісання. Так, у вершы Я. Купалы «О так! Я — пралетар!» назіраецца градацыя з паслядоўным узрастаннем сэнсавага і эмацыянальнага зместу чатырох метафарычных фокусаў: *О так! Я — **пралетар**! Яшчэ учора **раб** пакутны — Сягоння я **зямлі ўладар** І над царамі **цар магутны**.* У метафарычным кантэксе М. Танка змест займенніка «я» выяўляецца шляхам пільнага і скрупулёзнага падбору вялікай колькасці слоў самай рознай сэнсавай скіраванасці: *Я — ў кожным пажары, Я — полымя брат, Я — ў кожным удары Жалезных лапат. Я — ў скаргах, я — ў слёзах І сірат і ўдоў. Я — ў шуме бярозаў У гуле вятроў. Я — ў чорных загонах, У скібах цяжкіх, У кос перазвоне Між ніў залатых.*

Спецыфічнай рысай многіх паэтычных твораў з’яўляецца выкарыстанне ў іх параўнанняў, супастаўленняў, кантрастаў, яркіх антытэзных малюнкаў. Безумоўна, важную ролю ў гэтым выконваюць асабовыя займеннікі, якія найчасцей супрацьпастаўляюцца па лініі «я» і «ты», «я» і «мы», «мы» і «вы». Так, у наступным вершы В. Жуковіча прадстаўлены цэлы ланцужок метафарычных фокусаў, кантраснасць у якіх ствараецца за кошт ужывання антонімаў рознай сэнсавай напоўненасці: *Вучыцель і мучыцель ты, мой сорам. Ты — праўды друг і фальшы ўсякай вораг. Ты — плод сумлення ці ягоны корань? Не ў стане жыць я без твайго дакору. Ты — мая ўлада, я — твая пакора, мая ахова ты, мая апора, мой чуйны камертон у шчасці й горы, Ты — мой агмень і на агмені порах.* (В. Жуковіч). Паэтычны дыскурс Т. Кляшторнага разгортваецца за кошт супастаўлення зместу асабовых займеннікаў «мы» і «я»:

*Хто вы?!*
*Абломкі далёкага дальняга,*
*Госці абжытых вякоў,*
*Мы — алкаголь,*
*Мы — жальба пахавальная,*
*Мы — гэта смерць і любоў.*
*Я — гэта Рым,*
*Я — антычная Грэцыя,*
*Я — гэта зброя сляпога жраца,*
*Я — ракавая пячаць індульгенцыі,*
*Я — і нявольнік, і цар.*

У радках з верша П. Панчанкі «Размова з нашчадкамі» антытэза носіць разгорнуты характар і будуецца за кошт насмешліва-іранічнага зместу займеннікаў «мы» і «вы»: *Мы кансерватары ўсе Тупаватыя, Вы — завадатары бур І наватары. Мы ўсе аўральнікі, Культу стваральнікі. Вы — праўдалюбцы, Хлусні выкрывальнікі.*

Такім чынам, другасныя займеннікавыя намінацыі як пэўныя статыка-дынамічныя структуры вызначаюць спецыфіку многіх беларускіх паэтычных твораў. Яны дазваляюць пашырыць сэнсавы аб’ём выказвання, падкрэсліць і выдзеліць найбольш важныя элементы маўленчага кантынууму, акцэнтаваць увагу як на пастаянных, так і часовых, эпізадычных прыметах. У іх закладзены практычна неабмежаваныя рэсурсы семантычных атаясамліванняў, параўнанняў і пераўвасабленняў.

Змест займеннікаў раскрываецца шляхам эксплікацыі сегментаў большай ці меншай працягласці, пэўнага структурнага і семантычнага напаўнення. Даволі часта ў эпіцэнтры тэкставага фрагмента знаходзіцца малая і вялікая Радзіма чалавека, яго Бацькаўшчына, родная мова. У многіх паэтычных творах тэматычна вылучаюцца дыскурсы пра паэзію, яе сутнасць і прызначэнне. Высокай прадук-

тыўнасцю характарызуюцца персаніфікаваныя метафарычныя структуры, у якіх актуалізуюцца такія прыкметы, як род заняткаў чалавека, яго прафесія, нацыянальнасць, матэрыяльнае становішча, узрост, рэлігійная перакананасць, рысы характару і інш.

Пры займенніках могуць ужывацца самыя розныя прэдыкатывы рэферэнтнай і нерэферэнтнай суаднесенасці. Чалавек можа асацыіравацца з дрэвамі, галінамі, раслінамі, травамі, зоркамі, воблакамі, абстрактнымі паняццямі і інш. У радзе выпадкаў найменні асобы характарызуюцца пеяратыўнай канатацыяй і параўноўваюцца з назвамі жывёл, дрэў, раслін, шматлікіх прадметаў і артэфактаў. У фокусе пэўных ацэнак і меркаванняў часта аказваецца жанчына, каханая дзяўчына, межы і дыяпазон атаясамлівання з якой даволі шырокія. Другасныя займеннікавыя намінацыі часта носяць філасофска-экзістэнцыйны характар, з'яўляюцца метафарычнай самаідэнтыфікацыяй, аўтарскім «я», напоўненым самымі рознымі асацыяцыямі і пераважна ўсабленнямі лірычнага героя.

Асабовыя займеннікі ўключаюцца ў метафарычныя кантэксты розных структурна-кампазіцыйных структур і ствараюць шматлікія вобразна-сэнсавыя фокусы ў спалучэнні з рознага кшталту семантычнымі распаўсюджвальнікамі. Вылучаюцца аднакампанентныя, двухкампанентныя, трохкампанентныя і шматкампанентныя метафарычныя кантэксты, сэнсавыя цэнтры якіх могуць распаўсюджвацца за кошт аднародных членаў, дададзеных частак сказа і асобных сказаў. У якасці аўтаметафары можа выступаць і цэлы твор.

У метафарызаваных кантэкстах выкарыстоўваюцца прыёмы нанізвання метафар, іх паўтораў, а таксама спалучэння метафар з іншымі вобразна-выяўленчымі сродкамі. Спецыфічнай рысай многіх паэтычных твораў з'яўляецца выкарыстанне ў іх параўнанняў, супастаўленняў, кантрастаў, яркіх антытэзных малюнкаў, анафарычных канструкцый, якія дапамагаюць выдзеліць найбольш важныя думкі, падкрэсліць іх значнасць у тэксце, спрыяюць стварэнню цэласнасці і адзінства структуры тэксту. Розныя сэнсавыя цэнтры і семантычныя прырашчэнні, нягледзячы на іх варыятыўны і пералічальны характар, спалучаюцца і перасякаюцца ў некалькіх плоскасцях, утвараюць разгорнутыя і адкрытыя ланцужкі, якія забяспечваюць сэнсавае развіццё тэксту і накапленне пэўнай інфармацыі. Рэалізацыя сэнсавага патэнцыялу займеннікавых намінацый залежыць ад спецыфікі светаўспрымання аўтара, яго асабістага жыццёвага вопыту, індывідуальных сістэм каштоўнасцей, ад багацця ўяўленняў і свежасці асацыяцый, асаблівасцей стылю і почырку выкладання фактаў і многіх іншых прычын.

Вольга БРЫЛОН

# КОЖНАЯ ПРЭМ'ЕРА — ПАДЗЕЯ ВЯЛІКАЙ ЗНАЧНАСЦІ*

**Бляск і галеча «Люцыяна ТАПОЛІ»**

**Rondo-опера Ларысы СІМАКОВІЧ паводле аднайменнай паэмы Максіма ТАНКА (канцэртнае выкананне)**

**Дзеючыя асобы і выканаўцы:**

*Люцыян Таполя — Ян Жанчак.*

*Тэкля — салістка Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь Дыяна Трыфанава.*

*Біскуп — саліст Нацыянальнага акадэмічнага народнага аркестра Рэспублікі Беларусь імя І. Жыновіча, лаўрэат міжнародных конкурсаў Ігар Задарожны.*

*Праўда — Ларыса Сімаковіч.*

*Галашэнніцы — фальклор-тэатр «Госціца».*

*Манахі, шляхта, народ — Дзяржаўная акадэмічная харавая капэла Рэспублікі Беларусь імя Р. Шырмы. Мастацкі кіраўнік — народная артыстка Беларусі Людміла Яфімава, хормайстар — Дзмітрый Хлявіч.*

*Нацыянальны акадэмічны народны аркестр Рэспублікі Беларусь імя І. Жыновіча. Мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор — народны артыст Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі рэспублікі, прафесар Міхаіл Казінец.*

*Прэм'ера адбылася 12 снежня 2012 года.*

Без перабольшання, гэта — самая высокая творчая вяршыня, якую пакарыў аркестр за ўсю сваю васьмідзесяцідвухгадовую гісторыю. Спецыяльна для нашага калектыву напісана опера. Напісана паводле твора беларускага паэта на сюжэт з беларускай гісторыі. Цалкам нацыянальны прадукт, што абсалютна заканамерна, бо аўтарам выступіла, зноў-такі, Сімаковіч з яе спрадвечнай апантанасцю ідэяй беларускага адраджэння.

У дадзеным выпадку слова «адраджэнне» было адрасным нават па сюжэце, падзеі якога разгортваліся ў эпоху Рэнесансу. Найцікавейшае, складанейшае музычнае палатно, свайго роду музычны Эверэст, «Люцын Таполя» заваяваны аркестрам імя Жыновіча зусім няпроста.

* Заканчэнне. Пачатак у № 10, № 12 2013 г.

Пісаць, што галоўнай рухаючай сілай гэтай вялікай творчай перамогі стаў Казінец, надзвычай пафасна і банальна, але гэта менавіта так. Калі б не Міхаіл Антонавіч, «Таполя», магчыма, так і не ўбачыў бы святла рампы, — настолькі напружанай была абстаноўка, у якой рыхтавалася прэм’ера. І толькі Казінец з яго першапачатковай верай у гэты твор, з яго ўменнем згладжваць канфлікты і знаходзіць кампрамісы выратаваў сітуацыю.

Ён ініцыяваў гэты праект да 100-годдзя з дня нараджэння Максіма Танка. Міхаіл Антонавіч вырашыў паставіць творчы эксперымент і заказаць для аркестра імя Жыновіча вялікі твор паводле народнага паэта. Гэта ідэя знайшла паразуменне ў Міністэрстве культуры, там паабяцалі фінансава падтрымаць праект.

Пытання, хто будзе пісаць музыку, у Казінца нават не ўзнікала. За два апошнія гады творчага супрацоўніцтва з Сімаковіч ён літаральна ўлюбіўся ў яе рэнесансны шматгранны талент. Ён і цяпер паўтарае: «Я схіляюся перад Сімаковіч!»

Ідэя адзначыць юбілей Танка вялікай прэм’ерай супала па часе з падрыхтоўкай «Песні пра долю», калі Казінец і Сімаковіч працавалі ў шчыльным творчым кантакце. Таму прапанова напісаць для аркестра новы твор паводле Максіма Танка была заканамерным і жаданым працягам іх сумеснай працы. І зноў Міхаіл Антонавіч пакінуў Ларысе поўную свабоду выбару. Яна спыніла сваю ўвагу на паэме «Люцыян Таполя».

І зноў — яе ўлюбёная тэма адраджэння духоўнасці і прызначэння Мастака сваімі творамі ўзнімаць людзей да вяршынь высакародных ідэалаў. Падзеі паэмы адбываюцца ў далёкім мінулым. У часы, калі на нашай зямлі «ўздоўж Віллі і Нёмна» жыў выдатны народны мастак-разьбяр Люцыян Таполя, панаваў дыктат езуіцкай царквы, і царкоўныя каноны лічыліся адзіна дапушчальнай формай ідэалогіі. Творчасць Таполі не ўпісвалася ў царкоўныя догмы, бо была надта зямной і шчырай, прыносіла радасць людзям: пад яго разцом вобразы апосталаў і прарокаў атрымліваліся больш падобныя «да сялян смаргонскіх, да вілейскіх лесарубаў, рыбакоў». А вось свайго пана ён паказаў у выглядзе Ірада, які «меў шляхецкі ўбор і хітры твар лісіцы і ў руках бізун, якім батожыў мужыкоў заўсёды».

Біскуп Сямяшка ўгледзеў у драўляных скульптурах Таполі ерась і забараніў яму займацца творчасцю цэлых 10 гадоў. Яны прамінулі для Таполі ў тузе па родных мясцінах, ад якой ён так змяніўся, што, калі вярнуўся, нават сябры не пазналі яго. Не пазнаў і біскуп Сямашка, які задумаў будаваць новую святыню і даручыў гэта будаўніцтва Таполі. Ён перахітрыў Сямашку. На самай вяршыні пабудаванай вежы размясціў выразаных ім страшэнных хімер: «паўставалі здані, featuresрознае страхоцце, розныя звяры з людскім аблічам» — «тыя, што хацелі знішчыць, пагасіць святло ў ягоным сэрцы». І калі Сямашка, пачаўшы службу, паглядзеў угору, то на званіцы ўбачыў постаці ўсіх гэтых пачвар. Так адпомсціў Таполя за доўгія блуканні і нанесеныя крыўды.

Постаць Люцыяна Таполі — народнага ўмельца, разьбяра па дрэве — гэта вобраз абсалютнага Мастака, працэс творчасці для якога — адзіна магчымая форма існавання, тое натуральнае асяроддзе, без якога ён не можа ні жыць, ні дыхаць: «ён хацеў пакінуць пакаленням след жыцця свайго, сваіх пакут, сказ пра мары, пра свае імкненні».

Забарона на творчасць азначае яго духоўную смерць. Таму Люцыян Таполя знайшоў у сабе сілы ўступіць у адзінаборства з езуітамі і выйшаў пераможцам з гэтага адчайнага паядынку. След Таполі згубіўся, і ніхто не здолеў злавіць яго. Таполя нібы растварыўся недзе сярод людзей і стаў, як Робін Гуд, няўлоўным героем народных легенд и паданняў.

Стваральная сіла вялікага мастацтва заўсёды перамагае цемрашальства ў самых розных яго праявах. Гэта ўніверсальная формула пацвярджаецца ва ўсе часы існавання чалавецтва.Такі маральны пасыл паэмы Танка «Люцыян Таполя».

У сюжэце паэмы няма дыялогаў, аповед ідзе ад імя аўтара. Пры гэтым паэма невялікая па аб'ёме. Сімаковіч «нарасціла» яе ўстаўнымі вершамі, расшырыла вобраз каханай Таполі Тэклі, які ў паэме толькі абазначаны. Дзякуючы гэтаму Таполя і Тэкля «загаварылі», і з'явілася так званая «любоўная лінія». Цікавай фарбай, якая ўпрыгожыла музычна-драматургічную тканіну оперы, сталі народныя спевы дзвюх Галашэнніц, якія аплаквалі зніклага Таполю.

Але галоўным новаўвядзеннем у лібрэта оперы аказаўся персанаж пад імем Праўда, які адсутнічаў у паэме. Праўда заўсёды — па-за межамі сюжэта, які ўвесь час нібы рухаецца па крузе і таму непазбежна зноў і зноў сустракае Праўду. Увядзенне гэтага вобраза Праўды канчаткова вырашыла ідэйны змест і форму твора, якому Сімаковіч дала падзагаловак «Rondo-опера».

З песні Праўды пачынаецца дзея, і потым пастаянным рэфрэнам Праўда некалькі разоў нечакана з'яўляецца ў ключавых сцэнах оперы. Гэты мастацкі прыём красамоўна падкрэсліваў аўтарскае крэда кампазітара, якое Сімаковіч — зноў-такі, праз вобраз Праўды — выказала тэкстам верша Танка: «Дарма пра песню пытацца ў глухога, пра сонца — ў сляпога, пра слодыч жыцця — ў нежывога, і праўду шукаць у таго, хто нічога — ані сцяблінкі, ні дрэўца малога — не пасадзіў за свой век на разлогах»...

З выбарам салістаў на гэты раз не было цяжкасцей. Роля Таполі прызначалася аўтарам Яну Жанчаку, на Тэклю Сімаковіч параіла запрасіць салістку опернага тэатра Дыяну Трыфанаву, а на ролю Біскупа Міхаіл Антонавіч прызначыў саліста аркестра імя Жыновіча Ігара Задарожнага. Для выканання ролі Праўды аўтар прапаноўвала кандыдатуры салістак «Госціцы», але ў рэшце рэшт ёй давялося спяваць гэту партыю самой.

Казінец адразу ж вызначыў Сімаковіч дату прэм'еры — 30 кастрычніка — і паставіў умову падрыхтаваць нотны матэрыял да пачатку верасня, калі аркестр выходзіў на працу пасля адпачынку. Ларыса жахнулася: часу амаль не заставалася! Калі на першых праектах яго адводзілася нават зашмат, дык цяпер адчуваўся відавочны цэйтнот. У гісторыі з «Люцыянам Таполяй» гэта акалічнасць адыграла сапраўды злы жарт. Патрабавалася выпусціць прэм'еру оперы ўсяго за два месяцы! Ніводзін тэатр у свеце не рыхтуе працы падобнага кшталту за такі сціслы тэрмін!

Можна ўявіць сабе, з якой шалёнай інтэнсіўнасцю працавала Сімаковіч, каб не падвесці Казінца! Бо на пачатку верасня аркестр усё ж атрымаў ноты. Музыканты, шчыра сказаць, адразу прынялі «Таполю» ў штыкі. Дык хіба ж гэта адкрыццё пры пастаноўцы новых твораў? «Нет повести печальнее на свете, чем музыка Прокофьева в балете», — такі здзеклівы перыфраз паводле Шэкспіра сачынілі падчас падрыхтоўкі прэм'еры балета Пракоф'ева «Рамэа і Джульета». А знакамітая «лічылка на адзінаццаць», прыдуманая ў жарт музыкантамі сімфанічнага аркестра, каб лягчэй выконваць музыку ў памеры $^{11}/_{4}$ на рэпетыцыях новай оперы Рымскага-Корсакава «Снягурка» — «Рим/ский/Кор/са/ков/сов/сем/с у/ма/со/шёл»!

Усё гэта — гістарычныя факты, якія красамоўна сведчаць пра тое, што наватарская музыка заўсёды няпроста знаходзіла і знаходзіць шлях да свайго слухача і прыжываецца ў свядомасці. У дадзеным выпадку музыканты аркестра Жыновіча мелі перад сабой цалкам незнаёмы матэрыял, напісаны сучаснай музычнай мовай. У многіх сцэнах Сімаковіч ужывала прыёмы стылізацыі. Каб надаць музыцы падабенства да старадаўняга рэнесанснага харавога і інструментальнага гучання, яна скарыстала характарныя мадальныя лады і ўнісонныя манадыйныя спевы, традыцыі якіх паходзяць ад грэгарыянскіх харалаў. Па гучанні ўсё гэта магло ўспрымацца як нейкія схаластычныя, абстрактныя і неадухоўленыя музычныя канструкцыі, сэнс якіх зразумець тым больш складана, што на стадыі развучвання на рэпетыцыях няма ні салістаў, ні хору. Але галоўнай складанасцю

для выканання стаў «плаваючы» памер, які пастаянна мяняўся і які трэба было ўвесь час механічна падлічваць, не адрываючыся ад рукі дырыжора і пастаянна баючыся прамахнуцца.

Калі я пацікавілася ў аднаго з музыкантаў аркестра, як ідуць рэпетыцыі «Таполі», адказ быў такі:

— У зале стаіць тупат ног: усе лічаць памер!

Але Міхаіл Антонавіч катэгарычна не дапускаў у аркестры ніякіх прылюдных выказванняў і негатыўных абмеркаванняў музыкі Сімаковіч. Ён адразу ж узяў гэты твор пад сваё крыло, адразу ж убачыў яго бясспрэчныя мастацкія вартасці, якія як музычны кіраўнік пастаноўкі ўзяўся абавязкова раскрыць перад музыкантамі. У гэтым яго прызначэнне, яго мастацкая місія, якую ён у рэшце рэшт выканаў бліскуча. Ды ўсё ж на першапачатковай стадыі рэпетыцый супрацiўленне матэрыялу з боку аркестра было даволі адчувальнае.

Праца над «Таполяй» працякала паралельна ў дзвюх рэпетыцыйных залах — аркестра імя Жыновіча і харавой капэлы імя Шырмы, з якой рэпеціраваў хормайстар Дзмітрый Хлявіч. Харавым сцэнам у партытуры «Люцыяна Таполі» адведзена вельмі значная роля. Па сутнасці, хор быў такім жа важкім персанажам, як вядучыя салісты.

На жаль, з прычыны недахопу часу Сімаковіч здолела прадаставіць нотны матэрыял для харавой капэлы толькі ў сярэдзіне верасня, пры гэтым паставіла задачу вывучыць яго на памяць. Задача вельмі складаная. Па-першае, у капэле паралельна ішла падрыхтоўка яшчэ двух праектаў, а часу да прэм'еры «Таполі» заставалася ўсяго нічога. Па-другое, нотны матэрыял аказаўся не ў парадку. І добра, калі б гэта толькі памылкі ў партыях, — гэту праблему Хлявіч разам з Сімаковіч вырашылі ў адзін вечар, праседзеўшы некалькі гадзін над іх выпраўленнем.

Калі Міхаіл Антонавіч запрасіў капэлу на рэпетыцыі ў аркестравую залу, узніклі непаразуменні творча-арганізацыйнага плана: аказалася, што лічбы ў партытурах Казінца і Хлявіча не супадаюць, таму артыстам цяжка сарыентавацца ў матэрыяле, і яны не разумелі пажаданняў дырыжора. Казінец тлумачыць ім адно, а ў іх нотах патрэбнае месца пад іншай лічбай. Так атрымалася з-за таго, што Ларыса спешна дапісвала асобныя сцэны і на хаду пастаяна ўносіла змяненні ў напісанае раней.

Непадрыхтаванасць нотнага матэрыялу была галоўным тормазам рэпетыцый. Станавілася ўсё больш і больш зразумелым, што ажыццявіць пастаноўку «Таполі» ў прызначаны тэрмін — 30 кастрычніка — не атрымаецца. Тады Міхаіл Антонавіч вырашыў перанесці яе на 12 снежня. Праўда, у гэты дзень меркаваўся паўторны паказ «Апокрыфа», але гэтым праектам ахвяравалі, каб давесці да ладу «Люцыяна Таполю».

Адтэрміноўка прэм'еры давала яшчэ два месяцы падрыхтоўкі, хоць на сцэне філармоніі аркестр мусіў удзельнічаць яшчэ ў дзвюх новых канцэртных праграмах: «Віртуозы цымбалаў» (14 лістапада) і сольным канцэрце Ігара Задарожнага (27 лістапада). І вось у такім напружаным і шчыльным графіку Казінец працягнуў рэпетыцыі з аркестрам і салістамі, а Сімаковіч як рэжысёр тым часам актыўна ўкаранялася ў работу капэлы. Яна па-ранейшаму настойвала, каб нотны матэрыял харысты вывучылі на памяць, бо, па яе задуме, хор павінен развярнуцца спінай да дырыжора.

Такая практыка, канечне ж, у свеце існуе, але пры неабходным тэхнічным аснашчэнні. Перад дырыжорскім пультам устаноўліваецца відэакамера, а перад харыстамі, адпаведна, — маніторы. Тады яны могуць сінхронна ўзаемадзейнічаць. Але ў філармоніі такая высокатэхналагічная апаратура адсутнічае. А музыка, напісаная Ларысай, наскрозь поліметрычная, і без дырыжорскай падтрымкі яе цяжка выконваць нават салісту. А тут хор, ды яшчэ павернуты спінай да дырыжора.

Задача, якую ставіла Сімаковіч, была невыканальная. Калі хормайстар Дзмітрый Хлявіч сказаў пра гэта ёй, яна запярэчыла:

— Не хвалюйцеся, у кожнага ёсць рытмічнае пачуццё!

— Так, але яно ў кожнага сваё! — адказаў Хлявіч.

І тым не менш Ларыса па-ранейшаму кіравалася выказаным услых прынцыпам: «Хор будзе рухаць дзею». Але, чым больш яна паглыблялася ў рэпетыцыйны працэс, тым больш гэта выклікала незадавальненне ў харыстаў. Усе ўжо даўно прачыталі паэму «Люцыян Таполя», аднак з-за таго, што лібрэта адрознівалася ад яе тэксту, многія мізансцэны артысты не разумелі. Калі адна харыстка папрасіла растлумачыць сэнс асобнай сцэны, Сімаковіч адказала, што ведаць гэта неабавязкова, усё складзена ў галаве рэжысёра і трэба папросту выконваць тое, што ён загадвае.

Другі раз яна нечакана запатрабавала ад хору матэрыял, завучаны на папярэдняй рэпетыцыі цалкам спяваць па-іншаму. Пры гэтым хормайстар вымушаны быў рэпеціраваць па партытуры, бо клавір, прадастаўлены аўтарам, моцна адрозніваўся ад аркестравай партытуры. Усё гэта, безумоўна, раздражняла артыстаў і стварала невыносна нервовую абстаноўку. У рэшце рэшт нехта сказаў са злосцю:

— Які здзек!

Па сутнасці, гэта стала каментарыем таго, як Сімаковіч-рэжысёр узаемадзейнічала з хорам. Была выказана незадаволенасць арганізацыяй рэпетыцыйнага працэсу, не больш за тое. Але пазней Ларыса ў інтэрв'ю «Еўрарадыё» скажа літаральна: «Маю музыку назвалі здзекам».

Так ці інакш, але менавіта пасля ўсіх гэтых непаразуменняў і ўзаемных прэтэнзій Сімаковіч адмовілася займацца рэжысурай «Таполі». Міхаілу Антонавічу, пастаўленаму перад фактам, нічога не заставалася, як прыняць рашэнне аб канцэртным выкананні твора.

Ён здолеў наладзіць аптымальна зручны графік, дзякуючы якому рэпетыцыі ішлі вельмі прадуктыўна. Дырыжор адкрываў усё новыя і новыя старонкі музычнай партытуры. Грунтоўная праца давала плён, бо музыка «Таполі» паступова асэнсоўвалася аркестрантамі, станавілася ім зразумелай.

Асабліва ўзрушалі сцэны з фальклорнымі галашэннямі. Спевы вакалістак з «Госціцы» дасягалі такога ўзроўню экзальтацыі, што ўзнікала падабенства з нацягнутай струной, якая ад самага малога дакранання можа разарвацца ў любую хвіліну. Казінец вельмі тонка адчуў абвостраны эмацыянальны стан гэтай сцэны.

У аркестры ж ішло паступовае налажэнне дысанантнага акорда. Ён ствараўся з трэмаліруючых гукаў, якія, уступаючы па чарзе, выконвала кожная з цымбальных груп. Міхаіл Антонавіч прапанаваў надаць гэтаму акорду яшчэ большы каларыстычны эфект, скарыстаўшы хвалевае crescendo. Аркестр быццам ствараў моцную нарастаючую гукавую варонку, у якую траплялі аўтэнтычныя спевы Галашэнніц. Гэта каштоўная дырыжорская знаходка спарадзіла адну з самых узрушальных старонак оперы.

Пачаліся інтэнсіўныя рэпетыцыі з салістамі. Задарожны, які толькі што з вялікім поспехам адспяваў з аркестрам сольны канцэрт, нечакана для сябе паўстаў у парадыйным вобразе Біскупа. Сімаковіч вырашыла яго партыю арыгінальным чынам: Біскуп не столькі спявае, колькі «падае голас». Яго партыя — гэта выключна санорная фарба. Ён безаблічны, бясслоўны персанаж, які выказваецца толькі гукавымі рэплікамі закрытым ротам, ці папросту... мычыць. Ігар, якога ўсе ўспрымалі выключна выканаўцам лірычных песень, раптам паўставаў у абліччы напышлівага і грознага Біскупа — душыцеля ўсяго жывога і існага.

Надзвычай сур'ёзна паставілася да ролі Тэклі Трыфанава. Уся пастановачная група на чале з дырыжорам літаральна закахалася ў гэту абаяльную маладую жанчыну! Ёсць такія людзі, якія зусім не стараюцца падабацца, але выклікаюць

агульную сімпатыю. Менавіта такой аказалася Дыяна. Спявачка ўразіла ўсіх прыгажосцю свайго голасу і высокай выканальніцкай культурай.

Я звярнула асобную ўвагу на яе выдатную беларускую мову ў спевах і была вельмі здзіўлена, даведаўшыся, што Дыяна не гаворыць па-беларуску, бо яны з мужам жылі і вучыліся на Украіне, адкуль і пераехалі ў Мінск параўнальна нядаўна (муж Дыяны Стас Трыфанаў — таксама саліст беларускай оперы).

Праца над роляй Тэклі была першым знаёмствам Трыфанавай з аркестрам Жыновіча. Міхаіл Антонавіч акружыў яе павагай і сваёй заўсёднай далікатнасцю стварыў самыя спрыльныя ўмовы для рэпетыцый. Дыяна была вельмі кранута і ўвесь час гаварыла:

— Божа, як у вас добра! У нас жа ў тэатры на рэпетыцыях усе сварацца, а тут так камфортна!

Трыфанава выканала просьбу Ларысы вывучыць матэрыял на памяць і не адмовілася ад гэтага нават тады, калі было вырашана выконваць твор у канцэртным варыянце, гэта значыць, на сцэне можна карыстацца нотамі. Дыяна ўскладніла сабе задачу, чым прыемна ўразіла і Казінца, і Сімаковіч, тым больш, што партыя Тэклі даволі разгорнутая і ўключала не толькі арыі, але і дуэты з Таполям, і спевы ў харавых сцэнах. І ўсё гэта Трыфанава выканала на памяць, як прывыкла ў тэатры. Сваёй абаяльнасцю, нейкай асаблівай, уласцівай толькі ёй элегантнасцю і высокім прафесійным майстэрствам яна так упрыгожыла ролю Тэклі, што цяжка ўявіць лепшую выканаўцу гэтай ролі.

Задача Дыяны ўскладнялася яшчэ і тым, што амаль да самай прэм’еры яна спявала без партнёра, Жанчака. Ён якраз прайшоў на фінальны адбор конкурсу «Еўрабачанне», выхад у эфір мусіў адбыцца 7 снежня. Жанчак падпісаў кантракт з БТ, паводле якога ўвесь яго перадэфірны тыдзень распісаны па гадзінах. Выконваючы ўмовы кантракту, не мог прысутнічаць на рэпетыцыях аркестра. Але запэўніў Казінца, што за пяць дзён, якія заставаліся да прэм’еры пасля тэлеэфіру, «ўсё будзе адпаліравана да бляску».

Міхаіл Антонавіч успрыняў гэту інфармацыю даволі спакойна. Па-першае, з Янам працавала Ларыса, якая вывела яму камп’ютарныя акампанементы ў праграме «Фінал», таму мог ён дома спакойна вучыць партыю «пад камп’ютар». А па-другое, Казінец за два гады працы з ім ужо засвоіў яго манеру экстрэмальна ўводзіцца ў спектаклі ў апошні момант. Ян прывык так працаваць, хоць далёка не кожны дырыжор-пастаноўшчык вытрымаў бы падобнае свавольства. Але Казінец усё дараваў Жанчаку за яго бязмерны талент.

— Я да Яна адношуся некрытычна і нічога не магу з сабой зрабіць, — заўсёды паўтарае ён.

Між тым, дзень прэм’еры няўмольна набліжаўся, а па філармоніі прайшоў, карыстаючыся цытатай з Максіма Танка, «слых, як звон з высокае званіцы, слых, як на вадзе кругі ад камня», што ў стваральнікаў «Таполі» праблемы з пастаноўкай, у харавой капэле скандал з аўтарам, а дзяржзаказ пад пагрозай зрыву. Мастацкі кіраўнік філармоніі Юрый Гільдзюк быў не на жарт устрывожаны. Міхаіл Антонавіч таксама адчуваў сур’ёзнасць сітуацыі, але быў вельмі далёкі ад панікі. Наадварот, рабіўся ўсё больш і больш упэўнены за вынік, бо цяпер і хор, і аркестр, і салісты падрыхтаваліся па максімуму.

З кожнай рэпетыцыяй здымаліся выканальніцкія пытанні, як здымаюцца непатрэбныя напластаванні пад рукой мастака-рэстаўратара, і адкрываецца мастацкі шэдэўр. А тое, што Сімаковіч стварыла сапраўдны музычны шэдэўр, было ўжо зразумела многім, нават тым, хто папярэдне зусім не прымаў гэтай музыкі. Адзін з артыстаў капэлы прызнаўся Дзмітрыю Хлявічу:

— Хочаш вер, хочаш не, але я закахаўся ў гэту музыку!

Дый у аркестры з’явіўся зусім іншы настрой — пазітыўны і прыязны. Але Ларыса, на жаль, не верыла ў шчырасць кампліментаў. Гэта толькі яшчэ больш

злавала і раздражняла яе. З такім незадаволеным настроем яна прыходзіла на рэпетыцыі, на якіх ёй усё не падабалася, і яна не хавала эмоцый. Казінец быў вельмі заняты працай за пультам і не мог чуць усяго таго, што гаварылася ёю «а партэ», і дзякуй богу! А Сімаковіч тым часам ужо адкрыта выказвалася, што не хоча гэтай прэм’еры і не ведае, як яе прадухіліць. Яна абуралася, што прададзена мала білетаў, няма, як ёй здавалася, адпаведнай рэкламы. Потым яна забараніла пазначаць сваё імя на праграмцы і ў выпадку невыканання гэтай просьбы прыгразіла забраць партытуру. Усё адбывалася пасля рэпетыцый і без удзелу Міхаіла Антонавіча.

Дырэктар аркестра Барыс Ліўшыц стараўся не ўмешваць яго ў гэты канфлікт, каб лішні раз не тузаць і берагчы яго сілы перад прэм’ерай. За дзень да яе, калі трэба было зацвярджаць друкаваную праграмку, я як рэдактар усё ж вырашыла пакінуць прозвішча Сімаковіч, пра што і заявіла ёй па тэлефоне.

— Калі так, то я пакідаю за сабой права нявыхаду на апладысменты! — сказала Ларыса і паклала трубку.

Ян Жанчак не стаў пераможцам «Еўрафэста», затое пасля эфіру злёг з прастудай на два дні, і з’явіўся толькі на перадапошні прагон 10 снежня, абсалютна хворы, замотаны ў шалік. Сіпеў і хрыпеў, але ўсё ж неяк спяваў. Яго нумары аказаліся вельмі эфектнымі, і яны з Трыфанавай склалі выдатны дуэт. На другі дзень намецілі здачу спектакля мастацкаму савету філармоніі.

Казінец, стомлены гэтым доўгім марафонам, знешне выглядаў спакойным. Калі члены мастацкага савета занялі свае месцы ў глядзельнай зале, ён няспешна падышоў да пульта, а потым нечакана прайшоў далей, у глыбіню сцэны, звяртаючыся да артыстаў, а потым і да аркестра, сказаў аб тым, наколькі важнай і значнай была праца над «Люцыянам Таполяй» і падзякаваў усім за магчымасць супрацоўнічаць разам. Простыя словы сталі наказам перад здачай спектакля, і Міхаіл Антонавіч правільна зрабіў, сказаўшы іх менавіта перад паказам «Таполі». Гэта быў жэст удзячнасці, але і момант тонкай псіхалагічнай настройкі. Здавалася, музыканты толькі і чакалі такіх шчырых слоў, якія адразу ж разрадзілі абстаноўку і супакоілі ўсіх. Артысты тут жа злавілі гэтыя флюіды добразычлівасці, якія паслаў ім маэстра, і ўвесь прагон прайшоў літаральна на адным дыханні.

Паўтары гадзіны праляцелі, як адно імгненне. І вось ужо гучыць экстатычны фінальны хор з мноствам разоў паўторанымі словамі «Люблю цябе, краіна», які раптам пачынае «рассыпацца», губляць гукавую магутнасць, марнець і пастунова ператвараецца ў бяссільны шэпт, а потым і ўвогуле — у бязгучную дэкламацыю гэтага пафаснага лозунгу адной толькі мімікай губ.

Пастунова прыцямняецца святло, і Праўда-Сімаковіч спявае свой сакраментальны маналог, які падхопліваецца красамоўным сола флейты. Святло канчаткова згасае, сцэну агортвае змрок, таму голас флейты гучыць яшчэ больш адзінока і пранізліва. Гэта — тое сапраўднае, што хаваецца пад шырмай гучных лозунгаў, гэта — голас кожнага з тых, у кім жыве сумленне і боль за лёс сваёй краіны і яе народа.

Калі мастак па святле Міша Ангерт зноў запаліў у зале святло, было адчувальна, што ўсе мы сталі сведкамі нечага вялікага і значнага. Усе прысутныя былі ўсхваляваны пачутым, нават бясстрасны мастацкі кіраўнік філармоніі Юрый Гільдзюк не стрымліваў эмоцый. Ён падняўся на сцэну, пацiснуў руку Міхаілу Антонавічу і сказаў цёплыя словы ў адрас усіх стваральнікаў спектакля. Усе віншавалі адзін аднаго, і нават Ларыса ўсміхалася і выглядала задаволенай.

Прэм’ера сабрала не вельмі шмат гледачоў, але партэр з большага запоўніўся. Прыйшла элітная, чуйная публіка, якая ацаніла і музыку, і работу ўсяго пастановачнага калектыву. Праўда, на мой погляд, не было таго напалу, той асаблівай эмацыянальнай прыўзнятасці, якая панавала падчас здачы. Напэўна, гэта і закана-

мерна, бо ніколі не бывае двух аднолькавых паказаў спектакляў. Тым не менш, публіка прыняла «Люцыяна Таполю».

Нельга было не захапіцца маштабам гэтай вялікай працы, нельга было не адгукнуцца на музыку — можа, часам і складаную, але вельмі глыбокую і ўразлівую. Нельга было не ацаніць майстэрства салістаў, аркестра, хору. Гледачы адказалі артыстам шчырымі апладысментамі.

Як вядома, паклоны — асобная частка канцэрта. У гэтай цырымоніі свае законы, з якімі публіка добра знаёма. І вось усе артысты ўжо некалькі разоў выходзілі па просьбе гледачоў, Міхаіл Антонавіч шырокім жэстам зноў і зноў выводзіў іх на авансцэну, а сам занепакоена паглядваў за кулісы ў чаканні Сімаковіч. Паўза з яе выхадам зацягнулася. Больш у той вечар мы Ларысу так і не ўбачылі.

Гэтым сваім учынкам Сімаковіч ставіла тлустую кропку ў супрацоўніцтве з аркестрам Жыновіча. Яна не здолела пераступіць праз свае крыўды, хоць шмат у чым сама справакавала канфліктную сітуацыю, да якой Казінец не меў ніякага дачынення. Ён займаўся выключна творчасцю — як кажуць, спаў і бачыў «Люцыяна Таполю» на сцэне. Даў гэтаму твору жыццё, нарадзіў яго, адкрыў яго для ўсіх, нястомна працуючы тры з паловай месяцы, а ў адказ не атрымаў ад аўтара нават простых слоў удзячнасці... Іншы б на яго месцы, як пісаў Купала, «выракся б навекі». А вось Казінец аказаўся на вышыні. Пасля прэм'еры, калі ўсе разыходзіліся дадому, Міхаіл Антонавіч сам патэлефанаваў Сімаковіч і падзякаваў за сумесную працу. Я была сведкай гэтай размовы і бачыла, наколькі ён у гэты момант быў шчыры і якімі цёплымі словамі літаральна абдорваў Ларысу.

Гэта быў яшчэ адзін урок яго чалавечай мудрасці і велікадушнасці. Ён умее дараваць, умее радавацца чужым поспехам. Можа, у гэтым — сакрэт яго ўласнага шанцавання, яго поспеху?..

Станіслаў КРЭПСКІ

# ПАДАРОЖЖА НА МАЛУЮ РАДЗІМУ

Каму ж не падабаюцца вандроўкі па родным краі? Зачароўваюць нарачанскія азёры. А чым горшыя лепельскія? А хто не быў на Палессі, той наогул многа страціў.

Усюды харастве бязмерная прастора, аж дух захоплівае. Ажно хочацца ўскрыкнуць ад напаўняючых сэрца пачуццяў: «Якая ж ты прыгожая, Радзіма!» Яно ж, вядома, недзе і казах у Каракумах млее ад відовішча барханаў, а мяне вабяць зусім іншыя краявіды. Тыя казахскія я бачыў — нейкія сумныя, маркотна-тужлівыя, незразумелыя, неяк напружваюць нервовую сістэму, страшаць невядомымі пагрозамі.

Зусім іншыя пачуцці на Радзіме.

Як каму, а мне па сэрцы і падарожжы на малую радзіму, дзе ўпершыню ўбачылі свет мае бацькі, дзяды і нават прадзеды.

Адным з такіх мілых сэрцу куточкаў беларускай зямлі з'яўляюцца вёскі Раўчак і Баравая, што ў Пухавіцкім раёне, дзе жылі мае прашчуры, дзе прайшло і маё басаногае дзяцінства.

Праўда, сэрца балюча сціскаецца ад усведамлення, што гэта ўжо іншыя вёскі, бо не сустрэць мне на іх вуліцах тых Крэпскіх. Варатніцкіх зусім няма, як і Чэкатоўскіх, Дашкевічаў, Гуткоўскіх, Дубовікаў, Масілевічаў, Міцкевічаў, Кавэцкіх, Халецкіх, Ажгірэяў, Няпомнікаў, Вернікоўскіх і Клюсевічаў.

Адзін Мікола Казак са сваёй жонкаю шчыруе на палетках сваіх прашчураў. Вядома, маю на ўвазе толькі тыя бацькавы соткі агароду, што надзяліў яму калгас. А некалі яны вымяраліся дзясяткамі гектараў. Але гэта «памятаюць» толькі дзве велізарныя лістоўніцы, якія «гавораць», што людзі тут жылі сур'ёзныя і заможныя.

Па суседстве жыў яго родны дзядзька Кастусь Казак. Бацька Міколы Іван Казак быў суседам майму дзеду Антосю Варатніцкаму. Вельмі паважаныя людзі. Між імі ніколі не існавала супярэчнасцей: ні за курэй, ні за свіней, альбо кароў. Гаспадаркі былі дагледжанымі ў вышэйшай ступені.

У Раўчаку жыве той дваюрадны дзед Адась Луцэвіч, брат маёй бабулі Мані — Луцэвіч-Варатніцкай. Праўда, у нас кажуць не ў Раўчаку, а на Раўчаку, бо раўчак — гэта ручай, а ў ручаі жывуць жабы, а людзі зверху.

Баравая... Тут жылі мае прашчуры Дземідовічы, адсюль на свет пайшла мая бабуля Адольфа Дземідовіч-Крэпская, тут жылі яе блізкія сваякі Аляшкевічы, Бакінаўскія, Дамброўскія. Пасяліліся і заможныя гаспадары Дубовікі, Каляды. Неяк я сустрэў на вуліцы Баравой старэнькую Алену Каляду-Дубовік. Яна ў размове ўспомніла сваё дзяцінства ў 30-я гады XX стагоддзя і плакала, быццам было гэта ўчора, успамінала свайго бацьку, якога забралі як кулака бальшавікі, а іх пакінулі ў галечы і нястачы.

Дарагія мае землякі, я і сягоння помню вас, вашы постаці ў памяці праходзяць перада мною, памятаю вашы галасы. Яшчэ студэнтам філалагічнага факультэта, знаходзячыся ў 1967 годзе на фальклорнай практыцы, кіраўніком

якой быў Ніл Гілевіч, я запісаў песні, паданні, прыказкі, прымаўкі і нават адну казку маіх землякоў.

Як мне падабаюцца палеткі маёй малой радзімы, якія духмяныя растуць тут травы! Яшчэ ў дзяцінстве бабуля Маня навучыла мяне збіраць гаючыя зёлкі. У мяне і сёння яны ёсць, не з той пары дзяцінства, а са збору кожнага года. Мне здаецца, каб не яны, то мяне, удзельніка ліквідацыі наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС, ужо не было б на свеце.

Падабаюцца мне вандроўкі на вясенняе балота, калі зацвітае багун. Перад вачамі рассцілаецца бела-ружовы абрус з ярасна духмяных кветак, які як бы завіс у празрыстым паветры над буравата-зялёным покрывам моху і леташняга ягадніку журавін. Ад кветак струменіць буйны водар, таму трэба спяшацца наламаць крохкіх квяцістых багуновых галінак, каб залішне не надыхацца, таму што ён уздзейнічае на чалавека наркатычна, больш пятнаццаці—дваццаці хвілін яго нельга ўдыхаць. Спачатку становіцца неяк незаўважна весела, можаш нават заспяваць, а праз хвілін сорак настрой спадае і змяняецца лёгкім сумам. Выскачыш, бывала, з духмянай торбачкай галінак з кветкамі, і хутчэй дамоў, да бабулі, бо ёй патрэбен гэты лясны набытак для лячэння розных унутраных інфекцыйных захворванняў.

Аднойчы я завіхаўся каля аднаго куста багуну, як раптам убачыў недалёка ад сябе за чародкай невысокіх, каржакаватых балотных бярозак вялікага, буланага колеру, звера. Ён неяк няўмела ўскочыў, захістаўся на сваіх доўгіх нязграбных нагах-хадулях, а затым стаў уцякаць, пераскокваючы купіны ды паваленыя дрэвы. Мяне агарнуў жудасны страх. А раптам за тоўстымі ствaламі елак, адкуль я спусціўся да балота, у шатах векавых дрэў стаіць рагатая маці спалоханага ласяняці. Бо на самім балоце, а яно праглядвалася далекавата, яе не ўбачыў. Падумалася — жыў будзеш, калі ўцячэш. Але ж там, у ельніку, мой веласіпед. Асцярожна, перабежкамі, дабраўся да яго, схапіў і доўга бег, коцячы ў руках, бо ад перапуду забыўся, што пад нагамі ўжо цвёрдая сцежка і можна ехаць. Ускочыў на свайго жалезнага коніка, разагнаўся — пругкая плынь паветра ўдарыла ў твар, ён стаў прыемна ахалоджвацца, расчырванелы ад перажытага і фізічнай напругі. Колы веласіпеда выскачылі на бойкую дарогу і пакаціліся вальней.

Раптам заўважыў, быццам збоку, што еду і напяваю вясёлы матыўчык. Мільганула думка: багуновага водару хапіў лішку. Сам сабе ўсміхнуўся. Праехаў зарастаючы кустоўем вялікі луг Хмялінец, што знаходзіўся ў акружэнні лесу Катойшчына, за ім і пачыналася тое балота, што называецца Кішкар. Тут некалі спрабавалі свае косы мае прашчуры. Чаму спрабавалі? Бо асноўная касавіца пачыналася на лузе за ракой Свіслач — на Пакожары.

О Госпадзе, якая там прыгажосць: векавыя дубы-волаты ля самай ракі развесілі сваё жалудовае голле над стромкай плынню вады. Як мне падабалася ў летнюю спякоту ў іх цяньку вудзіць яршоў, печкуроў ды акунёў. Гэтыя віды рыб не вельмі патрабавальныя да прынады. Толькі паспявай чапляць дажджавога чарвяка. А ўжо як клюне, дык клюне, быццам сом папаўся, а выцягнеш — кату на зуб. Ёсць яшчэ адно цікавае месца — Тоня, гэта затока ад Свіслачы. Там лавіліся выключна акуні, пападаліся і плоткі, верхаводкі. Ды аднойчы я злавіў вялізнага ліня, які з’еў майго чарвяка і сам не зразумеў, куды ён уляпаўся. Я проста хацеў перанесці вуду бліжэй да чароту, бо яна доўгі час не падавала прыкмет жыцця. А як пацягнуў, то адчуў, што сёння патэльня будзе адпраўляцца ў печ не адзін раз.

Я і цяпер калі-нікалі наведваюся на Пакожар, каб нарваць позняй восенню чырвоных гронак каліны, якія багаты каліем, а ён карысны для сардэчнай мышцы. Гатую адмысловы на смак і водар кампот у сумесі з чырвонай рабінай. У гэты напой можна не дадаваць цукар — прыродны антыбіётык захоўвае яго пад металічнай накрыўкай да вясны. А зімой адкрыеш такі слоік — і зноў пабеглі перад вачыма краявіды малой радзімы. П’еш яе водар, яе энергію і становіцца целу лёгка і душы радасна.

Ніводзін краявід самай экзатычнай краіны так не кранае, як родны. Экзатычны — здзіўляе, а свой — песціць душу, радуе сэрца.

Зусім нядаўна выпадкова знайшоў у кніжнай шафе старую папку з паперамі і ледзь не задыхнуўся ад здзіўлення. Гэта ж вынікі маёй фальклорнай практыкі на радзіме. Здаецца, гэта тое, што ад яе засталося, а можа, нешта я пабаяўся ўключыць у сваю справаздачу. Памятаю, што песні-балады Зоні Гуткоўскай, якая была цешчай майму дваюраднаму дзеду Адасю Луцэвічу, я проста паленаваўся запісваць. А яна ж іх ведала!.. Шмат. Бывала так спявала ў полі, што і радыё не трэба. Былі ў яе рэпертуары песні гукання вясны, пасяўныя, на касавіцу, жніўныя, асеннія, зімнія, вясельныя. Мне здаецца, што добрую частку іх яна сама прыдумвала.

Зоня была жанчынай пісьменнай, але песні не запісвала, а ўсе трымала ў памяці. Я нават яе крыху пабойваўся, бо яна была вельмі жорсткая на язык. Ужо як адлае, ды пракляне, то другі раз чапаць не будзеш.Таму стараўся з ёй ладзіць, а яна ў сваю чаргу, калі звярталася да мяне, казала: «Скажы, дзіцятка маё…»

Зоня і лёсу цікавага жанчына — жонка Фінскага — камандзіра сувязных партызанскага атрада, што дзейнічаў у Пухавіцкім раёне. Фінскі ў 1944 годзе быў прызваны ў войска і ў Польшчы загінуў. Пасля вайны, недзе ў годзе 1950-м Зоня сышлася з жыхаром вёскі Раўчак Адамам Гуткоўскім, які за год да гэтага страціў жонку Ганьку. Цяпер так шкада, што ўсе гэтыя неардынарныя людзі адышлі ў Вечнасць, а я не дадумаўся ў свой час пагутарыць з імі як след, пачарпнуць іх прыродную мудрасць, розум. А зараз у пажаўцелай папцы засталося толькі тое, што я, магчыма, палічыў «лішнім» для справаздачы. Праўда, з гэтай народнай творчасцю роднага краю мне нідзе не давялося сустракацца, бо Гілевіч папярэджваў нас, каб збіралі рэдкае, невядомае, чаго яшчэ няма ў зборніках.

Сярэдзіна студзеня 1967 года, я, студэнт філалагічнага факультэта БДУ, еду дызелем дамоў у вёску Раўчак на зімовыя канікулы, здаўшы першую зімовую сесію, праўда, залік па лацінскай мове здаў з другога разу. У час падрыхтоўкі да экзаменаў я забег у сталоўку «Нарач», каб паабедаць. Сваю пухнатую папку з канспектамі і нейкімі кніжкамі пакінуў на крэсле пры століку, а сам пайшоў на раздачу, а калі вярнуўся — папка быццам растварылася. А ў ёй жа канспекты работ Леніна, а без іх на экзамен па гісторыі КПСС можаш не прыходзіць. Другі канспект па лацінскай мове, а ў ім сто прыказак Рымскай імперыі. Гэта быў жах, я ж столькі часу патраціў на канспектаванне.

Тады я навучыўся канспектаваць па прынцыпе «квінта сэнцыя», а яе я знайшоў у кароткіх нарысах па гісторыі КПСС і слоўніках. Прыйшлося пісаць размашыста, каб атрымліваўся нейкі аб’ём. Але гэта было самае лёгкае — здаў экзамен з адзнакай «добра».

Аднавіў і канспект па лацінскай мове, і ўсё гэта за 48 гадзін.

На першай спробе здаць залік выкладчык, прафесар Самуіл Ісакавіч Пільман, мяне спыніў:

— Вы яшчэ не гатовы, я вас прымушу сур’ёзна адносіцца да вывучэння лацінскай мовы.

Я не надаў ніякага значэння яго словам, але мяне здзівіла іншае:

— А канспект гэты хоць ваш? І калі вы яго пісалі? Я яго падпішу, а вы пастарайцеся прыходзіць да мяне, не ведаю колькі разоў, з ім.

Тады я падумаў, што можа з-за таго, што канспект быў залішне акуратны. Я ж перапісваў яго ў лепшых студэнтаў у новенькі сшытак, які меў яшчэ пах фабрычнай фарбы.

Другі раз, а гэта ўжо было пасля экзаменаў, я са сваім аднагрупнікам Сашам Міхневічам дамовіліся з Самуілам Ісакавічам на пераздачу. І там ён зноў мяне здзівіў:

— Вы, таварыш Макарэвіч, у мяне не апошні раз, цяпер я буду жартаваць з вамі.

Тут мой сябра здорава выручыў мяне:

— Самуіл Ісакавіч, гэта не Макарэвіч, а Крэпскі. Макарэвіч жа вучыцца на гістарычным факультэце. Дарэчы, ён вам ужо здаў залік.

Пільман неяк нервова ўхапіў маю заліковую кніжку, доўга глядзеў у яе, быццам нешта прыпамінаючы.

Тады ўстаў:

— Так, гэта памылка ідэнтычнасці.

Залік я здаў.

А зараз, пад стук колаў дызеля, абдумваў другі клопат: за час канікулаў патрэбна сабраць два вучнёўскія сшыткі фальклору сваёй мясцовасці. Праўда, Ніла Сымонавіча больш цікавілі значна аддаленыя ад сталіцы куткі Беларусі. А тут Пухавіцкі раён.

— Але давай паглядзім: можа, што незвычайнае, рэдкае ўдасца і табе знайсці.

— Пастараюся, Ніл Сымонавіч.

Уся справа ў тым, што я не хацеў летам ехаць на фальклорную практыку, бо збіраўся ў студэнцкі будаўнічы атрад.

Гледзячы ў акно дызеля, так неяк хутчэй беглі думкі, я перабіраў у памяці жыхароў сваёй малой радзімы: Раўчака, Грабаўя, Баравой і Наваполля.

Да першай, вядома, я звярнуся да сваёй бабулі Мані, затым да цешчы яе зводнага брата Адася Луцэвіча — Зоні Фінскай, а таксама да суседкі Надзі Дубовічыхі. У кіламетры ад Раўчака ёсць невялічкая вёска Баравая, а там жыве бабуля Калядзіха. На ўсход ад Раўчака, за лесам Ёдкаўшчына, прытулілася адным бокам да вялікага луга «Хмялінец» вёска Грабаўё, а там жыве бабуля Алеся Віткаўская.

Мае мясціны рэзка адрозніваюцца, напрыклад, ад Пухавіч, хаця да іх усяго чатыры кіламетры. Што ты хочаш,— звычайнае яўрэйскае мястэчка, праўда, былі і мужыкі, гэта значыць — праваслаўныя: Аўсянікі, Задоры, Андросікі, Пагірэйчыкі, Марозы, Шчукі, Ковелі, Жыльчыкі, Муліменькі. А ў маю ж вёску Раўчак пазвозілі з хутароў усю беззямельную, арандатарскую шляхту. Праўда, мае родныя ўжо мелі сваю зямлю. А ў Баравой і ў Наваполлі шляхцюкі жылі спакон веку: Вернікоўскія, Дамброўскія, Дземідовічы, Ждановічы, Клюсевічы, Бакіноўскія, Аляшкевічы, Федаровічы, Халецкія, Гуткоўскія.

А вазьміце саму назву Пуховічы (націск на другім складзе) перайменавалі на Пухавічы, бо, кажуць, тут быў кірмаш, дзе прадавалі гусей ды курэй, дык ад іх ляцеў пух. Не, браткі, Пуховічы, бо тут было паселішча братоў Пуховічаў, якія загінулі падчас шведскай вайны. Мы ж не кажам, напрыклад, Асіпавічы, не,— Асіповічы, бо гэта іх паселішча. Недалёка ад Шацка ёсць вёска Лявонавічы, дык там асноўнае прозвішча жыхароў Леановіч, дарэчы, сястра майго дзеда, Юзіка Крэпскага, па мужу таксама Леановіч.

За думкамі час прабег хутка.

«Наступны прыпынак, станцыя “Пухавічы”».

«Во, трэба здымаць з паліцы сваю сумку, і бліжэй да выхаду».

Са станцыі напрасткі, па вядомым мне з дзяцінства вулачкам, завулкам, бягу ў бок вайсковага гарадка. Вось і ён ззаду. А наперадзе лес Смалоўшчына, які некалі належаў пану Смалоўскаму. Пазнаю асобныя краявіды, крыжавыя дарогі, дрэвы-волаты. Вось елачка-прыгажуня, дзякуй богу, яе ніхто не ссек пад Новы год.

Вось я і дома, расказваю пра свае прыгоды падчас экзаменаў, хвалюся, што стыпендыю ў другім семестры мне дадуць.

Прыйшлі бабуля Маня і мая цётка Яня. Гледзячы на мяне, Яня ўсё войкала:

— Вой, вой, вой, што гэта вучоба робіць з дзіцем, які ж ты худзенькі, твар аж зялёнага колеру. Ты што там дрэнна харчаваўся?

— Не, цётачка, гэта мяне так кінула ў рост, дый нервовае напружанне ў час экзаменаў.

— Дык ты ж, пакуль скончыш універсітэт, высахнеш у трэску.

У размову уступіла бабуля Маня:

— Унучак, а ці будзеш ты атрымліваць гэтую спіз…ю, вой, не змагла выгаварыць, нешта дрэннае атрымалася.

— Сты-пен-ды-ю, бабуля, я пацвердзіў добрымі адзнакамі.

— Ну і дзякуй богу.

— Добра, бабуля, але я папрашу цябе з гэтай нагоды ўспомніць усе вядомыя табе паданні, песні, прыказкі, прымаўкі, а можа, і казкі з сівой даўніны. Гэта мне патрэбна для вучобы. Зразумела?

— Дзіва што — зразумела.

Тут бабуля спыталася:

— А ці ведаеш адкуль пайшло прозвішча Радзівілаў? Памятаю такое паданне. Жылі вельмі багатыя людзі: муж і жонка, даволі сталага веку. У іх усё было і ўсяго багата, але не даў ім Бог дзяцей. Аднойчы зімой стары пан выйшаў вечарам падыхаць перад сном марозным свежым паветрам, як раптам пачуў плач немаўляці. Глянуў у той бок і ўбачыў у развілцы дрэва вузельчык, у якім плакала дзіця. Пан ухапіў яго (вузельчык, вядома) і панёс у свой палац.

Гэта быў хлопчык. У гэты ж вечар знайшлі нянек і нават карміліцу. Як не шукалі маці-зязюлю — не знайшлі. Таму вырашылі, што гэта промысел Божы. І далі хлопчыку прозвішча Радзівіл, што азначала — народжаны ў вілах (дрэва).

Вось табе і Радзівіл Сіротка.

— Не, бабуля, гэта паданне запісваць не буду. Надта знатны і слынны род, таму, мабыць, і «тваё» паданне ўжо даўно вядома. Мне патрэбна нешта прасцейшае, пра што ніхто яшчэ не чуў. Вось ад чаго паходзіць прозвішча майго дзеда Антося Варатніцкага?

— Гэтага і мой свёкар Ян, мабыць, не ведаў.

— Бабуля, даю табе ноч успомніць старадаўнія песні, гэтага мне хопіць. А раніцай я буду ў цябе, пасля таго як ты ўправішся (у нас казалі — упынішся) са скацінай.

— Ну прыходзь, нешта прыпомню.

На наступны дзень я вырашыў наведаць некалькі бабуль, таму ў дзевяць гадзін, калі сонца толькі выглянула чырвоным дыскам з-за бору Ёдкаўшчына (бор пана Ёдкі), я, наспех паснедаўшы, выскачыў на вуліцу. Марознае паветра перахапіла дыханне, шчокі кальнулі нябачныя іголкі, праз хвіліну-другую адкрытыя ўчасткі твару пачалі прывыкаць. У гэты час трэба цёплай рукой пагрэць шчокі і нос, трошкі пацерці іх, каб прыхопленая марозам кроў хутчэй пабегла і менш астуджалася, і гэта трэба рабіць раз-пораз, каб не адмарозіць выступаючыя часткі твару: шчокі, нос, вушы, бараду і нават лоб.

Я бягу па вуліцы Раўчака на Подзень. Паўночны вецер недзе два метры ў секунду, таму твар амаль не абвяваецца. Нарэшце і дзедаў двор, сам гаспадар выйшаў з сенавала, што пад адным дахам з хлевам, і накіраваўся ў хату.

— Дзень добры, унучак, во пекануў мароз, у дзевяць гадзін было дваццаць пяць, яшчэ з паўгадзіны патрымаецца, а тады слупок тэрмометра паціху папаўзе ўверх.

Бабуля завіхалася ля печы, папраўляла ў яе жэрле цяжкія чыгуны з бульбай для жывёлы, адчуваўся пах упаранай капусты, прыгатаванай на абед.

Я распрануўся і сеў за стол у прыхожай, чакаючы бабулю. Дзед накіраваўся ў залу, каб узяць раённую газету «Сцяг працы», паказаць артыкул пра калгас «Чапаева», дзе мімаходзь упаміналася і яго прозвішча як ганаровага калгасніка. Зала была ўсё ж такой: шэсць на пяць. Некалі я тут з сястрой Галяй і братам Іванам любіў зімнімі вечарамі гуляць. Зыркім полымем гарэла грубка, чыгунныя дзвер-

цы былі адчынены, перад ёй на невялікім зэдліку сядзеў дзед і нешта старанна вострым нажом абчэсваў, мы ж лазілі за вялізнымі кадушкамі-вазонамі, у якіх раслі агромністы фікус, амаль да столі, пальма, другая пальма, вышынёй з метр, сядзела ў эмаліраванай пяцілітровай каструлі. Лямпу ў зале ў гэты час не запальвалі, святло давала адчыненая грубка. Ад полымя па зале хісталіся цені, і гэта нас забаўляла.

Бабуля ў гэты час сядзела ў прыхожай за калаўротам, вядома, пры лямпе, прыціскаючы сваёй пятай кропкай апоры прасніцу. Да прасніцы была прывязана адмыслова апрацаваная кудзеля. Бабуля выхоплівала з прасніцы толькі ёй вядомую порцыю кудзелі і трыма пальцамі — вялікім, указальным і сярэднім — скручвала тонкую нітку. Рука нейк рытмічна то паднімалася ўверх да кудзелі, то на сантыметраў дваццаць апускалася, падкручваючы ссуканую нітку, якая намотвалася на шпульку калаўрота. А ў гэты час нага націскала на педаль, каб раскручваць яго драўлянае кола. Ад гэтага па хаце разносіўся манатонны гук: выр-р-р, выр-р-р. Пад гэты гук мы малыя ўнукі бабулі Мані і дзеда Антося неаднойчы спалі, і ён нам не перашкаджаў.

Бабуля, выціраючы рукі кужэльным ручніком, накіравалася да мяне.

— Ну, дык што табе праспяваць? Хрысціянскія песні на польскай мове табе не патрэбны, а яны надта прыгожыя, напрыклад, на Ражаство «Którego dnia Kożny żadal».

— Не, не, бабуля, што-небудзь свецкае.

— Ну, свецкае, дык свецкае:

Ідуць кароўкі з дуброўкі,
Авечачкі з поля,
Плача маці па дзіцяці,
Што горкая доля.

— Бабуля, а весялейшага нічога не прыпомніш?

Тут умяшаўся дзед:

— Манечка, весела на вяселлі, дык ты яму іх і падкінь.

— Зараз, дай сабрацца з думкамі. Пачнём з ухвалення караваю:

А як наш каравай
Ды высок і прыгож.
Як і наш малады,
Усім людзям гож.
А як наш каравай
З сямі бочак мукі,
Як і наш малады —
Сямі локцяў вышыні.
А як наш каравай
З сямі коп яец,
Так і наш малады —
Прыгажун-маладзец.
Як у нашым караваі
Масла і цукру багата,
Так і нашага маладога
Жыцця-розуму багата
Во які наш каравай
Пакаштуй на зуб,
Во які наш малады,
Як зялёны дуб.

— Во, крыху памылілася, бо першае — гэта заручыны. Пішы:

Прыехаў на заручыны
Конік дарогай змучаны,

Бо дарожанька далёкай была,
Покуль да Ганулечкі прывяла.
Выхадзі, Ганулечка, выхадзі;
Адчыні дзверайкі, паглядзі,
Ці харошы хлопчык ідзе,
За сабой сваточкаў вядзе.
Ой, як ясны месячык пры зары,
Ды харошы хлопчык на двары.
Я сватоў, мамачка, прывячу
Замуж за Ясіка я хачу.

А вось яшчэ адна, з іншай нагодай,— ідуць нежаданыя сваты:

Ой, як птушачка зажурылася,
Па сучках не скача,
Так і малада дзяўчыначка
Па малайцу плача.
А мой мілы рэдка піша
Адзін ліст у тыдзень
А нямілы ўжо хоча
Сватоў слаці — злыдзень.
Не хадзі нямiл у хату,
Я твая не буду.
Каму падала ручку белу —
Павек не забуду.

— А тут маці гаруе па дачушцы, бо нешта не ладзіцца з нявесткай:

У агародзе, пры азяродзе
Канапелька стаяла.
У канапельцы той зялёнай
Зязюлька кукавала.
А чыя то матуля,
На ганачку стаяла,
І ўбачыўшы зязюльку,
Страшна праклінала.
А каб ты, мая зязюля,
Тут больш не лятала.
А каб ты, зязюля,
Крылы паламала.
Як ты маю дачушку-памочнічку
Дый адкукавала,
А нявестку-нягодніцу
Прышчабятала.

— А вось маці адпраўляе сына на заручыны і хвалюецца, каб у яе зладзіліся адносіны з нявесткай:

Села маці каля сына
Дый прасіці стала:
Як паедзеш ты за мілай
Накажы, каб мяне паважала.
А я ж ночак не даспала
Як цябе калыхала.
Папаліла многа свечак
Пакуль гадавала.
Каб назвала мяне мамкай,

А я — сваёй дочкай
Памагаці буду ў ранку,
Шанаваці ночкай.

— А цяпер — вяселле, дакладней яго пачатак.

Каравайчыкі-пачынайчыкі,
Не сядзіце ў запечку,
Выйдзіце на хатачку,
Пачніце вяселейка.
А вяселейка ды вясёлае.
Дзе, музыкі, вашы скрыпачкі?
Дзе, дзяўчаты, вашы песенькі?
Дзе, матуля, твае слёзанькі?

Затым іграюць песню: «Зялёная вішня з-пад кораня выйшла».

А ў наступнай песні дзяўчына хвалюецца: ці прыедзе яе ясны сокал за ёю, ці не перадумаў?

У зялёным гаёчку зязюлечка кукавала,
Маладая дзяўчынанька ясна сокала чакала.
Дзе ж ты, ясны-ясны мой саколе?
Маўчыць пушча, маўчыць чыста поле.

Дзе твой конік хуткі прытаміўся?
Можа, пра мяне ты, сокал, забыўся?
Дзе ж цябе цёмна ночанька сустрэла?
А там дзеўка-чужаніца да свайго сэрца прыгрэла.

Ужо сонейка прагнала цені ночы,
А твой конік б’е капытам, дамоў хоча.
Устань, прачніся, ясны мой саколе,
Я ўжо чакаю цябе ў чыстым полі.

У зялёным гаёчку зязюлечка кукуе,
Маладая дзяўчынанька ясна сокала чакае.
А ці чуеш стук капытаў, дзеўка, за гарою
Гэта едзе ясны сокал за табою.

— Дзякуй, бабуля, — кажу я, — досыць, трэба ж наведаць і тваіх сяброўак. Пайду да Зоні Фінскай, а то ўжо вунь дванаццаць гадзін.

Выйшаў з хаты, на дварэ заўважна пацяплела, недзе градусаў пятнаццаць, ды і сагрэўся ў хаце. Пад ногі кінуўся сабака Жук, стаў круціцца, заглядваць у вочы, віляць хвастом.

— Ах ты, свавольнік,— пазнаў.

Я прысеў, пагладзіў Жука, а ён умудрыўся лізнуць мяне ў твар.

— Жук, адчапіся, я спяшаюся.

Зоня Фінская жыве адна, яе муж Адам Гуткоўскі памёр, калі я быў яшчэ ў першым класе. Гэта яна ў калгасных ведамасцях Зоня Фінская, а на вёсцы — Гуціха, ды і яе Адама ўсе звалі Гут.

Гуціха, убачыўшы мяне, здзівілася:

— І што ты, маё дзіцятка, да мяне ідзеш, мо здарылася што, якая ў цябе вестка добрая, ці дрэнная. Гэта ж во прыкмета збылася: я ўсю ноч з нейкім мужчынам білася. Прачнулася, падумала — нехта прыб’еццa да мяне.

— Цётка Зоня, на самай справе весткі ніякай. Хацеў бы запісаць некалькі жніўных песень. Вы ж так хораша іх спяваеце падчас жніва.

І сапраўды, голас у яе быў такі зычны, што, здаецца, ускалыхваў усё паветра ў радыусе не менш як адзін кіламетр, пры гэтым дакладна прагаворваліся словы, у якіх чуваць былі асобныя склады. А пасля кожнага куплета ў яе мелася такая своеасаблівая прапеўка, якая адлюстроўвала настрой выказанай думкі. Калі спявалася нешта самотнае, то куплет заканчваўся запеўкай: «Оё-ё-ёё-ё-о-о-ой». І так жалобна гучаў апошні склад, які, здавалася, прымушаў тужыць усё наваколле.

Была запеўка і ў выглядзе плачу, у ёй адна літара «а», але такой рознай танальнасці, што перадавала ўвесь настрой асобы, заканчвалася на самай высокай ноце, калі ўжо вуха перастае ўлоўліваць гэты гук, а тады раптоўны выдых літары «а» на значна нізкай ноце, які адлюстроўваў гора, калі ніякага выйсця няма. Гэта быў зычны выдых адчаю, які завісаў у паветры.

Недзе да гадоў 60-х XX стагоддзя ў калгаснікаў сядзібы былі па шэсцьдзясят сотак, што дазваляла рабіць севазварот. Напрыклад, недзе сотак дваццаць гаспадар засяваў жытам альбо канюшынай, астатняе, вядома, бульбай і так паціху мяняў участкі. Наша ж Гуціха сеяла жыта, быццам знарок, каб потым сярпом жаць ды спяваць.

Памятаю, як жанчыны, наслухаўшыся яе песень, казалі:

— І калі яна ўжо сажне тое жыта, гэта ж няма месца нават у хаце, куды б не пранікаў яе голас. Ад яе запевак мароз па скуры ідзе.

А Зоня і не спяшалася, жала сваю дзялянку дні тры, кожны сноп песціла, як ляльку, хоць на выстаўку нясі яго.

І сапраўды, на калгасныя дажынкі бралі яе снапы, каб паказаць, які ў нашым калгасе выдатны ўраджай. Вядома ж, на добра апрацаванай ды угноенай зямлі сваёй сядзібы жыта вырастала лепшае, каласы былі недзе па сантыметраў восем, а такія поўныя, здаровыя, глядзіш і проста дзівуешся.

У яе бралі звычайна тры снапы, спрабавалі выбіраць, але ўсе яны былі, як на падбор, выдатныя. Дамоў яны больш не вярталіся, мабыць, везлі іх у раён, а затым у вобласць.

А колькі гонару было на твары Зоні, калі яна прапаноўвала свае снапы. Пры гэтым прысутнічаў старшыня Андрэеў, сам браў у рукі кожны сноп і асцярожна, як найвялікшую каштоўнасць, перадаваў на грузавік. Снапы ўкладвалі паасобку на брызент. Зоня прыдзірліва сачыла за гэтай укладкай. А тады казала:

— Вязіце, дзеткі, паказвайце, якое трэба вырошчваць жыта, бо жыта — гэта ж жыццё.

***Заканчэнне будзе.***